


# ПОЛЫМЯ

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС

**1** (1047)

СТУДЗЕНЬ

**Выдаецца
са снежня 1922 года**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»



Мінск
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда»
2017

# *ЗМЕСТ*

**Францыск СКАРЫНА**

# ДА ВЕЧНА ЖЫВОГА ЖЫЦЦЯ

***Перастварэнні Алеся РАЗАНАВА***

## ЯК У КАШТОЎНЫМ КАМЕНІ МОЦ

**1**

Паведамляе святы Іаан
у сваім Евангеллі,
што наш Збаўца
сказаў: «Дагэтуль
я гаварыў Вам у прыпавесцях,
але настае гадзіна,
калі ўжо не буду
у прыпавесцях гаварыць,
а яўна
вам абвяшчу аб маім Айцу».

**2**

Гасподзь Бог
раней, чым прыняў чалавечанства
ад Прачыстай
Дзевы Марыі,
многа разоў гаварыў
з намі ў прыпавесцях
праз абраных
Божых людзей — праз святых
айцоў і пракаў,
а болей за ўсё
праз прамудрага Саламона.

**3**

Цар Саламон прасіў
у Госпада Бога,
каб Гасподзь Бог

---

*Выданне*
*«Францыск Скарына «Маем найбольшае самі».*
*Кніга перастварэнняў Алеся Разанава»*
*ў хуткім часе пабачыць свет у выдавецтве «Мастацкая літаратура».*

з усіх сваіх незлічоных дарункаў
даў яму мудрасць і розум.
І Гасподзь Бог яму адказаў:
«За тое,
што ты не прасіў
ні многіх гадоў жыцця,
ні багацця,
ні душаў
сваіх варагоўнікаў і супрэчнікаў,
а прасіў
сабе толькі мудрасці,
каб умець
судзіць чалавечыя справы,
паводле слова твайго зраблю
і дам
табе разумнае сэрца —
так што падобнага да цябе
перад табой не было
і пасля цябе не паўстане».

**4**

І Гасподзь Бог
даў цару Саламону
мудрасць вялікшую,
чым даваў
калі-небудзь іншаму чалавеку:
таму й называецца ён прамудры,
таму й славуты між іншых.
Калі ж імя яго растлумачыць
па-наскаму — дык яно
азначае мірны,
альбо спакойлівы,
бо нездарма
ў часы Саламонава царавання
спакой панаваў
і ўладарыў мір.

**5**

Для нашага навучання
цар Саламон напісаў
тры кнігі:
першая кніга — «Парабалы», ці, інакш,
«Прыпавесці», альбо «Прытчы»;
другая — «Эклезіяст»,
што азначае «Саборнік»,
а трэцяя «Песня песняў».
У іх,
у згодзе з Божым загадам,

цар Саламон аб’явіў
сваю мудрасць, як сам ён кажа
у «Прыпавесцях» пра гэта:
«Хіба не пісаў я табе
у трох чынах тройчы?..»

**6**

У «Прыпавесцях» цар Саламон
піша пра мудрасць
і пра навуку,
пра добрыя звычаі
і пра запаветы,
пра тое,
як жыць чалавеку на гэтым свеце
і што рабіць.
Сам ён пра гэта сведчыць,
кажучы ў самым пачатку:
«Прыпавесці Саламона,
Давыдава сына,
Ізраільскага цара —
каб мудрасць спазнаць,
каб навуку ўведаць
і словы розуму зразумець».

**7**

Піша ў «Эклезіясце»
цар Саламон пра марнасць
клопатаў чалавечых.
пра безразважлівасць,
пра нядбальства,
якія падточваюць моц
і набыткі губяць,
а гэтаксама пра нетрываласць
таго, што ёсць.

**8**

Ён зазначае:
«Словы Эклезіяста,
Давыдава сына,
Ізраільскага цара.
Марнасць над марнасцю
і ўсё марнасць».
І ад учынкаў згубных,
спраў непатрэбных,
клопатаў марных,
якімі населены свет,
адводзіць

нас гэтаю кнігаю,
каб прывесці
да вечна жывога жыцця
і нябеснага свету.

**9**

У «Песні песняў» гаворыць
цар Саламон пра тую
вялікую ўцеху,
якую будзе
мець з Госпадам Богам душа
у нябесным царстве,
калі ў любові Госпада Бога
скончым зямное жыццё,
што поўна зману і тлуму.
Сваю навуку
цар Саламон уклаў
у прыклад прыгожы,
паказваючы жаніха і яго нявесту,
што кажа: «Цалуй
мяне пацалункам вуснаў сваіх!», —
і прыклад
гэты датрымліваючы да канца.

**10**

Кніга, якую мы тут друкуем,
мае найменаванне
«Прыпавесці», альбо «Прытчы» —
яны, кажучы пра адно,
маюць на ўвазе другое
і простымі словамі азначаюць,
што не з’яўляецца простым,
і болей, чым абвяшчаюць,
тояць, і мусяць
не гэтак, як мовяцца, разумецца,
але праз гэта.

**11**

Дзеліцца кніга «Прыпавесцяў»
на тры часткі.
І выкладаецца першая частка так,
быццам шматмудры бацька,
што зведаў у самых розных
праявах жыццё, навучае сына
мудрасці,
рупнасці,
розуму,

боязі Божай
і іншым цнотам,
першаасноўным у нашым жыцці.

**12**

У частцы другой
гэтай кнігі апавядае
цар Саламон мноства прыпавесцяў —
ні дзеяй,
ні зместам сваім яны
не лучацца між сабой,
і нічога
не мае агульнага з папярэдняй
наступная прыпавесць,
бо ў сабе
кожная з іх змяшчае
сваю адметную дзею
і свой адмысловы змест.

**13**

Змяшчаюцца ў трэцяй частцы
прыпавесці, якія
казаў у свой час Саламон,
а сабралі мужы,
навучаныя Эзекіяй,
што стаўся царом
пасля Саламонавай смерці.
Калі параўнаць
дзве папярэднія часткі
з гэтай апошняй,
дык можна ўбачыць,
што прыпавесці ў ёй
таемнейшыя, чым у тых
дзвюх першых.

**14**

Цар Саламон абвясціў
тры тысячы прыпавесцяў і склаў
пяць тысяч вершаў.
Распавядаў
ён, апрача таго,
пра ўласцівасці зёлак
і асаблівасці дрэў — ад кедра,
які расце
на слыннай Ліванскай гары,
да красвеня,
што ля муроў
красуе ціхмяна.

**15**

Яшчэ таксама
мудра казаў пра звяроў,
што ходзяць па ўлонні зямлі,
і гадаў,
што поўзаюць пад зямлёй,
пра птушак,
што лётаюць у паднябессі,
і рыбін,
што плаваюць у марскіх
і рачных глыбінях, —
як піша пра гэта
трэцяя кніга Царстваў
Ізраільскіх цароў.

**16**

Гэтую кнігу чытаць карысна
усякаму чалавеку,
бо ўсякі
з яе будзе мець спажытак:
разумны і неразумны,
багаты і бедны,
стары й малады,
а найболей тыя,
што хочуць укараніцца
у звычаях добрых,
навуку зведаць,
да мудрасці прышчапіцца.

**17**

Калі яны возьмуць у сэрца
і спраўдзяць тое,
што прыпавесці запавядаюць,
дасца ім поўніца
дзён і гадоў жыцця,
і мір увянчае іхнія справы,
і не пакіне іх праўда і міласэрнасць,
як кажа пра гэта
сам цар Саламон.

**18**

Як у каштоўным камені моц,
як ядро ў арэху,
як золата ў зямлі,
гэтак мудрасць
у прыпавесцях схавана,
і хто яе знойдзе,

той знойдзе ласку Гасподнюю
і здабудзе
Гасподняе багаславенне.

**19**

Калі прыйдзе мудрасць
да чалавека — з ёю
прыйдзе ўсё добрае разам,
і ўздасца яму хвала,
і пашана яго акружыць,
і слава яму ўслугуе,
бо мудрасць —
настаўніца ўсякаму
добраму ўменню і маці
усім добрым справам.

**20**

У ёй жыве дух:
адзіны,
шматстайны,
разумлівы,
сціплы,
праўдзівы,
дбайны,
гожы,
спагадлівы,
красамоўны,
чысты,
салодкі,
шчыры,
няхіблівы,
дабратворны, —
дух, які мае ў сабе пялюстак
усякае добрае цноты,
а сам ёсць кветка
усіх незлічоных цнотаў.

**21**

І вось, разумеючы,
што без праўдзівай боязі Божай,
звычаяў добрых
і мудрасці
людзі не змогуць
у згодзе і ў пашаноце,
як людзям належыць,
жыць на зямлі, —
я, Францішак,

Скарынаў сын, загадаў
рускаю моваю друкаваць
«Прыпавесці», альбо «Прытчы»,
прамудрага Саламона,
Давыдава сына,
Ізраільскага цара.

**22**

Найперш — для ўшаны
і для ўвасхвалення
нашага Збаўцы,
Стваральніка і Суцяшальніка
Госпада Бога,
адзінага ў Тройцы,
і найсвяцейшай
Прачыстае Божае Маці Марыі,
а гэтаксама ўсяго
нябеснага чыну
і ўсіх святых,
і ўгоднікаў Божых.

**23**

Тады —
усім паспалітым людзям
для ўжытку і памнажэння
звычаяў добрых:
каб, мудрасці паспытаўшы,
жылі на свеце,
не чынячы шкоды нікому
і славячы Госпада так,
як таго вымагае
высокасць вялікая і вяльможнасць
яго святога імя.

**24**

Піша прамудры цар Саламон
у «Прыпавесцях» пра мудрасць,
пра веды,
пра Божую боязь,
пра Божую службу,
пра пакаранне нораваў негадзівых,
пра навучанне звычаям добрым
і цнотам жыццёвым,
угодным
Богу і людзям.

**25**

Піша пра ўчынкі,
якія ўводзяць у згубу,
пра справядлівасць,
пра зманы жаноцкія,
пра благіх і добрых цароў,
пра суддзяў,
пра хціўцаў,
пра марнаслоўцаў,
пра розных звяроў і звычкі,
якімі яны вызначаюцца,
і яшчэ
пра многія іншыя справы,
сярод якіх
многа няпростых для разумення.

**26**

Гэтая кніга ў сабе змяшчае
трыццаць адзін раздзел
і таксама
парадкуецца, як «Псалтыр»,
як «Іоў»,
як «Ісус Сірахаў».
Дзеліцца кожны раздзел,
у сваю чаргу,
на меншыя падраздзелы,
якія нагадваюць вершы
альбо выслоўі
і прыпавесці ўяўляюць,
што, зрэшты, сам,
чытаючы — ўбачыш,
убачыўшы — зразумееш.

## ШТО ЎКЛАДАЕ ФІЛОН ФІЛОСАФ У ВУСНЫ СВАЕ

**1**

Гэтую кнігу,
што мае найменне «Кніга
Прамудрасці», напісаў
па-грэцку Філон Філосаф,
як зазначае ў прадмове
да перакладу свайго
на лацінскую мову
святы Герасім.
І напісаў

за сто шэсцьдзясят шэсць гадоў
да Ісуса Хрыста,
у часы
Пталамея Філапатара,
егіпецкага цара,
што быў шосты —
пасля Аляксандра Вялікага —
цар.

**2**

Як пэўна,
што цар Саламон абвясціў
многія мудрыя прыпавесці і вершы,
пра што
згадвае трэцяя кніга Царстваў,
таксама пэўна,
што кніга Прамудрасці ўзнікла
са слоў Саламонавых —
і пра гэта
даведваемся, прынамсі,
з яе самой.

**3**

Бо што ўкладае Філон Філосаф
у вусны свае,
калісьці
цар Саламон укладаў у свае,
напрыклад:
«Божа,
абраў ты мяне царом
народа твайго
і суддзёю
сыноў і дачок тваіх
і загадаў, каб храм
я збудаваў на сваёй гары…»
Саламон
вымавіў гэтыя словы,
калі прасіў
мудрасці ў Бога.

**4**

Філон Філосаф паходзіў
з калена Левіява
і жыў
у горадзе Александрыі
праз дужа вялікі прамежак часу
пасля цара Саламона,

аднак
меў нейкія аркушы
слоў Саламонавых і напісаў,
іх скарыстаўшы,
гэтую кнігу.

**5**

Яна
таму наймяноўваецца «Прамудрасць»,
што ў ёй
пішацца аб вечнаіснай
Прамудрасці Божай,
якая ёсць Божае Слова,
а менавіта —
наш Збаўца Ісус Хрыстос.
Раней,
чым адкрылася свету
гэтая таямніца,
яе адкрыў цар Саламон.

**6**

Прамудрыя справы
сабраныя ў гэтай кнізе —
сама ж яна
распадзяляецца на дзве часткі.
У першай частцы
прыводзімся мы
да спазнання прамудрасці
шляхам развагі і роздуму —
у ёй
апавядаецца пра справядлівасць,
пра чалавечую праведнасць,
пра дасканаласць,
пра чыстыя душы
і Дух Святы.

**7**

Пра здрадную раду
габраяў няверных,
што змовіліся аддаць
Божага Сына
бязгрэшнага
на ўкрыжаванне,
і пра святых
мучанікаў, што прынялі
пакуты вялікія дзеля Бога,

і пра загубу мучыцеляў,
і пра тое,
як многа карысці
дае Прамудрасць —
яна ж чалавеку
Госпадам Богам самім
даецца.

**8**

Прыводзімся да спазнання
Прамудрасці Божай
у частцы другой
праз прыклад — у ёй,
пачынаючы ад Адама
і канчаючы Майсеем
і тымі людзьмі,
якіх ён вывеў з Егіпту,
прыводзяцца ўзоры з жыццяў
святых айцоў
і расказваецца, як многа
дабра і якія вялікія цуды
ім учыніў сваёю
Прамудрасцю Бог.

**9**

Адводзіць Прамудрасць
ад пакланення
паганскім стодам і балванам
і прыводзіць
да спасціжэння
Бога-Тварца праз рэчы,
якія ствараліся ім
і відаць
вачам чалавечым.

**10**

Знойдзеш,
чытаючы, у гэтай кнізе
роспаведы пра ўшану
Крыжа Жыватворнага,
пра Божую справядлівасць,
пра веліч Госпадніх судоў,
пра дзіўную міласць
і пра шчадроты,
якія сваім абранцам
чыніў Гасподзь.

**11**

А таксама
знойдзеш аповеды
пра пакуты
грэшных людзей,
пра верад,
якім уражваліся ліхадзеі,
пра помсту,
што спасцігала злачынцаў,
і пра загубу,
што апаноўвала акаянцаў,
калі ад іх
Бог адымаў,
не прымаючы грэху,
што імі прыняўся,
сваю руку.

## МАЕМ НАЙБОЛЬШАЕ САМІ

**1**

Шмат якім чынам
і звычаем Гасподзь Бог
даваў ад пачатку свету
нам, сваім людзям,
навуку сваю і пісьмы
і нават
дае да гэтага дня.

**2**

Найперш
рукою Майсея,
служкі свайго, накрэсліў
габраям Стары Закон,
потым уласнамоўна
даў Новае Звеставанне.
Як выславіў Іаан,
апостал святы:
«Закон
дадзены праз Майсея,
а ісціна і міласцівасць
сталіся
праз Ісуса Хрыста».

**3**

Раней, чым Божае слова
уцелясцілася ад Прачыстай

Дзевы Марыі, былі
напісаны з Божай згоды
і пільнасцю чалавечай
многія іншыя пісьмы,
статуты,
законы,
правы.

**4**

Так, цар Фараней
быў першы, хто напісаў
законы аргоскім грэкам,
Меркурый,
па прозвішчы Трысмегіст,
напісаў егіпцянам,
афінскім грэкам — Салон Філосаф,
лакедэмонскім — Лікург,
а рымлянам — Нума Пампілій,
другі пасля Ромула
рымскі цар.

**5**

Гэткім жа чынам
і звычаем
іншыя мудрыя людзі,
і сярод іх перш за ўсё цары,
пакінулі іншым народам
кнігі і пісьмы,
статуты і пастановы,
правы і законы.
Аднак няма
вялікай патрэбы
тут — дзеля сцісласці выкладу —
згадваць іх усе.

**6**

І няма
нам, хрысціянам,
вялікай патрэбы тыя
іхнія пісьмы чытаць,
бо мы
маем найбольшае самі —
маем Законы:
Стары і Новы,
якія для нашага ўратавання
нам дадзены,
і належыць
іх нам чытаць.

**7**

Між кніг
Старога Закону і Новага
маюцца кнігі, што выкладаюць
навуку Гасподнюю і суды —
гэта чатыры Евангеллі:
водле Мацвея,
Марка,
Лукі,
Іаана, —
і пяць Майсеевых кніг.

**8**

Першая кніга Майсеева —
кніга Быцця,
кніга другая — «Выйсце»,
трэцяя кніга — «Лявіт»,
чацвёртая «Лічбы»
і пятая — «Другазаконне».
Разам
пяць гэтых кніг
маюць найменне Тора,
альбо Закон.

**9**

Даў міласцівы Бог
нам таксама
іншыя пісьмы,
якія апавядаюць
пра колішнія падзеі
і летапісныя справы;
у Новым Законе гэта —
Дзеі святых апосталаў,
а ў Старым —
кніга Ісуса Навіна.

**10**

За ёй
ідзе ў гэтым шэрагу
кніга Суддзяў,
тады — кніга Рут:
невялікая па памеры
яна дастасоўваецца да папярэдняй
як частка альбо дадатак,
бо ў ёй
апісваецца падзея
і выкладаецца справа,
што адбылася ў той самы час,
калі спраўвалі суддзі.

**11**

Наступныя ў чарадзе
кніг летапісных
змяшчаюцца кнігі Царстваў —
першая кніга
і кніга другая,
якія ў габраяў маюць
найменне кніг Самуілавых.
У прадмове,
якую я напісаў да другой
кнігі Царстваў,
тлумачу
прычыну таго, чаму
яны імянуюцца гэтак.

**12**

Далей, па чарзе,
ідуць
трэцяя кніга Царстваў
і кніга чацвёртая:
ў іх
пішацца пра цараванне
цароў, што трымалі
дванаццаць каленаў ізраільскіх
пад сваёю
дзяржаўнай рукой.

**13**

Змяшчаюцца ўслед за імі
дзве кнігі Параліпаменон,
званыя гэтак на грэцкай мове,
што тоесамнае летапісу
на нашай.
Далей выкладаюцца кнігі
Эздры і Нээміі,
потым тры кніжкі:
Тавіт, Юдзіт і Эстэр;
за імі змяшчаецца
кніга святога Іова
і ў самым канцы
летапісных кніг —
Макавеі.

**14**

Яшчэ Гасподзь Бог нам даў
іншыя пісьмы, што пішуць
пра мудрасць,
пра розум

і пра навуку
абодвух Законаў,
Новага і Старога:
гэта — Эпісталы,
альбо Пасланні.

**15**

Па адным —
да рымлянаў,
да галатаў,
да эфесянаў,
да філіпянаў,
да каласянаў,
да Ціта,
да Філімона
і да габраяў,
па два —
да карынфянаў,
да салунянаў,
да Цімафея;
а гэтаксама —
пасланні саборныя іншых апосталаў:
Іакаўлева — адно,
Пётравы — два,
тры — Іаанавы,
і адно —
Іюдзіна.

**16**

Стасуюцца з імі
па мэце і прызначэнні
тры Саламонавы кнігі:
«Прыпавесці»,
«Эклезіяст», ці, інакш, «Саборнік»
і «Песня песняў».
Потым ідзе
кніга Прамудрасці Божай,
а потым —
кніга Ісуса Сірахава,
што ў мове грэцкай
мае найменне «Эклезіясцікус»,
ці — як мы згадвалі —
«Панарэтос».

**17**

Тыя кнігі,
што пералічваюцца вышэй,
я нанава выклаў

на мове рускай і напісаў
на кожную кнігу
прадмову асобную —
у прадмовах,
чытаючы, знойдзеш
звесткі і тлумачэнні
пра самыя гэтыя кнігі,
а гэтаксама пра назвы,
якія займелі яны:
розныя — ў розных мовах.

**18**

Наступныя пісьмы,
што міласэрны Бог
даў нам, — прароцтвы і аб’яўленні.
Яны прадказваюць і абвяшчаюць
добрыя і благія
падзеі, што маюць настаць
у наступнасці.
Так, у Новым
выратавальным Законе Хрыстовым
ёсць кніга
святога апостала Іаана,
што называецца «Аб’яўленне»,
альбо «Апакаліпсіс»:
колькі
слоў маецца ў гэтай кнізе —
столькі
у ёй таямніц.

**19**

Між кніг
Старога Закону
ёсць кнігі прароцкія,
што належаць
вялікім прарокам
і — што належаць малым.
Кнігі вялікіх прарокаў — гэта:
кніга Ісаі,
тады — Ераміі і «Плач Ераміі»,
тады — Варуха,
Езэкііля
ды Данііла,
а гэтаксама — «Псалтыр».

**20**

Кнігі малых прарокаў,
калі іх лічыць па парадку, —

Асіі,
Іаэля,
Амоса,
Аўдзея,
Іоны,
Міхея,
Навума,
Авакума,
Сафоніі,
Агея,
Захарыі,
І Малахіі, —
па-габрайску
яны называюцца «Фэрэасар»
у зборы сваім,
іхні лік —
дванаццаць.

**21**

Пісьмы,
якія змяшчаюцца і ў Старым,
і ў Новым Законе,
маюць
адну агульную назву:
Біблія, што азначае
у перакладзе на рускую мову
Кніга.
Святыя айцы
паставілі гэтую Кнігу
сярод усіх іншых
на першае месца
і наказалі чытаць
найперш.

**22**

Я, Францішак Скарына,
дзеля таго назваў
тут, пералічваючы, паасобку
ўсе пісьмы,
каб ведалі іх,
бо на многіх старонках
кніг маёй рупнасці
напаткаеш
сціслыя згоды, альбо спасылкі,
што клічуць у сведкі
тое альбо другое
пісьмо.

*Да 100-годдзя беларускай міліцыі*



**Мікалай ЧАРГІНЕЦ**

# ЗА СЕКУНДУ ДА ВЫСТРАЛУ*

*Раман*

**Раздзел I**

## 1
## Славін

Цягнік, рассякаючы начную імглу, гучна грукаючы коламі, імчаўся наперад. Стары абшарпаны вагон быў поўны людзей. Здавалася, каго тут ні ўбачыш. Дзядок з калматай барадой; побач, ашчаперыўшы рукамі аграмадны вузел, драмала бабулька ў вялікай вязанай хустцы. У куце прымасцілася з грудным дзіцем маладая жанчына. Дзіця часта плакала, і маці даводзілася, чырванеючы, пры ўсіх карміць яго грудзьмі. А тут, як на ліха, амаль насупраць, сядзіць маладзенькі афіцэр — лейтэнант міліцыі. Спачатку

---

***Чаргінец Мікалай Іванавіч*** *нарадзіўся 17 кастрычніка 1937 года ў горадзе Мінску. Скончыў Вышэйшую школу трэнераў Беларускага дзяржаўнага інстытута фізічнай культуры (1963) і юрыдычны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1967). Пісьменнік, дзяржаўны дзеяч Беларусі. Генерал-лейтэнант унутранай службы (1993). Кандыдат юрыдычных навук (1977). Прафесар (2000). Заслужаны работнік Міністэрства ўнутраных спраў СССР (1977). З 1964 года — у органах унутраных спраў, у 1981—84 гг. — начальнік Упраўлення крымінальнага вышуку МУС Беларусі, з 1987 г. — Беларускага ўпраўлення ўнутраных спраў на транспарце МУС Беларусі. З 1993 г. — старшыня Камітэта пры Савеце Міністраў Беларусі па сацыяльнай абароне ваеннаслужачых, ветэранаў вайны і памяці загінуўшых, з 1997 г. — Пастаяннай камісіі Савета Рэспублікі Нацыянальнага Сходу Рэспублікі Беларусь па міжнародных справах і нацыянальнай бяспецы, з 1998 г. — Парламенцкага Сходу Саюза Беларусі і Расіі па знешняй палітыцы. З 1984-га па 1987 год знаходзіўся ў Афганістане, непасрэдна прымаў удзел у многіх баявых аперацыях. Цяпер — старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі, сустаршыня Саюза пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі.*

*Піша па-руску. Аўтар кніг «Четвертый след» (1973), «Тревожная служба» (1975), «Следствие продолжается» (1977), «Финал Краба» (1979), «Приказ № 1» (1985), раманаў «Вам — задание» (1982), «За секунду до выстрела» (1983), «Тайна Черных гор» (1987), «Сыновья» (1989), «Тайна Овального кабинета» (2001), «Смертник» (2002), «Последний герой» (2003), «Третья звезда» (2005) і многіх іншых. Усяго ім напісана больш як 40 мастацкіх твораў. За рознабаковыя дасягненні ў галіне культуры і навукі ў 1998 годзе занесены ў Кнігу рэкордаў Гінеса.*

---

* Кніга першая дылогіі «Вам — заданне» змешчана ў «Полымі» ў № 7—9, 2016.

ён, разумеючы, што бянтэжыць жанчыну, кожны раз, калі яна рыхтавалася да кармлення, уставаў і сыходзіў у тамбур, але жанчыне, каб дзіця менш турбавала пасажыраў, даводзілася часта супакойваць яго, і хаджэнне афіцэра надакучыла пасажырам. Барадаты стары не вытрымаў і прыкрыкнуў на лейтэнанта, калі той чарговы раз прайшоў міма яго:

— І чаго ты мітусішся, хлопец?

— Дык жанчыну не хачу бянтэжыць, — чырванеючы, напаўголаса адказаў той.

Сярэдніх гадоў мужчына ў шынялі, які сядзеў побач з жанчынай, запытаўся:

— Куды шлях трымаеш, лейтэнант?

— Далёка, — адказаў афіцэр і пачаў глядзець у акно, за якім была адна цемра. Ён з трывогай падумаў: «Дзе гэта Сасноўка? Нават на карце не знайшоў! Не праспаць бы. Праваднік сказаў, што на палове першай…»

Паступова пасажыры засыналі. Яны сядзелі, шчыльна прыціснуўшыся адно да аднаго, пагойдваючыся ў такт руху вагона. Пачаў драмаць і лейтэнант. Нават сон убачыў, але хтосьці крануў яго за плячо і сказаў:

— Таварыш лейтэнант! Праз дзесяць мінут Сасноўка.

Славін намацаў пад сядзеннем фанерны чамадан, падняў яго і асцярожна, стараючыся не турбаваць спячых, пачаў праціскацца ўслед за праваднiком да выхаду. У тамбуры шум колаў і ляск буфераў быў чутны мацней, але пасля душнага пракуранага вагона дыхалася лягчэй.

Праваднік вярнуўся ў вагон, а лейтэнант зняў фуражку і прыціснуўся тварам да шкла. «Што чакае мяне ў гэтай Сібіры? Ну што ж рабіць, калі загад ёсць загад».

Уладзімір успомніў, як ён спрабаваў пераканаць начальства накіраваць яго ў Мінск, але ніхто не пагадзіўся з яго довадамі. Начальнік школы так і сказаў:

— Едзь, Славін, у Сібір, ты цяпер там больш патрэбны. Папрацуеш пару гадоў, а потым відаць будзе.

Таварышы жартавалі: «Табе, Славін, як партызану і работу падабралі па характары. Накіроўваюць у лес, глядзі толькі па старой звычцы цягнік пад адхон не пускай!»

Мацней загрукалі буферы, і цягнік пачаў запавольваць ход. Міма вагона павольна праплыў невялікі адзінокі будынак. Праваднік, які зноў з’явіўся ў тамбуры, моўчкі адхіліў Славіна ад дзвярэй і адкрыў іх. Лейтэнант вычакаў, пакуль цягнік спыніцца, і саскочыў на зямлю.

Амаль адразу ж паравоз даў кароткі гудок, і цягнік крануўся. Калі міма пранёсся апошні вагон, Славін накіраваўся да будынка вакзала. Ля ўвахода з лямпай у руцэ стаяў чыгуначнік. Ён заўважыў адзінокую постаць, якая набліжалася да вакзала, і ўважліва ўзіраўся ў яе ў надзеі ўбачыць каго-небудзь са знаёмых.

— Дзень добры! Гляджу, акрамя мяне, ніхто і не сышоў з цягніка.

— Дабры дзень! А я думаю, хто ж гэта начным цягніком да нас завітаў? — сказаў чыгуначнік і, асвятліўшы Славіна лямпай, дадаў: — А тут сама ўлада прыехала.

Славін усміхнуўся:

— А што, да майго прыезду ў вас тут безуладдзе было?

Стары збянтэжыўся:

— Ды не, я не ў тым сэнсе. Вы да нас па службе ці ў госці да каго?

— Служыць сюды прыехаў. Як у Мар’янск мне дабрацца?

Дзяжурны па вакзале замітусіўся:

— Пойдзем хутчэй, таварыш лейтэнант! Тут машына павінна быць, прыязджаў паштар да цягніка. — І ён пашыбаваў вакол будынка. Славін рушыў следам. Яны абышлі будынак і ўбачылі крыты грузавік. У кабіне сядзелі двое. Чыгуначнік падышоў да машыны і адкрыў дзверцы:

— Вы ў Мар'янск?

— Так,— адказаў, прыпальваючы, кіроўца.

— Падкіньце ў міліцыю папаўненне, а то да раніцы транспарту ніякага не будзе.

Вадзіцель паглядзеў у бок лейтэнанта і сказаў:

— А, міліцыя! Вядома, падкінем. — Ён павярнуўся да мужчыны, які сядзеў у кабіне. — Іван, лезь у кузаў.

Той, нічога не кажучы, вылез з кабіны і накіраваўся да задняга борта машыны. Славін падзякаваў дзяжурнаму, сеў у кабіну і паклаў сабе на калені чамадан. Вадзіцель завёў матор, і неўзабаве грузавік, набіраючы хуткасць, панёсся па прасёлкавай дарозе. Лейтэнант спытаў:

— Доўга ехаць?

— Калі матор не забарахліць, за дзве гадзіны даедзем.

Славін хацеў пагаварыць з вадзіцелем, але ў кабіне стаяў такі шум, што цяжка было разабраць словы. Ён уладкаваўся ямчэй і з цікавасцю назіраў, як у святле фар сплывае назад у цемру тайга.

Роўна праз дзве гадзіны машына заехала ў нейкае паселішча. Шафёр з палёгкай пракрычаў:

— Мар'янск!

Неўзабаве ён спыніў машыну і, не выключаючы рухавіка, паказаў рукой на вузенькі завулак справа.

— Вам сюды, тут недалёка, метраў трыста. Бачыце аднапавярховы цагляны дом. Гэта і будзе міліцыя.

Праз дзесяць мінут Славін стукаў у глухія драўляныя дзверы, над якімі пры святле невялікага газавага ліхтара віднелася шыльда «Мар'янскае аддзяленне міліцыі».

За дзвярыма пачуліся крокі, затым ляснула завала, і ў праёме дзвярэй паказаўся міліцыянер.

— Дабрыдзень, таварыш сяржант! Я лейтэнант Славін, прыбыў для далейшага праходжання службы.

Сяржант павітаўся і, прапусціўшы госця ў калідор, зачыніў дзверы.

— А раптам каму дапамога спатрэбіцца? — кіўнуў галавой на завалу лейтэнант.

— Уначы да нас ніхто не звяртаецца. Урэшце пастукае, як вы цяпер.

Яны ўвайшлі ў дзяжурны пакой. За высокім бар'ерам стаяў пісьмовы стол, а ў куце на невялікім тапчане ляжалі матрац, коўдра і падушка. Сяржант дастаў з кішэні грабянец і стаў прычэсваць ускалмачаныя светлыя валасы. Ён быў такі ж высокі і стройны, як Славін, толькі гадоў на пятнаццаць старэйшы. Яго блакітныя вочы добразычліва глядзелі на Уладзіміра.

— Што будзем рабіць, таварыш лейтэнант? Загадаеце начальніку дахаты патэлефанаваць ці падрэмлеце ў суседнім кабінеце? Да світання нядоўга засталося.

— Вядома, няма сэнсу будзіць чалавека…

Сяржант узяў газавую лямпу, што стаяла на паліцы — яе да гэтага ён прынёс з калідора, і пайшоў паперадзе Славіна. Неўзабаве яны апынуліся ў вялікім кабінеце, абстаўленым простай мэбляй. Вялікі двухтумбавы стол

быў накрыты зялёным сукном, на ім стаяў старадаўні, зроблены з мармуру і бронзы, чарнільны прыбор. Усе тры акны ў кабінеце былі зацягнуты цёмнымі шторамі. Сяржант дастаў з кішэні запалкі, запаліў лямпу, якая вісела пад столлю, і махнуў рукой на скураную канапу, што стаяла ў куце:

— Вось вам ложак. Цяпер прынясу пасцель.

Славін паставіў чамадан, паклаў на крэсла фуражку і сеў на канапу. Увайшоў сяржант. Ён працягнуў падушку і простую салдацкую коўдру:

— Уладкоўвайцеся і адпачывайце. Начальнік звычайна прыходзіць да васьмі. Вас пабуджу ў сем.

Славін зняў новенькі кіцель, акуратна павесіў яго на спінку крэсла, кінуў на канапу падушку, сцягнуў боты і, не здымаючы галіфэ, лёг. «Трэба спаць, а раніцай будзе відаць, што рабіць далей», — падумаў ён. Застаўшыся адзін, Уладзімір адразу ж успомніў пра сваю дзяўчыну, з якой пазнаёміўся ў Ашхабадзе, дзе была афіцэрская школа. «Цікава, што скажа Рыта, калі я паклічу яе сюды, у гэту глухамань? Тут нават электрычнасці няма. Вось куды закінуў мяне лёс!»

Не прайшло і дзесяці мінут, як Славін спаў ужо моцным сном…

## 2

## Маёр Алтынін

Славіну здалося, што ён толькі што заснуў, а яго ўжо трос за плячо дзяжурны.

— Таварыш лейтэнант, а таварыш лейтэнант! Уставайце, ужо сем пятнаццаць, хутка наш начальнік прыйдзе.

Славін расплюшчыў вочы, наморшчыў лоб, успамінаючы, дзе ён, і, нарэшце ўспомніўшы, пачаў абувацца.

— Кіцель не апранайце, хадзем у двор, памыйцеся.

Лейтэнант моўчкі пайшоў за сяржантам, у якога праз плячо быў перакінуты ручнік. Яны выйшлі ў двор, акружаны высокім дашчаным плотам, і Славін здзіўлена спыніўся. Яркае сонца ўжо прыгрэла зямлю, і кветкі каля плота здаліся яму асабліва стракатымі. Каля невялікага хлява стаялі тры кані, паміж імі, гулліва падкідаючы заднія ногі, бегала жарабя. Убачыўшы людзей, яно падбегла да іх і даверліва ткнулася Славіну ў бок. Сяржант засмяяўся:

— Орлік знаёміцца прыйшоў.

Славін пагладзіў жарабя, і яно паскакала ўздоўж плота.

Уладзімір удыхнуў на поўныя грудзі і падставіў твар яркаму ласкаваму сонцу. Чыстае ранішняе паветра было насычаны пахамі сена і кветак. Усё гэта адразу ж адчуў гараджанін. Стаяла дзіўная цішыня, якая парушалася толькі фырканнем коней ды тупатам ног гарэзлівага жарабяці. На душы стала спакойна і нават неяк радасна.

Славін з задавальненнем памыўся халоднай вадой, якую ліў яму з вядра сяржант, затым вярнуўся ў кабінет і прывёў сябе ў парадак. Праз некалькі мінут Славін разам з дзяжурным пілі чай. Сяржант падсунуў бліжэй слоік з мёдам:

— Ешце, мёд сілу чалавеку надае.

— Дзякуй. А вы даўно тут?

— Я нарадзіўся ў гэтых краях. Працаваў на лесанарыхтоўках, потым на

шахце, а за чатыры гады да вайны ў міліцыю прыйшоў. На фронце двойчы быў паранены, але да Прагі дайшоў. Ну а пасля вайны зноў у міліцыі…

Славін падняўся з-за стала.

— Ну, дзякуй вам! Паеў як след. Мабыць, увесь дзень есці не захачу.

— Калі ласка. Мы з вамі, здаецца, своечасова сняданак скончылі. Зірніце ў акно, начальнік ідзе.

Славін убачыў, што да будынка падыходзіць маёр, галаву ён трымаў неяк ненатуральна прама. Твар зарослы: вялікая барада, пышныя вусы.

— Так, немалады ён у вас, — прамармытаў Уладзімір.

— Сёлета шэсцьдзясят споўнілася, але ў адстаўку не сыходзіць, дый начальства лічыцца з ім, не хоча адпускаць. Я вам скажу — мужык ён дзелавы, башкавіты, дый пажартаваць любіць. Ну добра, я пайшоў сустракаць.

Сяржант надзеў фуражку і выйшаў у калідор.

— Таварыш маёр! За час майго дзяжурства здарэнняў не зарэгістравана. У начны час прыбыў для праходжання службы ў нашым аддзяленні лейтэнант Славін. Дакладвае сяржант Сімоха.

Неўзабаве маёр увайшоў у дзяжурны пакой. Лейтэнант, стоячы, прадставіўся і працягнуў яму свае дакументы.

Маёр быў ніжэйшы за Уладзіміра на цэлую галаву. Пакуль Славін дакладваў, ён уважліва аглядаў яго і, відавочна, застаўся задаволены знешнім выглядам свайго новага падначаленага. Вярнуў дакументы і запрасіў у кабінет.

Маёр назваўся Ягорам Ягоравічам Алтыніным і адразу ж пачаў распытваць лейтэнанта, адкуль ён, дзе жыў, чым займаўся. Слухаў уважліва, гледзячы на суразмоўца зусім не міргаючы. Славін упершыню сустрэўся з такой асаблівасцю вачэй чалавека і адчуваў сябе ніякавата.

— А зараз да справы, — сказаў Алтынін. — Мы абслугоўваем вялікую тэрыторыю. Гледзіце, — маёр устаў, падышоў да сцяны і адсунуў фіранку, за якой была карта раёна. — Насельніцтва сканцэнтравана ў пасёлках, невялікіх вёсках і калгасах. Ёсць паляўнічыя, якія жывуць у тайзе. Становішча, можна сказаць, звычайнае. Народ галоўным чынам сумленны, але часам здараюцца крадзяжы, часцей хуліганства, сярод якіх можна вылучыць бытавыя хуліганствы. Не-не, а дзе-небудзь муж жонку паб’е. Сёлета было два забойствы. Абодва ў месцах лесанарыхтовак, дзе народ розны сабраўся: шмат прыезджых, ёсць і асуджаныя. Нярэдка арганізуюцца п’янкі, а гэта — самі ведаеце першы крок да боек і калатнечы. Але людзі тут адзін у аднаго навідавоку. Мы імкнёмся, каб яны самі за парадкам сачылі. У кожным населеным пункце ёсць у нас добраахвотныя памагатыя, якія нярэдка многія канфлікты самі вырашаюць.

Нечакана пачуўся стук у дзверы, і ў кабінет увайшоў мужчына ў цывільным:

— Дазвольце ўвайсці?

— Дык ты ўжо ўвайшоў, — усміхнуўся маёр, — прысаджвайся да нас і знаёмся. Зараз у крымінальным вышуку вас будзе двое, — Алтынін паказаў рукой на лейтэнанта і прадставіў яго, а затым назваў Славіну яго калегу: — оперупаўнаважаны крымінальнага вышуку Лагута Іван Епіфанавіч — гроза мясцовых парушальнікаў закона. Працуе ён тут даўно, падчас вайны служыў у Кемераве, а ў сорак трэцім быў пераведзены сюды. — Алтынін павярнуўся да Лагуты. — Бяры Славіна, ведае асаблівасці працы, становішча. У кабінеце ў цябе два сталы стаяць, так што працоўнае месца, будзем лічыць, гатова. — Маёр паглядзеў на Славіна. — Жыць будзеце пакуль тут, у будынку аддзялення. Уваход з тарцовага боку. Там ёсць пакой і невялікая куханька. Затым паглядзім. Без жылля ў нас не застанецеся.

Разам з Лагутам Славін зайшоў у свой кабінет. Ён быў невялікі, але для дваіх месца хапала. Пад столлю вісела вялікая газавая лямпа, якраз як і ў кабінеце начальніка.

— Электрычнасць яшчэ не дайшла да гэтых месцаў?

— Ды не, дайшла. Абяцаюць, што напачатку наступнага месяца будзе свяціць і ў нас. Слупы ўжо на вуліцы стаяць, хіба не бачыў?

— Не, не бачыў, я ж уначы прыехаў. А які-небудзь населены пункт тут ёсць паблізу? Вадзіцель, які мяне падвозіў, сказаў, што прыехалі ў пасёлак, а я, акрамя будынка міліцыі, так нічога і не ўбачыў.

— Канешне. У трохстах метрах ад аддзялення. Ідзём, я пакажу тваё жыллё, ты пераапранешся. І наогул, раю пакуль не апранаць форму: хутчэй пазнаёмішся з людзьмі, становішчам. А потым пройдзем па пасёлку, паглядзім. Як, не пярэчыш?

— Не, што вы, з задавальненнем! Возьмем толькі ў дзяжурным пакоі мой чамадан.

— Добра, там жа і ключ ад тваёй кватэры возьмем. І яшчэ, у мяне да цябе просьба: давай на «ты», нам жа разам працаваць, і значна прыемней, калі не «выкаеш».

— Давай.

Славіну спадабаўся Лагута. Ён быў сярэдняга росту, шыракаплечы, апрануты ў клятчастую кашулю з падкасанымі да локцяў рукавамі і шэрыя штаны, абуты ў светлыя летнія туфлі. Вось толькі ўзрост Славін дакладна вызначыць не мог. Трымаўся Лагута проста, упэўнена.

Яны ўзялі ў дзяжурнага чамадан і ключ і ўвайшлі ў невялікі пакой. У куце стаяў нікеляваны ложак. У процілеглым куце была кушэтка, на ёй — пакрывала. У цэнтры пакоя — стол і чатыры крэслы. Ля сцяны — невялікая шафа, а побач маленькі буфет, за шклянымі дзверцамі якога віднеўся нейкі посуд.

У кухні стаяла акуратная руская печ, якая адным бокам выходзіла ў пакой і ў зімовы час абагравала яго.

— Ну як? — спытаў Лагута.

— Парадак!

— Рыхтаваць абед можаш улетку на керагазе, а можна паесці і ў сталовай: кормяць нядрэнна.

Славін пераапрануўся, і яны адразу ж накіраваліся ў пасёлак. Аказалася, што гэта даволі вялікае паселішча, дзе былі паліклініка, школа. Па вуліцах часта праязджалі гружаныя лесам машыны. Калі праходзілі міма школы, Славін спытаў:

— Сірот шмат?

— Круглых — толькі адзін Сярожа Мангулаў. І маці, і бацька на фронце загінулі. Цяпер яго выхоўвае бабуля. У васьмярых дзяцей бацькі з вайны не вярнуліся, — Лагута неяк абвяў і з гаркатой прагаварыў: — А вось мяне, колькі ні прасіўся, колькі рапартаў ні пісаў, так на фронт і не пусцілі. Сорамна было ў вочы людзям глядзець. Здаровы мужык, а ў глыбокім тыле з бабамі ды старымі сядзіць!

— Ну, гэты ты дарма. Здаровыя мужыкі і ў тыле былі патрэбны. Бо камусьці і тут парадак падтрымліваць трэба было. А ў гэтай справе адны старыя ды бабы — сіла слабая. Так што не перажывай, і хай як у той песні спяваецца: «И что положено кому, пусть каждый совершит».

— Так, ужо, вядома, нічога не зробіш. Паглядзі, па тым боку ідзе мужчына. Бачыш?

Славін убачыў мужчыну, які перавальваючыся, ішоў ім насустрач.

— Гэта Лёнька Мартаў. Не мірыцца з жонкай і асабліва з цешчай. Як нап'ецца, так і наладжвае канцэрты. Участковы ўжо не ведае, што з ім рабіць. Жонка ў яго дзіўная нейкая: пачынае муж яе лупцаваць — міліцыю кліча, прыбудзе міліцыя — на калені валіцца: не забірайце родненькага. Але ён здольны і на іншае. Асабіста я падазраю яго ў крадзяжы з магазіна. Пяць скрынь гарэлкі ўкралі і каля дзясятка гарнітураў шавіётавых. Вось ужо амаль месяц як рыба аб лёд б'юся, а раскрыць не магу. Глядзі, як Лёнька закруціўся, убачыў нас, значыць.

І сапраўды, Мартаў, пазнаўшы Лагуту, спыніўся і зрабіў выгляд, што зацікавіўся чымсьці ў гародзе за плотам.

— Мартаў, ты што не вітаешся?

Мартаў вымушаны быў падысці.

— А, Іван Епіфанавіч, здравія жадаю! А я загледзеўся на гарод і вас не ўбачыў.

Славін заўважыў, як насцярожана абмацалі яго маленькія вочкі Мартава. «Глядзі, артыст які! — падумаў Уладзімір. — На твары ўсмешка ялейная, а ў вачах насцярожанасць і злосць».

Лагута спытаў:

— А ты чаму не на рабоце?

— Я сёння ўначы працаваў, далі адгул.

— У гонар адгулу жонку не пабіў ці цешчу пад лаўку не загнаў?

— Не, што вы! Я ўжо і забыўся, калі ў нас скандалы былі.

— Гэта таму, што ў цябе памяць слабая, а не то ўспомніў бы, што пасля апошняга скандалу, калі за цешчай з паяльнай лямпай па вуліцы ганяўся, і тыдня не прайшло. Як там яна, апамяталася хоць трохі?

— А што з ёй, з гэтым старым возам будзе? Жыве, здаровая.

— Памірыўся ты з ёй ужо?

— З кім?

— Ды з цешчай. Мог бы яе і маці клікаць. Бо, акрамя тваёй жонкі і цябе, у яе нікога няма.

— Вядома, памірыліся… адразу ж. Самі ведаеце, у каго ў сям'і дробнай спрэчкі не бывае? А цешчай я яе і так не заву.

— А як жа ты яе завеш?

— Яе маці,— сціпла апусціў вочы Мартаў.

— Сам ты «яе маці», хоць бы старую пашкадаваў. Май на ўвазе, яшчэ адзін скандал і — арыштуем, хопіць з табойваждацца. Так я ўчастковаму і сказаў.

Метраў сто Славін з Лагутам ішлі моўчкі, затым Славін спытаў:

— Кім ён працуе?

— Шафёрам. Лес возіць, хітрыць, чорт. Не веру я яму. А вось і сталовая, тут можаш абедаць. Есці не хочаш? А то можам зайсці.

— Не, не, дзякуй. Я добра паснедаў.

Яны прайшлі па пасёлку ў самы канец і павярнулі назад.

У аддзяленні Славін адразу ж стаў знаёміцца са справамі і не заўважыў, як наступіў канец працоўнага дня.

Паступова разыходзіліся супрацоўнікі, сышоў і Лагута. Славін дачытаў матэрыялы крымінальнай справы і пайшоў да сябе. «Ну, што, таварыш оперупаўнаважаны, якія вашы ўражанні пра новае месца службы? — спытаў ён сябе і акінуў позіркам пакой, прывыкаючы да яго абстаноўкі. — Ці спадабаецца тут Рыце? Ці паедзе яна сюды?» Калі расставаліся, абяцала

прыехаць да яго хоць на край свету, калі пакліча. «Я дык паклічу, а ці адгукнешся ты?»

Славін усміхнуўся, успомніўшы, як яны пазнаёміліся з Маргарыткай. Спяшаючыся на заняткі, ён неспадзявана пхнуў дзяўчыну, якая ад нечаканасці выпусціла сумачку. Уладзімір хацеў папрасіць прабачэння і зазірнуў ёй у твар. На яго, хітра прыжмурыўшыся, глядзелі вялікія цёмна-карыя вочы. Уладзімір разгубіўся і прамармытаў штосьці няскладнае. Дзяўчына ўсміхнулася і, нагадаўшы, што ён спазняецца на заняткі, пайшла. Славін, вядома, у той дзень спазніўся, але і седзячы на занятках, нічога не чуў і не бачыў. Перад вачыма быў яе твар, у вушах звінеў яе голас. Ён праклінаў сябе за непаваротлівасць і кожны дзень ламаў галаву, як знайсці дзяўчыну. Цэлы тыдзень хадзіў на заняткі гэтай жа дарагой, нават спазняўся, каб абавязкова ў той жа час быць на тым месцы, дзе неспадзявана пхнуў дзяўчыну, але ўсё было безвынікова. І вось аднойчы іх роту строем прывялі ў паліклініку на прышчэпку. Славін баяўся ўколаў і, хвалюючыся, увайшоў у працэдурны кабінет, а там… яна. У Славіна мову адняло, а яна пачырванела і камандуе: «Кашулю зняць!» Уладзімір так засаромеўся, што сеў на крэсла і чамусьці стаў здымаць боты. А дзяўчына засмяялася і кажа:

— Я прышчэпак на нагах рабіць не ўмею, хоць вам і трэба было зрабіць, каб на заняткі не спазняліся.

Зараз Славін зразумеў, чаму дзяўчына ведала тады, пры першай сустрэчы, што ён сапраўды спазніўся на заняткі. Яна працавала ў паліклініцы НКУС і добра ведала, калі пачынаюцца заняткі ў афіцэрскай школе. То чырванеючы, то бляднеючы, ён, пасля таго як дзяўчына зрабіла яму прышчэпку, даведаўся, калі яна заканчвае работу, і, вядома, вечарам сустрэў яе. Пазнаёміліся, пасябравалі і, калі лейтэнант міліцыі Славін з’язджаў з Ашхабада, дамовіліся, што, уладкаваўшыся на новым месцы, ён абавязкова выкліча яе і яны пажэняцца.

«Так, але гэта было там, у вялікім горадзе, а як яна паглядзіць на жыццё тут, дзе вакол тайга?» — сумна падумаў Славін.

Ён так задумаўся, што ажно здрыгануўся, калі нечакана пачуў стук у дзверы. Увайшоў Алтынін.

— Ну, як пачуваецца новае папаўненне? — усміхнуўся ён.

— Звычайна, таварыш маёр. Уладкаваўся добра, паглядзеў на пасёлак.

— Ну, ну, давайце абвыкайце. Заўтра раніцай я вас асабоваму складу прадстаўлю.

## 3

## Маёр Мачалаў

Вузкая вулачка, заціснутая па баках дашчаным плотам, змейкай узбіралася на пагорак.

Па прагнілых дошках драўлянага тратуара, уцягнуўшы галаву ў плечы, стараючыся, каб дождж і халодны вецер не траплялі за каўнер пад адзежу, хутка ішоў чалавек.

Дождж быў такімі густым, што дзень здаваўся вечарам, а скрозь заслону буйных кропель, толькі калі ўжо вельмі ўважліва прыгледзецца, можна было пазнаць у прахожым маёра міліцыі.

Зверху па набраклай, няроўнай дарозе, грукаючы і адчайна ляскаючы старымі, патрапанымі бартамі, пранеслася паўтаратонка. Яна абліла маёра граз-

зю. Ён, абураючыся, паглядзеў услед аўтамашыне і, не разглядзеўшы нумара, пачаў стрэсваць прыліплы да шыняля бруд.

Неўзабаве маёр спыніўся каля глухіх высокіх варот, націснуў на металічную ручку, і брамка тут жа бясшумна адчынілася. Двор быў вузкі і здаваўся няўтульным. У вялікіх чорных лужынах плавала жухлае лісце, агідна паскрыпвала вядро, што вісела над зрубам студні. Невялікі чорны сабака, які звычайна весела бег насустрач жыхарам, забіўся ў драўляную будку, дзе згарнуўся абаранкам, і нават не пацікавіўся, хто гэта спрабуе абысці лужыны і падысці да ганка дома.

Маёр гучна тупнуў нагамі і, пацягнуўшы на сябе дзверы, увайшоў у сенцы, дзе адразу ж зняў фуражку, строс яе і адкрыў наступныя. Невялікі пакой, што быў адначасова і прыхожай, і кухняй, сустрэў яго цяплом, а пабеленая руская печ — вясёлым агнём. Жанчына, якая стаяла каля печы, павярнулася і ўсміхнулася:

— Ага, з’явіўся! А я ўжо вырашыла, што мой муж і ў выхадны дзень раней паўночы дахаты не прыйдзе.

Яна прыставіла вілкі да печы, падышла да мужа і дапамагла яму зняць наскрозь змоклы шынель.

— Ідзі ў пакой, пераапраніся ў сухое, а я цябе гарачым баршчом накармлю.

— На вуліцы чорт ведае што робіцца! Дождж — нібы неба прарвала. А тут яшчэ грузавік абліў мяне з галавы да ног.

— Гэта шафёр пазнаў, што начальнік міліцыі ідзе, вось і вырашыў дадаць яму вадзіцы і ад сябе, — пажартавала гаспадыня і лёгенька падпіхнула мужа ў спіну. — Ну, ідзі, пераапранайся.

Муж выйшаў, а яна спрытна замітусілася каля печы. І калі ён вярнуўся, пераапрануўшыся ў стары цывільны гарнітур, на стале дымілася міска з баршчом, побач — чыгунок з гарачай бульбай. Муж падышоў да рукамыйніка. Высокі, чарнавокі, з прыкметнай сівізной, ён выглядаў старэй сваіх сарака гадоў. Падсаджваючыся да стала, спытаў:

— А дзе дзеці?

— Юля ў суседкі, урокі разам з яе дачкой робяць, а Вані я дазволіла з сябрамі ў кіно схадзіць. Хутка прыйдуць. Ты еш, а то астыне.

Яна села побач і, падпёршы падбародак рукамі, глядзела, як ён есць.

У яе вачах былі сум і неспакой. Пётр яшчэ больш пастарэў. Пастаянна стомлены, не высыпаецца, не ведае адпачынку і ў выхадныя дні. І вось цяпер, гледзячы на яго рана пасівелую галаву, на прыпухлыя ад бяссоння вочы, вострыя скулы, разумела, што думкі яго там, на рабоце.

Таццяна Андрэеўна, дачакаўшыся, калі муж адсуне пустую талерку, не вытрымала, паднялася, лёгка дакранулася да яго валасоў:

— Стаміўся ты, Пецечка?

Ён падняў на яе вочы:

— Трошкі, але ў мяне ж ёсць ты. Вось дакранулася, — ён прыціснуў яе цёплую руку да свайго твару, — і адразу лягчэй.

— Жартуеш…

Таццяна Андрэеўна, усміхнуўшыся, зноў села побач.

А ў Пятра Пятровіча каторы ўжо раз сціснулася сэрца ад вострага болю.

Прайшло шмат часу, каб усё абдумаць, перажыць і ацаніць. Пачуццё віны перад жонкай і дзецьмі прыгнятала яго. Ён увесь час пасля той памятнай сустрэчы на вакзале вінаваціў сябе, што страціў надзею ўбачыць іх. Чым больш Пётр даведваўся пра пакуты, якія прыйшлося перажыць яго жонцы і дзецям, а пра гэта ён даведаўся паступова, бо жонка, засцерагаючы яго, неах-

вотна расказвала пра перажытае, тым больш пакутлівай ад таго, што некалі так лёгка змог пагадзіцца з думкай аб іх гібелі…

Таццяна Андрэеўна трывожна спытала:

— Ты дрэнна сябе адчуваеш, Пеця?

— Не, не, — нібы ачуўшыся, адказаў Пётр Пятровіч і ўстаў з-за стала. — Я проста задумаўся…

Таццяна Андрэеўна адчула, якія думкі трывожаць мужа, паднялася з зэдліка і ўткнулася тварам у яго грудзі:

— Не трэба, родны… Я і дзеці вельмі любім цябе. Мы шчаслівыя з табой…

У калідоры пачуўся шум, дзверы адчыніліся, і ў кухню ўвайшоў сын, высокі хлопец. Ён лёгка сцягнуў з сябе вялікі брызентавы плашч, на падлогу пасыпаліся буйныя кроплі вады. Вінавата зірнуўшы на Таццяну Андрэеўну, ледзь усміхнуўся чорнымі вачыма, сказаў:

— Я прашу прабачэння. Дожджык на дварэ вырашыў усю зямлю заліць, а мяне ўтапіць. — Перавёўшы погляд на бацьку, працягваў: — Але як бачыце, ваш любімы сын выжыў.

— Ну, ад кіно яшчэ ніхто не паміраў, — заўважыў бацька і незадаволена пaглядзеў пад ногі сыну, дзе на падлозе ўтварылася невялікая лужынка.

— Я зараз вытру, — паспешна сказаў сын.

— Добра ўжо, як-небудзь сама ўпраўлюся, — лагодна махнула рукой маці і пачала выціраць падлогу.

Ваня распрануўся і сеў на канапу.

— Вось ты, тата, сядзіш спакойна і не ведаеш, што суседзі зноў ваююць.

— Што ў іх гэтым разам?

— Звычайная гісторыя. Іван Лукіч у хамут стукнуў…

— У што, у што стукнуў? — здзівілася маці.

— Ну… сыходзіць сабраўся, — прастадушна растлумачыў сын.

Маці асуджальна пакруціла галавой:

— Ну і слоўцы ў цябе, Ваня.

— Мам, гэта не мае слоўцы, гэта цётка Вера так сказала. Як убачыла, што я ў двор увайшоў, дык адразу ж праз плот і крычыць: «Глядзі, Ванюша, мой стары зноў у хамут стукнуў. Адпіў мазгі і рэчмяшок пачаў збіраць. Ты папрасі бацьку, можа, ён яго прыструніць».

Пётр Пятровіч незадаволена прабурчаў:

— Сама яна добрая цаца. Напоіць яго, а потым ваююць між сабой…

І нібы ў пацвярджэнне гэтых слоў, за сцяной пачуўся моцны грукат і адчайны жаночы крык. Пётр Пятровіч моўчкі пераглянуўся з жонкай і, асуджальна ўздыхнуўшы, накінуў на сябе мокры плашч сына:

— Пайду мірыць, чорт бы іх пабраў!

— Пачакай, Пеця, — сказала Таццяна Андрэеўна, паспешна пераабуваючыся. — Я пайду з табой, удваіх лягчэй будзе іх супакоіць.

Суседзі, ужо немаладыя людзі, якія жылі ў другой палове дома, часта сварыліся. Мачалавым часам даводзілася ўмешвацца. Скандалы ўзнікалі з-за выпівак, ад якіх ні сусед, ні яго жонка не адмаўляліся.

Жылі яны адны, трое дзяцей адразу ж пасля вайны раз’ехаліся ў розныя канцы рэспублікі. Іван Лукіч пасля цяжкога ранення, якое атрымаў на фронце, стаў нервовым, любіў выпіць. Жонка яго, Вера спасавала перад цяжкасцямі, сама прыахвоцілася да віна. Так і жылі: калі не пілі — было звычайна: і дома спакой, і на працы парадак. Але дастаткова было некаму з іх выпіць, як адразу ж пачыналіся скандалы.

Мачалавы ставіліся да суседзяў са спачуваннем.

Калі яны з’явіліся ў суседзяў, тыя адразу ж пацішэлі, і неўзабаве Мачалавы пайшлі дахаты. Пётр Пятровіч, прыкрыўшы жонку плашчом, дапамагаў ёй пераскокваць праз лужыны ў двары. Дома іх сын сядзеў за сталом і рабіў урокі. Бацькі, каб не замінаць, сышлі ў спальню. І тут Пётр Пятровіч, які даўно хацеў пагаварыць з жонкай, але ніяк не рашаўся, шкадуючы яе спакой, нечакана загаварыў:

— Танечка, я даўно хачу ў цябе спытаць пра аднаго чалавека. Разумею, што табе нялёгка ўспамінаць перажытае, але мяне ўвесь час турбуе гэта.

— Што ты, Пеця. Я ж сама табе шмат разоў расказвала ўсё. Вайна скончылася, і што давялося перажыць, не вернецца. Дык пытай.

— Памятаеш, ты мне расказвала пра паліцая Грышку?

— Ну як жа, Мірэйчык, вядома, памятаю. Яго ж партызаны забілі.

— Так, так, я памятаю гэта. А дзе другі паліцай, Юшэвіч? Ён жа быў тады, калі фашысты спалілі жыхароў нашай вёскі?

— Быў, звер.

— Я хачу высветліць, а раптам ён выжыў і цяпер вольна ходзіць па зямлі? Бо з жыхароў вёскі паведаміць уладам пра яго, лічы, ніхто не змог. Ты з дзецьмі па свеце бадзялася. Дзе цяпер Міша Лукашэвіч, які выратаваўся з вамі, таксама невядома. Цалкам магчыма, што Юшэвіч мог выжыць. Дарэчы, як яго імя, не памятаеш?

— Яшка, Якаў, а па-бацьку — Часлававіч.

— Раскажы мне пра яго яшчэ раз.

Пётр слухаў, і перад яго вачамі зноў праходзілі цяжкія гады вайны, перажытыя жонкай, дзецьмі, той страшны дзень, калі іх жыццё, як кажуць, ліпела на павуцінцы. Калі Таццяна Андрэеўна скончыла свой расказ, яны доўга сядзелі моўчкі. Вывеў са здранцвення прыход Юлі, за якой адразу ж у кухню ўвайшоў лейтэнант міліцыі. Ён казырнуў і далажыў начальніку аддзялення, што здарылася ЧП. Невядомыя напалі на адзінокіх старых, якія пражывалі ў сваім доме, забілі гаспадара і абрабавалі кватэру.

Пётр Пятровіч хутка сабраўся і выйшаў у цемру, дзе хвастаў дождж, дзе было ветрана і холадна.

## 4

## Лейтэнант Славін

Прайшло два месяцы. Славін паступова прывыкаў да работы. Оперупаўнаважаны з раніцы да вечара быў у клопатах. З’ездзіў на далёкія лесараспрацоўкі, пабываў у вёсках, пасёлках, пазнаёміўся з многімі людзьмі. За гэты час яму з дапамогай Лагуты ўдалося раскрыць крадзеж з крамы, чаму Славін быў асабліва рады. Праўда, да крадзяжу, як падазраваў Лагута, Мартаў дачынення не меў. Але дома ён амаль кожны тыдзень скандаліў, нярэдка пускаў у ход і кулакі, прымушаў жонку і цешчу хавацца ад яго ў суседзяў. Славін сам сустрэўся з Мартавым, доўга гутарыў з ім і папярэдзіў, што ніводнай бойкі яму не даруюць, і той пакуль трымаецца, не хуліганіць

Славін сядзеў у сваёй халасцяцкай кватэры і пры святле настольнай лямпы яшчэ і яшчэ раз перачытваў ліст Маргарыты. Дзяўчына абяцала хутка прыехаць да яго.

Уладзімір паклаў ліст на стол і прайшоўся па пакоі. Ён уявіў сабе, як ён зменіцца, калі прыедзе Рыта. «А што, — думаў Уладзімір, — тут у мяне не так ужо і дрэнна. За акном вецер скуголіць, дождж хвошча, а ў пакоі цёпла, чыста, утульна, асабліва зараз, калі з’явілася электрычнасць».

Славін зірнуў на гадзіннік. «Ого, першая ўжо гадзіна, пара спаць». Ён падышоў да ложка, які чамусьці празваў бранякацерам, і пачаў рассцілаць пасцель. Раптам пастукалі ў акно. Славін адсунуў фіранку і пазнаў сяржанта Сімоху: у дні дзяжурства ён часам адвячоркам забягаў выпіць шклянку чаю ці проста пагаварыць. Яны пасябравалі, і Славін заўсёды быў рады яму. Але калі адчыніў дзверы, то зразумеў, што зараз Сімоха прыйшоў не проста так. Ён, не здымаючы плашч-накідкі, заклапочана паведаміў:

— Збірайся. ЧП!

— Што здарылася?

— Патэлефанавалі з трэцяга лесапільнага завода. Туды прыехаў на сваім грузавіку шафёр Мартаў, падагнаў машыну на пагрузку, а ў кузаве — прыкрыты саломай труп.

Славін нацягнуў боты, надзеў ватоўку, сунуў у кішэнь ліхтарык і, сарваўшы з цвіка плашч-накідку, выключыў святло. Яны зайшлі ў дзяжурны пакой, дзе Уладзімір атрымаў зброю. Лейтэнант Хрулеў, які дзяжурыў у гэту ноч, сказаў:

— Начальнік захварэў і паехаць не можа. Сказаў, каб ты заехаў за Лагутам і разам накіроўваліся на месца здарэння. Конь ужо запрэжаны ў двухколку. Калі прыедзеце на месца, патэлефануеце.

Славін моўчкі кіўнуў галавой і выйшаў у двор. Конь паслухмяна рушыў з месца. Лагута жыў у пасёлку, і неўзабаве Уладзімір быў каля яго дома. Доўга стукаў у дзверы. Моцным быў сон у гаспадароў. Нарэшце за дзвярамі пачуўся шум, і Уладзімір пачуў голас Лагуты:

— Хто там?

— Гэта я, Іван Епіфанавіч, Славін.

Дзверы адчыніліся, і перад Славіным у святле ліхтарыка паўстаў Лагута. Ён быў у трусах, майцы і ботах. Лейтэнант сцісла паведаміў яму пра здарэнне, Лагута сказаў:

— Зайдзі, пачакай, пакуль я апрануся.

— Дзякуй, я буду ў двары. Ты збірайся.

Неўзабаве яны, шчыльна ахінуўшыся ў плашч-накідкі, трэсліся ў двухколцы, што павольна рухалася ў цемры па лясной дарозе. Да лесапілкі было чатыры кіламетры, ехалі цэлую гадзіну.

Вялікая тэрыторыя лесапільнага завода асвятлялася трыма цьмянымі электрычнымі лямпачкамі, якія боўталіся на ветры. Ля варот работнікаў міліцыі чакаў дырэктар завода. Ён усхвалявана расказваў:

— Разумееце, усё гэта на маіх вачах было. Прыехаў Мартаў, у яго апошні рэйс застаўся, развярнуўся і падаў машыну пад пагрузку. Залез адзін з рабочых у кузаў, каб дошкі прымаць, ды як закрычыць і на зямлю ледзь не кулём скаціўся. Падскочылі мы да яго, а ён змяніўся з твару, адкрывае рот, хоча штосьці сказаць і не можа, толькі мыкае і паказвае рукой на кузаў. Зірнулі мы туды — чалавек забіты ляжыць, галава пабіта, твар абязвечаны, глядзець жудасна. Аказалася, што ён быў саломай прысыпаны, а рабочы вырашыў гэту салому скінуць…

— Мартаў дзе? — спытаў Славін.

— У канторы. Яго там мае людзі ахоўваюць.

— Што кажа?

— Робіць выгляд, што сам толькі зараз даведаўся пра труп, выкручваецца. Відавочна выкручваецца, п'янтос няшчасны!

Яны ўвайшлі ў невялікі дамок. На крэсле сядзеў Мартаў. Па баках была ахова. Лагута папрасіў ахоўнікаў і дырэктара выйсці. Пасля гэтага супрацоўнікі крымінальнага вышуку прыступілі да гутаркі.

Мартаў, разгублены і падаўлены, камячыў у руках шапку і паўтараў:

— Сам не магу зразумець, як ён апынуўся ў кузаве. Нікога я не падвозіў, ніхто на дарозе мне не галасаваў. Чорт ведае што!

— А калі не толькі чорт тут вінаваты? Магчыма, Леанід, цябе памяць падводзіць? Не мог жа труп сам да цябе ў кузаў залезці.

— Вядома, не мог… — пагадзіўся Мартаў. — А можа, так здарылася: гэты чалавек, калі, вядома, жывы быў, яшчэ дзе-небудзь на пад'ёме ўскочыў да мяне ў кузаў і там канцы аддаў.

— І гэта са знявечанай галавой? — сумна ўсміхнуўся Славін і паглядзеў на Лагуту. — Іван Епіфанавіч, хай ён пакуль падумае, а мы агледзім машыну.

Работнікі крымінальнага вышуку паклікалі з калідора дваіх рабочых, якія ахоўвалі Мартава, а самі разам з дырэктарам выйшлі на вуліцу. Халодны восеньскі дождж узмацніўся. Лагута спытаў:

— У вас тут няма якога-небудзь памяшкання ці хоць бы падстрэшка, дзе машыну Мартава можна ад дажджу схаваць?

— Ёсць падстрэшак, ён у тым канцы, — дырэктар махнуў рукой у процілеглы ад варот бок.

— Добра. Дайце мне вадзіцеля, мы адгонім туды машыну.

Славін крануў Лагуту за рукаў.

— Ты займайся машынай, а я паклапачуся пра каня.

Конь неспакойна таптаўся на месцы, трывожна пафыркваў, а пачуўшы набліжэнне Славіна, паціху заіржаў. Уладзімір адвязаў ад слупа лейцы і, узяўшы каня за аброць, павёў у той бок, дзе знаходзіўся падстрэшак. Зямля на тэрыторыі лесапільнага завода, уезджаная коламі машын, была слізкай і ліпкай. Міма Славіна ціха праехаў злашчасны ЗіС. У святле яго фар непадалёк асвятліўся падстрэшак, там машына і спынілася. Неўзабаве да гэтага месца падышоў і Славін. Адвёў каня ў дальні канец падстрэшка, даў яму аўса. Да падстрэшка разам з дырэктарам падышла група рабочых. Яны ўключылі святло. Лагута сказаў вадзіцелю, які сядзеў за рулём, каб той падагнаў грузавік пад лямпачку, што гарэла ў цэнтры. Той так і зрабіў, неўзабаве кузаў асвятляўся добра, і аператыўнікі сталі аглядаць машыну. Яны адразу ж убачылі, што на забітым не было аднаго чаравіка. Лагута сказаў:

— Падобна на аўтадарожнае здарэнне. Звычайна пры ўдары машынай чалавек губляе абутак.

— Я таксама пра гэта падумаў. Глядзі, вось тут, па-мойму, і след пратэктара маецца.

— Пераварочваць труп не будзем. Патэлефануем у аддзяленне, далажым пра вынікі агляду і папросім выслаць урача-эксперта.

Яны абследавалі кузаў, затым кабіну, капітан нават пад капот зазірнуў, але нічога цікавага для сябе так і не знайшлі.

Мартава Славін заспеў у тым жа пакоі. Уладзімір дастаў з планшэткі, якая вісела на рамяні праз плячо, некалькі лістоў паперы і прыступіў да допыту.

Мартаў стаяў на сваім. Ён то апускаў галаву на далоні, упёршыся локцямі ў калені, то глядзеў прама ў вочы супрацоўніку міліцыі:

— Далібог, хоць забіце, ні ў чым не вінаваты! Я не ведаю, як апынуўся ў мяне ў кузаве забіты чалавек.

— Адкуль вы ехалі?

— Я адвёз на другі лесасклад дошкі і адразу ж вярнуўся назад.

— Колькі туды кіламетраў?

— Сто дзесяць. Я хацеў сёння загрузіць машыну і ехаць да сябе дамоў, пераначаваць, а раніцай выехаць у дарогу.

— З кім вы ехалі назад?

— Адзін. Спадарожнікаў не браў.

— Спыняліся дзе-небудзь?

— Не. Хоць, прабачыце, спыняўся. Паабедаў у чайной на «пупе» і паехаў далей.

— На якім «пупе»? — не зразумеў Славін.

Мартаў упершыню ледзь прыкметна ўсміхнуўся.

— Ах, я ж забыўся, што вы нядаўна ў нашых краях. «Пупам» мы завём скрыжаванне пяці дарог. Тры з іх вядуць прама з лесу, дакладней з лесараспрацовак, і сыходзяцца ў адной кропцы ля вёскі Пасха. Акрамя гэтага адна дарога ідзе ў Кемерава, а другая — сюды, да Мар’янска. Таму месца, дзе сыходзяцца ўсе гэтыя пяць дарог, кіроўцы і назвалі «пупам»… «пупам» зямлі.

— А хто вас бачыў у Пасцы?

— На «пупе»? — Мартаў задумаўся. — У чайной, дзе я абедаў, напэўна, чалавек дзесяць было. У твар многіх ведаю, але прозвішчаў яны мне сваіх не называлі. Проста мы часта на «пупе» сустракаемся, перакусім, перакінемся словам-другім і раз’едземся кожны па сваёй дарозе. Хоць не, прабачыце, я бачыў Андрэя Пудоўкіна. Так, так, я ўспомніў, сапраўды, там быў Пудоўкін, ён сядзеў за суседнім столікам.

— Хто такі Пудоўкін?

— Ён раней у нас лес вазіў, а зараз працуе дзесьці ў іншай арганізацыі.

— Машын было шмат каля чайной?

— Напэўна, не больш як дзясятак. Калі я ад’язджаў, то іх было прыблізна гэтулькі ж, колькі і тады, калі я пад’язджаў да чайной. Гэта ж «пуп»: адны прыязджаюць, другія ад’язджаюць.

— З кім вы сядзелі за адным сталом у чайной?

— Дык я ж вам казаў: у твар іх ведаю, а прозвішчы мне невядомыя.

У пакой увайшоў Лагута. Славін скончыў допыт, паклікаў дырэктара і папрасіў пакінуць Мартава ў якім-небудзь свабодным кабінеце і прыставіць да яго ахову.

Мартава павялі, і аператыўнікі засталіся адны. Лагута сказаў:

— Я патэлефанаваў, раней, чым да раніцы, не прыедуць, абяцалі прывезці судмедэксперта. — Памаўчаў трохі, а потым спытаў:— Як ты думаеш, праўду ён кажа?

— Вядома, Мартаў, любіць выпіць, і ад яго што заўгодна можна чакаць. Але давай падумаем, навошта яму спатрэбілася завозіць труп на тэрыторыю завода. Бо нават дурню ясна, што пры пагрузцы дошак рабочыя адразу ж убачаць труп. Мартаў праехаў велізарную адлегласць, і схаваць труп у тайзе для яго было нескладана. Так што тут шмат незразумелага. Я лічу, што галоўнае цяпер устанавіць асобу загінуўшага.

— Так, — пагадзіўся Лагута. — Я агледзеў яго адзежу, але, акрамя вось гэтай накладной, у кішэнях больш нічога не было.

Ён паклаў на стол накладную, але што ў ёй напісана, разабраць было амаль немагчыма. Гэта быў другі асобнік дакумента, забруджаны і змоклы. Праўда, на накладной даволі выразна праглядаліся частка назвы арганізацыі і які выпісаны тавар. Ясна былі надрукаваны словы «валёнкі» і «гумо-

выя боты». Гэтага было досыць, каб устанавіць арганізацыю, якая выдала накладную.

Перш чым размясціцца на адпачынак у невялікім дамку, які служыў адначасова і інтэрнатам для мясцовых работнікаў, і гасцініцай для прыезджых, міліцыянеры яшчэ раз патэлефанавалі ў аддзяленне і папрасілі дзяжурнага даць тэлефанаграму ва ўсе гаспадаркі з просьбай не адкладаючы паведаміць у аддзяленне міліцыі пра ўсіх зніклых мужчын.

## 5

## Капітан Купрэйчык

Справа па раскрыцці нападу на адзінокіх састарэлых рухалася павольна. Бабулька, што засталася жывой, нічога растлумачыць не магла…

У той вечар яна была ў кухні. Раптам адчынілася дзверы, і ў кухню адзін за адным убеглі людзі ў масках. Яны нават не далі ёй ускрыкнуць, заткнулі рот кляпам, звязалі рукі, нічога не кажучы, вывелі старую ў сенцы і замкнулі ў халоднай і цёмнай каморы. Крыху пазней бабулька чула незразумелы шум і крыкі мужа, што даносіліся з пакоя. Гэта працягвалася не меней за паўгадзіны, а затым усё змоўкла. А яшчэ праз паўгадзіны ў сенцах пачуліся крокі, грукнулі ўваходныя дзверы, і наступіла цішыня.

Бабулька зразумела, што бандыты сышлі, і пачала ламацца ў дзверы. Яна ведала, што спадзявацца няма на каго, суседзі да іх прыходзілі рэдка, а муж, калі жывы, напэўна, сам мае патрэбу ў дапамозе, і ёй трэба выбірацца з каморы самой. І бабулька, сабраўшыся з сіламі, пачала нагамі выбіваць дзверы. Клямка не вытрымала і адскочыла. Жанчына са звязанымі рукамі і кляпам у роце выскачыла на вуліцу. Прахожыя дапамаглі ёй вызваліцца, і яна кінулася ў дом: муж ляжаў на падлозе і быў мёртвы…

Супрацоўнікі міліцыі, якія неўзабаве прыбылі на месца здарэння, убачылі страшную карціну. Усё ў хаце было перавернута, у пакоях лётала пер’е ад распоратых нажамі пярын і падушак, ляжалі перакуленыя крэслы, старая скураная канапа была разрэзана.

Пачалася карпатлівая, неспакойная і напружаная праца па раскрыцці злачынства…

Прайшло больш як тыдзень. У раёне, які абслугоўвала аддзяленне міліцыі, дзе начальнікам быў маёр Мачалаў, здарылася тры аналагічныя напады, пры якіх адзін чалавек быў забіты і двое паранена. Ва ўсіх выпадках злачынцы былі ў масках, зробленых з процівагазаў.

Справа пагаршалася яшчэ і тым, што ў раёне пачасціліся крадзяжы з дамоў, а суткі назад быў абкрадзены хлебны магазін. Злодзеі ўзялі буйную суму грошай, а магазін падпалілі.

У Мачалава супрацоўнікаў было няшмат, і ён вельмі ўзрадаваўся, калі ў кабінет увайшоў дзяжурны і далажыў, што ім на дапамогу прыбылі шасцёра супрацоўнікаў. Маёр загадаў дзяжурнаму запрасіць іх у кабінет.

Праз хвіліну ў кабінет адзін за адным увайшлі шасцёра маладых людзей у цывільным. Адзін з іх быў стрыечны брат Мачалава — Купрэйчык Аляксей. Яны радасна прывіталіся, але размаўляць не сталі, хоць і не бачыліся ўжо месяцы тры. Пётр Пятровіч запрасіў у кабінет сваіх супрацоўнікаў крымінальнага вышуку і адразу ж прыступіў да справы. Ён стварыў тры групы. Адна з іх, якую ўзначаліў Купрэйчык, павінна была заняцца рабаўнікамі ў

процівагазах, другая — тымі, хто абкрадаў кватэры, а трэцяя — шукаць зладзеяў, якія абакралі і падпалілі краму.

Калі нарада скончылася, Пётр Пятровіч папрасіў Купрэйчыка затрымацца, а астатніх адпусціў.

— Ну, як Надзя? Яе я, мабыць, больш як паўгода не бачыў.

— Звычайна. Працуе ўсё там жа, у шпіталі.

— Сыну ўжо хутка два гады?

— Праз чатыры месяца. А як у цябе справы, Пётр? Як Таня, дзеці?

— Таксама ўсё звычайна. Юля ўжо, лічы, нявеста — сямнаццаць. Ваня — таксама хлопец сталы, абодва вучацца нядрэнна. Таня ў мяне ў начальства выбілася, нядаўна завучам школы прызначылі.

Аляксей нечакана спахапіўся:

— Слухай, Пеця, ты даўно быў у Славіных?

— На мінулым месяцы разам з Таняй хадзілі да іх у госці.

— Ну і як яны?

— Нічога. Жывуць у невялікай двухпакаёвай кватэрцы, але ты пра гэта і сам ведаеш. Абедзве працуюць. Анастасія Георгіеўна — на аўтамабільным заводзе. Жэня — у трамвайным парку. Валодзя ім піша часта.

— Я чуў, што яго пасля заканчэння школы ў Сібір працаваць накіравалі.

— Так, у крымінальным вышуку працуе. Справы ў яго нядрэнна ідуць.

— Сюды перабрацца не хоча?

— Чаму ж не хоча? Хоча. Напэўна чакае не дачакаецца.

У кабінет зазірнуў дзяжурны:

— Дазвольце, таварыш маёр?

— Так, слухаю.

— Ізноў напад на адзінокіх старых.

Мачалаў ускочыў з канапы.

— Гэта ўжо чацвёрты выпадак. — Ён тут жа загадаў дзяжурнаму: — Спыніце першую ж машыну, што будзе праязджаць міма аддзялення, хай даставіць нас да месца здарэння. — Затым ён зірнуў на стрыечнага брата: — Ну што, Лёша, паехалі?

— Вядома. Дапамажы маю групу сабраць. Знаёміцца буду з кожным.

Праз некалькі хвілін Мачалаў, Купрэйчык і яшчэ шэсць аператыўных работнікаў крымінальнага вышуку трэсліся ў кузаве грузавіка. Ехаць было недалёка, і неўзабаве яны спыніліся ля невялікага драўлянага дамка, які стаяў у самым канцы доўгай небрукаванай вуліцы.

За гародам віднелася пакрытае восеньскай травой поле, удалечыні — лес. Ля варот пафырквала двое міліцэйскіх коней. У двары да Мачалава падышоў участковы ўпаўнаважаны старшы лейтэнант Ляхавец.

— У гэтым доме, таварыш маёр, жывуць адзінокія старыя. Гаспадару каля васьмідзесяці, яго жонцы — семдзесят пяць. Каля дзвюх гадзін назад прыйшлі трое мужчын. Гаспадыня заўважыла іх праз акно, калі яны ішлі па двары. У калідоры мужчыны трохі затрымаліся, а калі ўвайшлі ў дом, то бабулька ледзь не ўпала ў непрытомнасці. Ва ўсіх траіх на тварах былі маскі. Я ўдакладніў у яе. Відавочна, гэта былі зноў процівагазы.

— Гаспадары жывыя?

— Так точна. Злачынцы звязалі іх і наладзілі ў доме сапраўдны пагром…

— Пойдзем паглядзім, — перапыніў участковага Мачалаў і ступіў міма міліцыянера, які стаяў па стойцы «смірна».

У пакоі было змрочна. На доўгай драўлянай лаве сядзелі да смерці перапуджаныя гаспадары. Перш чым пачаць гутарку з імі, Мачалаў распарадзіўся

застацца на месцы Купрэйчыку і яшчэ аднаму супрацоўніку, а астатнім загадаў апытаць суседзяў. Маёр сеў побач са старым. Той паціраў нядаўна развязаныя рукі і ледзь чутна енчыў.

— Яны білі вас? — спагадліва спытаў Мачалаў.

— Білі, рукі выкручвалі, за горла душылі.

— Грошы патрабавалі?

— Вядома, — неяк паспешна адказала бабулька. Мачалаву здалося, што яна імкнецца апярэдзіць старога.

Гэта адчуў і Купрэйчык. Ён, звяртаючыся да Мачалава, прапанаваў:

— Пётр Пятровіч, можа, пакуль ты з гаспадыняй пагутарыш, а я з гаспадаром?

— Добра. Але дзе?

— А мы ў кухні.

У кухні стары асцярожна апусціўся на крэсла і рукой дакрануўся да правага боку.

— Усё баліць. Яны ж мяне нагамі, як немцы ў вайну, білі.

Капітан акінуў поглядам кухню: куды б прысесці? Падышоў да лаўкі, на якой стаяла вядро з вадой, паставіў яго на падлогу і сеў на лаўку.

— Як вас завуць?

— Троцак… Міхаіл Міхайлавіч Троцак.

— Вы мне, Міхаіл Міхайлавіч, раскажыце ўсё па парадку.

— А што тут расказваць… — Дзед замоўк на імгненне і абыякава скончыў. — Усё адно нікога не знойдзеце.

— Гэта чаму ж?

— Морды мы іх не бачылі, нават апратку не запомнілі, разгледзець не паспелі…

— Ну, а голас ні ў каго з іх не здаўся вам знаёмым?

— Голас не… — І стары неяк дзіўна абсекся. Купрэйчыку зноў здалося, што ён хацеў штосьці дадаць, але стрымаўся.

Капітан, уважліва гледзячы на гаспадара, ціха сказаў:

— Міхаіл Міхайлавіч, па-мойму, вы штосьці недагаворваеце, я ж бачу. Скажыце, што вас бянтэжыць, не саромейцеся.

Яны памаўчалі. Затым Купрэйчык працягваў:

— Я ж адчуваю, што вы не ўсё сказалі. Мы сыдзем, а вы будзеце мучыцца, перажываць, што ўтаілі ад нас штосьці. Не забывайце, Міхаіл Міхайлавіч, што гэтыя злачынцы вельмі небяспечныя і ў любы момант могуць напасці на іншых людзей. Майце на ўвазе яшчэ і тое, што могуць зноў завітаць і да вас. Што тады? — Голас у Купрэйчыка стаў больш настойлівым. — Вырашайце, Міхаіл Міхайлавіч. Самі ж потым будзеце шкадаваць, што не ўсё сказалі. Вы што, баіцеся жонкі? Вас штосьці бянтэжыць?

— А чаго мне яе баяцца? Калі спатрэбіцца, то знайду на яе ўправу.

Стары падняўся і рашуча накіраваўся ў пакой. Купрэйчык пайшоў следам. Дзед рыўком адчыніў дзверы і гучна сказаў:

— А ну, старая, выкладвай начыстую пра крыж, а то сам скажу! Чаго нам баяцца? Мы ж з табой не кралі яго!

Старая ад здзіўлення ледзь прыўстала і чамусьці засталася ў такім нязручным становішчы.

— Ты што, здурнеў на старасці? Чаго языком меншіш?

— Расказвай, кажу, Міхееўна, а то сам пачну. — Ён раптам злосна тупнуў нагой і грозна загадаў: — Ты што, чалавечай мовы не разумееш?

Гаспадар, прыстрашваючы, нават кулакі сціснуў, а Міхееўна нечакана выпрасталася і сунула старому проста пад нос кукіш:

— А дулю табе праз замочную свідравіну не хочацца?

Работнікі міліцыі, не вытрымаўшы, гучна разрагаталіся.

Стары сказаў жонцы «дурніца» і павярнуўся да Купрэйчыка:

— Здурнела баба. Відаць, мала выхоўваў у маладыя гады. Сам раскажу. — Ён вычакаў трохі, затым нядбайна адхіліў старую ад лавы і сеў: — Яшчэ задоўга да вайны падарыла мне маці залаты крыж. Ён ёй па спадчыне дастаўся. Быў у нас калісьці ў родзе поп. Схавалі мы гэты крыж, вырашылі на чорны дзень прызапасіць. А тут вайна пачалася, неўзабаве немец прыйшоў. Вырашылі мы крыж трымаць на выпадак, калі немцы нас арыштоўваць будуць, каб адкупіцца. Але Бог мілаваў, нас не кранулі. У сорак другім у нас на кватэры стаў жыць Воўка Каруноў. Ці то з палону збег, ці то з турмы немцы яго выпусцілі, мы так і не даведаліся, замоўчваў ён пра гэта. Аднойчы яму нейкім чынам удалося падслухаць нашу гаворку са старой пра крыж. Пасля гэтага пачаў я заўважаць, што ў нашых рэчах хтосьці ўвесь час капаецца. Чыя гэта работа, гадаць не трэба было: Каруноў, і мы прапанавалі яму сысці ад нас. Воўка перабраўся на іншую кватэру, і пасля гэтага мы яго не бачылі. Аднойчы — гэта было ўжо ў сорак чацвёртым, калі нашы прыйшлі, — вярнуліся мы са старой з рынку дахаты, а там — сапраўдны пагром: усё перавернута, пераварушана. Дзіву даліся, каму спатрэбілася такі пагром рабіць. Стаім і галовы ламаем. А тут суседка прыходзіць і кажа: «Бачыла я, як ад вашай хаты гародамі сыходзіў ваш былы кватарант Воўка». Тут нам адразу ўсё стала ясна: Воўка гэты крыж шукаў.

— У міліцыю паведамлялі? — спытаў Купрэйчык.

— Не, баяліся пра крыж казаць. — Стары паглядзеў на жонку і дадаў: —

А далей ты расказвай. — І ён ізноў прытупнуў нагой. — І не ламайся мне тут, як тады, калі замуж выходзіла, кажы!

Гаспадыня збянтэжана маўчала. Стары не вытрымаў:

— Кажы. Не даводзь мяне да граху сваімі выкрутасамі. Тут людзі на службе знаходзяцца, дзеля цябе, старой дурніцы, сюды прыйшлі, а ты яшчэ з сябе фігалку-пігалку робіш. Кажы!

Гаспадыня злосна паглядзела на старога і, цяжка ўздыхнуўшы, загаварыла:

— Тры дні таму стары да шаўца пайшоў, а я ўспомніла, што ў нас газа скончылася. Узяла слоік і пайшла ў газавую краму. Прыходжу туды, а Грышка Пултас — ён газай гандлюе і жыве недалёка ад нас — кажа мне: «Слухай, Міхееўна, тут толькі што табой і тваім старым нейкі мужык цікавіўся. Я яго дзесьці раней бачыў, твар знаёмы, але ўспомніць так і не магу. Пытаў, ці жывяце вы адны ці кватарантаў трымаеце. З паўгадзіны як сышоў».

Купіла я газы і дахаты пайшла. Зірк, а недалёка ад нашай хаты, па другім боку вуліцы, наш былы кватарант у брызентавым плашчы мне насустрач ідзе. Убачыў мяне, каптур амаль на вочы апусціў і пайшоў далей, нібы мяне не пазнаў. Ёкнула ў мяне тады сэрца. Я хутчэй дахаты кінулася. Але дома ўсё ў парадку, неўзабаве і стары прыйшоў. Расказала я яму, а ён тады адразу ж і сказаў, што Воўка, напэўна, на наш крыж нацэліўся, і на ўсякі выпадак перахаваў яго з дома ў хлеў.

— А вы ў прадаўца газы не пыталі, як быў апрануты той мужчына? — спытаў Мачалаў

— Не. Не падумала я тады пра гэта.

Мачалаў зірнуў на гаспадара:

— Ну, і што далей?

Дзед хмурна прагаварыў:

— Ну, а далей, калі сёння ўварваліся ў хату гэтыя супастаты, то адразу ж і катаваць пачалі: «Дзе крыж?»

— А вы што сказалі?

— Сказаў, што калі Чырвоная Армія прыйшла, то з радасці здалі яго дзяржаве.

— І яны паверылі вам?

— Так, мы ж са старым пачулі бяду і ўмовіліся паміж сабой так казаць, — растлумачыла Міхееўна і дадала: — Яны ж нас па розных пакоях адразу расцягнулі, а мы, атрымалася, у адзін голас сказалі. Вось яны пашукалі, пашукалі і, нічагуткі не знайшоўшы, сышлі.

— Ну а вашага былога кватаранта сярод іх не было?

— А хто яго ведае? На мордах маскі напяты, паспрабуй разгледзь.

Купрэйчык спытаў у гаспадара:

— Міхаіл Міхайлавіч, а вы сярод гэтых траіх, калі яны размаўлялі з вамі і патрабавалі аддаць крыж, голасу знаёмага не чулі?

— У тым і справа: мне прычулася, што той, хто стараўся казаць менш за іншых, быў Воўка.

Мачалаў пакінуў сваіх супрацоўнікаў працягваць аглядаць месца здарэння і дапытваць пацярпелых, а сам разам з Купрэйчыкам выйшаў у двор.

— Слухай, Лёша, — прапанаваў ён, — давай пагаворым з прадаўцом газы.

— Я таксама хацеў табе пра гэта сказаць, пайшлі.

Яны выйшлі на вуліцу і неўзабаве былі каля газавай крамы. Яна размяшчалася ў аднаўленай цаглянай будцы, якая, відавочна, да вайны была невялікай падстанцыяй. Усярэдзіне было брудна, холадна і пахла газай.

У куце на самаробнай лаўцы сядзеў дзядок. Ён падлічваў выручку. Убачыўшы ўвайшоўшых, сказаў:

— Зачынена. Газы ўжо няма.

Мачалаў прывітаўся і весела спытаў:

— І для міліцыі нічога не засталося?

— А што міліцыя? Газа не гарэлка, няма чаго пакідаць.

Мачалаў усміхнуўся Купрэйчыку:

— Бачыш, які ядавіты гаспадар? Нават на міліцыю злуецца.

— Ды я не злуюся, газы сапраўды ў мяне няма.

Ён падняўся з лаўкі, і работнікі міліцыі ўбачылі, што Пултас вельмі нізенькага росту, у велізарных ватовых портках і валёнках. Сівыя касмылі валасоў смешна тырчалі ў розныя бакі.

Мачалаў спытаў старога:

— Ці не ўспомніце вы, як некалькі дзён назад сюды прыходзіў мужчына і цікавіўся, хто са старонніх жыве ў Троцакаў?

Стары спачатку здзіўлена паглядзеў на іх, затым некаторы час моўчкі разважаў і толькі пасля гэтага адказаў:

— Так, памятаю. Але я ж пра гэта Міхееўне казаў…

— Правільна, а яна нам расказала. Скажыце, а раней гэтага чалавека вы нідзе не бачылі?

— Вы ведаеце, твар мне яго знаёмы, а вось дзе я яго бачыў — не магу ўспомніць.

— А як ён быў апрануты?

— Вось гэта я памятаю. У плашчы ён быў… брызентавым плашчы, з каптуром на спіне.

Маёр хацеў нагадаць Пултасу пра кватаранта, але своечасова спахапіўся: «Не трэба спяшацца. Калі знойдзем Карунова, то, можа быць, яго давядзецца старому на апазнанне прад'яўляць».

Неўзабаве ён, крочачы па мокрай ад дажджу і снегу дарозе, сказаў Купрэйчыку:

— Нітачка ёсць. Так што давай, Лёша, размотвай клубок далей…

## 6

## Лейтэнант Славін

Вось ужо чацвёртыя суткі Славін матаецца па таежных дарогах. Дзе на спадарожнай машыне, дзе на калёсах, а дзе і проста пешшу, ён дабіраўся ад аднаго паселішча да другога, пабываў у дзясятках арганізацый, але наблізіцца да раскрыцця злачынства пакуль не змог.

Андрэя Пудоўкіна ён дачакаўся на «пупе». Гэта быў пажылы, нізкага росту, круглатвары чалавек. Пудоўкін адразу ж успомніў той вечар, калі ён бачыў у чайной Мартава. Акрамя гэтага, ён назваў яшчэ пяцярых вадзіцеляў, якія тады прыязджалі на «пуп».

Оперупаўнаважаны знайшоў іх. Падчас допытаў пашырэў круг тых, хто спыняўся ў той вечар у чайной.

Зараз лейтэнант вяртаўся на «пуп», сёння туды павінны прыехаць трое патрэбных яму вадзіцеляў. Буфетчыца цётка Маша, убачыўшы Славіна, ветліва ўсміхнулася. Уладзімір ведаў, што яе клічуць Лізавета Мікіцічна. А цёткай Машай клікаць яе сталі пасля таго, як яе так назваў адзін з жартаўнікоў-вадзіцеляў. І Лізавета Мікіцічна змірылася: «Цётка Маша дык цётка Маша, абы план ішоў». Ахвотна адгукалася на сваё новае імя.

Лейтэнант ужо некалькі разоў размаўляў з ёй і, дзякуючы гэтай жанчыне, даведаўся пра звычкі мясцовых вадзіцеляў. Уладзімір папрасіў шклянку чаю і, выбраўшы момант, калі ля прылаўка нікога не было, спытаў:

— Ну як справы, Лізавета Нікіцічна?

— Для мяне справы, дарагі, — гэта план. На гэта не скарджуся, а вось вашы справы такія: я даведалася, што, акрамя нашых машын, ну тых, якія звычайна тут стаяць, у той вечар была яшчэ адна. Нумары яе ніхто, вядома, не памятае. Шафёр — малады, здаровы хлопец. Я зараз успомніла, што ў яго на правай руцэ татуіроўка. Ён прыехаў крыху пазней гэтага, як яго…

— Мартава, — падказаў Славін.

— Так, так, Мартава, а з'ехаў пазней яго. Ён увесь час прасіў у мяне бутэльку гарэлкі, але гарэлкі ў буфеце ўжо не было, і яго пачаставалі кіроўцы, сярод якіх быў Лукін. Я вам яго называла. Ён павінен сёння тут з'явіцца.

— А гаворкі не было, адкуль той новенькі ехаў ці куды?

— Са мной ён, вядома, пра гэта не гаварыў. Можа, Лукін што ўспомніць?

Да прылаўка падышоў адзін з наведвальнікаў і весела папрасіў:

— Цётка Маша, дай мне з сабой адну сургучную.

— Хопіць табе, Міша, глядзі, ужо вочы касыя, а ты яшчэ гарэлкі хочаш.

— Ды ты не бойся, цётка Маша, гэта на ўсякі выпадак, раптам матор у дарозе забарахліць, а надвор'е, сама бачыш, калі не змерзнеш, то запаленне лёгкіх лёгка можна падхапіць, а вось яна, галубачка, можа мяне выратаваць ад небяспечных наступстваў.

Буфетчыца зірнула на работніка міліцыі і з паказным нежаданнем прадала бутэльку гарэлкі. Славін сеў за бліжэйшы столік і пачаў піць чай, які ўжо

астыў. Сёння яму трэба было рушыць па трэцяй дарозе, што вядзе ў тайгу. Тактыка яго была простая: не праязджаць міма ніводнай вёскі ці пасёлка, ніводнай дзялянкі, дзе працавалі людзі. У што б там ні было трэба ўстанавіць асобу загінуўшага. Новы вадзіцель, пра які сказала буфетчыца, таксама ўяўляў цікавасць. Славін яшчэ не ведаў, нават не здагадваўся, што невядомы вадзіцель можа даць следству, а ўжо ў нейкай ступені разлічваў на яго. У маладым супрацоўніку міліцыі пачынала выяўляцца вельмі неабходная кожнаму аператыўніку рыса — нюх…

Тым часам у зале з'явіўся сяржант Сімоха. Ён быў апрануты ў цывільны гарнітур. Лавіруючы паміж сталамі, сяржант падышоў да Славіна. І толькі калі Сімоха адсунуў крэсла і сеў, Славін убачыў яго.

— Андрэй, адкуль ты? Слова гонару, з неба зваліўся!

— Не з неба, а з кузава грузавіка. А прыехаў я, вядома, з Мар'янска і прывёз табе прывітанні ад Алтыніна, у якога, дарэчы, запаленне лёгкіх, і Лагуты. Ён зараз не старшы оперупаўнаважаны, а в. а. начальніка міліцыі. Акрамя таго, я магу сказаць табе, хто загінуўшы.

— Устанавілі, хто ён? — узрадаваўся Славін.

— Натуральна, — аўтарытэтна пацвердзіў Сімоха. — Але спачатку напаі мяне чаем, у цябе ж тут, напэўна, знаёмая ў буфеце.

— Вядома, — Славін павярнуўся да прылаўка. — Цётка Маша, дайце, калі ласка, яшчэ шклянку чаю.

Гэта просьба выклікала ажыўленне сярод чатырох мужчын, якія сядзелі за столікам. Адзін з іх не вытрымаў і гучна сказаў:

— Трэба ж, якія кліенты ў цёткі Машы пайшлі. Шклянку чаю патрабуюць, як бутэльку гарэлкі!

Мужчыны засмяяліся. Славіну ж успомнілася вайна і той вечар у партызанскай зямлянцы, калі камандзіры Тамкоў і Лапко прымушалі яго выпіць спірт, каб ён не захварэў. У памяці ўсплыў і той момант, калі яму, цяжкапараненаму, доктар даў самагонкі. Але ён тут жа адагнаў ад сябе ўспамін і, усміхаючыся, паглядзеў на тых, што смяяліся.

Цётка Маша прынесла чай. Сімоха выпіў яго і пачаў расказваць:

— Учора ўвечары патэлефанавалі з пасёлка Лябяжага. У іх знік загадчык склада леспрамгаса Літвін Мікалай Елізаравіч. Прыметы цалкам супадаюць з прыметамі загінуўшага. Дарэчы, урачы пацвердзілі, што ён загінуў у выніку аўтанаезду.

Славін выцягнуў з планшэткі карту раёна.

— Кажаш — пасёлак Лябяжы? Так, дзе гэта ён?.. Ага, вось! Я якраз сёння збіраўся ехаць па гэтай дарозе. Адгэтуль кіламетраў сорак будзе. Дачакаюся шафёраў і паеду туды. А як пачуваецца Ягор Ягоравіч?

— У бальніцу адвезлі.

— Слухай, хачу спытаць і забываю, чаму ён такія вусы і бараду адпусціў?

— А ты не ведаеш?

— Не. Таму і пытаю.

— Мы ўсё ведаем… Гэта было ў дзевятнаццатым. Алтынін старшынёй рэўкама тады быў. Бандыты падпільнавалі, калі ў мястэчку засталося мала чырвонаармейцаў, і наляцелі. Знялі ахову, а Алтыніна, цяжкапараненага, у палон захапілі. І як толькі не катавалі яго: і агнём, і нажамі, і палкамі, але нічога ён не сказаў. Павялі яго на абрыў, да ракі, расстрэльваць, а ён як быў са звязанымі рукамі, так і сігануў у ваду. Бандыты сталі па краі абрыву і глядзяць уніз, думаюць, што калі вынырне, то даб'юць. А ў гэты момант нашы пада-

спелі і ўдарылі па іх. А Алтынін сапраўды вынырнуў. Ён добрым плывуном быў, нездарма на Волзе нарадзіўся. Твар яму катаваннямі знявечылі, вось і адпусціў бараду і вусы.

— Ясна… Адчуваецца, што чалавек сапраўдны… — Пасля невялікай паўзы Славін спытаў: — Ты куды цяпер?

— Назад у Мар'янск. Знайду спадарожную машыну і — у аддзяленне.

Сімоха з'ехаў, а Славін працягваў чакаць. Першым прыехаў вадзіцель па імені Сяргей. Высокі і худы, ён, калі ўваходзіў у дзверы, сагнуўся, здавалася, удвая.

— Цётка Маша, — крыкнуў ён з парога, — давай есці! Я галодны, як воўк.

Паспешна падышоўшы да прылаўка і ўзяўшы талеркі з ежай, ён сеў за столік Славіна і стаў есці. Уладзімір моўчкі чакаў. Нарэшце Сяргей упершыню зірнуў на Славіна. Уладзімір не стаў губляць ні хвіліны. Ён прад'явіў яму чырвоную кніжачку, прадставіўся і спытаў:

— Не памятаеце, трынаццатага верасня вы былі тут?

— Трынаццатага? — перапытаў вадзіцель і задумаўся, вылічваючы ў думках графік свайго руху. — Так, быў.

— А гэтага чалавека вы ведаеце? — аператыўнік прад'явіў фота Мартава.

Суразмоўца паглядзеў на фота і ўпэўнена сказаў:

— Вядома, ведаю. Гэта ж Леанід. Я яго тут на «пупе» часта сустракаю.

— Ці бачылі вы яго ў той вечар?

Вадзіцель зноў на імгненне задумаўся, а затым упэўнена адказаў:

— Так, бачыў, у той вечар я яго апошні раз бачыў і пасля гэтага не сустракаў.

— Ён быў адзін ці са спадарожнікам?

— Па-мойму, адзін… так, сапраўды адзін. Я ўспомніў, калі ён з'язджаў, то я па патрэбе ў двары быў і бачыў, як Леанід са сваім ЗіСам важдаўся і мацюкамі на ўсю акругу крыў. Рухавік ніяк не хацеў заводзіцца, а рукаяткай пакруціць — не кашу манную есці. Я памятаю, падышоў і крутнуў, а ён капот адкрыў і на газ націскаў.

— У кабіне нікога не было?

— Не, нікога. Калі матор завёўся, ён сеў за руль, я падышоў да кабіны, і мы развіталіся, паціснуўшы адзін аднаму рукі.

Застаўшыся адзін, Славін задумаўся: «Атрымліваецца дзіўна: маршрут Мартава праходзіў зусім па іншай дарозе, і з пасёлка Лябяжага на яе не патрапіць.

Можна выказаць здагадку, што Літвін дабраўся да «пупа» на спадарожнай машыне, мог сустрэцца з Мартавым і разам з ім з'ехаць. Бо ніхто не бачыў Літвіна. Хто-хто, а буфетчыца адразу б заўважыла незнаёмага чалавека».

Нарэшце з'явіліся другі, а праз хвіліну і трэці патрэбныя яму вадзіцелі. Оперупаўнаважаны не стаў чакаць, пакуль яны паабедаюць, прадставіўся і папрасіў разам выйсці з чайной. Яны таксама пацвердзілі, што бачылі ў той дзень у чайной Мартава. Калі Славін пачаў удакладняць, якімі маршрутамі яны ехалі трынаццатага верасня, то аказалася, што адзін з іх — Лунін — праязджаў міма Лябяжага. Славін ажывіўся:

— У якой гадзіне ў той дзень вы прыехалі на «пуп»?

— Не памятаю, але гэта было пад вечар.

— А калі праязджалі міма Лябяжага, па дарозе вам ніхто не галасаваў?

— Не, дарога наогул была бязлюднай.

— Машын не было?

— І машын не бачыў. Хоць пастойце… За Лябяжым, дзесьці ў кіламетры ў бок ад «пупа», я аб’язджаў ЗіС-5, які стаяў на абочыне.

— Вадзіцеля не бачылі?

— Бачыў. Малады, здаровы мужык. Я яшчэ хацеў спыніцца, думаў, машына зламалася, можа, чалавеку дапамога патрэбна, але вадзіцель махнуў мне рукой: праязджай, маўляў. Ну я і не затармазіў. А потым мінут праз дваццаць пасля таго, як я прыехаў на «пуп» і прыйшоў у чайную, гляджу, гэты вадзіцель таксама заходзіць туды. Ён да мяне за столік прысеў. Прасіў ён у цёткі Машы бутэльку гарэлкі, але яна растлумачыла, што гарэлка скончылася. А на нашым століку стаяла бутэлька, мы яго і пачаставалі.

— Што ён расказаў пра сябе?

— А мы нічога не распытвалі. Хоць не, я спытаў, куды ён едзе, ён адказаў, што ў Кемерава.

— А хто раней з’ехаў: Мартаў ці гэты вадзіцель?

Лунін задумаўся, а затым упэўнена сказаў:

— Спачатку Мартаў з’ехаў, ён калі сыходзіў, то мяне па плячы пляснуў і сказаў: «Пакуль!»

— Скажыце, а гэтага вадзіцеля, які ў Кемерава ехаў, раней вы ніколі не сустракалі?

— Не, бачыў упершыню.

— Нічога падазронага ў яго паводзінах не заўважылі?

— Быў не гаманлівы, але, можа, чалавек адчуваў сябе ніякавата сярод незнаёмых людзей, а так нічога растлумачыць не магу.

— Абмалюйце мне яго.

— Вышэй сярэдняга росту, малады, моцны…

— Татуіроўкі не было?

— Татуіроўкі? — перапытаў вадзіцель. — Пастойце, была, так, была… на правай руцэ ў яго штосьці было намалявана, а вось што, не памятаю. Ды яшчэ на носе ў яго шрам невялікі…

— Вы памятаеце тое месца, дзе вы аб’язджалі яго машыну недалёка ад Лябяжага?

— Памятаю.

— Тады зробім так: вы ідзіце паабедайце, а затым давайце з’ездзім туды. А адзнаку ў пуцявым лісце я зраблю.

— Я зараз перахаплю што-небудзь і паедзем.

Лунін хуткім крокам накіраваўся да дзвярэй чайной, а Славін нецярпліва пачаў хадзіць па двары: «Агледжу і зафіксую месца, дзе стаяла аўтамашына, затым пабываю ў Лябяжым. Трэба здабыць фота Літвіна, ну а потым, напэўна, прыйдзецца ехаць у Кемерава. Але як жа ўсё-такі забіты апынуўся ў кузаве машыны Мартава?»

У думках Уладзімір ужо лічыў, што Мартаў не мае дачынення да забойства. Сапраўды, навошта Мартаву трэба было везці труп на лесапільны завод?.. Хаця цалкам давяраць Мартаву нельга было, але ў гэтай сітуацыі Славін верыў яму.

Лунін з’явіўся хвілін праз дзесяць. Яны селі ў кабіну старога «студэбекера», і той, распырскваючы ваду і гразь у вялікіх лужынах, рушыў па лясной дарозе. У кабіне было вельмі шумна ад матора, ехалі моўчкі. Прайшло больш за гадзіну, калі вадзіцель зменшыў хуткасць і пракрычаў:

— Дзесьці тут! Давайце праедзем да Лябяжага, а затым развернемся, бачыце, якая дарога, нават развярнуцца нельга.

Славін разумеў, што вадзіцелю так будзе лягчэй аднавіць у памяці месца, дзе стаяў грузавік з Кемерава. Праз некалькі хвілін яны пад'язджалі да Лябяжага. Тут Славін яшчэ ні разу не быў і з цікавасцю глядзеў на вялікі пасёлак. Удалечыні за дыхтоўнымі драўлянымі дамамі ўзвышаліся двух, трох і нават чатырохпавярховыя цагляныя будынкі.

Неўзабаве яны развярнуліся на невялікай плошчы і паехалі назад. Лунін увесь напружыўся, баючыся прапусціць патрэбнае месца. Славін таксама напружана чакаў. Але вось Лунін спыніў машыну і ўпэўнена сказаў:

— Тут стаяла тая машына. Калі я аб'язджаў яе, то прыйшлося выбірацца з каляіны. Вось гляньце, нават цяпер бачны след майго грузавіка.

Славін выйшаў з машыны і пачаў уважліва аглядаць месца, дзе стаяў ЗіС. Раптам ён спыніўся і не паверыў сваім вачам: у жухлай траве ляжаў… чаравік. Якраз такі чаравік Славін бачыў на назе загінуўшага. Славін падняў знаходку і з падзякай сказаў Луніну:

— Вы не ўяўляеце, якую дапамогу аказалі мне.

Аператыўнік даследаваў прыдарожную траву, але больш нічога не выявіў. Ён склаў акт аб тым, што выявіў чаравік, накрэсліў схему, на якой адзначыў месца, дзе, па словах Луніна, стаяў ЗіС, і, падзякаваўшы шафёру, адпусціў яго. Той здзіўлена спытаў:

— А вы як жа? Застанецеся тут адзін?

— Не хвалюйцеся, я прайду пешшу да Лябяжага і там застануся на начлег. Дарэчы, у кузаве таго грузавіка бярвення не было?

— Не.

Лунін развітаўся і з'ехаў. Славін стаяў у глухім лесе, што адразу стаў ціхім, чужым, і думаў: «Хутчэй за ўсё Літвін у гэтым месцы патрапіў пад машыну. Вадзіцель не стаў хаваць яго тут, таму што міма праехала машына Луніна і ён мог запомніць нумар. Таму злачынец мог забраць загінуўшага з сабой. Але чаму труп апынуўся ў кузаве машыны Мартава?»

Уладзімір ведаў, што ў пасёлку пражывае ўчастковы ўпаўнаважаны. Ён нават успомніў высокага рудога малодшага лейтэнанта, твар якога амаль цалкам быў пакрыты вяснушкамі. Яго ў аддзяленні так і клікалі — Руды. Славін некалькі разоў сустракаўся з участковым на нарадах, але прозвішча яго цяпер успомніць не мог. Звечарэла, і Уладзімір мімаволі паскорыў крок. У пасёлку ён спытаў, дзе жыве ўчастковы ўпаўнаважаны, і неўзабаве стаяў каля моцных дубовых варот. Адкрыў брамку і апынуўся ў прасторным двары. Яго сустрэла мілавідная жанчына. Уладзімір прадставіўся і спытаў, дзе гаспадар. Жанчына ўсміхнулася госцю і сказала:

— Ды вы праходзіце, муж дома.

Славіну было няёмка за свой выгляд: мокрая плашч-накідка, боты ў гразі ды яшчэ ў руках брудны чаравік. На шум галасоў выйшаў з пакоя гаспадар. Не прайшло і пятнаццаці хвілін, як Уладзімір, памыты, у вялікіх валёнках — іх прымусіў яго абуць гаспадар, які турбаваўся, што госць на халодным ветры мог застудзіцца, — сядзеў за сталом і вячэраў. Тым часам гаспадыня адвяла спаць дзяцей. Славін здзівіўся, што ў такой маладой жанчыны іх ужо шасцёра.

Уладзімір увёў у курс справы ўчастковага, а той, у сваю чаргу, сказаў, што гэта ён паведаміў у аддзяленне міліцыі пра тое, што прапаў загадчык склада.

— У яго ёсць сям'я? — спытаў Славін.

— Так, трое дзетак, — глуха адказаў участковы і спытаў: — А можа, ён не загінуў?

— Дай бы Бог! Але чуе маё сэрца, што бяда з ім здарылася. Як вы думаеце, адкуль магла ісці кемераўская машына?

— Тут паламаць галаву трэба. Адно тое, што, як вам сказаў Лунін, у яго ў кузаве не было бярвення, кажа, што гэта не лесавоз. Дарога ж тут ідзе толькі да лесараспрацовак, далей у такую пару на машыне не праедзеш. Я заўтра з раніцы пачну правяраць, можа, ён да нас у пасёлак прыязджаў.

— Я і хацеў пра гэта вас прасіць. Машына не іголка, яе павінен быў хтосьці бачыць… Але спачатку схадзі да Літвіна, прад'явім чаравік на апазнанне, папросім яго фатаграфію. Калі пацвердзіцца, што гэта ён, вам трэба будзе дапамагчы сваякам з'ездзіць у Мар'янск.

## 7

## Маёр Мачалаў

Пётр Пятровіч пачуў лёгкі шум і адразу ж прачнуўся. Таццяна Андрэеўна ўжо важдалася ля печы. Яна заўсёды ўставала раней усіх, каб паспець прыгатаваць сняданак і самой не спазніцца на работу.

Як правіла, разам з ёй уставала і Юля, якую бацька за гэта называў ранняй пташкай. Вось і цяпер маці і дачка, ціха перагаворваючыся, завіхаліся на кухні.

Пётр Пятровіч зірнуў на гадзіннік — пяць мінут сёмай. Звычайна ён уставаў у шэсць трыццаць. Пётр Пятровіч успомніў учарашнюю гутарку і падумаў: «Юля праўду кажа, ёй ужо сямнаццаць. А вучыцца яна ў сёмым класе разам з дзецьмі маладзейшымі за яе». Увечары Юля сказала, што пойдзе працаваць і будзе вучыцца ў вячэрняй школе. Маці спачатку разгубілася, але бацька падтрымаў дачку, на тым і спыніліся.

Пётр Пятровіч задумаўся і не заўважыў, як у пакой увайшла жонка.

— Пеця, пара.

— Я не сплю, Танюша.

Яна села да яго на пасцель і ціха сказала:

— Ты не заўважыў, як нашы дзеці выраслі? Юля ідзе працаваць. Ванюша хутка бацьку дагоніць. — Яна правяла рукой па шчацэ мужа. — Як жыццё ідзе, гады нібы на паравозе імчацца…

— Што зробіш, жыццё ёсць жыццё, і мае яно сваю пастаянную заканамернасць — праходзіць, — сумна ўсміхнуўся Пётр Пятровіч і прытуліў да сябе жонку. — Але ты не гаруй, у нас яшчэ з табой шмат часу наперадзе.

— Ой, пусці, Пець! Зараз Юля ўвойдзе!

— Добра, добра, устаю. Учора я атрымаў адказ пра паліцая Юшэвіча. Ён, аказваецца, у бягах, і яго шукаюць. І яшчэ… — Пётр Пятровіч зрабіў паўзу, абдумваючы, казаць ці не жонцы яшчэ пра адну навіну, але потым адважыўся: — Я атрымаў ліст, ад каго ты думаеш?

Жонка моўчкі паціснула плячамі.

— Ад Мішы Лукашэвіча.

— Што ты кажаш? — схамянулася Таццяна Андрэеўна. — Ну і як ён? Дзе жыве?

— Я прынёс ліст дахаты, вазьмі ў бакавой кішэні, у кіцелі, прачытай.

Таццяна Андрэеўна з лістом у руках выйшла ў залу, дзе ўключыла святло, і, ледзь хаваючы хваляванне, якое ахапіла яе, стала чытаць: «Дабрыдзень, дарагі Пётр Пятровіч! Вы не ўяўляеце, як я ўзрадаваўся, атрымаўшы Ваш ліст. Мне вельмі хочацца даведацца, як склаўся далейшы лёс цёткі Тані, Юлі і Вані. Пасля таго, як мы цудам выратаваліся ад смерці і рассталіся ў

лесе, я нічога пра іх, дый пра вас, не чуў. Зараз ведаю, што ўсё вы жывыя, і вельмі рады. А я пасля тых страшных падзей некаторы час жыў у сваіх сваякоў, а затым патрапіў у партызанскі атрад. Калі прыйшлі нашы, я папрасіўся на фронт. Мне спачатку адмовілі, але калі я расказаў камандзіру дывізіі пра тое, як немцы спалілі маіх бацькоў і дзвюх сястрычак, як я выратаваўся ад смерці і што мне проста неабходна адпомсціць фашыстам за іх, то ён узяў мяне да сябе ў дывізію. Ваяваў, быў лёгка паранены. Маю тры медалі, у тым ліку «За адвагу». Цяпер я застаўся ў войску, вучуся. Хачу паступіць у ваеннае вучылішча. Зараз пра тое, пра што вы пытаеце мяне. На жаль, я не ведаю, дзе цяпер знаходзіцца паліцай Юшэвіч. Я памятаю, што ў нашай вёсцы практычна засталося толькі дзве хаты, не кранутыя немцамі, — гэта хаты Мірэйчыка і Юшэвіча.

Пасля вайны, па-мойму, у канцы сорак пятага года, мне пісалі мае сваякі, што Юшэвіч ці то сышоў з немцамі, ці то дзесьці хаваецца ў лясах, а яго сям'я, гэтак жа як і бацькі Грышкі Мірэйчыка, пераехала жыць у іншую мясцовасць. Дзе яны цяпер — не ведаю. Вось усё, што магу паведаміць, адказваючы на Ваш ліст. Калі я што-небудзь даведаюся, то абавязкова напішу.

Ну, а як Вы? Вядома, працуеце ў міліцыі? Як Таццяна Андрэеўна, Ваня, Юля? Я Вас вельмі прашу, хоць зрэдку пішыце мне. Чэснае слова, мне гэта вельмі трэба. Я б вельмі папрасіў Таццяну Андрэеўну, Ваню, Юлю таксама пісаць мне. Як-ніяк, мы з імі пабывалі ў кіпцюрах у смерці. Калі мне даводзіцца часам расказваць пра той дзень, то многія глядзяць на мяне з недаверам. Дзякуй богу, што гэта ўсё ззаду. Але, чэснае слова, я заўсёды буду памятаць той жудасны момант, я буду заўсёды памятаць майго сябра Толю Лазебнага. Бо гэта ён там, у палаючым хляве, паклікаў нас на вуліцу, спадзеючыся, што хоць хто-небудзь пад агнём нямецкіх аўтаматаў выжыве. Я часта думаю пра гэта…»

Дачытаўшы ліст, Таццяна Андрэеўна асцярожна склала яго і павярнулася да мужа, які ўвайшоў у пакой:

— Ты ведаеш, Пеця, я, гэтак жа як і Міша, часта ўспамінаю Толю Лазебнага. Як ён, гэты чатырнаццацігадовы хлопец, лепш за усіх нас зарыентаваўся ў той страшнай абстаноўцы і паклікаў людзей пад агонь аўтаматчыкаў з надзеяй, што раптам хоць хто-небудзь выратуецца. Кожны ішоў на немінучую смерць дзеля таго, каб хоць хто-небудзь выратаваўся. І вось вынік — чатыры чалавечыя жыцці выратаваны…

Вочы Таццяны Андрэеўны былі поўныя слёз. Пётр Пятровіч абняў яе за плечы і ціха сказаў:

— Супакойся, родная! Табе трэба менш думаць пра гэта.

— Так, так, я ўсё разумею. Пеця, а можна я дам гэты ліст прачытаць дзецям? Сёння ж мы напішам Мішы ліст.

— Добра, добра. Ты толькі супакойся…

Пакуль у аддзяленні Мачалаў разбіраўся з матэрыяламі, што паступілі, даваў указанні па расследванні злачынстваў, у аддзеле з'явіўся Купрэйчык. Ён зайшоў у кабінет і сказаў:

— Пашанцавала мне ўчора. Ішоў міма газавай крамы, гляджу — дзверы адчыненыя. Дай, думаю, зайду да Пултаса, можа, яшчэ што-небудзь паведаміць. І паведаміў. Па-першае, ён успомніў, што той, хто цікавіўся старымі Троцакамі, і ёсць іх былы кватарант. Па-другое, гэты, наскрозь прамочаны газай, стары сказаў, што ён бачыў Карунова ля піўнушкі, і ўпэўнены, што прадавец піва, — Купрэйчык зазірнуў у лісток паперы, — Мулер Леў Абрамавіч ведае яго, таму што аднойчы заўважыў іх разам побач з піўнушкай. Мулер і Кару-

ноў пра нешта размаўлялі. Неўзабаве да іх падышла нейкая старая, і Каруноў сышоў з ёй.

— Ну, што ж, Лёша, давай дзейнічай далей. Дапамагай, браток, бачыш сам, колькі спраў на маю галаву звалілася.

— Не турбуйся, Пеця, буду даводзіць да канца.

Мачалаў даўно ведаў звычку Аляксея рэзка мяняць тэму гаворкі. Вось і цяпер ён сеў на крэсла каля Пятра і спытаў:

— Пеця, памятаеш, ты мне расказваў пра ўрача, пра Васілеўскую?

— Пра Вольгу Ільінічну? — Мачалаў здзіўлена падняў на яго вочы. — Вядома, памятаю.

— Дзе яна цяпер?

— Не ведаю, Лёша. Пасля таго як мы з ёй прыехалі ў мае родныя мясціны, каб пакланіцца магіле маёй жонкі і дзяцей, і, на шчасце, аказалася, што яны жывыя, Оля адразу ж сышла. Я шукаў яе тады на чыгуначнай станцыі і даведаўся, што яна з’ехала на нейкім ваенным грузавіку. Вось так і расталіся мы з ёй не развітаўшыся.

Мачалаў замоўк на хвіліну, а потым, нібы апраўдваючыся, сказаў:

— Не яе віна і не мая, што так усё склалася. У Вольгі ж усе загінулі… Цяжкі ў яе лёс.

Купрэйчык дакрануўся рукой да пляча стрыечнага брата:

— Прабач, Пётр. Можа, я недарэчы з гэтай гаворкай. Але з тваіх расказаў я зразумеў, што Васілеўская кахала цябе. І вось чамусьці сёння ўсё гэта ўспомнілася. Славін казаў, што яна добры чалавек. Магчыма, яшчэ калі-небудзь ты і сустрэнешся з ёй. У жыцці ўсё бывае.

— А навошта, Лёша?

— Проста для таго, каб даведацца, як склаўся яе лёс.

Мачалаў паціснуў плячамі:

— Напэўна, гэта не трэба зараз ні ёй, ні мне. Мне б вельмі хацелася, каб яна была шчаслівая.

А Купрэйчык ізноў змяніў тэму:

— Добра, я пайшоў піць піва і знаёміцца з Мулерам,— і ён рашуча накіраваўся да дзвярэй…

## 8

## Оперупаўнаважаны крымінальнага вышуку Славін

Гора прыйшло ў сям’ю Літвіных. Жонка Літвіна пакуль не ведала гэтага. Здзіўленая прыходам работнікаў міліцыі і дырэктара леспрамгаса, яна мітусілася, запрашаючы ўсіх садзіцца.

Мелася быць цяжкая гаворка, і ніхто не адважваўся пачаць яе першым. Але трэба было пачынаць, і Славін папрасіў паказаць фатаграфію Мікалая Елізаравіча. Гаспадыня дастала з альбома фота мужа і, працягваючы яго Славіну, спытала:

— Скажыце, што здарылася? Я ўжо змарнавалася за гэтыя дні!

Не адказваючы, Славін глядзеў на фатаграфію мужчыны гадоў пяцідзесяці, з ледзь прыжмуранымі вачамі. Падабенства было, аднак сцвярджаць, што гэта яго знайшлі ў кузаве грузавіка, Славін не мог. Твар забітага быў поўнасцю знявечаны. Уладзімір спытаў, куды ён павінен быў ехаць трынаццатага верасня.

— У чацвёртую брыгаду, гэта кіламетраў дваццаць адгэтуль. Ён хацеў даведацца, што з цёплай адзежы трэба людзям, хутка ж маразы...

Уладзімір павярнуўся да дырэктара:

— У якім баку тая брыгада працуе?

— Недалёка ад вёскі Пасха.

Славін разгарнуў скрутак і паказаў гаспадыні чаравік.

— Зірніце, гэта выпадкова не яго абутак?

Жанчына ўзяла чаравік, і рукі яе адразу задрыжалі.

— Яго, вядома, яго! З ім няшчасце?

Дырэктар падышоў да яе і, узяўшы за плечы, пасадзіў на канапу:

— Мацуйся, Ліда! З Мікалаем сапраўды здарылася няшчасце. На яго наехала машына.

— Машына? Якая машына? Дзе ён, скажыце, дзе ён? — Жанчына ўскочыла з канапы і падбегла да Славіна: — Вы ведаеце, дзе ён? Скажыце мне, малю! Скажыце мне, жывы ён?

Славін апусціў галаву і ледзь чутна сказаў:

— Ён… загінуў.

— А… а… — гучна закрычала жанчына і, ломячы рукі, кінулася да дзвярэй, але яе спыніў дырэктар:

— Ліда, Ліда, спыніся, мілая! Ідзі вось сюды, сядзь на канапу.

Яна паспрабавала вырвацца, але дырэктар абняў яе за плечы і сілай пасадзіў на канапу.

Неўзабаве зайшоў брат гаспадыні. Участковы, калі яны праходзілі міма яго дома, забег і папрасіў яго прыйсці. Славін растлумачыў яму, што здарылася, і сказаў, што дырэктар леспрамгаса дасць машыну, на якой трэба паехаць па цела Літвіна. Пасля гэтага асцярожна крануў за рукаў участковага: «Пойдзем!.. Праводзьце мяне да дарогі, вы ў форме, вам лягчэй будзе спыніць машыну».

Калі яны падыходзілі да ўскраіны пасёлка, убачылі палутарку. У кабіне быў толькі вадзіцель. Па знаку работніка міліцыі машына спынілася, і неўзабаве Славін ехаў у кабіне старога, дабітага грузавіка.

Буфетчыца, як заўсёды, была на сваім пасту. Уладзімір прывітаўся і папрасіў накарміць яго. Цётка Маша хутка прынесла міску капусты, шніцаль з макаронамі і села насупраць.

— Ну, як у вас справы?

— Ды вось блукаю, — няпэўна адказаў Уладзімір. — Як вы думаеце, я на Кемерава знайду спадарожную машыну?

— Рэдка яны ходзяць, але, магчыма, знойдзеце. Вам трэба выйсці на дарогу, якая вядзе ў Кемерава, таму што некаторыя вадзіцелі, не спыняючыся тут, едуць далей…

Славін разлічыўся за абед і выйшаў з чайной. Стаяць на дарозе прыйшлося доўга, і толькі пад вечар, моцна змерзшы, ён сеў у кабіну ЗіСа, што ехаў у Кемерава. Вадзіцель, малады хлопец, аднагодак Уладзіміра, сказаў, што ехаць прыйдзецца амаль усю ноч. Шлях няблізкі, і Славін, уладкаваўшыся ямчэй, падрыхтаваўся да працяглай трасяніны па няроўнай дарозе.

Вадзіцель, які назваўся Аляксандрам, аказаўся гаваркім, ён расказаў, што родам з Кемерава і ўжо шмат разоў ездзіў па гэтых дарогах.

Уладзімір спытаў:

— Саша, а чаму ты на «пупе» не спыніўся? Там жа чайная, і амаль ніхто не праскоквае міма яе.

— А ў мяне ёсць свой «пуп», — усміхнуўся хлопец, — вось праз пяць гадзін убачыш.

— А што толку, праз пяць гадзін? — Уладзімір зірнуў на гадзіннік, — ужо будзе каля адзінаццаці, і нават чаю не вып'еш.

— Памыляешся. Там нядрэнная сталовая, і працуе яна круглыя суткі. Калі б ты ні прыехаў, заўсёды можна паесці гарачага.

Нягледзячы на тое, што дарога была ў калдобінах, яны ажыўлена размаўлялі, і пяць гадзін прайшлі неўзаметку. Калі даехалі да месца, пра якое казаў вадзіцель, Славін ужо многае даведаўся і пра Кемерава, і пра звычкі тутэйшых вадзіцеляў.

Аляксандр загнаў машыну ў двор чайной, і яны ўвайшлі ў чыстую невялікую залу, дзе сядзелі тры чалавекі. За стойкай стаяла маладая прыгожая жанчына, зірнуўшы на яе, Славін ледзь не ўскрыкнуў. Перад ім была Латаніна, якая падчас вайны даносіла гестапа на падпольшчыкаў і патрыётаў.

Уладзімір стаяў як скамянелы і глядзеў на буфетчыцу. Не, памыліцца ён не мог — гэта была Латаніна Светка, здрадніца, якая, напэўна, апынулася тут, у глухамані, каб згубіцца сярод людзей, схавацца, быць далей ад тых, хто яе добра ведаў, і такім чынам уцячы ад адплаты!

— Ну, ты што, прырос? Праходзь, — крануў Уладзіміра за плячо вадзіцель.

Славін сеў за бліжэйшы столік і неадрыўна глядзеў на буфетчыцу. Да іх падышла пажылая афіцыянтка:

— Ну, што, хлопчыкі, будзем заказваць?

— Нам чаго-небудзь гарачанькага, — папрасіў Аляксандр.

— Ёсць толькі суп гарохавы, а на другое — катлеты з тушанай капустай.

Вадзіцель ткнуў Славіна ў бок:

— Ну, што бяром? Табе можна і сто грамаў для апетыту, не за рулём жа.

— Што вам на трэцяе? Кампот ці чай? — нецярпліва спытала афіцыянтка. — Гарэлку калі захочаце, то ў буфеце возьмеце.

— Давайце чай, — махнуў рукой Славін і, пачакаўшы, пакуль афіцыянтка адыдзе ад стала, спытаў у вадзіцеля:

— Саша, гэта буфетчыца даўно тут працуе? Вадзіцель паглядзеў у бок буфета і, усміхнуўшыся, сказаў:

— Што, спадабалася? Яна ўжо больш як год тут… сімпатычная жанчына, толькі старэйшая яна за нас з табой.

— Яна замужам?

— Не ведаю. Хочаш, спытаю?

— Не, што ты! Проста мне здалося, што раней яна ў Мар'янаўску працавала.

Раптам ён адважыўся:

— Ведаеш, мабыць, я вазьму сабе сто грамаў, каб не застудзіцца, а то на дарозе амаль паўдня пратырчаў на ветры ў чаканні машыны.

Славін устаў і падышоў да прылаўка. Ён не баяўся, што Латаніна яго пазнае, ці наўрад яна памятала суседскага хлопца.

Жанчына кінула пусты погляд на хлопца і абыякавым тонам спытала:

— Што?

— Сто грамаў.

«Так, гэта яна!» — Славін зараз быў цвёрда ўпэўнены ў гэтым.

Буфетчыца наліла ў гранёную шклянку гарэлкі і, падсунуўшы бліжэй да Славіна, прамармытала:

— Хлопец здаровы, малады, і ад поўнай шклянкі нічога не стала б.

— У наступны раз, — пажартаваў Уладзімір і хацеў адысці ад буфета, але раздумаўся і сказаў: — Добра тут у вас, чыста, акуратна, колькі езджу па гэтай дарозе і заўсёды з вялікім задавальненнем заязджаю да вас.

— Узяў бы тады і падзяку напісаў, калі падабаецца.

Славін і сам хіліўся да гэтага. Ці пад сваім прозвішчам працуе тут Латаніна? Уладзімір адказаў:

— А што? І напішу, вось толькі аловак дайце, а то не маю з сабой.

У кішэні пінжака Уладзіміра ляжала добрая аўтаручка, якую падарыла Рыта яшчэ летась, але ён не хацеў рабіць хоць бы малога кроку, які мог бы насцярожыць буфетчыцу. Хай ён застаецца проста тым, за каго яна яго прымае. Латаніна падала яму кнігу скарг і прапанову. Гэта быў звычайны журнал, да якога быў прывязаны аловак.

Славін спытаў:

— Як ваша прозвішча?

— Сыраежная.

— Імя?

— Любоў Сяргееўна.

— А афіцыянткі?

— А навошта табе і афіцыянтцы пісаць? Хопіць, што мне напішаш.

Славін ледзь стрымліваў сябе, каб не схапіць яе за руку і прама праз прылавак выцягнуць у залу, кінуць у машыну і даставіць у бліжэйшае аддзяленне міліцыі. Але ён ведаў, што перш, чым затрымаць злачынцу, трэба прад'явіць ёй абвінавачванне. Славін сеў за стол і стаў пісаць, а перад вачамі ў яго стаяла выява бацькі. Магчыма, менавіта Латаніна і данесла фашыстам пра яго. Успомніў яе ўсмешлівую на Камароўскім рынку, абкружаную гестапаўскімі афіцэрамі, як паказвае рукой на нейкага мужчыну, якога тут жа схапілі. Яго не збянтэжыла тое, што гэта жанчына назвалася іншым прозвішчам, не, ён не пераблытаў, гэта была яна — Светка Латаніна!

Уладзімір напісаў некалькі слоў падзякі, указаўшы ў ёй прозвішча Сыраежнай. Есці ён не стаў. Выпіў гарэлку і пачаў прыспешваць вадзіцеля. Той здзіўлена паглядзеў на яго.

— І чаго ты так спяшацца стаў? То падзяку пішаш, то нават ад ежы адмаўляешся.

— Не бурчы, сябра, зрабі для мяне добрую справу, паехалі хутчэй!..

## 9

## Купрэйчык

У піўнушцы народу было шмат. Купрэйчык і оперупаўнаважаны крымінальнага вышуку Новікаў, якога ён узяў сабе ў памагатыя, заказалі па куфлю піва і, стоячы недалёка ад піўной бочкі, асцярожна разглядалі прадаўца.

Яму было не менш за семдзесят. Сярэдняга росту, з рэдкімі сівымі валасамі. Ён працаваў спрытна. Хуткім рухам падносіў пусты куфаль да крана, адкрываў яго, пры гэтым весела перагаворваўся са знаёмымі, якія, як паспелі заўважыць аператыўнікі, даволі часта з'яўляліся тут.

У кожны куфаль Мулер відавочна не даліваў піва, не зважаючы на тое, што амаль палова куфля запоўнена пенай, працягваў яго кліенту. Адзін з наведвальнікаў абурыўся:

— Ты б, дзед, не даліваў, але по-боску. Паглядзі на сябе: ты ж жыццё ўжо пражыў, а ўсю драбязу збіраеш. Багацце на пене назапасіў, нябось, ужо і сам не ведаеш колькі.

— А ты не пі, тады таксама багатым будзеш, — спакойна і зусім бяскрыўдна адказаў Мулер.

Мужчына, які знаходзіўся непадалёку, сказаў незадаволенаму:

— Не псуй сабе нервы, мужык. Хіба доймеш гэтага скнару словамі. Вось калі б яму ў морду ўрэзаць, то тады, можа, і дайшло б, але нельга — стары ж. Хоць што да яго ўзросту, то не турбуйся, ён нас перажыве і хварэць не будзе, і сумленне яго грызці не стане…

Дзед не даў яму скончыць і абыякава адказаў:

— Лепш быць багатым і здаровым, чым бедным і хворым.

Купрэйчык нахіліўся да Новікава:

— Слухай, Ваня, а што, калі нам скарыстацца гэтым шумам і запрасіць Мулера для тлумачэнняў у аддзяленне, заадно там і пра Карунова высветлім?

— Давай, — згадзіўся Новікаў і, паставіўшы на невялікі, заліты півам прылавак куфаль, паказаў Мулеру пасведчанне. — Канчайце гандаль і збірайцеся. У аддзяленні разбяромся, ці доўга вы яшчэ ашукваць будзеце.

Мулер нават вокам не міргнуў і тым жа спакойным тонам адказаў:

— Ізноў, напэўна, міліцыі піва не спадабалася. Добра, зараз збяруся…

У аддзяленні Купрэйчык адчыніў выдзелены для яго групы кабінет і запрасіў Мулера сесці. Працягваючы заставацца спакойным, той сказаў:

— Я думаю, што з-за піўной пены садзіцца не варта.

— Гэта чаму ж? — заўважыў Новікаў. — Вы людзей ашукваеце і лічыце, што за гэта перад законам адказваць не трэба?

— Э, малады чалавек, я не ашукваю…

— Як гэта не ашукваеце? — здзівіўся Новікаў. — Адкажыце мне тады, чаму вы не даліваеце пакупнікам піва?

— Я стары чалавек і дрэнна бачу…

— А чаму, у такім разе, не пераліваеце?

— О, я яшчэ не настолькі аслеп. — Мулер хітра і ледзь прыкметна ўсміхнуўся.

Чым даўжэй Купрэйчык слухаў Мулера, тым больш пераконваўся, што ён не такі просты, як здалося. Капітан некалькі разоў улавіў не па ўзросце хуткі і ўважлівы погляд, якім абмацаў яго стары. У вачах свяцілася хутчэй пытанне, чым спалох ці разгубленасць.

«Здагадваецца стары, што не з-за піва мы яго сюды прывялі. Напэўна, хадзіць вакол ды каля няварта. Ён не дурны, а з такім лепш адносіны на даверы будаваць».

— Леў Абрамовіч, а кім вы працавалі да вайны?

— У які час?

— Ну хаця б у перадваенныя гады.

— О, тады я быў ужо на пенсіі.

— Ну а на пенсію калі пайшлі?

Мулер тым жа роўным голасам нечакана сказаў:

— Вы мяне выбачайце, але я пражыў на свеце, як той казаў, дай Бог кожнаму, і ўпэўнены, што вы не горш за мяне ведаеце, кім я працаваў і калі на пенсію сышоў. Я ў гэтым упэўнены на ўсе пяць тысяч рублёў, гэтак жа як і ў тым, што не з-за пены я тут. Вам штосьці ад мяне трэба. Пытайце і паверце, Лёва Мулер і ў маладыя гады не крывіў душой перад уладай. Скажыце, які

мне сэнс хлусіць цяпер, на схіле жыцця, калі хочацца аднаго: трошкі цяпла, выгоды і чыстай ніжняй бялізны?

— Хочаце сказаць, што ведзяце аскетычны лад жыцця? — усміхнуўся Новікаў.

— Ведаеце, шаноўны грамадзянін-таварыш, я не ведаю такіх мудрагелістых слоў, але ўпэўнены, што жыву звычайна.

— Ну, не зусім звычайна, калі ўлічыць, што, не даліваючы ў кожны куфаль піва, вы маеце нядрэнны прыбытак? — заўважыў Купрэйчык, працягваючы прыглядацца да Мулера і думаць, якім чынам прыступіць да галоўнага. Капітану не спадабалася, што старшы лейтэнант Новікаў некалькі бесцырымонна абыходзіцца з пажылым чалавекам. Але гаворка ўжо вялася, і трэба было накіроўваць яе ў патрэбнае рэчышча. Купрэйчык мякка сказаў:

— Не крыўдзіцеся, Леў Абрамовіч, старшы лейтэнант меў на ўвазе, што вы ведзяце сціплы лад жыцця.

— А як жа інакш. Паглядзіце мой дом, самі ўбачыце, што жыву я не так ужо шыкоўна. Паверце, да вайны я жыў лепш.

— Нічога, Леў Абрамавіч, пройдзе трохі часу, і зноў усё наладзіцца, вось толькі акрыяем ад вайны. Але цяпер гаворка пра іншае. Успомніце сярод сваіх знаёмых аднаго чалавека…

Купрэйчык расказаў пра прыкметы Карунова і пра тую сустрэчу, пра якую гаварыў Пултас.

Мулер доўга думаў, некалькі разоў удакладняў прыкметы, а затым, адкінуўшыся на спінку крэсла, сказаў:

— Адразу і сказалі б, што вам патрэбен гэты чалавек. Я яго сапраўды ведаю, але толькі, як той казаў, у твар.

— Ну, а старую?

— Вось ужо старую я ведаю выдатна. Гэта — Жовель Маня. Яна са Старажоўкі. Яе там кожны ведае: спытаеце, дзе Маня Жовель жыве, і вас любы малец да яе адвядзе.

— Чым знакамітая гэтая Маня?

— Ну, па-першае, у яе сямёра дзяцей, якія знаходзяцца на падножным корме: хто што дастане, тое і з’есць. Па-другое, яна заўсёды ў курсе ўсіх спраў і не любіць пра гэта балбатаць. Па-трэцяе, яна старажыл і карыстаецца вялікім аўтарытэтам у тых, хто любіць, як той казаў, лап-царап.

Купрэйчык спытаў:

— А вы ведаеце гэтага мужчыну?

— На гэта пытанне мне цяжка адказаць. І не падумайце, шаноўныя, што не жадаю. Проста ён адзін з многіх кліентаў, якія прыходзяць да мяне часта, не бяруць рэшту, напэўна, таму, што яна ўжо вельмі ў кішэні бразгае, і ніколі не паднімаюць шуму з-за нейкай пены. Цікава, што б мне сказалі наведвальнікі, калі б я раптам стаў прадаваць піва без пены. Хацеў бы ўбачыць выраз іх вачэй. Яны б мяне адразу ж абвінавацілі ў тым, што я разводжу піва вадой. Але я не з такіх, я занадта паважаю сваю прафесію, каб падмочваць яе.

— Калі ж вы пазнаёміліся з Жовель?

— З Маняй? Я яе ўжо ведаю гадоў дваццаць, не менш. Да вайны я таксама жыў на Старажоўцы, і, скажу вам прама, мы з ёй нядрэнна сябравалі.

— Скажыце, а гэты мужчына можа ў яе жыць?

— Асабіста я сумняваюся.

— Гэта чаму ж?

— У яе дома сапраўдны гармідар. Шум стаіць, як у лазні. Не, я не думаю, што хто-небудзь адважыцца жыць у такім кутку, дзе нават свае ўласныя порткі раніцай можаш не знайсці…

У гэты дзень Мулер расказаў работнікам міліцыі ўсё, што ведаў. Купрэйчык адчуваў, што ён кажа праўдзіва і шчыра. Дамовіліся, што калі Каруноў зойдзе ў піўную, то Мулер абавязкова паведаміць пра гэта капітану.

Некаторы час аператыўнікі маўчалі. Але вось Купрэйчык усміхнуўся і паглядзеў на Новікава:

— Ну, што, Ваня, — на Старажоўку?

— Наперад! Назавём аперацыю «Дзе ты, Маня?» — і Новікаў весела засмяяўся.

## 10

## Славін

Як ні прыспешваў вадзіцеля Славін, у Кемерава яны прыехалі пазней, чым разлічвалі. Ім прыйшлося двойчы мяняць кола, прычым другі раз трэба было клеіць прабітую камеру.

У Кемерава пачаўся ўжо новы працоўны дзень. Брудныя, стомленыя пасля бяссоннай ночы, заехалі яны ў горад. Славін выйшаў недалёка ад цэнтра і ў першага ж сустрэчнага міліцыянера спытаў, як дабрацца ва ўпраўленне. На шчасце, яно аказалася недалёка, і неўзабаве лейтэнант дакладваў пажылому палкоўніку пра мэту свайго прыбыцця ў Кемерава. Палкоўнік адразу ж зрабіў неабходныя даручэнні, сутнасць якіх зводзілася да таго, каб сіламі работнікаў міліцыі праверыць усе арганізацыі і ўстановы, якія маюць аўтатранспарт. Затым паглядзеў на стомленага лейтэнанта і сказаў:

— Вы едзьце ў наш інтэрнат — там ёсць пакоі для камандзіраваных — і адпачніце. Машыну вам дасць дзяжурны. Прыходзьце сюды к вечару, падвядзём вынікі і падумаем, што рабіць далей.

— Таварыш палкоўнік, у мяне яшчэ адно пытанне. — І Славін расказаў пра буфетчыцу Сыраежную.

— Вы не памыліліся, лейтэнант?

— Ніяк не, таварыш палкоўнік. Яна ж была маёй суседкай, жыла праз вуліцу, амаль насупраць. Гэта мяне яна не запомніла, падлеткам быў. А я яе, гадзіну, на ўсё жыццё запомніў!

— Так, гэта сур’ёзна. Добра, вось вам папера, напішыце рапарт і едзьце адпачываць. Сустрэнемся ў шаснаццаць гадзін.

Славін напісаў рапарт. Пакінуў яго палкоўніку, а сам на дзяжурнай «эмцы» паехаў у інтэрнат.

А ў горадзе ішоў напружаны пошук. Адна за другой правяраліся аўтагаспадаркі, установы і прадпрыемствы. Работнікі міліцыі старанна правяралі дакументы, ішоў пошук аўтамашыны, якая ездзіла ў Мар’янскі раён у першай палове верасня. Калі знаходзілася такая машына, то адразу ж супастаўляліся прыкметы яе вадзіцеля з тымі, пра якія паведаміў Славін.

Калі Славін увайшоў у кабінет начальніка, той сказаў яму, што ўжо праверана вялікая частка аўтамашын горада. Палкоўнік запрасіў лейтэнанта сесці, а сам стаў размаўляць з кімсьці па тэлефоне. Славін зразумеў, што гаворка ідзе пра Латаніну-Сыраежную. Нябачны суразмоўца паведамляў, што робіцца для яе праверкі.

— Па дакументах, якія маюцца ў аддзеле кадраў, Сыраежная Любоў Сяргееўна значыцца як былая медсястра, якая знаходзілася на фронце ў складзе Першага Беларускага фронту. Цяжка пакуль сказаць, ці пацвердзяцца вашы

падазрэнні, але адна акалічнасць мяне ўжо збянтэжыла. Мяркуючы па дакументах, Сыраежная да і падчас вайны працавала медсястрой, а тут, дзе да зарэзу патрэбны медыкі, стаіць за прылаўкам.

— А адкуль яна прыехала?

— З Беларусі.

— Дык можна ж запытаць!..

— Ужо зроблена, — усміхнуўся палкоўнік і дадаў? — Да нас падключыўся ўжо прадстаўнік органаў дзяржаўнай бяспекі. Так што, калі вы не памыліліся, то нікуды яна не дзенецца…

— Я не памыляюся, гэта Латаніна, дарэчы, мне мама, калі я знаходзіўся яшчэ ў Баранавічах, пісала, што яе ўзмоцнена шукаюць як здрадніцу.

У дзверы пастукалі. У кабінеце з’явіўся капітан, ён працягнуў палкоўніку тэлеграму:

— Толькі што прыбыла.

Начальнік зірнуў на яе і ўсміхнуўся.

— Табе, у першую чаргу, трэба было даць яе гэтаму маладому чалавеку. — Ён працягнуў бланк Славіну. — Прачытайце.

Славін прачытаў і ўскочыў з крэсла:

— Вось малайчына ўчастковы ўпаўнаважаны! Вось малайчына, устанавіў!

У тэлеграме паведамляліся прозвішча вадзіцеля і нумар аўтамашыны, якая прывозіла розныя прылады на адну з лесараспрацовак і з’ехала адтуль трынаццатага верасня. У канцы тэлеграмы было два словы: «Прыкметы супадаюць».

Палкоўнік загадаў дзяжурнаму даць адбой тым, хто быў заняты вышукам машыны, і запрасіць да яго старшага лейтэнанта Папова. Калі дзяжурны выйшаў, палкоўнік пачаў распытваць Славіна, адкуль ён родам, дзе родныя, як працуецца на новым месцы.

У кабінет увайшоў афіцэр, далажыў:

— Таварыш палкоўнік! Старшы лейтэнант Папоў прыбыў па вашым загадзе!

— Добра, Алег Іванавіч. Пазнаёмцеся, лейтэнант Славін. Вам неабходна разам з ім паехаць у трэцюю аўтабазу і затрымаць вадзіцеля Хахлова, — палкоўнік зазірнуў у тэлеграму, — Андрэя Савельевіча, ён падазраецца ў здзяйсненні наезду на грамадзяніна. Па дарозе Славін увядзе вас у курс справы, а цяпер бярыце маю машыну і едзьце, а то працоўны дзень заканчваецца, баюся, як бы вы не спазніліся.

Славін і Папоў накіраваліся да выхаду, але палкоўнік спыніў іх:

— Ледзь не забыўся. Дамоўцеся з кіраўніцтвам аўтабазы, каб паставіць гэту машыну ў асобны бокс, яе прыйдзецца аглядаць…

Пакуль ехалі ў машыне, Славін і Папоў пазнаёміліся бліжэй. Аказалася, што яны заканчвалі адну і тую ж афіцэрскую школу, толькі Папоў скончыў яе на год раней.

Неўзабаве яны былі на аўтабазе. Знайшлі галоўнага інжынера, ён, па словах вартаўніка, які сустрэў іх ля варот, выконваў абавязкі дырэктара аўтабазы. Галоўны інжынер — нізенькі, поўны, гадоў пяцідзесяці мужчына, які пакутуе задышкай — вельмі ўважліва чытаў пасведчанні Папова і Славіна і толькі пасля гэтага запрасіў іх да сябе ў кабінет. Доўга ішлі па тэрыторыі аўтабазы, затым — па вузкім, прапахлым маслам і бензінам калідоры, падняліся на другі паверх і апынуліся ў маленькім пакоі.

— Дождж кожны дзень, машыны суткамі ў гразі сядзяць, велізарны перарасход гаручага. Хутчэй бы снег выпаў, — адразу ж пачаў наракаць на надвор'е галоўны інжынер.

— Ваш вадзіцель Хахлоў на месцы?— перабіў яго Папоў.

— Хахлоў? Зараз высветлім.

Ён патэлефанаваў:

— Хто? Слухай, ты правер, дзе цяпер вадзіцель Хахлоў знаходзіцца… Што? Добра. Чакаю.

У кабінеце наступіла цішыня. Усё чакалі. Нарэшце галоўны інжынер ажывіўся, выслухаўшы таго, хто размаўляў на другім канцы дроту.

— Яго цяпер няма, з учарашняга дня знаходзіцца ў камандзіроўцы і прыедзе, па нашым разлікам, дні праз два.

— Куды ён паехаў? — спытаў Славін.

— Не ведаю, не спытаў.

— Хто можа сказаць?

— Дыспетчар, гэта я з ім размаўляў, калі хочаце, яшчэ раз патэлефаную.

— Дзякуй, давайце лепш пройдзем да дыспетчара, нам трэба высветліць, дзе Хахлоў быў трынаццатага верасня.

Яны зноў пайшлі праз усю тэрыторыю аўтабазы і неўзабаве апынуліся ў невялікім аднапавярховым цагляным будынку.

У горача напаленым пакоі сядзела некалькі чалавек. Галоўны інжынер звярнуўся да мужчыны, які сядзеў за першым сталом:

— Слухай, Марынічаў, паглядзі, куды Хахлоў накіраваны.

— У Мар'янскі раён, павёз рухавік для выпрацоўкі электрычнасці і розныя інструменты.

Славін папрасіў:

— Паглядзіце, калі ласка, дзе ён быў трынаццатага верасня.

Марынічаў ізноў схіліўся над паперамі і праз хвіліну ўпэўнена адказаў:

— Там жа быў. Знаходзіўся ў камандзіроўцы з дзясятага па пятнаццатае верасня.

Уладзімір радасна зірнуў на Папова, і яны тут жа пайшлі. Па дарозе да машыны Папоў спытаў у Славіна:

— Ну, што рабіць будзем?

— Паедзем ва ўпраўленне, далажым начальніку, і я буду прасіць, каб ён мне дазволіў перахапіць Хахлова ў дарозе, калі той будзе вяртацца…

Праз паўгадзіны яны ўжо знаходзіліся ў кабінеце начальніка. Славін далажыў пра тое, што ім удалося высветліць, і спытаў:

— Таварыш палкоўнік, дазвольце я сёння выеду ў пасёлак Лябяжы і там разам з мясцовым участковым упаўнаважаным, якраз з тым, які ўстанавіў прозвішча Хахлова, і давядзём справу да канца.

— А можа, тут дачакаецеся Хахлова, вам нашы таварышы дапамогуць?

— А раптам хто-небудзь паспее папярэдзіць Хахлова і той зможа падрыхтавацца да сустрэчы з намі? У нас жа ніякіх доказаў яго віны няма.

— Так… — пацёр рукой падбародак палкоўнік, — а ведаеце, можа быць, ваша праўда! Добра, едзьце. — Ён перавёў позірк на старшага лейтэнанта: — Вы, таварыш Папоў, на маёй машыне падкіньце Славіна да выезду з горада і дапаможыце яму сесці на спадарожную машыну.

Афіцэры вырашылі, што ім можна ісці, і падняліся са сваіх крэслаў. Але палкоўнік папрасіў Славіна застацца.

— Мне тэлефанаваў гадзіну назад Алтынін. Дамовіліся, што ён ізноў у восем гадзін вечара патэлефануе. Ён яшчэ хварэе. Мы казалі пра вас, і я падуаўу-

маў, што вас трэба было б накіраваць на работу проста сюды, ва ўпраўленне. Можа, цяпер вас перавесці?

— Дзякую, таварыш палкоўнік, але калі можна, я застануся ў Мар'янску. Я думаю, што калі ўжо мяне і трэба пераводзіць адтуль, то ў Мінск. Там у мяне мама, сястра… і яшчэ я павінен высветліць пра бацьку.

— Так, так, мне пра ваш цяжкі лёс расказаў Ягор Ягоравіч. Ну што ж, дзякуй за шчырасць. Працуйце пакуль там, але я буду мець на ўвазе, і калі з'явіцца магчымасць, будзем вырашаць пытанне пра ваш перавод у Мінск…

Расчулены гэтай гутаркай, Славін выйшаў з упраўлення і не заўважыў Папова, які стаяў каля машыны. Уладзімір спыніўся ля выхада, і той яго паклікаў.

— А, ты тут? — нібы ачнуўся Славін. — Ну паехалі…

Выехаўшы з горада, яны спынілі першы ж ЗіС, высветлілася, што ён ідзе да скрыжавання дарог. Уладзімір развітаўся са сваім новым таварышам, сеў у кабіну, і машына панеслася па дарозе, якая к вечару пачала трохі падмярзаць. Наперадзе была бяссонная ноч, але гэта было нішто ў параўнанні з думкай, якая хвалявала лейтэнанта: «Ці на правільным я шляху? Што прынясе сустрэча з Хахловым?»

## 11

## Капітан Купрэйчык

Калі капітан Купрэйчык увайшоў у доўгі і цёмны калідор, з дзвярэй кутняга пакоя даносіліся рэзкія ўсхліпы. «Як я недарэчы, — падумаў ён, асцярожна прабіраючыся міма расстаўленых на падлозе бляшаных тазоў, вёдраў, паламаных табурэтак,— няўжо няшчасце здарылася?»

Неўзабаве Аляксей дабраўся да пакоя. Ён быў метраў дванаццаць, не больш, злева віднеліся дзверы, што вялі ў другі пакой. Капітан раней не бачыў такой запушчанай кватэры: на падлозе, якая ўжо даўно не прыбіралася, шалупінне ад семак, смецце і бруд. Уздоўж сцен стаялі тры непрыбраныя ложкі з нямытай бялізнай. Справа ад увахода — вялікі прамавугольны стол. На ім — брудныя талеркі, рэшткі ежы, абрыўкі паперы.

У пакоі было шасцёра дзяцей, усе дрэнна апранутыя, нямытыя. Ля сцяны сядзела жанчына на павернутай бокам табурэтцы. Яна трымала ногі ў бляшаным тазе з вадой. На жанчыне была старая ватовая паддзёўка і чорная спадніца. Яе доўгія валасы былі раскіданы па плячах, закрывалі хударлявы твар. Аказалася, што гэтыя дзіўныя гукі, рэзкія ўсхліпы, якія ён пачуў, як толькі ўвайшоў у калідор, зыходзілі ад яе. Маня Жовель смяялася. Смех яе быў не падобны на звычайны і хутчэй нагадваў плач чалавека, у якога ад гора перахапіла дыханне і гукі з цяжкасцю вырываліся з грудзей.

— Іх… іх… іх… — рагатала Жовель, нізка нахіляючы галаву да калень.

Ля тазіка на кукішках сядзелі дзве дзяўчынкі. Адна — гадоў дзесяці, другая — крыху старэйшая за яе. Яны таксама смяяліся, але, убачыўшы незнаёмага чалавека, змоўклі і са здзіўленнем глядзелі на яго.

Дзяўчынка старэйшая дакранулася рукой да пляча маці:

— Ну хопіць! Паглядзі, чалавек прыйшоў…

Жовель падняла галаву і зірнула на Купрэйчыка.

Аляксей прывітаўся і спытаў:

— Напэўна, дзеці рассмяшылі?

Жанчына, стаўшы сур'ёзнай, адказала:

— А каму ж яшчэ засталося смяшыць мяне?

Яна злёгку пхнула дочак:

— Ну, чаго чакаеце, падайце чалавеку крэсла.

Пакуль Купрэйчык уладкоўваўся на старым, расхістаным крэсле, у пакой увайшоў хлопец гадоў пятнаццаці. Ён незычліва прывітаўся і моўчкі прысеў на ложку, што стаяў воддаль. Аляксей адчуў, як Жовель глядзіць вывучаючы яго. Капітан сустрэў яе погляд і ціха сказаў:

— Марыя Рыгораўна, я хацеў бы з вамі пагаварыць.

Жовель хутка па чарзе паглядзела на дзяцей:

— А ну, уцякайце адсюль!

Дзеці моўчкі, адно за адным, пачалі выходзіць. Тры дзяўчынкі пайшлі ў суседні пакой, чацвёра хлопчыкаў — у калідор. Было бачна, што яны рады лішні раз вырвацца з дому.

Купрэйчык, перш чым прыйсці сюды, да Жовель, тройчы сустракаўся з прадаўцом піва Мулерам, які параіў, як трэба сябе трымаць з Маняй. Капітан памятаў пра гэта і не спяшаўся казаць пра галоўнае. Ён прадставіўся ёй і пачаў гаворку здалёк:

— Вы даўно тут жывяце?

— А ты што, хлопец, не з нашага аддзялення?

— Я — навічок. Нядаўна перавялі сюды.

— Ясна. А то я здзівілася, што мільтон… ох, прашу прабачэння, міліцыянер і — раптам нічога пра Маню не ведае.

— Ну чаму ж, — усміхнуўся Купрэйчык, — сёе-тое я ўжо ведаю.

— І што ж?

— Ну, напрыклад, што ў вас сямёра дзяцей, што вы — старажоўская знакамітасць, што нават немцы не адважваліся з вамі звязвацца, — пахваліў Маню Аляксей, — баяліся, што не выйдуць з вашай кватэры.

— Так, гэта праўда, фрыцы і паліцаі стараліся маю хату бокам абыходзіць. Але ты не турбуйся, я таксама гэтым карысталася і дваіх яўрэяў, лічы, ад смерці ратавала: амаль два гады хавала ў сябе.

«Вось яно што… — падумаў Аляксей, — Мулер жа казаў мне між іншым, што Жовель ён многім абавязаны. Ці не яго яна хавала?» Ён сказаў:

— Вось пра гэта я і не ведаў. І што, удалося вам выратаваць гэтых яўрэяў? Хто яны?

— Адзін, які маладзейшы, пасля таго як прыйшла Чырвоная Армія, на фронт пайшоў. Загінуў, небарака. Добры чалавек быў, музыка.

— А другі хто? — не вытрымаўшы спытаў капітан.

— Другі? Ён жывы-здаровы, але сквапнюга страшэнны. Спачатку газіроўку прадаваў, на вадзе і дом сабе пабудаваў, зараз ужо года паўтара як півам гандлюе на Камароўцы. Лёвам яго завуць, а прозвішча Мулер. Можа, чуў?

— Так, яго я ўжо ведаю.

— Ён стары нядрэнны, — сказала Жовель і, павярнуўшыся да дзвярэй, уладарна крыкнула: — Ірка, ці хто там, падліце мне вады гарачэйшай! — Павярнулася да Купрэйчыка і ўжо іншым, жаласным голасам растлумачыла: — Мазалі зусім мяне замучылі, хадзіць няма сіл. — І скончыла раней выказаную думку: — Я б не сказала, што Лёва дрэнны чалавек: і разважлівы, і параду добрую даць можа, але прагны, ох які скупы! Вось прыйду часам да яго і папрашу піўка папіць. Нальё паўкубка — і ўсё.

Купрэйчыку падалося, што цяпер зручны момант, каб паспрабаваць высветліць пра Карунова. Ён, як бы ўспамінаючы, сказаў:

— Ага, і Воўка Каруноў жаліўся на гэтага Лёву, памятаеце Карунова?

І тут жа Купрэйчык зразумеў, што ён паспяшаўся і гэтым пытаннем сапсаваў справу. Жанчына кінула на яго імклівы погляд і, пагладжваючы ногі, млявым голасам сказала;

— Не ведаю ніякага Воўкі Карунова. Ох, як баляць мае ножкі. — І яна павярнулася да дзвярэй: — Ірка, хутка ты там ваду прынясеш?

Купрэйчык зразумеў, што далей гутарыць бескарысна, і вырашыў часова адступіць.

Ён сказаў некалькі слоў, якія, на яго думку, павінны былі падбадзёрыць Маню, нібы сапраўды разумеў, паспачуваў ёй і развітаўся.

На вуліцы пад халодным дажджом аблаяў сябе: «Ідыёт! Навошта было спяшацца! Усю справу сапсаваў! Не, у разведцы было прасцей: наблізіўся да праціўніка — і хапай яго. А тут паспрабуй дабярыся да гэтага Карунова. Жовель і тая патрабуе свайго падыходу. Але нічога, усё адно я цябе адшукаю, Каруноў! Вось толькі ключык да Мані падбяру!»

Ён ішоў, ужо не заўважаючы ні дажджу, ні ветру. Капітан ламаў галаву, як угаварыць Жовель, каб яна расказала яму ўсё, што ведала пра Карунова. І раптам павярнуўся і ледзь не бягом накіраваўся ў зваротны бок. Аляксей памятаў, што некалькі мінут назад праходзіў міма аптэкі, і цяпер спяшаўся да яе.

Наведвальнікаў у аптэцы не было. Купрэйчык папрасіў пажылую жанчыну, якая сумавала без работы:

— Дайце мне, калі ласка, якіх-небудзь лекаў ад мазалёў.

Жанчына здзіўлена паглядзела на яго і з усмешкай спытала:

— А якія лекі вы хочаце?

— Дайце ўсё, што ёсць…

Некаторы час Купрэйчык ужо ішоў да аддзялення міліцыі і ўсміхаўся: «Нічога, заўтра пачну новае наступленне на Маню Жовель…»

## 12

## Лейтэнант Славін

У Лябяжы Славін дабраўся толькі к абеду наступнага дня.

Там ля варот свайго дома яго чакаў участковы ўпаўнаважаны. Прывіталіся, і ўчастковы сказаў, што яго папярэдзілі пра прыезд Славіна.

— Я чакаю вас з нецярпеннем. Хахлоў ізноў прыехаў сюды. Я дамовіўся з мясцовымі таварышамі, каб яны знайшлі зручную прычыну затрымаць яго выезд да вашага прыбыцця.

— Малайчына! — пахваліў участковага Славін. — Давайце зробім так: скажыце, каб Хахлова адпраўлялі, а самі бярыце двух чалавек панятых, апранайце форму і пойдзем на дарогу, там яго і сустрэнем…

Хутка яны наблізіліся да таго месца, дзе Славін знайшоў чаравік Літвіна. Спыніліся на абочыне і сталі чакаць. Зрэдку міма праходзілі грузавікі, але, ведаючы нумар машыны Хахлова, чакалі толькі яе. Прайшла гадзіна, другая, а патрэбнага аўтамабіля ўсё не было. Славін ужо хацеў паслаць участковага на нарыхтоўчы ўчастак, каб высветліць прычыну затрымкі, але ўдалечыні паказалася машына. Яна яшчэ была далёка, а Славін чамусьці вырашыў, што менавіта яе яны чакаюць. Гэта быў звычайны ЗіС-5, і, як высветлілася пазней, за рулём яго быў сапраўды Хахлоў. Участковы ўпаўнаважаны падняў руку, і грузавік стаў амаль там, дзе і хацеў Славін. З кабіны выйшаў малады, здаровы

хлопец. Славін прадставіўся і папрасіў прад’явіць дакументы, а сам уважліва глядзеў на вадзіцеля. Светла-русы, на носе шрам, на руцэ — татуіроўка. Усё так, як казалі яму буфетчыца з чайной на «пупе» і вадзіцель, які бачыў Хахлова тут, на гэтым месцы. Славін узяў пасведчанне вадзіцеля, пуцявы ліст на аўтамашыну і, гледзячы прама ў вочы Хахлову, спытаў:

— Андрэй Савельевіч, вы трынаццатага верасня ў гэтым месцы збілі чалавека?

Пытанне было нечаканым. Хахлоў пабляднеў, рукі, якія яшчэ цягнуліся да дакументаў, задрыжалі. Ён паспрабаваў зрабіць здзіўлены твар і спытаў:

— Якога чалавека?

Але Славін, які ўважліва назіраў за рэакцыяй вадзіцеля, быў упэўнены ўжо, што гэта ён.

— Не трэба рабіць выгляд, што вы нічога не разумееце, Андрэй Савельевіч, мы ж нездарма вас чакаем і спынілі менавіта ў гэтым месцы. Думаю, не трэба вам нагадваць, як усё гэта было. Мы хочам, каб вы самі ўсе адкрыта расказалі, тым больш, вы самі разумееце, што ў падобных выпадках прызнанне вінаватага выконвае для яго немалую ролю.

Участковы інспектар паспеў за гэтыя хвіліны пабываць у кузаве машыны, агледзець яе перадок. А потым, знаходзячыся ў кабіне, гучна паклікаў:

— Таварыш лейтэнант, паглядзіце!

Славін стаў на падножку і залез у кабіну. Участковы адсунуў сядзенне і паказаў на яго край, які звычайна засоўваецца пад спінку. Там былі засохлыя бурыя плямы!

— Так… ясна. — Славін вылез з кабіны.

— Ну што, будзеце казаць праўду?

— А, чорт! — нечакана махнуў рукой кіроўца. — Усё адно ўжо якую ноч спаць не магу, кашмары сняцца, есці не магу, усё гэтага мужыка бачу. Так, я збіў яго, але, далібог, не хацеў я гэтага рабіць, не хацеў, паверце мне!

— Раскажыце, як гэта было.

Вадзіцель сеў на брудную падножку і ціха стаў расказваць:

— Гэта было трынаццатага верасня. Я ехаў па гэтай жа дарозе. Гразішча, колы ўвесь час прабуксоўваюць, еду і малю Бога, каб не затрымацца процi ночы. Бачу, ля абочыны, у самай каляіны, стаіць мужчына, руку падняў. Я вырашыў не спыняцца, пасігналіў яму і еду далей. Калі да яго, можа, якіх-небудзь метраў пяць-шэсць засталося, ён хацеў зрабіць крок назад, але, паслізнуўшыся, уляцеў у каляіну, бачыце, якая яна глыбокая? Я, вядома, — на тармазы, але было позна. Мужчына паспеў прыпадняцца, і яго стукнула правым крылом. Я выскачыў, выцягнуў яго з-пад машыны, ён яшчэ дыхаў. Але не прайшло і некалькі мінут, як ён памёр. Стаю я, думаю, што рабіць. Каму хочацца ў турму садзіцца? Ну і вырашыў: адцягну яго далей у лес — дый годзе. Усё адно яму ўжо нічым не дапаможаш. І раптам, гляджу, ззаду машына набліжаецца. Я загінуўшага за свой ЗіС схаваў, а сам да кабіны падышоў. Бачу, што вадзіцель гэтай машыны ўжо прытарможвае, ну я яму махнуў рукой, — праязджай, маўляў, твая дапамога не патрэбна. І машына пайшла далей, а я падышоў да мужчыны, ён ляжаў на зямлі, і раптам здалося мне, што ён дыхае. І тады я вырашыў узяць яго ў кабіну. Зацягнуў, але паглядзеўшы на яго ўважліва, зразумеў, што ён усё-такі мёртвы. Ой, крый божа! Я нікому не жадаю таго, што перажыў тады! Ляжыць мёртвы ў кабіне, а я стаю і галаву ламаю, што рабіць? Хацеў яго ў лес панесці, але ўспомніў пра тое, што мяне ў гэтым месцы бачыў вадзіцель машыны, якая праехала міма. Тады я сеў за руль і паехаў. Прыехаў да чайной у сарака кіламетрах адгэтуль, і там у мяне

нарадзілася думка. Ужо быў амаль вечар. Я на ўзлеску лесу спыніўся, не даязджаючы да чайной, зацягнуў забітага ў кузаў машыны, забраў яго кашалёк з дакументамі, там яшчэ было каля трохсот рублёў. Але іх я захоўваю, ведаю, што гэты чалавек з Лябяжага, і вырашыў выбраць момант і падкінуць кашалёк да яго дома.

— Ну і што далей было? — прыспешыў Славін.

— Далей? Далей я зноў сеў за руль і пад'ехаў да чайной. Паставіў сваю машыну ўшчыльную да ЗіСа, што стаяў на станцыі. Затым залез да сябе ў кузаў і, выбраўшы момант, калі ў той машыне нікога не было, перацягнуў на яе кузаў труп, замаскіраваўшы яго саломай, якая ляжала ў кузаве. Думаў, машына тая сыдзе за сотню кіламетраў — і капут. Пасля гэтага я адагнаў сваю машыну ў бок і пайшоў у чайную, вымыў там рукі. Хацеў бутэльку гарэлкі купіць, але буфетчыца сказала, што гарэлка скончылася.

— Але вас жа пачаставалі вадзіцелі, — нагадаў Славін.

Хахлоў адарваў погляд ад зямлі і са здзіўленнем пацвердзіў:

— Так, сапраўды, мне далі нейкія хлопцы паўшклянкі гарэлкі, але адкуль вы ведаеце?

— Ведаем, Хахлоў, усе ведаем. Дык чаму ж вы праехалі цяпер міма мястэчка і не падкінулі да хаты загінуўшага дакументы і грошы?

— Светла было. Вырашыў гэта зрабіць наступным разам.

— А дзе яны?

— Вось, у мяне, — і ён нягнуткімі пальцамі расшпіліў кішэнь брызентавай курткі, дастаў загорнуты ў анучыну скрутак і працягнуў яго Славіну.

Уладзімір звярнуўся да панятых:

— Давайце паглядзім, таварышы, што тут.

Ён разгарнуў скрутак, і ўсе ўбачылі ў ім грошы і дакументы на імя Літвіна…

Славін з участковым усё афіцыйна афармілі. Затым яны пакінулі машыну Хахлова ў пасёлку, а яго самога ўдваіх на леспрамгасаўскай машыне даставілі ў аддзяленне міліцыі…

## 13

## Жовель

Маню Жовель Купрэйчык заспеў за тым жа заняткам, што і напярэдадні. Яна парыла ногі і спрабавала зразаць мазалі. Убачыўшы капітана, які ўвайшоў у пакой, жанчына паморшчылася.

— Ты што, мілок, забыўся што-небудзь у мяне ўчора? — не адказваючы на прывітанне, непрыязна спытала яна.

— Не, Марыя Рыгораўна, нічога я не забыўся. Вырашыў аблегчыць вашы пакуты і прынёс вам вось гэта, — Аляксей працягнуў Жовель невялікі пакуначак.

— Што тут? — гаспадыня ўзяла пакуначак і са здзіўленнем паглядзела на капітана.

— Можа, гэтыя лекі дапамогуць вам змагацца з праклятымі мазалямі, — усміхнуўся Купрэйчык.

Тым часам у пакоі сабралася ўся сям'я Жовель. Не чакаючы запрашэння, капітан сеў на крэсла і спытаў:

— Дзеці хоць накормлены?

— Калі б яны ў мяне галададалі, то не ўсе стаялі б перад табой, а так бачыш — усе сем. — І яна стомленым голасам дадала: — Хутчэй бы выраслі яны, і мне б лягчэй стала.

— Так, гэта правільна, — пагадзіўся Аляксей, не ведаючы, як весці гаворку ў прысутнасці чарады дзятвы. Жовель, нібы разумеючы гэта, працягнула пакуначак старэйшым дачцэ і сыну:

— Наце, вы пісьменныя, разбярыцеся, што мне падыдзе лепш за ўсё. А пакуль усе выйдзіце, нам пагаварыць трэба.

Дзеці паслухмяна выйшлі з пакоя. Наступіла няёмкая паўза. Купрэйчык памятаў учарашнюю няўдачу і не спяшаўся пачынаць размову. Ён глядзеў на гэту жанчыну і думаў, што яна імкнецца здавацца горшай, чым ёсць. «Падчас акупацыі, рызыкуючы не толькі сваім жыццём, але і жыццём дзяцей, выратавала дваіх чалавек ад немінучай смерці. Значыць, мне, афіцэру міліцыі, трэба знайсці ключ да яе сэрца, пераканаць сказаць праўду». Ён разумеў, што так адразу Жовель не раскрыецца, і Аляксей быў гатовы да працяглай і настойлівай работы з гэтай жанчынай, якая пражыла нялёгкае жыццё.

— Марыя Рыгораўна, як жа вы спраўляецеся з дзецьмі?

Яна млява правяла рукой па твары і падняла на Купрэйчыка вочы.

— Ты не глядзі на мяне, як на бандэршу якую-небудзь, сама я ніколі нічога не ўкрала, хоць не буду хлусіць, і цёмную шмотку сяды-тады прынясуць, а я вазьму яе і прадам. А як жа інакш? З чаго мне жыць?

— Ну, а пенсія на дзяцей?

— Якая там пенсія?! — махнула яна рукой. — Калі б мы жылі толькі на яе, даўно б ногі працягнулі.

— Марыя Рыгораўна, а вось дзеці вашы… — Купрэйчык ніяк не мог падабраць словы, каб не пакрыўдзіць жанчыну. Тая, напэўна, здагадалася, што бянтэжыць яго, і нявесела ўсміхнулася:

— Ты хочаш сказаць, як я магла гэтулькі байструкоў напладзіць?

— Не, я хацеў спытаць пра іх бацьку…

— Гэтых бацькоў у мяне трое было. Ад першага двое дзяцей засталося. Знік ён у мяне ў трыццаць пятым.

— Як знік? — не зразумеў Купрэйчык.? — Збег?

— Не, не збег… Проста знік, і ўсё… Аднойчы не прыйшоў з працы дахаты… як у ваду кануў.

Купрэйчык зразумеў, што Жовель штосьці недагаворвае, і не стаў дапытвацца. А яна пасля нядоўгага маўчання зноў загаварыла:

— Напачатку трыццаць шостага выйшла замуж за іншага чалавека. Прыгажун, а не мужчына. Нарадзіла я ад яго траіх дзяцей, а ён злодзеем аказаўся. Пасадзілі, а праз тры месяцы збегчы заманулася, дык яго і падстрэлілі. У канцы трыццаць дзявятага выйшла трэці раз замуж. — Жовель паглядзела ў вочы Купрэйчыку. — Спытаеш, навошта зрабіла гэта? Дзяцей жа карміць трэба было, а Антон чалавек паважаны і талковы быў. Жонка яго першая памерла, а двое дарослых сыноў ужо былі жанатыя, сваіх дзяцей мелі і жылі ў іншым горадзе. Не ведаю, чым я яму спадабалася, але жаніўся ён на мне, не паглядзеў, што пяцёра дзяцей. Хто ведае, чалавек ён мяккі быў, можа, пашкадаваў мяне, таму і жаніўся. Нарадзіла я яму шостага, а калі вайна пачалася, у кастрычніку сарок першага, з'явіўся і сёмы. Муж тады на фронце, вядома, быў. І толькі калі нашы вызвалілі Мінск, даведалася я пра яго лёс. Зайшоў у ліпені сорак чацвёртага да мяне сяржант, які з Антонам ваяваў. Ён расказаў, што сябравалі яны і што Антон загінуў пад Віцебскам. Аддаў ён партсігар, фотакартку Антона, дзе мы з ім яшчэ да вайны ўдваіх сфатаграфаваліся, а

сам пайшоў далей ваяваць. А што мне рабіць? Павойкала, паплакала, а жыць жа трэба, паесці сямі ртам — дай некалькі разоў у дзень, апрані ўсіх… Але бачыш, жыву!

Купрэйчык, сам не ведаючы навошта, спытаў:

— Колькі вам гадоў?

— Праз год пяцьдзясят будзе. Што дзівішся? Старой стала? Нялёгка пры такім жыцці маладой выглядаць, такую чараду адной выхоўваць.

Купрэйчык спагадліва маўчаў. А Жовель, як бы спахапіўшыся, спытала:

— А што ты мяне пра Воўку не пытаеш?

— Мне ўчора здалося, што вы не хочаце пра яго гаварыць.

— Так, не хачу. Я наогул ні пра каго не хачу нічога казаць. Але, скажу табе па праўдзе, спадабаўся ты мне, крануў маё сэрца. Значыць, думаеш не толькі пра тое, каб камусьці сонечную камеру падаць. — Яна нечакана засмяялася сваім незвычайным смехам. — Трэба ж такое прыдумаць — лекі прынесці. Ну ты, хлопец, хоць і міліцыянер, але зух, нічога не скажаш! А, добра, — рашуча махнула рукой Жовель, — слухай, усё, што ведаю, скажу! Не думай, што я нічога не разумею. Запомні прозвішча: Драбуш. Жыве па Старавіленскай, завуць Мішкам. Ён і ёсць сябрук гэтага Воўкі. Да вайны сядзеў два ці тры разы. Апошні тэрмін не адседзеў — немцы прыйшлі. Вось ён — хлюст! Не тое што я — Маня, якая сама нічога не выкрала, а калі хто з дзяцей сапрэ булачку ў краме, то гэта не значыць, што яны вырастуць злодзеямі. Яны ў мяне ведаюць, што я ім усё, што магу, аддаю і крый божа ім не паслухацца!

— Марыя Рыгораўна, Драбуш з Каруновым даўно пасябравалі?

— А чорт іх ведае, але знаёмыя даўно.

— Воўка ведае пра прадаўца піва?

— Лёву? А хто не ведае? Вядома, ведае. Я сама ў Лёвы не раз бачыла гэтага Валодзьку.

— Ён жыве ў Драбуша?

— Не. Драбуш не такі дурань, каб зэка ў сябе дома трымаць, ён не фраер. Кажуць, што Воўка жыве ў аднаго з яго сяброў, а вось у каго — хоць забі, не ведаю. — Яна павярнулася да дзвярэй і гучна паклікала: — Толька, а Толька, ідзі сюды!

З суседняга пакоя выйшаў ужо знаёмы Купрэйчыку хлопец. Капітан падумаў: «Дзеці ад розных бацькоў, а як падобныя паміж сабой. Усе ў маці пайшлі».

— Толя, ты Воўку, дружбака Драбуша, ведаеш?

— Таго, што твар у вуграх? Ага, ведаю. Ён раней да Драбуша прыходзіў, але ўжо тыдні два як не з’яўляецца ў яго.

— А ты адкуль ведаеш, з’яўляецца ён ці не з’яўляецца? — спытаў капітан.

Хлопец хмурна зірнуў на Купрэйчыка і сказаў:

— А я ў яго дома часта бываю.

— Навошта?

— У госці хаджу…

Хлопец яшчэ штосьці хацеў сказаць, але яго перабіла маці:

— Ты як размаўляеш з чалавекам?

— Як-як. Звычайна.

— Ідзі прэч адгэтуль, змыйся з маіх вачэй, паршывец!

Хлопец павярнуўся і моўчкі выйшаў.

— Толя сябруе з сынам Драбуша і часта бывае ў іх.

— А ён не скажа гэтаму Драбушу пра нашу гутарку?

— Не турбуйся, магіла. Чаго-чаго, а маўчаць усе мае дзеці ўмеюць.

— Ці працуе Воўка, вы не ведаеце?

— Не, не цікавілася.

— Марыя Рыгораўна, вось вы казалі, што Драбуш не будзе ў сябе дома зэка трымаць. Вы лічыце, што Воўка быў асуджаны?

— Вядома, тут і сумнявацца няма чаго. Я ж кажу, па-мойму, яны разам і тэрмін цягнулі. Яны і падчас вайны адно аднаго трымаліся. Нават калі Чырвоная Армія прыйшла, яны ж і ад фронту разам увільнулі. Праўда, Драбушу гэта было не складана: кульгае на адну нагу, а вось як Воўку ўдалося гэта зрабіць, не ведаю. Вы б яго паслухалі, у яго ж — адзін блатны жаргон.

— Як мне пераканаць Драбуша сказаць, дзе знайсці Воўку? — нібы разважаючы з самім сабой, задуменна прагаварыў Купрэйчык.

— Ох, не ведаю. Яму лягчэй руку аддаць адсекчы, чым блатняка-караша выдаць. Ужо ж вельмі ён за сваю рэпутацыю сярод такіх жа, як сам, баіцца. Да яго з лекамі не падыдзеш і на казе не пад'едзеш. Ты чалавек адукаваны, нябось, спецыяльную там навуку праходзіў, вось і думай зараз. Запомні, Мішка толькі аднаго баіцца: аказацца стукачом сярод блатных…

Неўзабаве Купрэйчык, падзякаваўшы Жовель, развітаўся з ёй і адразу ж накіраваўся ў аддзяленне.

Мачалаў быў на месцы, і капітан расказаў яму аб усім.

Начальнік аддзялення паглядзеў на яго і задуменна пацёр падбародак:

— Учапіліся мы за нітачку, але калі выцягнем Карунова — цяжка сказаць. А ў мяне, Лёша, сэрца баліць, калі падумаю, што ў любы момант гэта набрыдзь можа новае злачынства здзейсніць, нават забіць каго-небудзь.

— Тут трэба разумна дзейнічаць.

— Так, гэта я разумею. Але ўсё адно, прашу цябе, як мага паскор справу.

— Добра. У мяне да цябе, Пеця, просьба. Падумай, як можна Жовель дапамагчы. Лёс у яе нялёгкі, дый дзяцей шкада.

— Твая праўда. Я разумею, сёння ж пагавару з кім трэба.

— Ну вось і выдатна. — Купрэйчык устаў. — А я пайшоў думаць і шукаць да гэтага Драбуша падыход. Ведаеш, я яго яшчэ ў вочы не бачыў, але адчуваю, што з гэтым гусаком павазіцца прыйдзецца.

Капітан пайшоў шукаць Новікава, якому даручыў выклікаць на наступны дзень прадаўца піва…

Новікаў даставіў Мулера ў аддзяленне і адразу ж запрасіў яго ў кабінет начальніка. Там знаходзіліся Мачалаў і Купрэйчык.

Пётр Пятровіч прапанаваў Мулеру крэсла, назваў сябе і адразу перайшоў да справы:

— Леў Абрамовіч, аднойчы вы ўжо нам дапамаглі, дапамажыце нам яшчэ раз.

— Я гатовы. Я паспрабую.

— Вось і добра. Тады слухайце…

## 14

## Славін

Жыццё ішло сваім парадкам. За восенню прыйшла зіма, снежная, віхурная і злая.

Славін у вольны час доўгімі зімовымі вечарамі шмат чытаў. Але аднойчы ўвечары Уладзімір да кніг нават не дакрануўся. Напаліўшы печ, ён лёг на канапу і некалькі разоў перачытваў лісты ад маці і Рыты. Так ужо атрымалася,

што ў адзін дзень ён атрымаў абодва лісты. Маці пісала пра хатнія справы, паведамляла, што яе запрашалі да следчага і яна давала сведчанні пра Латаніну, якую нарэшце затрымалі. Прачытаўшы пра гэта, Славін адарваўся ад ліста і ўсміхнуўся. Ён успомніў, як яго выклікаў да сябе Алтынін і ўрачыста абвясціў, што загадам начальніка абласнога ўпраўлення яму — лейтэнанту міліцыі Славіну — за пільнасць і аператыўную кемлівасць, выяўленыя пры выкрыванні здрадніка Радзімы, актыўнай памагатай гестапа Латанінай, абвешчана падзяка.

Аказалася, што яна, выконваючы заданне гестапаўцаў, па дакументах загінуўшай у канцлагеры Сыраежнай, выдала сябе за медсястру, пракралася ў медсанбат аднаго з савецкіх вайсковых злучэнняў, дзе і пратрымалася да канца вайны. Затым настаў для яе трывожны час, паўстала праблема — што рабіць далей. Ехаць у Мінск нельга, многія людзі пазнаюць у твар. Занадта ўжо адкрыта, асабліва ў першы час, яна дзейнічала. Тады адплаты не мінуць. Латаніна добра памятала і загад свайго шэфа: што б там ні было сысці пасля вайны ў ціхую затоку, жыць далей ад Мінска. Калі спатрэбіцца, яе знойдуць і перададуць прывітанне ад шэфа. Праўда, у тое, што яе знойдуць, яна не верыла, гэтак жа як і не верыла ў тое, што яе былы гестапаўскі шэф выжыве. І вось яна ў Сібіры. Карыстаючыся правамі ўдзельніцы Вялікай Айчыннай вайны, уладкавалася туды, куды ёй захацелася, і лічыла сябе ў поўнай бяспецы…

Уладзімір, адганяючы ад сябе ўспамін пра Латаніну, узяў ліст Рыты і зноў з радасным хваляваннем пачаў чытаць: «Любы, калі б ты ведаў, як я знудзілася! Лічу дні, калі ўбачу цябе. Учора была ў начальніка паліклінікі. Нагадала яму, што ён ужо даўно абяцаў адпусціць мяне. Я нават не вытрымала і заплакала, начальнік злітасціўся нада мной і абяцаў, што хутка да нас у паліклініку прыбудзе папаўненне і ён мяне адразу адпусціць. Так што, дарагі мой, засталося, я думаю, трохі. Вытрымаеш?»

Уладзімір усміхнуўся, уяўляючы, як зменіцца кватэра з прыездам Рыты. Хлопец так аддаўся марам, што не звярнуў увагі на стук у дзверы. Стук паўтарыўся. Уладзімір, накінуўшы футра, выйшаў у сенцы і адчыніў дзверы. Каля іх стаяў дзяжурны:

— Слухай, Уладзімір Міхайлавіч, ізноў твайго падапечнага Мартава даставілі. Можа, пагаворыш з ім, разбярэшся?

Лейтэнант заўважыў, што дзяжурныя, карыстаючыся тым, што ён жыў побач, часта прасілі яго разабрацца з кім-небудзь, хоць маглі і самі прыняць рашэнне. Ён не крыўдзіўся, было нават прыемна, што ў ім маюць патрэбу. Уладзімір спытаў:

— Што ён зноў нарабіў?

— Ды зноў цешчу і жонку ганяў.

— Вось чалавек, абяцаў мне, што і пальцам больш не кране іх! Добра, я зараз прыйду.

У дзяжурным пакоі сядзеў Мартаў. Убачыўшы Славіна, ён ускочыў і скорагаворкай пачаў:

— Уладзімір Міхайлавіч, чэснае слова, я не чапаў іх! Проста так атрымалася, я вам усё растлумачу.

Пасля таго выпадку, калі ў кузаве машыны Мартава выявілі труп, а Славін у кароткі тэрмін адшукаў сапраўднага вінаватага і зняў падазрэнні з Мартава, аўтарытэт оперупаўнаважанага ў вачах шафёра прыкметна вырас. І калі аднойчы Славін запрасіў да сябе Мартава, ён у даверлівай гутарцы абяцаў выправіцца і змяніць свае паводзіны. Але вось зноў Мартаў у аддзяленні міліцыі.

— Разумееце, я пасля нашай гутаркі… пасля гэтага выпадку з забітым вырашыў цвёрда: піць буду толькі ў меру і палявання на жонку і цешчу больш наладжваць не стану. І ўсё ішло, як я вырашыў. Нават бабы дзіву даваліся. І вось у мінулую нядзелю я лёг на ложак у сваім пакоі і заснуў. Абудзіў мяне нейкі шум. Прыслухаўся, а гэта да цешчы і жонкі суседка прыйшла. Скажу я вам, паршывая яна баба, да ўсіх са сваімі парадамі лезе. Чую, што цешча і жонка мяне хваліць пачалі: «Крыху лепшым стаў, не б'ецца і выпівае менш». А суседка, зараза старая, кажа: «Бабанькі, я вам даўно хацела даць параду, як зусім вылечыць яго ад п'янства». Тут мае давай прасіць, каб сказала свой рэцэпт. Тая кажа: «Купіце бутэльку гарэлкі, адліце ад яе шклянку, а ў бутэльку сабачай мачы наліце і дайце яму шклянку гэтай сумесі. Гарантую вам: пасля гэтага ён на гарэлку і глядзець не будзе».

Чую, мае зацікавіліся і сталі думаць, дзе ім здабыць сабачай мачы. Я хацеў устаць, узяць гэту суседку за каўнер і вытрасці яе з хаты ды заадно і сваіх пад ложак загнаць. Але раздумаў і вырашыў правучыць баб. З таго моманту стаў я сачыць за цешчай і жонкай. У аўторак цешча ўвечары мне, як бы між іншым, кажа, што купіла корань жэньшэню і настойвае яго ў гарэлцы. Я, вядома, і выгляду не падаў, што ведаю пра іх задуму, якому сабаку гэты корань належыць, а толькі паціху пярэтрус у хаце зрабіў і знайшоў у каморы, пад перавернутым вядром, на падлозе гэтае «зелле». Купіў бутэльку гарэлкі, наліў туды для колеру трошкі чайнай заваркі і падмяніў тую бутэльку, а сам чакаю. І вось сёння прыходжу я з працы, адпусцілі мяне на гадзіну раней, заўтра ў рэйс, а цешча такім ялейным голасам, каб ёй гэты корань папярок горла стаў, кажа: «Зяцёк, выпі шкляначку гарэлачкі, настоенай на жэньшэневым корані. У цябе апетыт будзе лепш». Ну я і кажу: «Калі частуеце ад душы, то не адмоўлюся». Цешча зірнула на жонку і адказвае: «Ад душы, зяцёк, ад душы!» А сама шась у камору і прыносіць бутэльку. Наліла мне шклянку, я выпіў і за суп узяўся, а сам краёчкам вока за імі сачу, а яны на мяне вытарашчваюцца, чакаюць, значыць, што са мной цяпер здарыцца. З'еў я суп, другое да сябе прысунуў, а жонка мне і прапануе: «Можа, яшчэ віп'еш?» — «Не адмоўлюся», — адказваю.

Выпіў я другую шклянку, цешча на жонку, а жонка на цешчу вачамі страляюць. З'еў я другое і, ужо не пытаючы, сам выліў у шклянку астатнюю гарэлку і замест кампоту запіў абед. Пасля гэтага выцер вусны і як гаўкнуў на баб. У тых вочы на лоб палезлі, а я думаю: «Цяпер я вам пакажу сабачую мачу!» Устаў на карачкі і давай на іх брахаць. Жонка ўключыла чацвёртую хуткасць і — шась з пакоя. Чую, як дзверы знадворныя грукнулі, значыць, і ў кухні не затрымалася. Гляджу, і цешча бокам уздоўж сценкі хоча да дзвярэй дабрацца, збіраецца дзёру даць. Схапіў я зубамі за ніз яе халата і, стоячы на карачках, пасабачы, пачаў церабіць яго і рыкаць пры гэтым. Цешча мяне амаль праз увесь пакой працягнула, быццам за ёй чэрці гналіся, вырвалася, пакінуўшы ў мяне ў зубах кавалак падола халата, і ўслед за жонкай на вуліцу тарпедай панеслася.

Ну, я сеў сабе на канапу і рагачу, а тут вашы работнікі прыязджаюць, узялі мяне за каўнер і сюды прывезлі. А за што, я вас пытаю? Ну выпіў — гэта факт! Але не біў жа я іх, не біў!

І Мартаў, апусціўшы галаву, гаротна замоўк. Славіна душыў смех, ён не стрымаўся і зарагатаў. Супакоіўшыся, падышоў да Мартава і паклаў на яго плячо руку.

— Ідзі дахаты, Леанід Сцяпанавіч, толькі больш не рві на іх адзежу, хопіць з іх і гэтага. Ну, а што да гарэлкі, то мая парада — адвыкай. Ты ж шафёр і добра павінен ведаць, да чаго можа давесці п'янка.

Мартаў падняўся і, ціха сказаўшы «дзякуй», выйшаў з кабінета.

Прыгоду Мартава Славін сваім сябрам і калегам расказваў як займальны анекдот.

## 15

## Драбуш

На Камароўскім рынку была звычайная нядзельная таўханіна. Хтосьці штосьці прадаваў, хтосьці купляў, а сёй-той проста так, з цікаўнасці, штурхаўся сярод людзей, прыглядаўся да тавару, узіраўся на пакупнікоў, заводзіў ад няма чаго рабіць гаворку пра надвор'е, пра кошт.

Вялікі натоўп сабраўся вакол велізарнага аўтамабіля-самазвала. Гэта быў адзін з аўтамабіляў першай серыі Мінскага аўтазавода. Людзі з цікаўнасцю разглядалі навінку. Кратaлі свежапафарбаваныя кабіну і крылы, распытвалі маладога вадзіцеля пра магутнасць рухавіка, хуткасць, грузападымальнасць. Вадзіцель, відавочна ўсцешаны ўвагай і павагай, адказваў самавіта, нягучна, прымушаючы прысутных напружваць слых. Нямала людзей тоўпілася і там, дзе была «барахолка». Тут гандлявалі чым заўгодна: ад іржавых насценных, даўно не працуючых гадзіннікаў да гумовых ботаў і вязаных кофт. Вялікае ажыўленне было ў конных радах, дзе гандлявалі і прадуктамі, і жывёлай.

Маладога мужчыну, апранутага ў чорную ватоўку, штаны з «чортавай скуры», запраўленыя ў кірзавыя боты, і цёмную шапку, якая хавала нагала стрыжаную галаву, зацікавіла сцэна, якая разыгрывалася ў конных радах.

Пажылы мужчына ў вялікім кажуху, нядаўна падагрэты віном, бутэлька ад якога валялася на ледзь прыцярушанай снегам зямлі, стаяў на возе на ўвесь рост і, абапёршыся на сагнутую пугу, крычаў:

— А ну, падыходзь, прадаецца свіння, калі прыгледзецца, то не свіння, а каралева, ды і каштуе нядорага.

Жанчына, якая праходзіла тут разам з мужам, гарэзна крыкнула:

— А ты што рабіць будзеш, калі каралеву прадасі? — І, адчуваючы ўхвальную падтрымку людзей, якія тоўпіліся наўкола, дадала: — Ты б менш языком мянціў, а то я ўпэўнена, што калі яшчэ бутэльку апрыходуеш, то сам у такога ж караля ператворышся.

Вакол зарагаталі. Мужчына гнеўна зірнуў на жанчыну і крыкнуў:

— Ну, ты, правальвай! Як я пагляджу, ты свайго каня ўжо прадала, а хвост замест языка сабе пакінула.

Але жанчына, відаць, з баявых трапілася, павярнулася і дзёрзка адказала:

— Не гаруй, мужык, і табе, калі прадасі свінню, хвост застанецца.

Муж падпіхнуў яе ў спіну:

— Ну добра, хопіць! Тупай далей!

Пасаромлены мужчына на возе крыкнуў мужу:

— Ну і жонку ты сабе падабраў, як брытва.

— А што, табе яна не падабаецца? — раззлаваўся муж.

— Хто, твая жонка? Не, чаму ж, — ён шматзначна агледзеў постаць жанчыны і адказаў: — Падабаецца.

— Ну, тады дару! — велікадушна махнуў рукой муж і не абарочваючыся, пад рогат натоўпу, пайшоў прэч ад жонкі. Тая хутка затэпала за ім.

— Ну, што ты, Сцяпан, я ж пажартавала…

Мужчына ў ватоўцы весела смяяўся разам з усімі. Але калі б чалавек

назіральны сачыў за ім, то заўважыў бы, што ён неадступна ідзе за мужчынам сярэдніх гадоў, які прыпадае на правую нагу. Нават калі слухаў сварку паміж прадаўцом свінні і вострай на язык жанчынай і смяяўся, яго вочы неадступна сачылі за кульгавым.

Кульгавы таксама з цікавасцю прыслухоўваўся да гаворкі, а затым, прабіраючыся праз натоўп, накіраваўся да выхада з рынку. Мужчына рушыў услед за ім. Ён відавочна чагосьці чакаў. Так яно і было сапраўды. Чалавек, які накульгваў на правую нагу, быў Драбуш, а ішоў за ім Купрэйчык. Аляксей уважліва шукаў вачыма Мулера.

Напярэдадні Купрэйчык прапанаваў свой план Мачалаву, і той, падумаўшы, сказаў: «Рызыкоўна, але сэнс ёсць. Добра!» Днём Аляксей пабываў у цырульні і ўвечары паўстаў стрыжаным нагала перад жонкай. Надзя пляснула рукамі:

— Лёша, што ты нарабіў? Паглядзі ў люстэрка, на каго ты падобны!

— А што, нічога хлопец атрымаўся, — бадзёрыўся ён і, убачыўшы ў вачах Надзі ледзь прыхаваныя іскрынкі смеху, дадаў: — Пагляджу, як мая жонка будзе кахаць такога.

— Жонка-то цябе і такога кахаць будзе, — засмяялася Надзя, — але прашу цябе, не палохай сына. Прынамсі, Лёша, перад сном ты да яго не падыходзь! — Яна хацела зрабіць злосны твар, але гэта ў яе не атрымалася, і разрагатаўшыся, абхапіла мужа за шыю…

І вось недалёка ад выхада з рынку з'явіўся Мулер. Гэта адпавядала плану, і капітан, абагнаўшы Драбуша, на яго вачах схапіў Мулера за каўнер паліто:

— А, трапіўся, падла! Гані даўжок, ці я з цябе яго разам з трыбухамі вытрасу.

Мулер таксама іграў добра. Ён зрабіў спалоханыя вочы і, нібы хочучы паклікаць некага на дапамогу, закруціў галавой. Драбуш тут жа падскочыў да іх і схапіў за руку Купрэйчыка:

— А ну, адвалі ад старога! Чаго прычапіўся?

Купрэйчык павярнуўся да Драбуша і зло кінуў:

— Ты, кораш, не ўмешвайся! Тут у нас свая, «сяброўская», гаворка ідзе, і я не пераношу, калі з'яўляецца трэці.

Левая рука Купрэйчыка пагрозліва апусцілася ў кішэнь штаноў, але яе перахапіў Мулер.

— Кіньце дурэць, хлопцы! І самі не заўважыце, як у міліцыі апынецеся! Не бачылі хіба, колькі на кірмашы мільтонаў? Адыдзем у бок, разбяромся. — Яны выйшлі за вароты і сталі збоку ад дарогі. Мулер павярнуўся да Купрэйчыка:

— Не крыўдзіся, хлопец. Пойдзем са мной, грошы ў мяне ў ларку, там і разлічымся. — Затым стары паглядзеў на Драбуша: — Ты малайчына, Міша, дапамог мне, дзякуй. Разумееш, сустрэліся тры дня назад з гэтым хлопцам тут, на рынку, прапанаваў мне купіць у яго сёе-тое. Я купіў, але не хапіла паўтары тысячы рублёў, і мы дамовіліся, што да вечара сустрэнемся і я вярну даўжок…

— Пачакай, пачакай, — перабіў яго Аляксей і павярнуўся да Драбуша, нібы заклікаючы яго быць суддзём: — Разумееш, ён мне ў заклад гадзіннік пакінуў. Вось паглядзі,— Купрэйчык дастаў з кішэні ватоўкі кішэнны гадзіннік, — сказаў, што ён каштуе прыстойна. Сам жа на сустрэчу не прыйшоў, а калі я спытаў у гадзіннікавага майстра, колькі каштуе гэты гадзіннік, той зарагатаў і сказаў, што гэта звычайная штампоўка. Ведаеш, кораш, якая крыў-

да ўзяла. Думаю, завошта мяне нейкі стары ў лапці абувае. Я прайшоў агонь, ваду і медныя трубы, а тут на табе, дзед, які ў вырай збіраецца, мяне, як апошняга фраера, з носам пакідае. Вось і пачаў я хадзіць сюды кожны дзень, яго шукаць, і, як бачыш, знайшоў.

— Добра, хлопец, — міралюбна прагаварыў Мулер, — пойдзем да мяне ў ларок, з мяне бутэлька, там і разлічымся.

Пасля гэтага Мулер павярнуўся да Драбуша:

— Міша, пойдзем з намі. Я хачу і цябе пачаставаць.

Па тоне і выразе твару Мулера Драбуш зразумеў, што той баіцца застацца сам-насам з гэтым чалавекам. Апраўдаўся і яшчэ адзін разлік Купрэйчыка. Драбуш відавочна зацікавіўся ім: ён не раз дапытліва аглядаў яго і, вядома, звярнуў увагу і на стрыжаную галаву і на яго «зэкаўскую» адзежу. Драбуш пагадзіўся і хістаючы побач з Купрэйчыкам, спытаў:

— Што, адкінуўся толькі?

Аляксей насцярожана зірнуў на яго:

— А табе што да гэтага?

— Ды ты не бойся, я — свой. Сам не раз сёрбаў поліўку і добра ведаю, што такое параша…

— Бываюць і нашы іхнімі, — хмурна кінуў Аляксей і ступіў у адчыненыя Мулерам дзверы ларка.

Мулер адразу ж зачыніў на кручок дзверы, зайшоў за прылавак і паставіў на яго бутэльку гарэлкі:

— Вось, толькі закусіць у мяне няма чым.

— Нічога, — супакоіў Драбуш і, намякаючы на піва, сказаў: — Прычэпам зап’ём.

Далей усё ішло гэтак жа па плане. Купрэйчык намякнуў, што ён збег з месцаў зняволення, Драбуш паверыў і сам прапанаваў дапамогу.

— Да сябе дахаты ўзяць не магу, — языком, які ўжо заплятаўся, казаў ён, — мільтоны, асабліва ўчастковы, у любы момант заваліць могуць. Але ты не дрэйфі, у мяне ёсць у каго цябе пасяліць. У мяне ведаеш колькі сяброў?

— Адкуль мне ведаць? — п’яна адказаў Купрэйчык і дадаў: — Мне надакучыла па старых скляпах і гарышчах лазіць. Ужо амаль тыдзень як не галіўся, бачыш, уся рожа зарасла.

— Нічога, паголім, — упэўнена заявіў Драбуш, — а жыць цяпер будзеш побач з лазняй, так што і памыешся.

— У лазню мне нельга, небяспечна…

— Ды кінь ты, у мяне там таксама свой чалавек ёсць. Так што і ў лазню сходзім, і наогул ты мне спадабаўся, — Драбуш па-сяброўску пляснуў Купрэйчыка па плячы і тут, успомніўшы, што не ведае яго імя, спытаў: — Дарэчы, як цябе клікаць?

— Лёшкам заві.

— А я — Мішка. Дык вось, значыць, Лёха, раз ты мне спадабаўся, то, значыць, пасябруем і будзем карашамі. Ідзе?

— Ідзе…

Неўзабаве яны, пакінуўшы Мулера ў ларку, выйшлі на вуліцу. Усё вакол змянілася. Снег за паўтары гадзіны засыпаў вуліцы, руіны і дахі хат белай коўдрай.

Ішлі даволі доўга. Спачатку па Савецкай, затым выйшлі на Старажоўскую і, нарэшце, увайшлі ў двор невялікага двухпавярховага дома, размешчанага недалёка ад лазні. Драбуш пастукаў у бруднае акно. З таго боку хтосьці адсунуў фіранку і вызірнуў. Купрэйчык не паспеў разгледзець твар.

У калідоры пачуўся шум, і дзверы расчыніліся. Аляксей убачыў жанчыну. Яна хмурна адказала на прывітанне і моўчкі збочыла, прапускаючы гасцей у кватэру. Аляксей чуў, як зачыніліся дзверы і жанчына засунула завалу.

Яны ўвайшлі ў пакой. Каля печы стаяў мужчына. Купрэйчык зірнуў на яго і ледзь не ўскрыкнуў: перад ім быў Каруноў. Вуграваты твар, злыя, насцярожаныя вочы.

У руках ён трымаў сякеру. Каруноў перавёў цяжкі погляд на Драбуша і глуха спытаў:

— Навошта лягавага прывёў?

## 16

## Лейтэнант Славін

Славін тры дні знаходзіўся на семінары-нарадзе супрацоўнікаў крымінальнага вышуку, які праходзіў у абласным цэнтры.

Начальнік упраўлення, падводзячы вынікі семінару, у ліку лепшых супрацоўнікаў назваў і прозвішча Славіна. А потым яго выклікалі на сцэну, і начальнік упраўлення пад апладысменты ўсёй залы ўручыў яму гадзіннік.

Шчаслівы і разгублены, Славін вярнуўся на месца. Лагута, які сядзеў побач, штурхнуў сябра локцем:

— Будзеш прастаўляць!

— Цяпер ці можна пазней?

— Да канца нарады патрываю, ну, а пакуль віншую! Рады за цябе!

Лагута не крывіў душой. За кароткі час, які яны працавалі разам, ён адчуў прыхільнасць да энергічнага і сціплага хлопца. Яго па-сапраўднаму ўсхваляваў лёс Славіна. Хлопцу яшчэ толькі дваццаць два, а пабачыць яму ўжо давялося многае.

Капітан употай ад Славіна некалькі разоў гутарыў з Алтыніным, пераконваючы яго, каб той пахадайнічаў перад начальствам пра перавод лейтэнанта ў Мінск.

Пасля нарады, калі Славін і Лагута ўжо апрануліся і ішлі па калідоры да выхада, ім сустрэўся начальнік упраўлення.

Палкоўнік усміхнуўся:

— Як справы, лейтэнант?

— Звычайна, таварыш палкоўнік, працуем.

— Вось гэта я бачу. У Беларусь не цягне?

— Каго ж дахаты не цягне, таварыш палкоўнік? Цягне, але я ж бачу, што і тут працаваць трэба.

— Так, гэта вы правільна заўважылі, работы і тут хапае. Мы вам сёння накіравалі арыенціроўку. З месцаў пазбаўлення волі збег небяспечны злачынец — Солах Грышка. Усю вайну праседзеў і вось, на табе, разам з сябруком збег.

Лагута схамянуўся:

— Гэта той, што за забойства ў трыццаць дзявятым быў асуджаны, сын кулака?

— Ён самы! Прыедзеце да сябе і бярыцеся за яго сувязі. Тайгу ён, вядома, ведае добра, але, напэўна, да родных месцаў пацягне. Бацька яго жывы, значыць, Грышка і на яго дапамогу разлічвае.

Лагута растлумачыў:

— Мне пра гэту сямейку Ягор Ягоравіч неаднаразова расказваў. Амаль усе іх сваякі ў бандах хадзілі. Праўда, многія так да роднага прытулку і не вярнуліся. — Ён павярнуўся да Славіна і ледзь прыкметна ўсміхнуўся. — Ну вось і спатрэбіцца табе твой партызанскі вопыт, давядзецца нам па тайзе за гэтым шатуном паганяцца. Таварыш палкоўнік, з кім ён збег?

— З Мельнікавым Раманам Сяргеевічам, асуджаным у сорак шостым за саўдзел у забойстве да дваццаці пяці гадоў. У арыенціроўцы ўсе дадзеныя на абодвух маюцца, так што, як прыбудзеце ў Мар'янск, трэба адразу ж на іх вышук пераключыцца. Для вас гэта, мабыць, цяпер самая важная задача. Я тэлефанаваў ранкам Алтыніну і сказаў, што, калі патрэбна будзе дапамога, людзей мы дадзім. З гэтым звяр'ём жартаваць нельга, ім губляць цяпер няма чаго.

З трывогай у душы пакінулі Лагута і Славін Кемерава. Яны спяшаліся ў Мар'янск.

На наступны дзень у аддзяленне паступіў сігнал пра тое, што Солаха і Мельнікава бачылі ў трыццаці кіламетрах ад сяла, дзе жыў стары Солах. Грышку апазнаў адзін з мясцовых жыхароў, які разам з іншымі работнікамі лесанарыхтоўчага ўчастка ехаў на грузавіку па таежнай дарозе. Машыну спынілі двое мужчын і распытвалі шафёра, як дабрацца да сяла Станавое, дзе жыў бацька Грышкі.

Алтынін запрасіў да сябе ў кабінет Лагуту і Славіна.

— Пакуль вы ішлі сюды, я хацеў загадаць, каб абодва адпраўляліся неадкладна ў Станавое і заняліся гэтай справай. Але зараз падумаў, а хто ж тут застанецца? У нас вісіць нераскрытым крадзеж аўтапакрышак на базе, невядома, хто хлопца нажом парнуў на танцах. Адпусціць вас абодвух — значыць, застацца без аператыўніка, які мог бы ўсю паступаючую ў аддзел інфармацыю абагульняць і правяраць.

— А што тут гадаць, я і паеду, — горача заявіў Лагута. Але Славін яго перабіў:

— Ягор Ягоравіч, дазвольце я паеду. Месцы тамашнія я ўжо вывучыў, ну а па лесе яшчэ ў вайну хадзіць навучыўся.

Алтынін нейкі час маўчаў, узважваючы ўсе «за» і «супраць», а затым рашуча пляснуў па стале:

— Добра, паедуць Славін і Сімоха. Вазьміце аўтамат. Прыхапіце харч, ліхтары, патроны і ўсё іншае, увогуле, прадумайце старанна, што вам можа спатрэбіцца. Паедзеце верхам на конях. Гэта, мабыць, цяпер самы лепшы спосаб перасоўвання. Чакаю вас праз гадзіну з прапановамі.

Славін і Лагута накіраваліся да сябе. Па дарозе паклікалі Сімоху, які знаходзіўся ў дзяжурным пакоі. Потым утрох сядзелі ў кабінеце і прадумвалі кожную дробязь.

Праз гадзіну Славін і Сімоха пастукаліся ў кабінет начальніка. Алтынін быў адзін, убачыўшы падначаленых, усміхнуўся:

— Ну што, прадумалі сваю камандзіроўку?

— Так точна, — адказаў Славін і пачаў расказваць, што яны вырашылі.

Алтынін здзівіўся, што хочуць ехаць не верхам, а на звычайных простых санях, запрэжаных парай коней.

Славін растлумачыў:

— Па-першае, гэта дапаможа нам сысці за мясцовых жыхароў, па-другое, аўтамат схаваць ад староннх вачэй і, па-трэцяе, узяць з сабой усё, што трэба, у санках месца для ўсяго хопіць.

Алтынін слухаў Славіна, паволі цярэбячы рукой бараду, і, калі лейтэнант замоўк, сказаў:

— Так, напэўна, твая праўда. Ну што ж, запрагайце коней і — у шлях. Дарога вам доўгая мае быць. Участковага ў Станавым я папярэдзіў ужо пра злачынцаў. Ён вам дапаможа.

Пасля гэтага маёр уручыў Славіну і Сімоху фатаграфіі злачынцаў і старанна праінструктаваў сваіх падначаленых. Праз гадзіну яны адправіліся ў дарогу.

Калі Славін пераконваў начальніка, каб той дазволіў менавіта яму выехаць у Станавое, то крыху перабольшыў, даказваючы, што ён ужо добра ведае раён. Таму з сабой лейтэнант прыхапіў карту. Сяржант Сімоха смяяўся:

— Ты яе схавай далей, бо я па тамашніх месцах магу з завязанымі вачамі хадзіць.

Славін, не адказваючы, уважліва ўзіраўся ў карту. Ішоў час. Яны паступова паглыбляліся ў лес. Дарога пакуль была ўтрамбаванай і роўнай.

Славін паўляжаў на мяккім сене, ухутаўшыся ў вялікі кажух. Коньмі кіраваў Сімоха. Седзячы наперадзе, не спяшаючыся расказваў сябру, як ён растлумачыў жонцы сваю камандзіроўку:

— Колькі гадоў разам, а жонка ўсё не прывыкла да маіх ад'ездаў. Як прыйшоў з фронту, яна яшчэ больш стала баяцца за мяне. — Ён усміхнуўся, відавочна, уявіўшы твар жонкі, і працягваў: — Як пачула, што з'язджаю, адразу ж вочы круглымі сталі, вусны задрыжалі. Колькі разоў я ёй казаў: «Не бойся, калі мяне на фронце не забілі, дык у мірны час жыць буду». А яна мне ў адказ: «Двойчы і на фронце цябе кулі знаходзілі, і тое, што жывы застаўся, — Божая воля!» Я ёй, вядома, тлумачу, што ніякага Бога няма, а яна ўсё адно ў звышнатуральную сілу верыць. Дзеці над ёй паджартоўваюць. Воўка, старэйшы мой, яму адзінаццаць, прыйшоў неяк са школы і давай хлусіць, што бачыў, як са студні вядро выскачыла і ваду каля зруба выплюхнула. А мая адразу ж на мяне сваімі блакітнымі вачамі ўтаропілася. Ну, я гэтаму падшыванцу па карку, вядома: «Хопіць маці разыгрываць, малы яшчэ!» Не, скажу я табе, Валодзя, добрая ў мяне жонка.

— Гэта я бачу, — усміхнуўся Славін, — не паспелі якіх і пяць кіламетраў ад хаты ад'ехаць, а ты ўжо засумаваў па ёй.

— Пагляджу я на цябе, калі ты ажэнішся, — лагодна адмахнуўся Сімоха, але тэму гаворкі змяніў. — Хутка звернем з гасцінца, там дарога горшай будзе, па ёй толькі лесавозы і трактары ходзяць, каляіна глыбокая, ды і лес больш глухі пойдзе, у тым краі ад жылля да жылля чалавечага можна і за некалькі сутак не дайсці.

— Дзе на начлег спынімся?

— Думаю, на былой стаянцы лесанарыхтоўшчыкаў. Яны гады тры назад сышлі адтуль, але дом і хлеў не разбіралі.

— А не могуць Солах з Мельнікавым там хавацца?

— Могуць, вядома. У тайзе такіх хацін нямала, яны ў любой могуць спыніцца. Вось я ўсё думаю, але ніяк зразумець не магу: у арыенціроўцы сказана, што яны двух вартавых забілі і карабіны забралі, а людзі, у якіх яны дарогу на Станавое пыталі, сцвярджаюць, што без зброі яны былі. І, вядома, мяне цікавіць і іншае: Грышка мясцовы, увесь час па тайзе шныryць і раптам са шляху збіўся, дарогу да роднай хаты не знайшоў — пацеха!

— Не дзівіся, Андрэй. Пакуль яго не было, многае змянілася. Новыя паселішчы пабудаваны і сотні новых дарог з'явілася, мог і збіцца са шляху Грышка, ну, а што да зброі, то не дурні яны, каб днём на дарогу з

карабінамі выходзіць. Напэўна, у кустах пакінулі і да машыны з пустымі рукамі выйшлі. Ты вось лепш як старажыл гэтых месцаў раскажы мне пра Солаха.

— Бацька — буйны кулак, увесь час каламуціў ваду. Усіх траіх сыноў настроіў супраць савецкай улады. Двое старэйшых так і загінулі, нічога на свеце не ўбачыўшы, а гэты на некаторы час прыціх, стаіўся. Але бандыт ёсць бандыт. За два гады да пачатку вайны, гэта ў трыццаць дзявятым было, разам са сваім сябруком забойства здзейсніў.

Коні беглі хутка, і неўзабаве сані павярнулі налева. Ззаду застаўся гасцінец, наперадзе была вузенькая лясная дарога, уся ў калдобінах, якія так і не змог прыкрыць снег.

Дзень ужо хіліўся к вечару, і Славін пачаў турбавацца, ці паспеюць яны дацямна дабрацца да пакінутай стаянкі. Трывожыла думка, што дом маглі знесці, і тады давядзецца начаваць проста ў тайзе на такім марозе. Напэўна, пра гэта ж падумаў і сяржант. Ён усё часцей падганяў коней. Трывожная цішыня стаяла сярод велізарных, засыпаных пухнатым снегам дрэў. Славіну стала не па сабе. Лейтэнант мімаволі дакрануўся локцем да боку, дзе пад паўкажушкам быў схаваны пісталет.

Неўзабаве сцямнела. Славіна ўжо трывожыла, што яны так і не знойдуць стаянку.

— Прыехалі! — нечакана гучна сказаў Сімоха і паказаў рукой у цемру: — Вунь і наша гасцініца.

Уладзімір нічога разгледзець не мог і толькі спытаў:

— А як да яе дабрацца?

— Коні наперадзе, за імі — сані, ну а мы следам у ролі штурхачоў, — весела адказаў Сімоха, саскочыў з саняў і тут жа войкнуў: — Ух, чорт, ногі зацяклі!

Яны прама па цаліку, патанаючы па пояс у снезе, прабраліся да невялікага, складзенага з бярвення дома. Славін асвятліў яго кішэнным ліхтарыкам і ўбачыў, што вокны забіты накрыж тонкімі жэрдкамі, але шыбы цэлыя. Падышлі да дзвярэй. Замка няма, замест яго ў дужцы жалезнай клямкі тырчала трэска.

Перш чым увайсці, Сімоха, падсвечваючы сабе ліхтарыкам пад ногі, абышоў дом.

— Ты чаго кругамі стаў хадзіць ці ногі размінаеш? — спытаў Славін.

— Не, браток, ногі ўжо адышлі ў мяне. Я праверыў, ці няма ля дома слядоў, — адказаў Сімоха і нагой пачаў адграбаць снег ад дзвярэй.

Славін здзівіўся, убачыўшы, што ў вялікім пакоі быў парадак: стол з груба пазбіваных дошак, дзве лавы, у дальнім куце зробленая з жалезнай бочкі печ-«буржуйка», каля яе акуратна складзены дровы. Ля сцен стаялі чатыры самаробныя тапчаны.

Сімоха разгарнуў нейкі скрутак, які знаходзіўся на стале, і Славін здзівіўся; яшчэ больш:

— Што, лямпа? А газа ёсць?

— Вядома. Закон тайгі. Сыходзіш з дома хоць і назаўжды, а пакінь у ім усё, што можа спатрэбіцца чалавеку, які заблудзіўся.

Сяржант чыркнуў запалкай і запаліў лямпу. У пакоі стала весялей. Сімоха сказаў:

— Пойдзем коньмі зоймемся, а затым печ затопім, павячэраем і на бакавую.

Яны выйшлі вонкі. Сімоха, які падчас абыходу дома ўжо сцяміў, як зручней дабрацца да хлява, паклікаў лейтэнанта за сабой. Яны адгрэблі снег ад

дзвярэй хлява і адкрылі іх. Усярэдзіне ў куце ляжала капа сена, і Сімоха здаволена заўважыў:

— Ну вось, бачыш? Былыя гаспадары, вядома, і пра коней не забыліся.

Яны распрэглі коней, завялі іх у хлеў, далі аўса. Сані засталіся стаяць каля дома. Славін і Сімоха забралі з іх кажухі, мяшок з правізіяй, аўтамат і боепрыпасы, прыціснулі сена зверху жэрдкамі, каб вецер не растрапаў яго, і ўвайшлі ў дом.

Сімоха хутка распаліў печ, і неўзабаве ў пакоі стала цёпла і ўтульна. Яны спехам павячэралі і, ашчаджаючы газу, патушылі лямпу.

## 17

## Каруноў

Купрэйчыка прабіў халодны пот. «Няўжо ён ведае мяне? — працяла яго думка, але тут жа загадаў сабе: — Спакойна, трымай сябе ў руках!» Імкнучыся не губляць свайго «п’янага» выгляду, павярнуўся да Драбуша:

— Міша, скажы гэтаму ганчаку, што я такіх жартаў не цярплю.

Драбуш ступіў да Карунова:

— Не балбачы глупства. Гэта Лёшка, свой кораш. Ірвануў з-пад канвою. Дарма ты так на яго, я ж, каго не ведаю, не прывяду.

Але Каруноў працягваў свідраваць Купрэйчыка злымі вузкімі вачыма. І столькі звярынай злосці было ў іх, што Аляксею захацелася скончыць увесь гэты маскарад, выхапіць маўзер, схаваны пад пахай, і загадаць усім легчы на падлогу. Але нельга было рабіць гэтага. Супрацоўнікі крымінальнага вышуку многае яшчэ не ведалі: дзе захоўваецца выкрадзенае і хто саўдзельнікі Карунова. Урэшце, нават прамых і, самае галоўнае, неабвержных доказаў віны самога Карунова не здабыта. Аляксей спытаў у Драбуша:

— Гэта ў яго ты мяне хацеў пасяліць?

— Не, не. Ён сам сюды ў госці заваліў, жыве ён у іншым месцы. Распранайся, Лёха, і не зважай на яго, мужык ён свой, правераны. Вось толькі ў апошні час дрыжаць за сваю шкуру пачаў. — Драбуш зірнуў на Карунова і ўсміхнуўся: — Ты, Воўка, лічыш, што яна з кожным годам даражэй становіцца?

І тут Драбуш раптам змяніўся. Яго вясёлы погляд нечакана стаў злым і калючым, як і ў Карунова. Прыпадаючы на правую нагу, ён яшчэ бліжэй падышоў да Карунова і з пагрозай сказаў:

— Воўка, ты мяне ведаеш не першы год, я не люблю калі са мной так паводзяць сябе. Таму папярэджваю, калі ты хоць раз яшчэ будзеш перад мной так выкабельвацца, то я не ручаюся за сябе і не пагляджу, што ты мне сябар! Зразумеў?

Каруноў апусціў вочы і міралюбна прабурчаў:

— Добра, не заводзься. Сам разумееш, у якім я становішчы. У кожным новенькім канторскага пасла бачу.

Каруноў падышоў да Купрэйчыка і працягнуў руку:

— Давай пазнаёмімся. Я — Уладзімір.

Яны паціснулі адзін аднаму рукі. Гаворка вялася марудна, адчуваліся нацягнутасць і насцярожанасць.

Для Купрэйчыка паступова вымалёўвалася сітуацыя. Драбуш прывёў яго ў кватэру, дзе жылі муж і жонка. Іх кватэра складалася з двух невялікіх пакояў

і напаўцёмнай кухні, у якой увесь час завешана акенца. Аказалася, што гаспадар пайшоў у магазін, каб адзначыць прыход Карунова. Ён прыйшоў хутка. На стале з'явіліся дзве бутэлькі гарэлкі, спехам нарэзаная каўбаса, цыбуля, сала.

Гаспадара звалі Іванам. Яго твар зарос рудым шчаціннем, і выглядаў ён старэй сваіх гадоў. Лагодны і гаваркі, ён весела ўсміхаўся ўсім, нават незнаёмаму чалавеку, і запрасіў садзіцца за стол.

Выпілі па паўшклянкі гарэлкі. Купрэйчыку, якому сёння даводзілася піць ужо другі раз, было не па сабе. «Як бы не ап'янець, — трывожна думаў ён, выпіваючы гарэлку, — трэба трымацца. Можа, ім толькі і трэба, каб напаіць мяне». Аляксей накінуўся на ежу. Неўзабаве Іван зноў напоўніў шклянкі, і Купрэйчыку зноў прыйшлося піць «за знаёмства» і «за сяброўства». Нервовае напружанне адбівалася, і капітан пакуль не ап'янеў. Праўда, ён як бы між іншым сказаў, што яны з Драбушам ужо выпілі, і рабіў выгляд, што хутка п'янее. Каруноў сядзеў насупраць. Ён быў па-ранейшаму хмурны і не гаманлівы. Глядзеў насцярожана. Пасля чарговай чаркі ён упершыню звярнуўся да Купрэйчыка:

— Адкуль ірвануў?

— З этапу. У вагоне падлогу разабралі, а калі са станцыі састаў пачаў рухацца, мы трое і рванулі, астатнія пабаяліся.

— За што тэрмін атрымаў?

— За многае… — Аляксей вычакаў трохі і толькі пасля гэтага растлумачыў: — Пару магазінаў узялі, каля дзясятка кватэр, з дзясятак гоп-стопаў, у тым ліку афіцэра нейкага шылам злёгку зачапілі…

Аляксей па тварах слухачоў бачыў, што яго словы зрабілі ўражанне. Праўда, у Карунова быў ранейшы выраз твару, але тое, што ён працягваў задаваць пытанні ў больш паважлівай форме, гаварыла пра многае. Ён спытаў:

— А дзе тыя двое, што рванулі з табой?

— Адзін адразу рушыў на поўдзень, а другі са мной у Мінск прыехаў. Тут у яго павінны быць даваенныя знаёмыя. Мы разышліся, але дамовіліся, што будзем падвальваць з васьмі да дзевяці вечара на вакзал па аўторках, чацвяргах і суботах.

— Сёння субота, чаго ты не пайшоў?

— Яшчэ рана, калі захачу, то, можа, і пайду.

— А ты сам адкуль?

— Як адкуль? — перапытаў Аляксей.

— Нарадзіўся дзе?

— На Украіне, у Харкаве. — І Купрэйчык сам нечакана спытаў: — А ты адкуль?

— Я?— здзівіўся Каруноў. — А навошта гэта табе?

— Ды каб ведаць, дзе такія прыдуркі нараджаюцца, і гэтую мясцовасць бокам абыходзіць.

— Гэта навошта ж гэту мясцовасць бокам абыходзіць? — пырснуў Каруноў. — Можа, таму, што могуць распазнаць, які чалавек сустрэўся?

— Не, толькі таму, што з іх добрыя следчыя атрымліваюцца. Я ж на сваім веку шмат такіх сустракаў. Яны таксама, як ты цяпер, насупраць мяне праз стол, толькі без закускі і вадзяры, сядзелі і пытаннейкі навадныя «хто?», «адкуль?», «што здзейснілі?» задавалі.

У сварку ўмяшаўся Драбуш:

— Добра, хлопцы, завязвайце. Давайце лепш вып'ем…

— І закурым, — падтрымаў гаспадар і працягнуў Купрэйчыку пачак з папяросамі:— Запальвай, Лёха.

Купрэйчык моўчкі ўзяў папяросу, расцёр яе і тут убачыў, што Каруноў працягвае падпаленую запалку:

— Запальвай і не заводзься. Сам павінен разумець, у нашай справе асцярожнасць патрэбна, як той пападдзі, калі з манахам бацюшку здраджвала.

— Ты асцярожнічай, але мой гонар не заплямвай, — з гарачнасцю і, робячы выгляд, што ап’янеў, гучна сказаў Купрэйчык. І тут жа зразумеў, што патрапіў у кропку. Усе адразу, нават жонка гаспадара, зашумелі і пачалі лаяць Карунова. Той замоўк. Гаспадар кватэры, Прутаў, падняў напоўненую шклянку:

— Я прапаную выпіць за наша сяброўства!

Купрэйчыку давялося зноў піць. Але іншага выйсця не было, трэба было трымацца да канца.

Нарэшце ўсе выйшлі з-за стала. Да Купрэйчыка падышоў Драбуш:

— Ты, Лёха, не крыўдзіся на Воўку. Я яго ведаю даўно, ён чалавек надзейны! Зразумей яго, ён ужо які год па лязе брытвы ходзіць, у любы момант пагарэць можа. У любога на яго месцы, пры выглядзе новага чалавека, ачко зайграла б. Драбуш паклікаў Карунова: — Воўка, а Воўка, ідзі сюды.

Падышоў хмурны Каруноў.

— Чаго табе?

— Не, ты не дрэйфі. Лёшка чалавек што трэба, ён свой, далібог, свой. Я ўпэўнены, калі вы пасябруеце, то карысць вялікая будзе, на любую справу разам можна пайсці.

— Ды я што… — прамармытаў Каруноў, — я ж проста так, хачу бліжэй пазнаёміцца, — і ён нечакана працягнуў руку Купрэйчыку. — Не крыўдуй, давай будзем карашамі.

Купрэйчык зрабіў выгляд, што ён таксама некалькі збянтэжаны.

— Ды я не крыўджуся, — і ён паціснуў працягнутую руку.

Мір быў адноўлены, і неўзабаве Аляксей і Каруноў вялі спакойную гаворку. Каруноў абяцаў свайму новаму знаёмаму дапамагчы прыжыцца ў горадзе і ўзяць яго на «справу». Але ён тут жа намякнуў, што, толькі паглядзеўшы на Аляксея ў «рабоце», будзе давяраць яму.

Прайшла яшчэ гадзіна. На дварэ было цёмна. Драбуш і Каруноў сышлі разам. Жонка гаспадара прыгатавала пасцель Аляксею ў суседнім пакоі. Купрэйчык прычыніў шчыльней дзверы і лёг. Наступіў момант, калі можна было прааналізаваць падзеі мінулага дня. Аляксей доўга ляжаў у цемры, успамінаючы ўсё, што прыйшлося перажыць за дзень. «Як быццам пакуль усё ідзе звычайна, накладак не было, — але тут жа ўспомніў абяцанне Карунова ўзяць яго на «справу». — Што ж ён можа мне прапанаваць?»

Аляксей, засынаючы, ужо каторы раз за гэты час падумаў: што чакае яго сярод гэтых незнаёмых, варожых яму людзей.

А на вуліцы скуголіў вецер, ішоў снег. У горад прыйшла сапраўдная зіма…

## 18

## Рыта Алешына

Рыта Алешына была вясёлай і сімпатычнай дзяўчынай. Яна жыла ў інтэрнаце, разам з ёй у пакоі жылі яшчэ пяць дзяўчат. Усе яны працавалі ў паліклініцы, але не толькі гэта аб’ядноўвала і нават радніла іх. Так ужо здарылася,

што ні ў адной з іх не было бацькоў, і, можа, таму дзяўчаты ставіліся адна да адной з пяшчотай і любоўю.

У гэты вечар разам з Рытай у пакоі знаходзілася Валя Цярохіна. Рыта, седзячы ля стала, які стаяў пасярэдзіне пакоя, пісала ліст Славіну. Цярохіна чытала.

Рыта напісала ў лісце чым займалася ў апошнія дні, і задумалася. Цяпер ёй трэба зрабіць галоўнае — паведаміць Уладзіміру, што яна не зможа выехаць да яго ў маі.

Сёння ёй сказалі, што афіцэрская школа пашыраецца і раней ліпеня яе наўрад ці адпусцяць. Па дарозе ў інтэрнат Рыта нават паплакала ад крыўды, але ў пакой увайшла толькі тады, калі супакоілася. Дзяўчаты збіраліся на танцы, але Рыту нават не сталі запрашаць. Пасля таго, як з'ехаў былы курсант Славін, яна на танцы не хадзіла.

Рыта, так і не прыдумаўшы, як ёй напісаць пра непрыемную навіну, устала з крэсла і падышла да вялікага квадратнага люстэрка, якое вісела на сцяне. На яе сумна глядзела высокая цёмнавокая дзяўчына. Доўгія каштанавыя валасы спадалі на плечы.

Цярохіна адарвалася ад кнігі і, гледзячы на Алешыну, сказала:

— Рыта, а табе ніхто не казаў, што вы са Славіным падобныя? Абодва высокія, стройныя, цёмнавокія і цёмнавалосыя. — Дзяўчына нечакана засмяялася. — Ой, Рытка, у цябе цяпер нават выраз твару, як у твайго Вовы, вось выдатна!

— Прыдумала таксама! — адмахнулася Рыта і, збянтэжыўшыся, вярнулася да стала.— Вось пішу яму, а сама не ведаю, як сказаць, што да мая не прыеду?

— Баішся, што разлюбіць, іншую знойдзе?

— Ды ну цябе! — зноў махнула рукой Рыта. — Ведаю, што не разлюбіць. Ён у мяне сур'ёзны і, здаецца, адналюб. Мне проста не хочацца яго засмучаць. Ведаеш, якая там у Сібіры работа. Вось сядзім мы цяпер з табой у цяпле, а ён, можа, у гэту самую хвіліну на саракаградусным марозе ў тайзе знаходзіцца. — Дзяўчына памаўчала нейкі час, а затым, адважыўшыся, сказала: — Але напісаць праўду я абавязана!

І яна схілілася над лістом паперы.

А Славін тым часам сапраўды знаходзіўся ў марознай і снежнай тайзе…

***Пераклад з рускай Язэпа РУНЕВІЧА.***

***Працяг у наступным нумары.***



**Мікола МАЛЯЎКА**

# ГЛЯДЗЕЦЬ ДЗІЦЯЧЫМІ ВАЧЫМА

## ВЯЛІКІ СВЕТ, А БЕЛАРУСЬ АДНА

Вялікі свет, а Беларусь адна,
Для пакаленняў маладых адкрытая.
Не раз зямлю, снарадамі разбітую,
Засейвала асколкамі вайна,
Ды зноў красуюць лён і збажына,
І мы ахоўваем яе, блакітную,
І клятваю на вернасць, і малітвамі, —
За ўсё на свеце даражэй яна.

Не ведаю, куды жыццё закіне,
Ды божа збаў памерці на чужыне.
Адна Радзіма — і адна любоў:
Я нарадзіўся тут, і шчасце проста
Вось так вяртацца, з кошыкам грыбоў,
У родны свет сучаснікаў і продкаў.

---

*Маляўка Мікалай Аляксандравіч нарадзіўся 13 снежня 1941 года ў вёсцы Мікалаеўшчына Стаўбцоўскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1965). Настаўнічаў у вясковых школах. Працаваў на рэспубліканскім радыё і тэлебачанні, у часопісе «Вясёлка».*

*Аўтар паэтычных зборнікаў «Едуць маразы» (1966), «Лотаць» (1973), «Эстакада» (1982), «Аднавякоўцы» (1988), «Зімні дождж» (1991), «Ручнічок на крыжы» (1995), «Покуць» (2001), «Сядзіба, або Хата з матчынай душой» (2002), «Старая зямля» (2005), «Ой, бярозы і сосны…» (2006), «Дзічка ў полі» (2007), «Крыштальная галінка снегападу» (2011), «Беражыце шыпшыну» (2013) і інш., кніг вершаў і казак для дзяцей «Дзед і ўнучка» (1983), «Салодкі лядзяш» (1986), «Як дом будавалі» (1987), «Дзе жывуць казкі» (1994), «Запрашаем на калядкі» (1998), «Папялушка» (2000), «Пачынайце дзень з усмешкі» (2013) і інш.*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова (1992), прэміі Фэдэрацыі прафсаюзаў Беларусі (1997), спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у намінацыі «Мастацкая літаратура» (2002).*

## ПАДАРУНАК

*Дзмітрыю Дземідовічу*

Зямляк-фатограф хату падарыў,
Як быццам перавёз яе, спрыяючы,
Адтуль, з майго наднёманскага краю.
Я сад пры хаце вапнай пабяліў,
Прарэдзіў кроны яблынь, груш і сліў,
Саджаю бульбу, градкі прыбіраю —
І сонечнаму радуюся маю,
На здымку ўсё рэальнае наўздзіў.

У тлумным свеце падарунак мілы
Вяртае мне і спадчыну, і сілы.
Даўно грукоча горад за акном,
А я з зямлёю сувязі не страціў:
Гляджу на фотаздымак перад сном —
І засынаю там, у роднай хаце.

## ЛЯЦІ, АНЁЛАК!..

*Дачцэ Юлі*

Ён сувенірны, а ў вачах — дакор.
Маркоціцца душа мая жывая,
І ён, гляджу, з апошніх сіл трывае:
За вокнамі — дарогі і прастор,
І поле недзе, і вячысты бор,
Але ў кватэры гарадской трымае
Яго, анёлка, нітка сурава́я —
Дарма для ўзлёту крыльцы распасцёр.

Я развязаў вузельчык, скінуў путы,
Якімі ён да столі быў прыкуты.
У думках пажадаў яму: «Ляці
У свет дажджу, маланак і вясёлак —
І там на волі, у крутым жыцці,
Спрыяй усім пакрыўджаным, анёлак!»

## СОН

Цвінтар аздоблены травою,
І дзьмухаўцы цвітуць вакол,
А над блакітнаю царквою
Лунае бусел, як анёл.
У Божы храм паклікаў звон,

А ўночы мне прысніўся сон:
Ад свечак на іканастасе
Святлее там, у сіняве, —
Царква ў нябёсы паднялася
І яркім воблакам плыве.
О, як гудзе трывожны звон,
Жывых і мёртвых будзіць ён!
Дзе вёска наша, Нёман мілы?
Лячу я за царквою ўслед,
Лячу з апошніх сіл, бяскрылы,
У іншы час, у іншы свет.
Слабее, замірае звон,
За свечкай свечку гасіць сон.
У Бога, дзіўным сном уражаны,
Прадоўжыць век прашу, малю, —
І Бог мяне, з царквою разам,
Вярнуў на родную Зямлю.

## ЯШЧЭ АДНО АКНО ПАГАСЛА

Яшчэ адно акно пагасла ў нас,
Не ўспыхне болей, як начная зорка.
Не рыпне раніцай дзвярная створка,
Журбоціцца на покуці абраз.
Застаўся сад стары і дроў запас,
І на душы ў мяне балесна-горка:
Не прывітаю бабку на падворку,
Усмешкай не парадуе ў адказ.

Старэем мы, і сірацее вёска,
Вузее лёсу сумная палоска.
Як ні маліся, не спрыяе Бог,
І гаснуць вокны ў нас — за стратай страта:
На вулічнай сцяне, як некралог,
Вісяць аб'явы: «Прадаецца хата».

## Я НЕ ЖАБРАК СЛЯПЫ, КАБ ЗА РУКУ...

Я не жабрак сляпы, каб за руку
Вялі ў мінулае — праз дождж і замець.
Нішто не затуманіць, не запляміць
Таго, што пражыта на вяку —
На кожным новым гадавым вітку,
І толькі ты, мая жывая памяць,
Вядзеш у свет, дзе маладая мама
Спрыяе мне, маломі хлапчуку.

Не дай мне бог бяспамятным застацца,
Забыць дарогі ўсе і назвы станцый.
За памяццю іду я — след у след,
Каб дарагіх людзей пачуць, убачыць:
Мінулае — той запаветны свет,
Дзе за дабро яшчэ не позна дзячыць.

## НАСТАЎНІКІ ВУЧЫЛІ ДУМАЦЬ НАС

Настаўнікі вучылі думаць нас,
Вучылі жыць: не «плаваць» каля дошкі,
Не ныць, сышоўшы з бегавой дарожкі.
Вадзілі ў глыб стагоддзяў, на Парнас,
І не званок вяртаў адтуль у клас,
А голас мілы і вачэй валошкі
Настаўніц-прыгажунь, старэйшых трошкі.
О, час адкрыццяў, станаўлення час!

Паклон вам нізкі, сейбіты навукі,
За працу вашу — розум, сэрца, рукі.
Даўно ў вялікім горадзе жыву,
І жаль туманіцца ў падзякі словах:
Схіляю перад вамі галаву
Не ў школе, а на могілках вясковых.

## АЎРА МАЎРА

***Янку Маўру***

Нас хвалявала тайны аўра,
Герояў лёс, падзей лавіны.
Мы адкрывалі ў школе Маўра,
Як госця з казачнай краіны.

І свет не цьмеў на даляглядзе,
І непрыкметна пераселі
З арэляў бацькавых у садзе
Вышэй, на Маўравы арэлі.

Яны не заміралі ў быце,
А мацаваліся трывала
Ужо да воблачка ў блакіце,
Да зоркі, што над бытам ззяла.

Абсяг жыцця шырэў над кнігай,
Нібыта мы, першапраходцы,

Вучыліся не ў школе ціхай,
А ў рамантычнай мараходцы.

На часу неспакойных хвалях
Мы з Маўрам марылі, сталелі —
У космас свету падымалі
Яго фантазіі арэлі.

І я ўяўляю родны воблік,
Калі на спадчынным падворку
Гляджу на сонечнае воблачка
Ці тую, з дзён дзіцячых, зорку.

## АСЫПАЎСЯ ІНЕЙ

У поўдзень,
На студзеньскім сонцы,
Асыпаўся іней, гляджу, —
Зялёныя елкі і сосны
Лагодзяць красою
Душу.

Здаецца,
Пад кроны аховай
Ажыў і сцежак мурашоў,
Як быццам у казку вясновую
Я разам з табою
Зайшоў.

## ТВОЙ ПАРТРЭТ — ПАД ШКЛОМ РАЗБІТЫМ

Твой партрэт — пад шклом разбітым.
Хто вось так махнуў рукой
Над вачэй тваіх блакітам,
Над усмешкай трапяткой?

Не прыкрыла твар пяшчотны —
І засыпала цябе:
Шклінкі ў ямачках на шчоках,
Шклінкі ў зморшчынках на лбе.

Ды твая і на хвілінку
Не зацьмілася краса,
Быццам гэта і не шклінкі,
А дажджынкі ці раса.

Раўнаваў ці, можа, бытам
Быў засмучаны юнак.
Ты яму пад шклом разбітым
Усміхаешся, аднак.

Ружы белыя ў пакоі
Сведчаць тут, ад шкла ўбаку:
На цябе ў жыцці ніколі
Не падыме ён руку.

## НА ЛЁС ЯК БЫЦЦАМ НАРАКАЦЬ І ГРЭХ

На лёс як быццам наракаць і грэх.
Хлапчук малы, я адкрываў нясмела
Усё, што дыхала, цвіло, звінела:
І першы спеў дажджу, і першы снег,
І першую слязу, і першы смех.
Сталеў — і агрубела ў буднях цела,
Душа адлетуценіла і сцьмела, —
Куды ён, той хлапчук наіўны, збег?

Гляджу, як жытні колас выплывае,
Зіхціць на ім пярлінка дажджавая.
Абсяг жыцця вузее неўпрыкмет,
Вярнуцца да пачатку немагчыма,
Ды можна паглядзець яшчэ на свет,
Сыходзячы, дзіцячымі вачыма.



Наталля КАНСТАНЦІНАВА

# УСЁ ЯШЧЭ НАПЕРАДЗЕ...

*Аповесць*

## I

Ігар зрабіў апошняе намаганне і адціснуў штангу ад грудзей. Ён любіў гэтыя моманты пераадолення, калі здаецца, што фізічнай моцы ўжо нестае і вялікая вага вось-вось адужае цябе, абрынецца і расцісне, альбо ты звалішся пад ёю. Але ты вырашаеш не здавацца, і воля пераўтвараецца ў сілу. Аслабелыя мышцы незразумела як зноў напружваюцца, і ты выштурхоўваеш штангу ці ўстаеш разам з ёю.

Ігар ужо шмат разоў перажываў такія моманты, і кожны раз сам захапляўся сабой: дужы і спрытны… Можна сказаць і так: яго самапавага ўзрастала, а заадно раслі мускулы, напружваліся пад скурай так, нібыта там ім было цесна, ледзьве не прарываючы яе.

Ігар падымаў штангу чатыры гады са сваіх дваццаці трох. Калі ён пачынаў, ягоным арыенцірам былі культурысты з глянцавых плакатаў. І хоць яму ўдалося нарасціць тугія мышцы, на спаборніцтвах ён ні разу не выступаў. Усё тлумачыцца проста: у яго не было ахвоты прыводзіць сябе ў належную спартыўную форму: «сушыцца», седзячы на жорсткай дыеце, так, каб з арганізма пасыходзілі ўвесь тлушч і лішкавая вада і засталіся толькі завостраныя ўзгоркі мышцаў з глыбокімі баразнамі паміж імі. Не, ён не нагадваў бясформенную камлыгу, але і да спаборніцкіх кандыцый яму было далёка. У Ігара проста быў выгляд вельмі мускулістага юнака, што разам з прыроднай прыгажосцю ліній і прапорцый стварала надзвычай прывабны вобраз. Ігар гэта ведаў, што яго задавальняла, і ён не імкнуўся да славы.

Зрэшты, на побытавым узроўні яму славы хапала. Амаль заўсёды, калі ён ішоў па двары, у яго за спінаю варушыліся кусты, за якімі хаваліся ягоныя прыхільніцы: Ігар лічыўся першым прыгажуном вялізнага шматпавярховага дома, у якім жыў. Вядома ж, пры сваёй фактурнасці ён мог бы прэтэндаваць і на больш салідны тытул, напрыклад, на месца ў рэйтынгу самых прывабных мужчын паводле версіі якога-небудзь жаночага часопіса. Але дзяўчаты і без таго хацелі быць побач з ім.

---

***Канстанцінава Наталля Анатольеўна*** *нарадзілася ў 1972 годзе ў г. Мінску, скончыла факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1991).*

*Апавяданні друкаваліся ў часопісе «Маладосць».*

*Жыве ў г. Мінску.*

Цікава, аднак, што Ігар не вельмі на іх зважаў. Ён быў ахайны і фізічна, і маральна, бярог сябе і не хацеў растрачвацца на дробязі. Маючы даволі тонкую натуру, нетыповую для такой мужнай знешнасці, Ігар — чаго ніхто не падумаў бы — паспеў ужо набыць не надта шчаслівы вопыт кахання.

Выхаваны даволі прыстойна, спачатку ён быў настроены надзвычай сур'ёзна: падлеткам ужо марыў пра чыстае светлае каханне з адной-адзінай, і пра трывалую сям'ю з дзецьмі. Таму ўпершыню сышоўся з дзяўчынай па сённяшніх мерках даволі позна — у васямнаццаць гадоў. Яго абранніцай стала вельмі прыгожая дзяўчынка. Здаецца, ён пакахаў яе, яна — яго, і нейкі час Ігар адчуваў эйфарыю і хацеў ажаніцца. Аднак дзяўчына, хоць і стала ягонай, разважыла, што сімпатыя сімпатыяй, а ў жыцці трэба ўладкоўвацца, больш разумным будзе, калі яна знойдзе сабе таго, хто зможа яе добра забяспечыць. Перад навучэнцам тэхнічнага каледжа Ігарам яна аддала перавагу багатаму бізнесоўцу, значна старэйшаму за яго.

Ці пакутаваў ад такой здрады Ігар — як сказаць…

Другі ягоны раман адбыўся болей чым праз год, калі тая дзяўчына забылася, а ён ужо апантана штурхаў штангу. На ягоным целе яшчэ толькі-толькі з'явіліся адзнакі будучых моцных мышцаў, але на іх ўжо звярталі ўвагу. Ігару гэта дадало харызматычнасці ў дастатковай ступені, каб выклікаць у дзяўчыны гарачую жарсць. Іх сустрэчы былі вельмі бурнымі. Ігар зноў задумаўся пра жаніцьбу. Здавалася, і дзяўчына думала пра замужжа, прынамсі, яна нават пазнаёміла Ігара са сваімі бацькамі. Якое ж было яго здзіўленне, калі праз паўтара месяца сяброўка паведаміла, што патрэба ў ім адпала. Як высветлілася, дзяўчына кахала аднаго хлопца, а той захапіўся іншай. Каб не «кукаваць» у адзіноце, пакінутая вырашыла завесці каханка і сышлася з Ігарам, чакаючы і спадзеючыся, што каханы абдумаецца і вернецца да яе. Так урэшце і адбылося. «Нашто ж яна з бацькамі мяне знаёміла?» — больш за ўсё абурала Ігара.

Пасля гэтых выпадкаў хлопец вырашыў, што прадстаўніцы чароўнага полу — стварэнні легкадумныя і ненадзейныя, дзеля якіх не варта «замарочвацца». Ён не здолеў адразу адмовіцца ад мары пра шчасце з адзінай, але адклаў вырашэнне гэтага пытання на аддаленую будучыню, калі ён стане старэйшым і мудрэйшым, навучыцца лепей разбірацца ў людзях і не дазволіць сабе такіх памылак, як у мінулым. А пакуль што трэба быць напагатове, абараняць свой унутраны свет і нікога не падпускаць занадта блізка, каб ізноў не паранілі.

Малады лішак энергіі Ігар укладаў у трэніроўкі. Яго цела налілося сілай, дзяўчаты яшчэ больш звярталі на яго ўвагу, і хлопец атрымаў магчымасць сам выбіраць са сваіх прыхільніц самых на выгляд бяспечных, непадобных да драпежніц. Адбывалася гэта рэдка і цягнулася нядоўга. Калі дзяўчына надакучвала яму, ён проста расставаўся з ёй…

Поспехі ў дзяўчат цешылі яго, і псіхалагічна Ігар увесь час адчуваў вялікае задавальненне. Бацькі не дапякалі размовамі пра хуткую жаніцьбу: жадаючы быць самастойным, Ігар здымаў кватэру. Маці і бацька не былі супраць гэтага, лічылі, што сыну карысна «паспрабаваць жыццё на смак», і нават дапамагалі грашыма, каб яму было лягчэй.

## II

Юля ў яго з'явілася нечакана. Яна займалася ў адной трэнажорнай зале з Ігарам. Юля хутка прыцягнула ягоную ўвагу найперш сваімі фізічнымі дадзенымі. Для практыкаванняў яна брала вагу найбольшую, чым астатнія жанчыны, якія наведвалі залу. Пры гэтым не сапла гучна і шумна, як астатнія,

а дыхала ціха і акуратна. «Відаць, у яе вельмі добра развітыя лёгкія», — падумаў Ігар. Ён любаваўся яе зладжанымі, моцнымі рухамі, калі яна выконвала практыкаванні, і адчуў у ёй штосьці роднаснае. Да таго ж постаць дзяўчыны глядзелася вельмі ладнай і нейкай утульнай. І хоць Юля была на некалькі гадоў старэйшая за Ігара і ўжо мела пяцігадовую дачку і статус маці-адзіночкі, хлопца гэта не бянтэжыла. Ён усё часцей і часцей заглядаўся на Юлю. А дзяўчына, здавалася, Ігара не заўважала. Яна ўвогуле не глядзела па баках, поўнасцю сканцэнтраваўшыся на практыкаваннях, і ўзнімала вочы толькі на штангу ці гантэлі. Калі адпачывала, апускала вочы, і Ігар успрымаў такую яе манеру трымацца як вельмі жаноцкую.

Аднойчы Ігар, па звычцы, амаль не хаваючыся, раз-пораз кідаў позіркі на Юлю. Яна гэта заўважыла. Ён не стрымаўся, імкліва падышоў да яе і ўсміхнуўся. Тая, глянуўшы на яго, узмахнула вейкамі, і на яе твары мільганула лёгкая ўсмешка. Акрыленага Ігара «панесла»: «Юля, пусці мяне пераначаваць. Я сёння куртку не ўзяў, пакуль дайду дадому — змерзну!» — паліліся самі сабою словы ( Ігар ведаў, дзяўчына жыла значна бліжэй да трэнажорнай залы, чым ён). Юля пачырванела, апусціла вочы яшчэ ніжэй і ціха прамовіла: «Хадзем лепей да цябе, у мяне бацькі дома».

Такая адкрытая гатоўнасць злёгку бянтэжыла Ігара, і ў ім «уключылася» ягоная звычайная насцярожанасць: сустракацца, і не больш, не даводзіць да шлюбу.

Юля, працуючы ў сталоўцы, пачала прыносіць прадукты і добра частаваць хлопца: яму ж, каб моцнымі былі мышцы, патрэбна багата бялку, вітамінаў.

Такія паводзіны дзяўчыны замацавалі ў Ігара думку, што Юля своечасова «патрапілася»… Здавалася, варта яму толькі працягнуць руку, як Юля тут жа поўнасцю стане ягонай. Гэтае ўсведамленне напоўніла яго адчуваннем чарговай перамогі над жанчынай, і яму стала лянотна і нецікава нешта рабіць, каб Юля сапраўды яго пакахала. Ён «расслабіўся», глядзеў на яе крыху паблажліва.

Усё перамянілася, калі да дзяўчыны пачаў праяўляць павышаную ўвагу трэнер-інструктар трэнажорнай залы, агромністы трыццацігадовы мужчына. Звычайна інструктар распрацоўваў праграмы трэніровак для навічкоў і спярша вельмі ўважліва назіраў за імі, кантраляваў, ці правільна выконваюць практыкаванні. Калі навічкі крыху «абціраліся», трэнер быццам траціў да іх цікаўнасць, падыходзіў толькі перыядычна, каб не кідаць зусім сваіх падапечных на волю лёсу.

Юля займалася даўно і ўжо цалкам самастойна. Але чамусьці трэнер пачаў падыходзіць да яе ўсё часцей. Ён падоўгу затрымліваўся побач, нярэдка дакранаўся да жанчыны, каб дапамагчы ёй скарэктаваць позу, калі яна выконвала практыкаванне.

Ігару гэта не падабалася. Ён лічыў, што Юля належыць толькі яму, і калі бачыў, што яшчэ хтосьці звяртае на яе ўвагу, адчуваў рэўнасць.

«Візітамі» трэнера справа не абмежавалася. Калі аднойчы пасля трэніроўкі Юля зачынілася з інструктарам у раздзявальні, Ігара быццам працяла маланка… У ім закіпела самалюбства, усе пачуцці бурлілі. Аднак дзяўчыну ён ні ў чым не абвінавачваў. Ігар не лічыў Юлю распусніцай, а толькі яшчэ раз пераканаўся, што яна надзвычай жаноцкая, а таму такая…

Пасля «здрады» Ігар усю ноч не спаў, думаў, што рабіць. І — прыдумаў…

Падчас трэніроўкі ён падышоў да Юлі і сказаў, што закахаўся. Дзяўчына нічога яму не адказала. Але пасля заняткаў трэнер марна грукаўся да яе ў раздзявальню: Юля яго не пусціла, а потым сышла разам з Ігарам.

Хлопец вельмі заганарыўся. Яшчэ б!.. Яму аддалі перавагу перад самім

трэнерам! Цяпер пасля заняткаў у зале Ігар сыходзіў дадому разам з Юляй. Па дарозе яны часта заходзілі ў краму і куплялі віно, закусі ў Юлі хапала.

Здавалася, ягонае шчасце з Юляй нішто не азмрочвае. Дачку Юлі глядзелі яе бацькі. Аднак паступова Ігару ўсё больш і больш надакучвала. Іншы раз, здавалася, ім нават не было пра што гаварыць. У яе свой інтарэс: праца, дачка, што купіць у кватэру, а што прынесці са сталоўкі… Ігар жа меў ад прыроды жывы, дапытлівы розум, шмат пра што задумваўся і пачытваў літаратуру і газеты. Паступова ён зрабіў яшчэ адно адкрыццё, што датычылася Юлі. Высветлілася, што яна — зусім не ўвасабленне жаноцкасці, а проста баявая жанчына, якая лёгка і з задавальненнем сыпле мацюкамі, і ўвогуле, Ігар сам мацюкаўся толькі ў мужчынскай кампаніі і яму было агідна, калі мацюкаліся жанчыны. «Атрымліваецца, Юля проста маскіравалася, каб прывабіць мяне. Цяпер жа стамілася, вырашыла, што мяне ўжо прывязала, і яе сапраўдная натура пачала праяўляцца», — думаў хлопец.

Ён усё болей адчуваў, што адносіны з Юляй яму надакучылі і гнятуць яго. А Юля, наадварот, вырашыла, што пара гэтыя адносіны замацаваць. У адзін цудоўны дзень яна, ужо не апускаючы вачэй, загаварыла пра тое, што дала Ігару шмат чаго, а значыць, час і яму нешта зрабіць для яе. Вядома, найлепшым быў бы іхні паход у ЗАГС.

Ігара быццам абухом па галаве стукнулі… Вось ужо чаго ён не чакаў і на што не разлічваў!.. Аказваецца, вось якая яна, Юля!.. І якая яна далёкая ад ягонага ідэалу дзяўчыны!

Ён паспрабаваў мякка патлумачыць ёй, што яе спадзяванні нерэальныя, ды і наогул…

Юля, нават не даслухаўшы Ігара, накінулася на яго з брыдкай лаянкай. Яна зневажала Ігара, усяляк яго абзывала, ён — яе, усё скончылася тым, што хлопец збег…

Каб не сустракацца з Юляй, Ігар нават перастаў хадзіць у сваю трэнажорную залу, хоць яна яго цалкам задавальняла, і ўзяў абанемент у больш далёкую ад дому. Ён таксама памяняў нумар мабільнага тэлефона. Але Юля не збіралася так лёгка адступаць. Яна пачала па вечарах пільнаваць Ігара каля яго дома, заходзіць разам з ім у пад’езд і спрабаваць прарвацца ў кватэру. Ігар адштурхоўваў дзяўчыну, яна лаялася і абвінавачвала яго ў чым толькі можна. Калі Ігар заходзіў у сваё жытло і замыкаўся, Юля заставалася стаяць пад дзвярыма, грукала па іх і ціснула кнопку званка, патрабуючы, каб ён упусціў яе. Калі па лесвіцы міма праходзілі жыхары пад’езда і пыталіся, што здарылася, адказвала, што яе моцна пакрыўдзілі.

У адзін з вечароў Ігараў сусед не вытрымаў, выйшаў з кватэры і спытаў Юлю, колькі яшчэ яна будзе замінаць яму глядзець тэлевізар.

Дзяўчына зноў сказала, што яе моцна пакрыўдзілі. Тады сусед замалаціў па Ігаравых дзвярах, патрабуючы, каб той выйшаў і разабраўся.

Ігару давялося выйсці. Сусед сказаў: «Разбярыцеся, а калі яшчэ раз такое паўторыцца, я буду выклікаць міліцыю!»

Пускаць Юлю ў кватэру Ігар катэгарычна адмовіўся, ён выйшаў з ёю на вуліцу і там зноў рашуча сказаў, што жаніцца на ёй не збіраецца…

Ці то Юля выдыхнулася, ці то спалохалася, што сусед выкліча міліцыю, але пасля гэтага пакінула Ігара ў спакоі.

Ігар уздыхнуў з палёгкай, быццам выкараскаўся з багны, якая яго засмоктвала. Яму пільна захацелася чагосьці зусім іншага — кантрастнага яго нядаўнім прыгодам. Ён прыйшоў да высновы, што трэба рэзка змяніць сваё жыццё, паспрабаваць падняцца на прыступку вышэй. А дзеля гэтага — палепшыць матэрыяльны дабрабыт…

## III

Як казалі старажытныя рымляне, таго, хто жадае, лёс вядзе. Неўзабаве ў Ігара з’явіліся магчымасці выканаць свой намер. Знаёмы расказаў, што адна гаспадыня з рынку, уладальніца некалькіх кропак, шукае памочніка. Абавязкі нескладаныя для фізічна моцнага хлопца — суправаджаць яе ў паездках па тавары, раніцай дапамагаць дастаўляць цяжкія баулы на рынак, а вечарам — да яе дахаты. Заробак жа — нашмат вышэйшы за заводскі.

Ужо пры першай сустрэчы гаспадыня ўразіла Ігара. Ад знаёмага ён ведаў, што ёй каля сарака гадоў, і чакаў пабачыць тыповую «цётку». Але перад ім стаяла не проста зграбная, а па-дзявоцку тонкая невысокая дама з усмешлівым прыемным тварам, з густымі кучаравымі валасамі, што падалі на плечы, з вялікімі яснымі вачыма, арыстакратычным тонкім прамым носам і з вытанчанымі рукамі з доўгімі пальцамі. Ад жанчыны прыемна пахла парфумай. Ігар падумаў, што прыкладна такімі павінны быць француженкі. А калі пазнаёміўся з Аняй, так звалі жанчыну, бліжэй, канчаткова зачараваўся ёю.

Аня валодала безумоўнай харызмай. Як высветлілася, раней яна працавала выкладчыцай ігры на фартэпіяна ў музычнай школе. Цяпер Аня прадавала жаночае адзенне. Яна казала: «Для мяне галоўнае — не прадаць рэч, а ўпрыгожыць чалавека». Кожную пакупніцу яна акружала клопатам, уважліва выслухоўвала яе пажаданні і заўвагі. Словам, яна ўмела дагаджаць жанчынам-пакупніцам розных узростаў і рознага густу. У яе ўтварылася кола пастаянных кліентак, якім яна па замове шукала і прывозіла адзенне. Жанчыны гэта цанілі.

Аня з усімі была вельмі ветлівая, за ўсё дзякавала сваім кліенткам, і нават тым, хто званіў ёй па тэлефоне. Размову з імі яна заканчвала словамі: «Дзякуй за тэлефанаванне!»

Ігар захапляўся асобаю Ані. «Яна рэдкая гандлярка, якая не проста гоніцца за прыбыткам, а працуе для людзей. Такі чалавек у наш час — вялікая каштоўнасць», — думаў хлопец. Яму спадабалася размаўляць з Аняй. Спачатку яны гутарылі толькі ў дарозе. Потым вечарамі, пасля работы гаспадыня пачала запрашаць Ігара да сябе на чай. Ён не адмаўляўся. Яе інтэлігентны, эмацыйны голас было прыемна слухаць. Аня заўсёды гаварыла пранікнёна, быццам звяртаючыся да самай глыбіні душы слухача. Яна ўжо шмат чаго пабачыла ў жыцці і шчодра дзялілася вопытам. Распавядала гісторыі знаёмых, выпадкі са свайго жыцця, разважала пра характары і ўчынкі. Важнае месца ў яе аповедах займалі людская дабрыня і прыстойнасць. Аня заўсёды сцвярджала, што гэтыя паняцці — не пустое, такія якасці і прыносяць дабро іншым, і таму, хто іх праяўляе, хай нават адразу гэта не заўсёды бачна…

Муж Ані, Віталь, калі б яны ні прыйшлі, заўсёды быў дома. Ён нічога не меў супраць таго, што жонка прыходзіць дадому з маладым памочнікам. Найчасцей Віталь знаходзіўся ў сваім пакоі і выходзіў адтуль, каб прыязна павітацца з Ігарам, а павітаўшыся, зноў сыходзіў. Віталь нідзе не працаваў. Як расказала Аня, па адукацыі быў матэматыкам і раней працаваў настаўнікам у школе. Аднак у яго аказаліся слабыя нервы, і вучні яго «давялі». Віталь стаў нейкім запалоханым, часта хварэў. Тады на сямейнай радзе было вырашана, што ён пакіне працу. Аня да таго часу ўжо займалася гандлем і разлічвала, што яе даходаў хопіць на ўсіх. Так і сталася. Яна не толькі ўтрымлівала мужа, але і забяспечвала двух сыноў, прычым нашмат болей, чым гэта было неабходна. Хлопчыкі былі экіпіраваныя, як кажуць, па найвышэйшым разрадзе, мелі самыя сучасныя камп’ютары і мабільнікі. Апрача таго, маці аплачвала малодшаму, 11-гадоваму,

заняткі ў мастацкай школе, а старэйшаму, 14-гадоваму, — у секцыі каратэ, а ім абодвум — рэпетытараў па фізіцы і замежнай мове.

Аніны сыны прызвычаіліся да Ігара. Пасля таго, як Аня з Ігарам пілі чай на кухні, ён звычайна заходзіў да іх у пакой, і хлопчыкі распавядалі яму пра свае поспехі. Малодшы паказваў свае малюнкі, старэйшы — прыёмы каратэ.

Ігару падабаліся такія адносіны з хлапчукамі. Ён пачаў адчуваць сябе ў Ані «сваім». Ён усё больш і больш захапляўся гаспадыняй. Ён лічыў, што Аня — ледзьве не святая жанчына: так высакародна абыходзіцца з мужам, узяла на сябе ўсе матэрыяльныя клопаты пра сям'ю. Зрэшты, не толькі матэрыяльныя: Віталь, як казала Аня, дома таксама амаль нічога не рабіў, праўда, трохі прыбіраў. Але нават па пакупкі хадзіць Ганна яму не давярала: тлумачыла, што такога, як ён, папросту падмануць, і толькі яна здолее выбраць якасны тавар. «Вось прыклад самаадданай жанчыны, сучаснай, энергічнай, якая шмат чаго дасягнула ў жыцці, але засталася любячай жонкай і клапатлівай маці», — упэўніўся Ігар.

## IV

Аднойчы пасля таго, як Ігар з Аняй прывезлі баулы ўвечары ёй дахаты, гаспадыня папрасіла хлопца з'ездзіць з ёю яшчэ на адну кватэру, маўляў, трэба там забраць тавар.

Калі яны туды прыехалі, нічога падобнага ў кватэры не аказалася. «А дзе ж тавар?» — здзівіўся Ігар. Замест адказу Аня падышла да яго, абняла, шчыльна прыціснулася і пачала цалаваць. Хлопец збянтэжыўся. Ён лічыў Аню вельмі прыгожай жанчынай, але пра больш блізкія адносіны з жанчынай на многа старэйшай за сябе…

Іхнія такія сустрэчы сталі рэгулярнымі, а гутаркі — больш адкрытымі і шчырымі. Аня расказала Ігару, што даўно расчаравалася ў мужу, і што вельмі нешчаслівая з ім. Казала, што не можа пакінуць яго, тлумачыла, што калісьці яна яго кахала і дасюль шкадуе, а без яе ён прападзе. Дый дзецям лепей мець бацьку.

Ігар спачуваў Ані, пачаў задумвацца: можа, ён яе кахае?

Час ішоў, іх адносіны былі падобны на адносіны закаханых. Аня хацела паказвацца на людзях у кампаніі маладога спадарожніка і нярэдка вадзіла Ігара ў рэстараны, дзе частавала за свой кошт. Спачатку ён адмаўляўся, казаў, што ён не альфонс, але Аня пярэчыла: «Не крыўдзі мяне, мне прыемна, проста я магу сабе гэта дазволіць». Яна намагалася яшчэ і купляць Ігару адзенне за свае грошы, але тут ужо хлопец рэзка не пагадзіўся…

## V

Так прайшло некалькі месяцаў. Ігара ўсё задавальняла, і ён, так бы мовіць, плыў па цячэнні. Але аднойчы, калі наведаў сваіх бацькоў, тыя пацікавіліся: а што ў яго ў асабістым жыцці?..

Ігар разумеў, што не можа распавесці пра раман са старэйшай за яго замужняй жанчынай, і пажартаваў, маўляў, пакуль нічога сур'ёзнага ў яго ні з кім няма… Бацькі не сталі дапытвацца, мяркуючы, што сын яшчэ малады, можна з жаніцьбай яго не праспешваць. Але пасля гэтага Ігар пачаў задумвацца: а што ж далей? Колькі могуць доўжыцца іх з Аняй такія адносіны?

Захапіўшыся гаспадыняй, як каханкай, Ігар перастаў заседжвацца ў яе ў гасцях: ён прыносіў баулы — і яны адразу ж ехалі на кватэру, якую яна зды-

мала, па дарозе купляючы пітво і ежу. Калі Ігару ўвечары трэба было на трэніроўку, яны ўлучалі час, каб пабыць удваіх сярод дня. Што думае Анін муж пра жончыны вячэрнія адлучкі — Ігара, здаецца, не вельмі хвалявала. Цяпер жа, калі ён з Аняй вельмі зблізіліся, думкі пра яе мужа пачалі непакоіць Ігара, а як ён да гэтага ставіцца, не сляпы ж...

Віталь жа па-ранейшаму прыемна вітаўся з ім і не паказваў ніякіх прыкмет непрыязнасці, але Ігар адчуваў сябе перад ім вельмі няёмка. Няхай Віталь мямля і ўтрыманец, як казала Аня, але ён таксама чалавек, мужчына. Ці перападае яму хоць крышачку жончынай ласкі? Хоць Віталь і не падае выгляду, не адважваецца пратэставаць, але ж атрымліваецца, што па віне Ігара чалавек усім, чым толькі можна, абдзелены: і сродкамі, і жончынай ласкай, якая, напэўна, ніколі яго не любіла, ды і ён — таксама… А гэта можа істотна пагоршыць карму — Ігар верыў у такія рэчы.

А хлопчыкі, Аніны і Віталевы сыны? Мама не стала менш клапаціцца пра іх пасля таго, як у яе жыцці з’явіўся малады сябра. Ігар усё ж адчуў перад імі сваю віну. Магчыма, таму што, як разумеў, ён нібыта выкрадаў іх у бацькі…

Абдумаўшы ўсё гэта, Ігар зразумеў, што сітуацыя вельмі непрыгожая... І самае галоўнае — калі такія іхнія адносіны з Аняй будуць працягвацца, можа зашкодзіць яму дасягнуць галоўнай мэты: стварыць сваю трывалую, шчаслівую сям’ю. Не з Аняй, вядома… Разважаючы так, ён пачаў заўважаць, што Аня, не-не ды і раздражняе яго. Ён усё часцей і часцей лавіў сябе на думцы, што яе развагі пра жыццё кладуцца на яго ніба нейкім цяжарам. Яму пачалі надакучваць яе, а значыць, не ягоныя, чужыя гатовыя высновы пра жыццё, адносіны між людзьмі — захацелася рабіць свае. А можа, нават і не рабіць ніякіх жыццёвых высноў, а проста весела жартаваць з таго, што цябе акружае, часам пасміхацца з усяго, як гэта часта бывае ў моладзі.

З Аняй такое было немагчыма, з ёю ўсё атрымлівалася вельмі сур’ёзна. Ігар усё часцей заўважаў, што, суправаджаючы Аню, ён з сумам глядзіць на дзяўчатак, якія ідуць па вуліцы і бесклапотна рагочуць.

Аднойчы ён наважыўся і сказаў Ані, што ім трэба расстацца. Аня, пачуўшы гэта, моцна пабляднела, а потым разрыдалася.

— Ты вельмі жорсткі, — сказала яна, — і эгаістычны. Ты падумаў пра мяне? Я б’юся, б’юся, як рыба аб лёд, упарта працую, цягну на сабе трох мужчын, імкнуся рабіць людзям дабро. Няўжо я не заслугоўваю хоць трошачкі шчасця?

Ігара кальнула ў сэрца, ён збянтэжыўся. Аніны словы падаліся яму ў нечым справядлівымі. Сапраўды, хіба яна не заслугоўвае хоць трошачкі шчасця? Які́м будзе яе жыццё без яго?..

Хлопец разгублена маўчаў, не ведаючы, што сказаць. Яго ахапіла пачуццё бездапаможнасці, ён быццам апынуўся ў нейкім мяккім жэле: няўжо давядзецца працягваць ужо непатрэбныя яму адносіны з Аняй? Ці мае ён права пакідаць яе?..

Ён нейкі час маўчаў, потым адчуў, як у ім узнялася хваля ўнутранага пратэсту:

— Але я, — прамовіў ён, — я ж таксама заслугоўваю нейкага шчасця! Я хачу пабудаваць сваё жыццё. А нашыя адносіны, ты сама разумееш, бесперспектыўныя.

Колькі Аня ні плакала, ні прасіла не пакідаць яе, пахіснуць Ігара ёй болей не ўдалося.

— Прабач, — ціха сказаў ён ёй, калі яна крыху супакоілася, — але я не магу вырашыць твае праблемы.

## VI

На наступны дзень Ігар адвёз баулы да Ані і адправіўся дадому. Ён цвёрда вырашыў стаць для гаспадыні толькі памочнікам, і толькі...

Прайшло два тыдні. І раптам — Ігара выклікалі да следчага. Як высветлілася, гаспадыня напісала заяву, у якой абвінаваціла хлопца ў тым, што ён украў у яе буйную суму грошай.

— Суседзі пацярпелай пацвердзілі, што Вы часта бывалі ў яе дома, — казаў следчы. — А яе муж расказаў, што Вам давяралі і Вы неаднаразова заставаліся ў пакоі адзін.

Для Ігара гэта было — як гром з яснага неба…

Сапраўды, ён часта бываў у Ані дома, але ніякіх грошай не краў… Толькі як даказаць, і ці дакажаш?..

Ігара не арыштавалі, але патлумачылі, што яго становішча вельмі і вельмі цяжкае.

Ён, калі яго адпусцілі, папярэдзіўшы, што яшчэ вызавуць, каб нікуды не знікаў, прыехаў да Ані на рынак. Там паспрабаваў паразмаўляць са сваёй былой гаспадыняй, але тая адмахнулася: «Я табе давярала, а ты мяне падмануў».

Нічога іншага Ігару не заставалася, як шукаць дапамогі ў блізкіх людзей. Хоць і бянтэжачыся, ён усё расказаў бацькам пра тое, што з ім здарылася і чаму. Маці доўга плакала, казала: «Навошта ж ты з дарослай бабай звязваўся?» Бацька, паўздыхаўшы, прамовіў: «Што ж, у жыцці ўсялякае бывае». Яны, вядома ж, кінуліся дапамагаць сыну. Даведаўшыся Анін адрас, адправіліся да яе, каб паразмаўляць з гаспадыняй і яе мужам. Пра тое, як прайшла гутарка, бацькі Ігару не распавядалі, але праз колькі дзён гаспадыня забрала заяву, патлумачыўшы ў міліцыі, што знайшла грошы, якія проста заваліліся, і, атрымліваецца, дарэмна падазравала хлопца.

Абдумаўшы ўсё, што адбылося, Ігар вырашыў, што ён дастаткова «паблукаў па закутках» і зайшоў зусім не туды, куды трэба. Атрымлівалася, што ўвесь гэты час быццам адкладваў жыццё надалей. Пара выходзіць з гэтага тупіка на нейкі шырокі жыццёвы шлях і распачынаць галоўнае. Хаця, што галоўнае, ён уяўляў не зусім акрэслена… Натуральна, аб тым, што і далей ён будзе працаваць у Ані, размовы быць не магло. Уладкавацца памочнікам да іншай гаспадыні? Улічваючы, што ён падабаецца жанчынам, гэта небяспечна. Ці мала што яшчэ можа атрымацца… Дый што гэта яму дасць у будучым? Можа, самому падацца ў камерцыю? Дык жа ён не адчуваў у сабе такой жылкі. Ды і ведаў у яго недастаткова, каб заняцца нейкім канкрэтным бізнесам.

«Трэба вярнуцца на завод, — вырашыў Ігар. — Скончыць курсы павышэння кваліфікацыі, атрымаць высокі разрад. Тады і заробак будзе большы. А грошы, якія я назбіраў за час працы ў Ані, патрачу на вучобу ў якой-небудзь ВНУ. Здаровы ж і моцны, хопіць сіл, каб працаваць і вучыцца. А вось у трэнажорнай зале трэба займацца менш, толькі каб падтрымліваць форму. Мускулаў нарасціў ужо дастаткова... Хаця, жыццёвыя праблемы, як штангу, ад сябе не адціснеш... Але калі атрымаць вышэйшую адукацыю, адкрыецца магчымасць зрабіць кар’еру, — думаў Ігар. — А там, у інстытуце, і дзяўчыну добрую можна сустрэць. Усё-такі не можа такога быць, каб такіх дзяўчат зусім не было. Няхай дасюль у мяне не надта складвалася, але трэба далей спрабаваць. Я абавязкова знайду свой шлях!»

## VII

Ігар неадкладна ўзяўся рэалізоўваць свае добрыя намеры. Зноў уладкаваўся на завод, дзе яго, маладога і перспектыўнага, радасна сустрэлі. Пасля рабочай змены тры разы на тыдзень па-ранейшаму хадзіў на трэніроўкі, у астатнія дні сядзеў за падручнікамі, каб падрыхтавацца да ўступных экзаменаў у тэхнічны ўніверсітэт. У каледжы паспяваў няблага, і цяпер, хоць і мінула некалькі гадоў, адчуваў, што здольны ўспомніць многае з таго, што там вывучаў.

На прадстаўніц жаночага полу ён вырашыў пакуль не глядзець. Але яе не заўважыць не змог. Дзяўчына выходзіла з дзвярэй крамы, у якую накіраваўся ён. Ігару адразу кінуўся ў вочы выраз яе сімпатычнага твару — сур'ёзны, разумны, мэтанакіраваны. Фігура — мініяцюрная, у вопратцы — строгасць, спалучаная з вытанчанасцю. Ад дзяўчыны павеяла чымсьці такім, што ўся душа ўскалыхнулася… Але, перш за ўсё, здаецца, добрапрыстойнасцю… Менавіта гэта ён доўга шукаў... Нічога падобнага да занудлівасці, старамоднасці ні на яе твары, ні ва ўсім вобліку не адчувалася. «Яна магла б быць маёй жонкай!» — пранеслася ў Ігаравай галаве.

— Паненка, давайце знаёміцца, — сказаў ён.

Дзяўчына спынілася, акінула Ігара ацэньваючым позіркам, усміхнулася. Мабыць, сімпатычны малады чалавек з ветлівым голасам зрабіў на яе добрае ўражанне. Аказалася, што завуць дзяўчыну Палінай. Ігар назваў сябе і адразу ж запрасіў яе ў кавярню.

Яна згадзілася:

— А чаму б і не...

За кавай яны разгаварыліся. Паліна расказала, што пасля заканчэння юрыдычнага факультэта стажыруецца ў адвакацкай фірме. Пакуль што лічыцца памочнікам адваката і зарабляе няшмат, але пасля, як пройдзе курс стажыроўкі і здасць спецыяльны экзамен стане самастойным спецыялістам, у яе будзе высокі заробак, які, зрэшты, шмат у чым будзе залежаць ад ганарараў ад кліентаў.

Ігар даведаўся, што Паліна жыве з бацькамі. Акрамя працы, займаецца на курсах ваджэння і хоча назбіраць грошай, каб купіць машыну.

Усё гэта вельмі спадабалася Ігару. Ён зразумеў, што Паліна — сучасная, дзейная дзяўчына, адукаваная і сур'ёзная. «Такіх, бадай, яшчэ я не сустракаў», — думаў ён.

У сваю чаргу, Ігар расказаў пра сябе. Праўда, крыху саромеючыся, бо пакуль што не мог пахваліцца ніякімі дасягненнямі. Але ён асабліва падкрэсліваў, што цвёрда намераны здзейсніць свае планы: павысіць кваліфікацыю і паступіць у ВНУ.

Выслухаўшы яго, Паліна іранічна хмыкнула і прапанавала: «Добра, давай пакуль пагаворым пра што-небудзь менш сур'ёзнае».

Выйшаўшы з кафэ, Ігар і Паліна вырашылі прайсціся па горадзе. Нягледзячы на тое, што ў яе сур'ёзная прафесія, Паліна не выглядала сур'ёзнай. Яна шмат жартавала і сама ахвотна смяялася. Ігара ахоплівала прыемнае пачуццё навізны, калі ён слухаў як яна гаворыць: правільна і дакладна. У гэтай гаворцы спалучаліся юная жвавасць і строгая логіка: і ўсё было зразумела.

Ён стаў нават крыху пабойвацца, бо яму здавалася, што да ўзроўню Паліны не дацягвае. Але ні ў яе словах, ні ў паводзінах не было ніякіх прыкмет фанабэрыстасці. Ігар усё болей пераконваўся ў думцы, што Паліна была б неблагой жонкай, якой можна было б ва ўсім ганарыцца. Ён даведаўся, што ў Паліны ёсць брат.

Яны сталі сустракацца. Неўзабаве высветлілася, што Паліна любіць тэатр. Ігар заўзятым тэатралам не быў, але некалькі спектакляў за сваё жыццё паглядзеў. Каб бліжэй сысціся з Палінай, ён запрасіў яе ў тэатр. Потым яны схадзілі ў музей горада і на мастацкую выставу. Ігару гэта было нязвыкла, але цікава: аказваецца, жыццё — гэта не толькі завод, спартзала, рынак… Ёсць яшчэ шмат іншага, што кранае цябе…

Праз два месяцы сустрэч Ігар вырашыў грунтоўна паразмаўляць з Палінай пра свае намеры вучыцца, і — ажаніцца з ёй.

Дзяўчына ўважліва выслухала яго і сказала, што ён ёй падабаецца: сімпатычны, з мужнай знешнасцю, пры гэтым у ім няма самаўлюбёнасці, легкадумства, пошласці. «Я бачу, што ты сур'ёзны, і веру, што ў жыцці на цябе можна разлічваць, — сказала Паліна. — Але тваё месца працы нікуды не вартае. Завод — гэта так непрэстыжна! Я не магу звязаць свой лёс з заводскім хлопцам. Мне будзе сорамна знаёміць цябе з бацькамі і сябрамі: у нас жа зусім іншае кола. Табе трэба знайсці больш прэстыжную працу».

Колькі Ігар ні даводзіў ёй, што высокакваліфікаваныя рабочыя маюць нядрэнныя грошы і што вышэйшая адукацыя адкрые яму магчымасць зрабіць кар'еру, і яшчэ невядома, кім ён можа стаць, — Паліна не памяняла свайго меркавання. «Калі я для цябе штосьці значу, выканай маю просьбу, — сказала яна. — Калі праз паўгода ты будзеш працаваць у якім прэстыжным месцы і зоймеш трывалае становішча, мы пажэнімся. А пакуль давай перастанем сустракацца, каб нічога не адцягвала цябе ад пошукаў».

Вельмі не хацелася Ігару збочваць са шляху, які здаваўся яму прамым. Але, як кажуць, чаго не зробіш дзеля кахання!.. Хлопец ламаў галаву: куды б уладкавацца, маючы з адукацыі — толькі тэхнічны каледж, і не знаходзіў адказу. Ён пачаў апытваць сваіх знаёмых, можа, у каго з іх ёсць на прыкмеце якое грашовае месца, але безвынікова…

## VIII

Адначасова разам з Ігарам у трэнажорнай зале займаліся некалькі супрацоўнікаў нейкага рэкламнага агенцтва. Зрэшты, займаліся — моцна сказана. Упэўненыя ў сабе хлопцы няспешна хадзілі паміж спартыўнымі снарадамі, перакідваліся жартамі і толькі зрэдку спакваля выконвалі паўпрактыкавання. Стваралася ўражанне, што яны прыходзяць у залу, быццам у нейкі клуб, каб проста развеяцца. Сярод іх вылучаўся старэйшы мужчына — кіраўнік. Усе называлі яго не так як адзін аднаго, па імёнах, а — Валерый Уладзіміравіч. Нягледзячы на тое, што ён быў значна старэй за сваіх супрацоўнікаў — відавочна перасягнуў саракагадовую мяжу — Валерый Уладзіміравіч ставіўся да трэніровак не так легкадумна, як яго падначаленыя. Ён, не звяртаючы ні на што ўвагі, упарта выконваў адно практыкаванне за другім. І хоць падымаў не надта цяжкія штангі, але яго сур'ёзнасць і ўпартасць Ігару імпанавалі. Хлопец вырашыў, што не пашкодзіць пагаварыць з Валерыем Уладзіміравічам, можа, у таго для яго знойдзецца якая добрая праца.

Калі Ігар спытаў у Валерыя Уладзіміравіча пра гэта, кіраўнік агенцтва ўважліва паглядзеў на Ігара і сказаў: «А ведаеш, магчыма, знойдзецца для цябе месца. Бачыш маіх малайцоў, якім фірма аплачвае трэніроўкі? — ён абвёў позіркам залу, па якой снаўдаліся яго супрацоўнікі, заляцаючыся да дзяўчат. — Вось такія самыя яны і ў працы. Не, я нічога кепскага пра іх не хачу сказаць, хлопцы яны таленавітыя, таму я іх і трымаю, але вельмі лянот-

ныя і неарганізаваныя. Усе лічаць сябе за геніяў, якія могуць дзейнічаць па сваіх праграмах. Калі мы атрымліваем заказ, ніхто з іх, пакуль не загадаеш, не кінецца адразу над ім працаваць. Спачатку мае малайцы доўга думаюць, што і як, папіваюць каву, гуляюць на смартфонах, сноўдаюць па калідоры... А калі я раблю ім заўвагі, агрызаюцца: маўляў, так у іх праходзіць творчы працэс, яны настройваюцца, абдумваюць, як лепш зрабіць. Падыходзіць тэрмін выканання заказу, нічога не гатова, я нервуюся. І тады літаральна за два дні да здачы мае хлопцы мяняюцца: яны сядзяць на працы да дванаццаці ночы і ў рэшце рэшт выдаюць прыстойны прадукт. Яны яшчэ ні разу мяне не падвялі, кліенты застаюцца задаволеныя. Але я ўсё адно ўвесь час так нервуюся, што вельмі ад гэтага стаміўся. Мне патрэбен чалавек, які арганізаваў бы маіх геніяў, стаяў бы над імі як нянька і наглядчык у адной асобе. Я не магу гэтага рабіць, у мяне шмат іншай працы: шукаць кліентаў, весці перамовы, падпісваць кантракты... Дый не да твару дырэктару быць і нянькай, і наглядчыкам для сваіх супрацоўнікаў. А вось табе, мне здаецца, гэтая справа цалкам падышла б. Я назіраў, як ты трэніруешся. Ты хлопец валявы, настойлівы, мэтанакіраваны. Табе пад сілу навесці парадак, нават самы элементарны. У маіх геніяў вечна паўсюль раскіданы паперкі ад цукерак, вафляў, печыва, пакункі ад чыпсаў, жуек, бутэлькі з-пад кока-колы. Такі творчы вэрхал. Яны кажуць, што гэта стымулюе іх. Вядома ж, я плачу прыбіральшчыцы, але яна прыходзіць увечары. А днём мне проста непрыемна заходзіць у пакоі. Я не хачу страчваць маіх хлопцаў, яны талковыя і перспектыўныя. Але трэба абудзіць у іх павагу да дысцыпліны. Такую працу я табе прапаную. Твая пасада будзе называцца «менеджар па персанале». А заробак у цябе будзе…»

Валерый Уладзіміравіч назваў лічбу, якая падалася Ігару вельмі прывабнай. Дый назва пасады гучала салідна. «Паліне павінна спадабацца», — узрадаваўся ён. Доўга не раздумваючы, Ігар пагадзіўся.

## IX

Прайшло чатыры месяцы. Сітуацыя ў агенцтве Валерыя Уладзіміравіча кардынальна змянілася. Ігару хутка ўдалося заваяваць сярод супрацоўнікаў аўтарытэт. Мужчыны, якія бачылі яго на трэніроўках, адразу ж паставіліся да Ігара з павагай. У агенцтве працавалі і маладыя жанчыны. Ігар ім падабаўся. Ці не кожная хацела звярнуць на сябе ўвагу нішто сабе мускулістага прыгажуна, і яны стараліся выконваць ягоныя патрабаванні.

Дысцыпліна ў агенцтве наладзілася не адразу. Ігар літаральна стаяў над галовамі «геніяў», угаворваў, пераконваў, падганяў. Ён завёў журнал, у які запісваў усё зробленае кожным супрацоўнікам на працягу рабочага дня. Спачатку «геніі» абураліся, даводзілі, што ён нічога не разумее ў творчым працэсе, але паступова Ігарава настойлівасць прынесла плён. Аказалася, што словы пра непрадказальную творчую натуру, якая не пераносіць ніякіх абмежаванняў, — проста міф. Цяпер праца над заказам пачыналася неадкладна пасля яго афармлення. «Геніі» пабойваліся Ігара, стараліся. І ў іх усё атрымлівалася. Дырэктар быў задаволены і сваімі «геніямі», і Ігарам.

І аднойчы Валерый Уладзіміравіч сказаў яму: «Ты ў нас галоўны ахоўнік дысцыпліны. Але забаўляцца ў твае маладыя гады таксама трэба. Я хачу зрабіць табе падарунак — адвесці ў элітны начны клуб. Мы прыдумалі для клуба ўдалую рэкламу. Яна дапамагла яму раскруціцца, і цяпер нашых супрацоўнікаў там прымаюць бясплатна».

У начным клубе Ігар апынуўся ўпершыню. Дзяўчаты-стрыптызёркі адразу ўразілі яго: якія прыгажуні!.. І хаця ўсе дзяўчаты, з якімі ён сустракаўся раней, таксама былі прыгожыя, але тут панавала зусім іншая прыгажосць!.. Асабліва спадабалася яму адна: высокая, з доўгімі чорнымі валасамі. Здаецца, ён нават пакахаў яе… З гэтага дня Ігар карыстаўся прывілеяй, бясплатна наведваў клуб, пачаў хадзіць туды рэгулярна…

Прайшло яшчэ два месяцы. Дзяўчына з начнога клуба, якая ўразіла Ігара, за гэты час стала ягонай каханкай. Ён, няблага зарабляючы, утрымліваў яе, як лічыў, у раскошы.

Карыне падабаўся Ігар, не проста як каханы, яна яго і не кахала, а знешнасцю: спартыўнага выгляду, «накачаны», не тое што большасць хлюпікаў, якія ацираліся вакол яе. Вось толькі Ігар гэтага не разумеў і лічыў, што яна яго кахае…

Пра Паліну Ігар узгадваў рэдка. А калі і ўспамінаў, дык думаў, што зараз мог бы сказаць ёй, чаго дабіўся без яе, без той, на якой хацеў ажаніцца, і якая па-сутнасці не прыняла яго, як неўладкаванага ў жыцці…

Але вось надышоў дзень, калі, як яна казала, ён павінен патэлефанаваць сваёй нявесце і расказаць чаго дасягнуў. Ігар моцна задумаўся: а ці варта… Здавалася б, вось яна, магчымасць… З Карынай яму добра. Але яна… Паліна ж — добрапрыстойная, сур’ёзная дзяўчына, якой цяпер не будзе за яго сорамна.

Аднак як Ігар ні спрабаваў успомніць Палінін твар, так і не змог. І тады ён успомніў, што яна яго вельмі моцна пакрыўдзіла. Успомніў, з якой пагардай Паліна казала, калі развіталіся, пра ягоную былую працу, з якой упэўненасцю даводзіла, што ён не «ўпішацца» ў той асяродак, у якім яна жыве: крыўда проста спальвала яго.

Але як ні дзіўна — усё ж ён удзячны Паліне за тое, што яна «падштурхнула» яго да дзеяння і цяпер ён не проста нейкі там неўладкаваны ў жыцці юнак, а сапраўдны мужчына, які ведае сабе цану…

«Не буду я ёй тэлефанаваць, — урэшце вырашыў Ігар. — Пагрэбавала мною, палічыла нявартым — няхай цяпер шукае лепшых. А ў мяне яшчэ нямала часу наперадзе. Ёсць Карына, будуць яшчэ дзяўчаты, калі што… А можа, я на Карыне ажанюся. А што?.. Дзяўчына вабная… А Паліна?.. Можа, і мне стаць юрыстам, як яна? Грошай хопіць і на рэпетытараў, і на вучобу. А хутка іх будзе яшчэ болей: дырэктар, калі пайду вучыцца, абяцае зрабіць сваім намеснікам па персанале.

Не, што ні робіцца — усё да лепшага.

Добра, што Паліна мне адмовіла, — думаў Ігар. — Так, жыцця пачатак — мноства калідораў. Ніхто не ведае, які з іх выведзе да сапраўднага кахання. І што рабіць? Заходзіць па чарзе ў кожны, рабіць некалькі крокаў і, зразумеўшы, што ён не твой, уцякаць? Або выбраць адзін наўдачу, і крочыць па ім да канца, куды б ён ні завёў — ва ўтульны пакойчык, дзе ты апынешся разам з сям’ёй, ці да новага шляху, які зноў разыдзецца на некалькі сцежак, і так бясконца? Магчымасцей шмат, жыццё адно. У мяне яно толькі пачынаецца, і ўсё яшчэ наперадзе».



Эдуард ГРАКОВІЧ

# Я НЕ ГОСЦЬ...

## БУКЕТ РАМОНКАЎ

У вузкай вазачцы крыштальнай
Букет рамонкаў палявых
Я на кухонны столік стаўлю,
Слоў колькі выказаўшы ўслых.

Няхай і нешырокі столік,
Букет не будзе замінаць.
Запахла ў хаце летнім полем,
І я пачаў успамінаць.

Ураз прымроіліся сцежкі
Праз травяністыя палі,
Дзе з быццам стоенай усмешкай
Рамонкі белыя цвілі.

Стрыжы на вербах шчабяталі,
Стаяў пагодлівы дзянёк,
І прыгажуня маладая
Пляла рамонкавы вянок.

* * *

Не змаўкае ў лесе
перастук зацяты,
І няма дакору:
«Хай бы ён прыціх».
З-пад кары пажыву
дабываюць дзятлы.
Хваляць гэтых дбалых
лекараў лясных.

---

***Граковіч Эдуард Браніслававіч*** *нарадзіўся 27 мая 1951 года ў Мінску. Скончыў сярэднюю школу №28. З 1971 года працуе на Мінскім заводзе аўтаматычных ліній.*

*Аўтар паэтычных кніг «Няхай гарыць свечка ў святліцы» (2006), «Залатая вербачка» (2009).*

Я ж пры перастуку
дзедаўскую ступку,
Дзе таўклі прыправы,
раптам прыгадаў.
А таксама шафку,
дзе на чайным кубку
Дзяцел маляваны
міла выглядаў.

## ДЗЕ НАСТУРКІ НЕКАЛІ ЦВІЛІ

Ні лістка на бэзавым галлі.
Пуста пад акном каля падмурка,
Дзе чырвона-жоўтыя настуркі
Так прыгожа некалі цвілі.

Быў да іх я ўважны той парой:
Блізка да акна не падыходзіў,
Аніводнай кветкі не пашкодзіў
Пры жаданні ўбачыцца з табой.

Водарам і выглядам сваім
Нас красуні тыя чаравалі.
Бачацца жывымі, хоць і звялі:
Зараз іх мы ў снах нярэдка снім.

* * *

Трамвай прыбыў на ўскраіну,
На пункт свой канцавы.
Бялеюць зоркі раннія
Над купалам царквы.

Турботы дня працоўнага
Скідаюцца з плячэй,
А клопаты духоўныя
Нам вытрымаць лягчэй.

Даводзіцца шмат вынесці
Тут на зямлі ў гасцях,
А прыйдзе час — апынемся
Ля брамы небыцця.

Пакуль жывём, стараемся
Жыццю ўсміхацца мы.
А ў тэрмін дастаўляемся
На пункт свой канцавы.

## ЦНА І ЦНЯНКА

***Вось яны — Цна, Цнянка.***
***Цна — рэчка, а Цнянка — вёска…***
***Бачыў Цну і Цнянку не раз.***

Фёдар Янкоўскі

Я шчыра ўдзячны прабацькам
За млын, карчму, хаціны,
Дзе рэчку Цну перасякаў
Даўгінаўскі гасцінец.

Гаворкі водзяцца здаўна,
Ды ўсё без вызначэння,
Адкуль паходзіць назва «Цна»:
Ад цноты ці ад ценю?

Гадоў мо з сотня, як пры Цне
Паўстала вёска Цнянка.
Люблю яе я ўсё мацней,
Душы маёй заранку.

Усё мне родна, блізка тут —
З усім я па-сваяцку.
Мінчане знаюць гэты кут,
Скуль родам быў мой бацька.

Прыкметна абмялела Цна,
Навечна мне святая.
Даўно няма карчмы, млына.
Ды вёска — зберагае.

Дарогай, па якой дзядзькі
У Мінск хадзілі пеша,
Аўтобус ходзіць гарадскі:
Маршрут сто трыццаць першы.

# СВЯТЛО МІКАІЛА МУШФІГА

*У Беларускім педагагічным універсітэце імя Максіма Танка ў Мінску адбылася цікавая падзея — вечар паэтаў Мікаіла Мушфіга і Максіма Багдановіча. Прайшла імпрэза ў Цэнтры азербайджанскай культуры, якім у аднолькавай ступені апякуюцца Азербайджан і Беларусь. Тут гучалі вершы і песні на беларускай і азербайджанскай мовах. Сюды — з мэтай, каб пагаварыць пра Яе Вялікасць Паэзію, — прыйшлі беларускія паэты, літаратуразнаўцы. У Беларусі не трэба тлумачыць, чаму ў пярэдадзень юбілею класіка беларускай нацыянальнай паэзіі сабраліся вядомыя творцы. Але ж Мушфіг... Чаму менавіта ён стаў абраннікам размовы, ушанавання? Чаму азербайджанскі мастак Каміль Камал прэзентаваў на сустрэчы партрэт, у якім адлюстраваў двух нацыянальных творцаў?..*

*«Лёс паэзіі» Мікаіла Мушфіга — гэта яго жыццёвы і касмічны лёс. Ён у многім падобны на лёс беларускага Максіма. Усяго 11 гадоў працаваў азербайджанскі паэт у літаратуры. Ён пісаў пра сябе: «Самыя нешчаслівыя мінуты майго жыцця — гэта мінуты, якія праходзяць без вершаў». «Лёс паэзіі» Мушфіга — гэта лёс нашай планеты, нашай, агульначалавечай, прысутнасці ў часе, наша дарога ў вечнасць.*

*«Свабода — душа творчасці і верша»... Ён імкнуўся да свабоды. І ён не ўсё, пэўна, тады, у 1930-я, калі і яго, маладога, раструшчыў сталінскі махавік, разумеў у пераабсталяванні рэчаіснасці. Нават нешта пісаў пра вялікага Сталіна незадоўга перад тым, як патрапіць у жорны рэпрэсіўнай машыны. І ўсё ж Мушфіг — сапраўдны празорлівец. Для таго, каб гэта зразумець сёння, трэба прачытаць яго вершы. Трэба іх пераасэнсаваць, што і паспрабавалі зрабіць маладыя беларускія перакладчыкі Юлія Алейчанка і Адам Шостак.*

*Любоў да жыцця — такі лейтматыў гучыць у большасці вершаў Мушфіга. Вялікі паэт Каўказа падобна беларускаму генію Максіму Багдановічу спалучыў гранічную шчырасць з велізарным жаданнем умясціць у сваю паэтычную душу і любоў да сучаснікаў і папярэднікаў, і наступнікаў. Празорліваму творцу гэта, як на наш погляд, удалося. Ён бачыў трывогу і драматызм зменлівага свету. Позірк гэты і сёння ідзе праз святло, разбурае змрочныя колеры.*

*...На вечарыне ў педагагічным універсітэце якраз пра гэта гаварылі беларускія паэты Навум Гальпяровіч, Віктар Кажура, казахская паэтэса, якая нарадзілася ў Беларусі, піша на рускай мове (піша сваю галоўную песню пра Беларусь!) Любоў Шашкова, перакладчык Аляксей Чарота, дыпламат Руфат Ільясаў, мастак Каміль Камал... Дарэчы, на вечары нагадалі і пра тое, што Мікаіл Мушфіг быў у Мінску ў 1936 годзе (а ў 1937 годзе паэта не стала). Прымаў удзел у вечары азербайджанскай паэзіі. А зараз вось у суверэннай Беларусі — новая сустрэча азербайджанскага паэта з беларускім чытачом.*

***Алесь КАРЛЮКЕВІЧ, Салатын МІРЗАЕВА***

**Мікаіл МУШФІГ**

# ЗІХАЦЕЦЬ БЛІСКУЧАЙ СТРАЛОЮ

## ЗОРКІ

Ў нябесным кветніку агней жывых
Вы казачна гарыце, быццам макі.
Раманс вачэй спяваеце услых,
Кахання і пяшчоты дзіўнай знакі.

Гляджу з зямлі ў далеч тумаоў,
А вы ў адказ глядзіце жарсна, палка.
І слёзы на вачах маіх ізноў —
Не разгадаць складаную загадку…

Што між каханай паўстае і мной.
Адно аднаму мы шчэ не знаёмы.
Ды сэрцы блізка. Ад мілосці стома.

Ды сэрцы блізка! То не ёсць гульнёй.
І хай адлегласць гэта застаецца —
Тваім святлом я буду вечна грэцца!

## ЛАНЬ

Не хадзі па вострых скалах, не хадзі —
На каменнях ногі зраніш, лань мая!
Закаханы я, не бойся, падыдзі.
З ясным позіркам дрыготкім, лань мая!

Ты пужліва аглядаешся вакол,
І душа мая ахоплена агнём.
Квет вачэй тваіх буяе з кожным днём.
Быццам смелыя струмені, лань мая!

Я вандроўнік. І захоплены красой.
Хай ніколі не хварэць табе журбой!
Я па скалах вострых за табой
У трывозе паімчуся, лань мая!

## СОНЦА І ПОЗІРК

Усюды снег і люты холад вечны,
Палохае пад лёдам чысціня.

І песня ветру кожны зімні вечар
Заглушыць зноў ўсе фарбы-гукі дня.

Ўсё сціхла і як быццам анямела —
Бліжэй, бліжэй залётная вясна.
Хачу, каб далеч гор зазелянела
І жменяй кветак сталася яна!

Рукою сонца скіне снег імгненна,
І запульсуюць хуткіх рэчак вены
Ў падзяку сонцу, небу, цеплыні.

Таксама ажываю я з табою
Пад ветлым позіркам пяшчотнаю вясною.
Як наша шчасце свеціцца, зірні!

* * *

Маўкліва мой тар вісіць на сцяне
І быццам бы чуе, як роспачна мне.
Няўжо яго струны зусім анямелі?

Як раней, аздоба на сонцы зіхціць,
Душа перламутравым бляскам дрыжыць,
Не веру, што песні яго адгрымелі.

Каханая позна з працы прыйшла
І тар у самоце ціхмянай знайшла.
Бярэ медыятар і кратае струны.

Жыццё наша — вернасць,
нам жыць ў барацьбе,
Маўчаць не да твару ні мне, ні табе,
Надзейны мой тар, старажытны і юны!

***З азербайджанскай.***
***Пераклад Юліі АЛЕЙЧАНКІ.***

* * *

Я люблю вас, аблокі, калі нада мною
Вы павольнаю плывеце даўгой чарадою;
Нават неба, што мёртвым было да той хвілі,
Са з'яўленнем вы ў момант адзін ажывілі.

Я ніякай патрэбы, разліку не маю,
Але рукі чамусьці да вас выцягаю.
Што вам толку ў вандроўцы без ціхай мінуты?
Што вас гоніць кудысьці? Надзея? Пакуты?

Ах, аблокі, аблокі, аблокі, аблокі,
Крутагрывы сусвет ваш высокі, далёкі;
Быццам конніца на феерычным парадзе,
Вы ляціце, знікаючы на даляглядзе…

Саштурхоўвае вецер вас, зноў разганяе,
Серабрыстая ваша тканіна ліняе,
Распаўзаецца на шаўкавістыя ніткі —
І зноў вецер штурхае вас, рэзкі і брыдкі…

Пралятаюць над безданню гордыя крылы,
Цьмяна-ржавы метал нібы казачнай сілы…
Што чакае вас там, у далёкай краіне?
Але зноў калі смутак на вас так нахлыне

І саб’ецеся раптам з дарогі жаданай,
Аб маёй нагадаеце зноўку каханай.
Эх, юнацтва крыніца, запал сакаліны,
Ты не хочаш задумлівай слухаць быліны?

Дні ідуць — а я песні складаю заўзята…
Мае верныя будні працоўнага свята,
Калі ўсмешку аблокам я шлю на вітанне
І ў свой сшытак ізноў напішу пра каханне.

Я не воблака ў небе, не ветру забава!
Іншы лёс мой і іншая трэба мне слава:
Я хачу, як маланка, бліскучай стралою
Зіхацець над аблокаў вялізнай гурмою.

* * *

Высокі я абраў сабе маршрут —
Пад’ём і барацьба, не зацісканне ў кут.
І добра жыць і марыць мне тады,
Як бачу справе я сваёй адданасць.
Плён ў працы дорыць чалавеку радасць!
Я малады, я мару, што святло спаткаю.
Як месяц ясны, ты, паэзія світання!
Я толькі распускаю ветразь белы.
І хай імчыцца нескароны, смелы!

* * *

А без свабоды сэнс які ў жыцці?
Без зорак ноч — не бачна, як ісці.
Культура без свабоды — пустацвет,
І жыць не можа без яе паэт.

***З азербайджанскай.***
***Пераклад Адама ШОСТАКА.***

Ірына ШАЎЛЯКОВА-БАРЗЕНКА

# БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА Ў ІНФАРМАЦЫЙНЫМ ГРАМАДСТВЕ: ПАГРОЗЫ ЯК ГАРАНТЫЯ ПЕРСПЕКТЫЎ

З часу першых спроб канцэптуалізаваць у сярэдзіне 1960-х — пачатку 1970-х гг. праблематыку грамадска-эканамічнага ўладкавання новага тыпу быў прапанаваны цэлы шэраг адпаведных тэорый [1]. Працэс стварэння так званых калібравальных канцэпцый сучаснасці ў XXI ст. становіцца яшчэ больш інтэнсіўным. Аднак, нягледзячы на ўзмацненне палемічнасці ў міждысцыплінарным дыскурсе, да сярэдзіны 2010-х гг. акрэсліўся інварыянтны набор ключавых характарыстык грамадства, якое рознымі даследчыкамі атрыбутуецца як «постэканамічнае», «постіндустрыяльнае», «інфармацыйнае», «інфармацыянальнае» і інш.

У сувязі з асэнсаваннем спецыфікі і перспектыў развіцця найноўшага мастацтва найбольш істотнымі сярод гэтых характарыстык бачацца:

● ператварэнне інфармацыі і ведаў у асноўныя вытворчыя сілы і рэсурсы з адначасовым «станаўленнем творчасці як найбольш распаўсюджанай формы вытворчай дзейнасці» [2];

● трансфармацыя глыбіннай структуры інфармацыі і, адпаведна, інфармацыйнай прасторы, якой надаецца статус спецыфічнай *рэальнасці*;

● *сеціўнасць* як ключавы прынцып уладкавання і функцыянавання грамадства;

● надзвычайная дынамічнасць, рухомасць аксіялагічнай сферы (фарміраванне новай каштоўнаснай сістэмы ў выніку істотных трансфармацый сацыяльнай структуры);

● дэтэрмінаванасць сацыякультурных працэсаў імклівым пашырэннем «галактыкі камунікацый» (М. Маклюэн);

● *панметафарызм* як метадалогія фарміравання новай інфармацыйнай рэальнасці і інструмент сацыякультурнай уплывовасці.

Асаблівасці існавання беларускай літаратуры ў новай інфармацыйнай рэальнасці ў самым агульным сэнсе задаюцца двума восевымі параметрамі:

— у пачатку XXI стагоддзя беларуская літаратура захоўвае тыпалагічныя адзнакі літаратуры класічнага тыпу;

— новая інфармацыйная рэальнасць якасна змяняе ўмовы функцыянавання мастацкай славеснасці.

Да дэталёвага асэнсавання заканамернасцей развіцця беларускай літаратуры ў дынаміцы тыпаў літаратурнай творчасці мы звярталіся ў асобных працах [гл., напрыклад: 4; 5]. Тут згадаем толькі, што тып літаратурнай творчасці разглядаецца намі як своеасаблівая стратэгія спасціжэння і аднаўлення быцця ў мастацкім тэксце. Яна паўстае вынікам дынамічнага ўзаемадзеяння аксіялагічных, эстэтычных, змястоўных, вобразна-выяўленчых ідэй, прынцыпаў, арыенціраў, прыёмаў і вызначае спецыфіку інтэгратыўнай мадэлі літаратуры пэўнага перыяду, вектар і асаблівасці развіцця літаратурнага працэсу. Прапануецца вылучаць міфапаэтычны, класічны, некласічны, постнекласічны тыпы літаратурнай творчасці. Паводле агульнакультурнай логікі, у беларускай літаратурнай прасторы пачатку XXI ст. павінны былі б суіснаваць некласічны і постнекласічны тыпы,

аднак дамінуе якраз класічны тып. Некласічны тып літаратурнай творчасці актуалізуецца праз асобныя складнікі, прычым успрымаецца і стваральнікамі мастацкіх твораў, і чытачамі як версія класічнага тыпу. Прысутнасць постнекласічнай стратэгіі ў літаратурнай прасторы другога дзесяцігоддзя XXI ст. фіксуецца на ўзроўні несістэмных «флуктуацый».

Разуменне сутнаснай спецыфікі літаратуры з дамінаваннем класічнага тыпу творчасці неабходнае для комплекснага асэнсавання пагроз, з якімі сутыкаецца нацыянальнае мастацтва слова ў новай інфармацыйнай рэальнасці. Пры гэтым галоўным бачыцца не ўласна канстатацыя рызык, але вызначэнне шляхоў іх пераадолення, паколькі «многія абставіны, якія ўяўляюць сабою найвялікшую небяспеку, у той жа час утрымліваюць і неверагодныя новыя магчымасці» [6].

Рызыкі для развіцця беларускай літаратуры ў новай інфармацыйнай рэальнасці можна прадставіць у структураваным выглядзе. У першым набліжэнні відавочна адрозніваюцца рызыкі:

- *экзагенныя* (знешнія ў дачыненні да мастацтва слова);
- *эндагенныя* (што ўплываюць непасрэдна на функцыянаванне літаратуры як мастацкай сістэмы).

**1.** ***Экзагенныя (пазалітаратурныя) рызыкі*** могуць быць ранжыраваны паводле генезісу і маштабу сваёй уплывовасці.

1.1. Калі разглядаць нацыянальнае мастацтва слова як кампанент сусветнай культуры, то найбольш відавочнымі рызыкамі для беларускай літаратуры ў кантэксце медыяцэнтраванай сучаснай культурнай прасторы акрэсліваюцца рызыкі *самаізалявання* і *герметызацыі*, якія сутнасна з’яўляюцца двума ўзаемазвязанымі этапамі аднаго працэсу.

Паводле аднаго з самых вядомых сацыёлагаў сучаснасці М. Кастэльса [3], базавая структура інфармацыйнага грамадства заснавана на сеціўнай логіцы. Адпаведна, калі вы не ў сетцы, вы не можаце паўнавартасна ўдзельнічаць у жыцці сучаснага (=сеціўнага) грамадства. У выпадку з беларускай літаратурай агульная пагроза (сама)адчужэння мастацтва слова ад кантэксту медыякультуры ўскладняецца асаблівасцямі гісторыка-культурнага развіцця і сённяшняга статусу нацыянальнага прыгожага пісьменства. Варта таксама браць пад увагу спецыфічныя стасункі пісьменнікаў з айчыннымі медыя, масавай аўдыторыяй, пераважна негатыўную стэрэатыпізацыю вобраза пісьменніка, сучаснага пісьменства наогул. Так, беларуская літаратура сёння прадстаўлена ў Сеціве, але ў відавочна недастатковай ступені, каб успрымацца актуальным феноменам інфармацыйнай прасторы. Уласна выпрацоўка стратэгій фарміравання сучаснай *нацыянальнай прасторы чытання* (звязаных у ліку іншага з інтэнсіўным асваеннем Сеціва) у сярэдзіне 2010-х гг. усё яшчэ знаходзіцца на стадыі задоўжанага праектавання.

Між тым, сама сеціўная прырода / логіка развіцця сучаснага грамадства для найноўшай беларускай літаратуры ўтрымлівае разнастайныя магчымасці для пераадолення згаданых вышэй пагроз. Спынімся тут на адной з такіх магчымасцей.

Інфармацыйнае грамадства задае прынцыпова новую якасць хранатопа (часапрасторы) існавання мастацкай літаратуры. Высокатэхналагічныя інструменты камунікацыі здольныя ў літаральным — геаграфічным — сэнсе нівеліраваць паняцце «межаў» у дачыненні да прысутнасці беларускай літаратуры ў свеце. Адзін (хоць і не адзінкавы) прыклад — «паэтычна-геаграфічны» інтэрнэт-праект «Вершы без межаў», запушчаны маладым паэтам, музыкантам М. Найдзёнавым. Творы з яго дэбютнага зборніка «Развітанцы» (2015) чыталі беларусы ў розных кутках свету (у ЗША і на Гоа, у Чэхіі і В’етнаме, у Даніі і Славакіі); відэаролікі спачатку выкладваліся ў адну з сацыяльных сетак, пасля разышліся па іншых рэсурсах інтэрнэта. Гэты праект падаецца выдатнай ілюстрацыяй да размовы пра якасныя змены нацыянальнай прасторы чытання, якая становіцца ў гэтым выпадку лакалізаванай (беларускацэнтраванай) і глабальнай (бязмежавай) адначасова.

Яшчэ адна рызыка для мастацтва слова ў постэканамічным грамадстве звязана з прымусовай *індустрыялізацыяй* — як працэсу, так і вынікаў творчасці. Да ліку найбольш характэрных рыс сучаснага стану культуры даследчыкі адносяць стагнацыю ў далучэнні да традыцыйнай культуры, а таксама перанос інтарэсу з традыцыйнай культуры на індустрыяльную; адпаведна, так званы культурны прадукт нясе адзнакі серыялізацыі, стандартызацыі, тэхналагізацыі [7].

Магчыма, для беларускай літаратуры згаданая рызыка актуальная ў найменшай ступені, хаця кантэкст культуры як вытворчасці даступных «прадуктаў» відавочна ўтрымлівае рызыку маргіналізацыі. Справа ў тым, што феномен магчымасці, а дакладней — прынцыповай не-магчымасці беларускага масліту абмяркоўваецца у айчыннай публічнай прасторы ўжо чвэрць стагоддзя, з 1990-х гг. У новай інфармацыйнай рэальнасці тое, што не ўцягваецца ў агульную плынь, рызыкуе аказацца на ўзбочыне культурнага жыцця. Такім чынам, беларуская літаратура як літаратура класічнага тыпу аказваецца ў сітуацыі выбару паміж дзвюма пагрозамі: маргіналізацыі і «натуральнай» (безварыянтнай) масіфікацыі (мімікрыі пад ландшафт маскульту, густы масавага чытача); размова, па сутнасці, ідзе пра неабходнасць «спусціцца» да патрэб масавага чытача.

Магчымасці пераадолення згаданых рызык мы звязваем якраз з мэтаскіраваным выкарыстаннем патэнцыялу індустрыялізацыі. Так, даследуючы спецыфіку глабальнага светапогляду і яго ўплыву на культурнае развіццё, Т. Андрыянава прыводзіць [7] цікавыя лічбы. У ЗША штогод ладзіцца больш за 200 паэтычных турніраў; у амерыканскіх універсітэтах існуе больш за 280 факультэтаў, дзе займаюцца выкладаннем навыкаў паэтычнай творчасці. Нарэшце, наладжана вытворчасць паэтычных скрынак з літарамі-магніцікамі, з якіх не толькі можна выкладваць немудрагелістыя вершыкі, але і дасылаць «творы» ў фірму, што выпускае паэтычныя скрынкі. Вытворца абяцае ўключаць іх у штогадовае выданне падобнай паэзіі. У ЗША такіх паэтычных скрынак прадаецца да 50 тысяч у месяц, а аб'ём продажаў складае 6,5 мільёнаў долараў штогод.

Індустрыялізацыя, якая ў глабальным маштабе ўспрымаецца як рызыка для «высокага» мастацтва слова, для найноўшай беларускай літаратуры ўтрымлівае, на наш погляд, неблагія магчымасці для пераадолення пагроз самаізаляцыі і герметызацыі. Скіраванае выкарыстанне патэнцыялу індустрыяналізацыі (асобных рашэнняў, механізмаў, прыёмаў, піяр-стратэгій) можа быць важным крокам на шляху да актуалізацыі літаратуры класічнага тыпу ў сучаснай сацыякультурнай прасторы (як атрымалася, напрыклад, з ператварэннем «вышыванак» у модны трэнд, адным з вынікам якога сталася актуалізацыя традыцыйнага беларускага арнаменту ў моладзевым асяроддзі). Інакш кажучы, у новай інфармацыйнай рэальнасці выжыванне літаратуры класічнага тыпу наўпрост залежыць не ад задавальнення чытацкіх патрэб, але ад стратэгіі іх актыўнага фарміравання.

1.2. Для <u>беларускай літаратуры як феномена айчыннай сацыякультурнай прасторы</u> ў <u>сінхранічным плане</u> найбольш істотнымі рызыкамі, на наш погляд, сёння становяцца пагрозы *негатыўнай элітарнасці* і *«этнаграфічнасці».*

Першая мае на ўвазе павелічэнне камунікатыўнага разрыву паміж творамі найноўшай нацыянальнай літаратуры і так званай шырокай чытацкай аўдыторыяй. Цікава, што ўспрыманне публікай сучаснай беларускай літаратуры як «мінус-элітарнай» грунтуецца на незнаёмстве з творамі, на іх, так бы мовіць, прынцыповым не-чытанні (класічным творам альбо творам так званага «школьнага канону» пашанцавала больш). Пры гэтым пад уплывам *негатыўнай элітарнасці* дэфармуецца ўспрыманне не толькі твораў, але і вобразаў пісьменнікаў.

Другая пагроза — «этнаграфічнасці» — вынікае з першай. Актыўнае нежаданне грамадскасці быць абазнанай у сучаснай нацыянальнай літаратуры вынікам мае стэрэатыпізацыю ўспрымання найноўшага мастацтва слова ў духу «музейнасці», «этнаграфічнасці», нават «архаічнасці».

Трэба сказаць, што адчуванне вяртання да мінулага канстатуецца ў многіх працах, прысвечаных фенаменалогіі сучаснасці. Так, аўтар хвалявай тэорыі цывілізацыі Э. Тофлер адшуквае ў постіндустрыяльнай цывілізацыі адзнакі «дыялектычнага вяртання» да аграрнага грамадства, у ліку якіх дэцэнтралізацыя і змяншэнне маштабаў вытворчасці, аднаўляемыя крыніцы энергіі, дэурбанізацыя, надомная праца і да т. п. [6]. Але ў дачыненні да літаратурнага развіцця ўжо зараз гэтае вяртанне набывае прыкметы пагрозы. Па сутнасці, гэта рызыка замены «развіцця» — «згортваннем». Найноўшай літаратуры як бы па вызначэнні адмаўляецца ў актуальнасці, сучаснасці, уласна «найноўшасці». Гэтую пагрозу можна яшчэ сфармуляваць як пагрозу *перараджэння эвалюцыі ў інвалюцыю*: «…калі рускія фармалісты ў 1920-я гады пісалі пра эвалюцыю як механізм літаратурнага развіцця, то напрыканцы ХХ стагоддзя, магчыма, варта гаварыць пра феномен *інвалюцыі* як механізм культурнага тармажэння, самаразбурэння, згортвання, своеасаблівага і невыпадковага "шляху назад"», — заўважае ў кантэксце даследавання масавай літаратуры канца ХХ — пачатку ХХІ ст. М. Чарняк [8, с. 8—9].

Гістарычная неабходнасць сцвярджаць штораз нанова ўласную ідэнтычнасць прыводзіць да фарміравання *ідэнтычнасці абарончага кшталту* (прадметам асобнай увагі, выключна цікавым і неадназначным, у гэтым сэнсе бачыцца феномен *тутэйшасці*). Новай інфармацыйнай рэальнасцю ідэнтыфікацыйныя працэсы таго кшталту ацэньваюцца як неэфектыўныя. Абарона тут роўная паражэнню, сама спецыфіка новага інфармацыйнага асяроддзя вымагае наступлення, экспансіі, актыўнасці. Для беларускай літаратуры эвалюцыйныя перспектывы звязаны, на наш погляд, з трансфармацыяй ідэнтычнасці абараняльнай у ідэнтычнасць праектнага кшталту. Паводле М. Кастэльса, найбольш спрыяльныя ўмовы для гэтага маюцца якраз у інфармацыйным грамадстве, сеціўная прырода якога заснавана на ўласцівасцях інтэрактыўнасці і індывідуалізацы. Паколькі «ідэнтычнасці паўстаюць у дзеянні», сеціўнае грамадства «спараджае рухі супраціўлення і нават рухі праектнай ідэнтычнасці» [3]. На наш погляд, змена вектару ідэнтыфікацыйных працэсаў з абараняльных на праектныя звязана з канструяваннем найноўшай *мастацкай міфалогіі беларушчыны* як агульнанацыянальнага праекта і адначасова (сама)ідэнтыфікацыйнага праекта найноўшай літаратуры. Прычым у беларускай літаратурнай прасторы пачатку ХХІ ст. можна заўважыць пэўныя сведчанні на карысць таго, што пераход да *ідэнтычнасці праекта* не ёсць чыстай футуралогіяй[1].

Зварот да *найноўшай беларускай літаратуры ў кантэксце нацыянальнага гісторыка-культурнага працэсу* (у дыяхранічным плане) у айчыннай даследчыцкай традыцыі мае на ўвазе асэнсаванне пэўных заканамернасцей літаратурнага развіцця. На думку ж тэарэтыкаў постіндустрыяльнага грамадства, чалавек інфармацыйнай цывілізацыі будзе выдатна падрыхтаваны да таго, што «заканамернасць можа мецць прамым наступствам адсутнасць заканамернасці» [6].

З улікам некаторых асаблівасцей развіцця айчыннай літаратурнай прасторы канца ХХ — пачатку ХХІ ст.[2], мы можам гаварыць пра рызыку замены гісторыка-культурнага развіцця як працэсу якасных змяненняў сукупнасцю флуктуацыйных з'яў, альбо своеасаблівым *флуктуацыйным квазіразвіццём*.

---

[1] Маем на ўвазе не толькі гісторыяцэнтрычныя (Л. Рублеўская) ці ўласна гістарычныя (А. Бутэвіч, А. Пашкевіч, Я. Конеў і інш.) аповесці ды раманы, але і філасофска- і сацыяльна-псіхалагічную прозу (В. Казько, Ф. Сіўко, І. Бабкоў, А. Федарэнка, Б. Пятровіч), жанрава-стылявыя эксперыменты С. Балахонава, а таксама публікацыі паэтаў розных пакаленняў (Л. Галубовіча, В. Шніпа, І. Хадарэнкі, Н. Кудасавай і інш.), шэраг твораў драматургіі, эсэістыкі, літаратурнай крытыкі.

[2] Выспявае гэта рызыка ў айчыннай культуры, верагодна, яшчэ з пачатку 1990-х, калі многія літаратурныя з'явы, якія падаваліся надзвычай рэвалюцыйнымі, на самай справе былі спараджэннем не «сістэмы навацыйных тэндэнцый», а хутчэй «постфактумам забароненых тэндэнцый» [9, с. 36].

Як вядома, «у любога развіцця ёсць прычына — пэўнае адхіленне ў працаванні зыходнага стацыянарнага працэсу. Такое адхіленне называецца флуктуацыяй. Калі флуктуацыя ўстойлівая, яна ператвараецца ў тэндэнцыю — тэндэнцыю развіцця» [10]. На нашу думку, рызыка палягае ў тым, што літаратурны працэс ў новай інфармацыйнай рэальнасці можа ўяўляць сабою дынамічны хаос няўстойлівых «флуктуацый» — рэакцый на выклікі часу, патрэбы масавай аўдыторыі, масмедыйныя трэнды і г. д. Галоўная іх уласцівасць — *адсутнасць «наступстваў»,* г. зн. колькі-небудзь заўважных якасных змен. У той час як літаратура «можа існаваць толькі за кошт пастаяннага абнаўлення. Працэс літаратурнай эвалюцыі — гэта змена мастацкай арбіты, спрэчка з традыцыяй, змена культурных кодаў» [11, с. 13].

**2.** ***Рызыкі эндагеннага (унутрылітаратурнага) кшталту***, як і пагрозы экстралітаратурныя, могуць быць прадстаўленыя структуравана. Калі разглядаць літаратуру як складанаарганізаваную мастацкую сістэму, можна заўважыць, што з пачатку XXI ст. змены закранаюць у той ці іншай ступені кожны з яе узроўняў: аксіялагічны, змястоўна-сэнсавы, жанрава-стылявы, ацэначна-рэфлексійны.

2.1. Рухомасць *аксіялагічнай сферы*, звязаная з фарміраваннем новай каштоўнаснай сістэмы ў выніку істотных трансфармацый сацыяльнай структуры сучаснага грамадства, для беларускай літаратуры не азначае аўтаматычнай пагрозы разгойдвання ці нават радыкальнай замены сістэмы *каштоўнасцей, змястоўна-сэнсавых* прыярытэтаў.

На нашу думку, у беларускай літаратурнай прасторы 1990-х — 2000-х гг. парадыгмальных зрухаў не адбываецца. Бо змены парадыгм звязаныя з «раптоўнымі зменамі поглядаў на свет», што можна следам за Т. Кунам параўнаць з эфектам пераключэння зрокавага гештальту («імгненным калапсам набору ключавых катэгорый і ўяўленняў, што прэвалююць у пэўныя гістарычныя перыяды» [12]. Інакш кажучы, з 1990-х гг. і па сённяшні час у беларускай літаратурнай прасторы доўжыцца перыяд збірання, назапашвання, праектавання будучых пераўтварэнняў.

Памежжа XX—XXI стст. у гуманітарным дыскурсе апісваецца ў тэрмінах «пераходнасці», характарызуецца «агульнай размытасцю ўсіх асноўных эстэтычных катэгорый і крытэрыяў сацыякультурнага развіцця, а таксама каштоўнасна-сэнсавай няпэўнасцю культурнай семантыкі ў цэлым» [11, с. 191]. Даследчыкі сучаснасці ў якасці найважнейшай і нязводнай крыніцы сацыяльных значэнняў у схільным да сэнсавай інфляцыі інфармацыйным грамадстве прымаюць ідэнтычнасць, якая «становіцца галоўнай, а часам адзінай крыніцай сэнсаў» [3].

Для беларускай літаратуры як літаратуры класічнага тыпу канец XX — пачатак XXI ст. — гэта перыяд актывізацыі ідэнтыфікацыйных працэсаў, сярод якіх ці не галоўнае месца належыць працэсам каштоўнаснай (сама)ідэнтыфікацыі праз сцвярджэнне аўтэнтычных нацыянальных каштоўнасцей. Паказальна, што ў агульнай сітуацыі глакалізацыі (дынамічнага «скрыжавання» плыняў глабалізацыі і лакалізацыі як росту ўплывовасці рэгіянальных феноменаў) у беларускай культурнай прасторы пачатку XXI ст. узрастае прыярытэт аксіялогіі нацыянальнай. Гэта, у пэўным сэнсе, ёсць натуральнай рэакцыяй на спецыфічнасць існавання ў сучасным свеце, бо там «дзе адбываюцца настолькі некантралюемыя і бязладныя змены, людзі схільны групавацца вакол першасных крыніц ідэнтычнасці: рэлігійных, этнічных, тэрытарыяльных, нацыянальных» [3].

Але варта звярнуць увагу на з’яву, якая выспявае амаль у эпіцэнтры працэсаў (сама)ідэнтыфікацыі.

Нарастанне напружання паміж працэсамі глабалізацыі і лакалізацыі адным з наступстваў мае неабходнасць кадзіроўкі традыцыйных каштоўнасцей у новай сістэме [3]. У розных нацыянальных сістэмах каардынат абіраецца свой алгарытм

(спосаб) кадзіравання. Паказальна, што ў ліку найбольш уплывовых тэндэнцый, якія вызначаюць характар літаратурнага працэсу ў краінах постсавецкай прасторы, згадваецца неаміфалагізацыя мастацкай свядомасці. На адпаведную сітуацыю ў беларускай літаратурнай прасторы накладваецца таксама панметафарызм як агульная метадалогія і «ўнутраная форма» новай інфармацыйнай рэальнасці: «…мы бачым… рэальнасць не такой, якой яна ёсць, а такой, якой нашы мовы дазваляюць нам яе бачыць. А нашы мовы — гэта нашы сродкі масавай інфармацыі. Нашы СМІ — гэта нашы метафары. Нашы метафары ствараюць змест нашай культуры» [цыт. па: 3].

Натуральнай рэакцыяй літаратуры класічнага тыпу на згаданы кантэкст ёсць заглыбленне ў традыцыйныя для яе каштоўнасці і сэнсы. Так, аксіялагічныя і змястоўна-сэнсавыя пошукі беларускай літаратуры і ў першыя дзесяцігоддзі XXI ст. цэнтруюцца вакол феномена *беларушчыны*. Найбольш натуральнымі структурамі для ўвасаблення згаданага зместу ёсць структуры неаміфалагічнай мастацкай свядомасці, якія ў сілу панметафарычнага характару новай інфармацыйнай рэальнасці таксама становяцца *панміфалагічнымі*. Выкарыстоўваючы паняцце панміфалагізму мастацкай свядомасці для апісання пагрозы, з якой можа сутыкнуцца беларуская літаратура, мы маем на ўвазе інвалюцыйныя наступствы з’явы, якая абсалютызуецца.

Зрэшты, аналіз беларускага літаратурнага працэсу канца XIX — пачатку XXI ст. у гісторыка-тыпалагічным ключы дазваляе гаварыць пра тое, што згаданая пагроза для нацыянальнай літаратуры можа застацца толькі прадчуваннем. Адна (але зноў-такі не адзіная) магчымасць пазбегнуць гэтай рызыкі закладзена, на наш погляд, у «рэгенератыўнай функцыі» (Г. Гарыпава) беларускага рамантызму як з’явы, здольнай да ўзаемадзеяння сінтэтычнага кшталту з іншымі мастацка-эстэтычнымі феноменамі і аднаўлення штораз у новай якасці. Так, эвалюцыйная лінія развіцця беларускага рамантызму, вехавыя феномены якога атаясамліваюцца з творчасцю Яна Баршчэўскага, Янкі Купалы, Уладзіміра Караткевіча, у найноўшай літаратурнай прасторы набывае адметную (эвалюцыйную) рэалізацыю ў пісьменнікаў, чые мастацкія сусветы істотна адрозніваюцца паводле «мадальнасці»: згадаем творчасць А. Сыса, Л. Рублеўскай, П. Васючэнкі, А. Казлова, В. Чаропкі, Э. Акуліна, С. Балахонава і інш.

На наш погляд, паняцце рэгенератыўнай функцыі можа быць пашырана да *самарэгенератыўнасці* як агульнай уласцівасці беларускага нацыянальнага мастацтва слова. Гэтая ўласцівасць, з аднаго боку, вынікае з разумення мастацкай літаратуры як складанаарганізаванай сістэмы, здольнай да самаразвіцця. Але, з другога боку, эвалюцыя прыкметы ў сістэмную ўласцівасць у дачыненні да беларускай літаратуры звязана са спецыфікай яе гісторыка-культурнага развіцця: «Беларуская культура штораз, са сваіх патрэб зыходзячы, асвойваецца ў больш развітых культурных кантэкстах праз дынаміку арыгінальных мастацкіх структур. Так, наша класіка XX ст., ад Купалы і Гарэцкага да Танка і Быкава, наша выбітная літаратура ў кожным таленавітым творы вырашае адраджэнцкую задачу — задачу сцвярджэння беларуса, беларускага светабачання — як задачу кожны раз мадэрновую (сучасную)» [13, с. 398].

Цікава, што самарэгенератыўнасць як уласцівасць нацыянальнай літаратуры ў постіндустрыяльным грамадстве, выразна арыентаваным на інтэнсіўны рост разнастайнасці, патэнцыяльна ўтрымлівае пагрозу «рэтардацыйнасці». Маецца на ўвазе адмысловая паўтаральнасць праблемна-тэматычнага поля з наступнай стэрэатыпізацыяй яго складнікаў: згадаем, напрыклад, пра тыражуемы стэрэатып твораў беларускіх пісьменнікаў як «твораў пра вайну і вёску», самотна-журботных, звернутых у мінулае і г. д. На наш погляд, найбольш эфектыўным адказам для літаратуры класічнага тыпу на гэту рызыку з’яўляюцца пошукі новых кодаў (жанравага, сюжэтна-кампазіцыйнага, вобразна-выяўленчага), з дапамогай якіх

анталагічна важная праблематыка занатоўвалася б у сучаснай сацыякультурнай прасторы як востра акутальная. Пра наяўнасць і разгортванне гэтых пошукаў на пачатку XXI ст. можна меркаваць на падставе твораў пісьменнікаў розных пакаленняў і эстэтычных зацікаўленняў: Р. Барадуліна і А. Дуброўскага-Сарочанкава, А. Разанава і В. Жыбуля, Ф. Сіўко і А. Аркуша, Р. Баравіковай і Т. Сівец, В. Казько і А. Федарэнкі, А. Бутэвіча і С. Балахонава, В. Мудрова і А. Брава ды інш.).

2.2. Характар трансфармацый *жанрава-стылявога ўзроўню* літаратуры як мастацкай сістэмы абумоўліваецца, з аднаго боку, радыкальнымі зменамі мысленчай сферы «чалавека інфармацыйнага», якія падрыхтоўваюцца імклівай інфарматызацыяй і тэхналагізацыяй усіх сфер грамадскага быцця, а з другога боку — спецыфікай постіндустрыяльнай вытворчасці.

Так, даследчыкі сучасных грамадска-культурных і эканамічных працэсаў указваюць на тое, што «грамадства перайшло ад дыскурсіўнага метаду асэнсавання да вобразнага» [7]. Сучасны культуролаг С. Лэш звязвае з гэтым феномен прынцыпова новага прадстаўлення культуры і істотных трансфармацый творчых метадаў: з аднаго боку, ключавым паняццем становіцца «вобраз», з другога — тэхналагічнасць і эканамічная эфектыўнасць.

Самае непасрэднае дачыненне да істотнага абнаўлення жанравай сістэмы беларускай літаратуры як літаратуры класічнага тыпу будуць мець, на наш погляд, дзве рэчы:

- «мініяцюрызацыя» ўсіх сфер вытворчасці ў постіндустрыяльнай эканоміцы і гаспадарцы [2].
- экспансія новага — электроннага — фармату чытання.

У кантэксце разгляду пагроз для літаратуры класічнага тыпу ў новай інфармацыйнай рэальнасці гэтыя моманты аказваюцца самым цесным чынам звязаныя. Справа ў тым, што ў 2000-х гг. падчас абмеркаванняў праблематыкі чытання было распаўсюджана меркаванне, што фармат прадстаўлення тэксту (на папяровым, электронным носьбітах) сутнасна не ўплывае на структуру, тып і якасць чытання. Аднак у другой палова 2010-х гг. ужо маецца дастаткова важкіх падстаў для таго, каб гаварыць пра істотныя трансфармацыі розных складнікаў чытання як сацыякультурнага феномена ў выніку імклівай інфарматызацыі прасторы чытання.

Так званае электроннае чытанне — гэта не проста змена носьбітаў «цела тэксту», а істотныя *функцыянальныя* змены чытацкіх стратэгій і культуры. Гэта пацвярджаецца вынікамі маштабных міжнародных сацыялагічных і педагагічных даследаванняў. Адной з самых рэзанансных з'яўляецца PISA[1] — Міжнародная праграма па ацэнцы адукацыйных дасягненняў вучняў (Programme for International Student Assessment), якая ажыццяўляецца Арганізацыяй эканамічнага супрацоўніцтва і развіцця АЭСР (OECD — Organization for Economic Cooperation and Development). У межах падрыхтоўкі да даследавання PISA 2018 г. быў падрыхтаваны праект новай канцэпцыі чытацкай граматнасці[2] (PISA 2018 Draft Reading Literacy Framework, 40$^{th}$ meeting of the PISA Governing Board, 26—28 October 2015, Munich, Germany), дзе знайшло адлюстраванне ўсведамленне ўплыву электроннага тыпу тэкстаў на здольнасць юнага чытача ўспрымаць, асэнсоўваць, аналізаваць і інтэрпрэтаваць тэксты розных відаў (у тым ліку мастацкія).

---

[1] Галоўным аб'ектам увагі PISA з'яўляюцца 15-гадовыя маладыя людзі. Даследаванне скіравана на ацэнку іх здольнасцей выкарыстоўваць атрыманыя ў школе веды і ўменні ў жыццёвых сітуацыях: ацэньваюцца прыродазнаўчая граматнасць, матэматычная граматнасць і граматнасць чытання (вывучэнне апошняй пазіцыі пачалося з 2000 г.).

[2] У межах даследавання PISA граматнасць чытання разумеецца ў шырокім сэнсе — як «здольнасць вучняў да асэнсавання тэкстаў рознага зместу і фармату і рэфлексіі на іх, а таксама да выкарыстання прачытанага ў розных жыццёвых сітуацыях» [14].

Новыя фарматы чытання змяняюць не толькі само чытанне, але і істотным чынам уплываюць на фарматы бытавання тэксту.

Жанравая сістэма айчыннай літаратуры адмысловым чынам пачала рэагаваць на гэта яшчэ ў 1990-х гадах: ужо тады стала заўважнай перавага ў агульнай жанравай структуры мастацкай славеснасці малых і мініяцюрных форм, прычым не толькі ў прозе ды паэзіі, але і ў крытыцы.

У межах розных родаў літаратуры «мініяцюрызацыя» жанравай сістэмы мае свае асаблівасці. Так, у эпасе, дзе раман быў выцеснены на перыферыю аўтарскіх інтарэсаў жанрамі малой (апавяданне, навела) і мініпрозы (абразкі, імпрэсіі, зацемкі, фрэскі і г.д.), яна спалучалася з фрагментарызацыяй тэксту, што спарадзіла шэраг жанравых эксперыментаў (згадаем «Адама Клакоцкага і ягоныя цені. Раман у 10-ці эпізодах» (2001) І. Бабкова, «Рэканструкцыю неба. Раман у дэталях» (2002) В. Гапеевай, «Арфаграфію без правілаў. Караценькі раман-агапэ» (2008) Н. Старавойтавай і інш.).

У лірыцы тэндэнцыя да мініяцюрызацыі спалучана з празаізацыяй. На ўзроўні зместу апошняя выявілася ў легітымацыі рэчаў, з’яў, падзей, што ў нядаўнім часе ўспрымаліся як брутальныя альбо нават антыэстэтычныя (найбольш ярка гэта адлюстравана ў зборніках вершаў А. Хадановіча, З. Вішнёва, С. Прылуцкага, В. Жыбуля і інш.). У плане формы наступствам стала «вызваленне» паэтычнага тэксту ад рыфмы і агульная верлібрызацыя паэтычнага маўлення. Для ліраэпасу мініцюярызацыя азначае рэзкае скарачэнне прысутнасці жанру паэмы ў айчыннай літаратурнай прасторы, а таксама відавочнае сцяжэнне, рэдукцыю эпічнага складніка балады. Важкія наступствы мініяцюрызацыя мае і для жанравага спектра беларускай крытыкі — у выглядзе фактычнага знікнення з бягучай крытыкі жанраў аналітычнага і агляднага артыкула, а таксама рэдукцыі рэцэнзіі да інфармацыйнай нататкі ці анатацыі.

Наступствы мініяцюрызацыі жанравай сістэмы для літаратуры з дамінаваннем класічнага тыпу творчасці могуць быць больш важкімі, чым падаецца на першы погляд. Аднак здольнасць беларускага мастацтва слова да самаарганізацыі і самарэгэнерацыі ўтрымлівае магчымасці для пераадолення згаданых наступстваў. Яскравым аргументам на карысць гэтага нам падаецца з’яўленне ў 2007 г. твора Л. Рублеўскай «Забіць нягодніка, альбо Гульня ў Альбарутэнію». Гэты твор у змястоўна-сэнсавым плане ёсць *мастацкім даследаваннем* гісторыі выжывання беларушчыны як нацыянальнай ідэі падчас рэпрэсій 1920-х — 1930-х гг. Традыцыйная аксіялагічная важкасць згаданай праблематыкі ўвасабляецца аўтарам у жанры «рамана-інструкцыі». Кампазіцыйна ён выбудаваны як своеасаблівы квест, што складаецца з набораў нумараваных элементаў: «Удзельнік…» (іх 5), «Абсталяванне для гульні», «Гульня» (6 «версій»), «Па-за гульнёй» (8 «фрагментаў»), «Фінальная гульня» (2 «варыянты»), «Эпілог» (5 «камбінацый»). Героі-гульцы «фізічна» перамяшчаюцца з Мінска 2000-х у Менск 1933 г. праз своеасаблівы прагал у часепрасторы. Размешчаны ў інтэрнэце[1], твор набывае ўласцівасці сапраўднага гіпертэксту, у межах якога карыстальнік можа абіраць сваю траекторыю «Гульні ў Альбарутэнію», канструяваць сюжэт з розных камбінацый фрагментаў, вызначаць фінал і г. д. Аўтар звяртаецца да гульнёвага арсенала постмадэрнісцкай літаратуры, актуалізуе асобныя жанрава-стылявыя кампаненты гатычнага рамана, скарыстоўвае некаторыя прыёмы з рэпертуару фэнтэзі, дэтэктыва, меладрамы. У выніку маем узор удалай трансфармацыі жанравай формы рамана ў адказ на выклікі новай інфармацыйнай рэальнасці. Пры гэтым аўтару ўдалося напоўніцу скарыстаць змястоўны

[1] Гл., напрыклад, тэкст рамана, размешчаны на сайце «Родныя вобразы»: http://rv-blr.com/litaratura/view/2143.

патэнцыял рамана як формы вялікага эпасу і закадзіраваць анталагічна важныя для нацыянальнай традыцыі каштоўнасці, ідэі, канцэпты ў асобаснай мастацкай версіі агульнабеларускай гісторыі.

2.3. *Ацэначна-рэфлексійны* ўзровень найноўшай літаратуры ў сэнсе кампанентнага складу больш разнастайны, чым два-тры дзесяцігоддзі таму: да літаратурнай крытыкі (прафесійнай і пісьменніцкай), чытацкіх водгукаў, публікацый у неспецыялізаваных СМІ ў XXI ст. далучаецца літаратурная журналістыка як адметная з'ява, пры гэтым пашыраецца спектр форм і суб'ектаў уласна крытычнай дзейнасці.

Як вядома, камп'ютарныя сеткі «індывідуалізуюць камунікацыю і робяць яе інтэрактыўнай» [1, с. 140]. Адной з відавочных тэндэнцый беларускага літаратурнага працэсу 2000-х — 2010-х гг. стала перамяшчэнне ў інтэрнэт і дыскусій пра беларускую крытыку, і аператыўнага крытычнага працэсу. Мы з'яўляемся сведкамі фарміравання не толькі сеціўнай крытыкі як новага складніка літаратурнага працэсу, але і карыстальніцкай крытыкі як новай сілы (суб'екта) гэтага працэсу.

Варта мець на ўвазе складаныя варункі, у якіх апынулася беларуская крытыка напачатаку XXI ст. У гэты час пануе спецыфічная (негатыўная) атмасфернасць успрымання айчыннай крытыкі ў літаратурнай і калялітаратурнай прасторы. Сувязі ўнутры тандэма «крытыка — літаратуразнаўства» відавочна аслабіліся, што яшчэ больш ускладняецца дэмаграфічным калапсам як вынікам «міграцыі» крытыкаў у літаратуразнаўства. Крытыка перажывае рэпутацыйны крызіс на фоне агульнай функцыянальнай разгубленасці. Вышэй мы ўжо згадвалі пра неспрыяльныя для прафесійнай крытыкі трансфармацыі жанрава-стылявой сістэмы ў новай інфармацыйнай рэальнасці. Калі экспертная (прафесійная) крытыка аддае перавагу праблемным артыкулам (палемічнага, аналітычнага, аглядавага кшталту), літаратурным партрэтам, літаратурна-крытычным эсэ, рэцэнзіям, то літаратурная журналістыка рэалізуецца ў формах рэкламнай нататкі, эсэізаванай анатацыі, скетча па матывах калялітаратурнага жыцця. Новая інфармацыйная рэальнасць вымагае ад крытыкі да рэдукавання традыцыйных жанраў з адначасовым квантаваннем тэксту — падзелам яго на невялікія фрагменты. Пры гэтым крытычны дыскурс татальна эсэізуецца — на ўзроўні метадалогіі, інструментарыя, тэхнікі пісьма. Асобным жанрам крытычнай творчасці становіцца віртуальная асоба. Прычым калі гаварыць пра карыстальніцкую крытыку, то галоўнымі параметрамі гэтага «высокатэхналагічнага» жанру становяцца:

— імгненнасць (як версія аператыўнасці традыцыйнай крытыкі);

— інтэнсіўнасць (колькасная агрэсія);

— суб'ектывізм (адрозны ад суб'ектыўнасці як іманентнай уласцівасці любога меркавання ў гуманітарным дыскурсе);

— правакатыўнасць (у процівагу арыентаванасці экспертнай крытыкі на верагоднаснасць, аргументаванасць выказвання);

— інтэрактыўнасць (шматвектарная зваротная сувязь паміж крытыкамі-карыстальнікамі, пісьменнікамі, чытачамі інтэрнэт-дапісаў).

Відавочна, што (у адрозненне ад прафесійнай крытыкі) ідэальна супадаюць з чаканнямі і прыярытэтымі новай інфармацыйнай рэальнасці якраз карыстальніцкая крытыка і літаратурная журналістыка (нацэленая на мінімальную аналітычнасць пры максімальнай суб'ектывізацыі ацэнкі).

З улікам згаданых абставін ужо зараз даволі выразна акрэсліваюцца пазіцыі, па якіх становішча крытыкі ў новай інфармацыйнай рэальнасці будзе толькі абвастрацца. Так, перанос інтарэсу з традыцыйных форм прадстаўлення літаратурнага твора як культурнага прадукта на эфектыўныя з пункту гледжання інфармацыйнай эканомікі абумоўлівае рызыку *нефункцыянальнасці экспертнай (прафесійнай) крытыкі*, а таксама звязаную з гэтай рызыкай пагрозу татальнай «прафанацыі» крытычных ацэнак — усталяванне *дыктату прафаннай ацэнкі літаратурных з'яў*.

Магчымасць пераадолення гэтых пагроз звязваецца намі, па-першае, з развіццём сеціўнай крытыкі; па другое, са стратыфікацыяй — пашырэннем відавой разнастайнасці. Побач з прафесійнай крытыкай будуць функцыянаваць карыстальніцкая крытыка і літаратурная журналістыка. Аднак неабходна забяспечыць належны ўзровень развіцця экспертнай крытыкі — як структураўтваральнага кампанента ацэначна-рэфлексійнага ўзроўню мастацкай літаратуры. Крытыка будзе змушана актывізаваць пошукі новых стратэгій уплывовасці. Напрыклад, у сітуацыі памнажэння культурнай (у тым ліку літаратурна-мастацкай) разнастайнасці можна звярнуцца да стратэгій так званага складанаснага мыслення (М. Кастэльс), здольнага выпрацаваць метадалогію разумення разнастайнасці і метамову для апісання гэтай разнастайнасці.

*Такім чынам*, асаблівасці развіцця беларускай літаратуры ў інфармацыйным грамадстве абумоўліваюцца як параметрамі новай інфармацыйнай рэальнасці, так і прыналежнасцю айчыннай мастацкай славеснасці да літаратур з дамінаваннем класічнага тыпу творчасці. Ужо напачатку XXI ст. найноўшае прыгожае пісьменства сутыкаецца з рознаўзроўневымі рызыкамі, пазалітаратурнага і ўнутрылітаратурнага кшталту. «Сімфанічны» характар іх узаемадзеянняў і ўзаемаўплываў прадвызначае міждысцыплінарную метадалогію апісання і аналізу праблемы. Пры даследаванні рызык экзагеннага кшталту асабліва плённым падаецца зварот да прац М. Маклюэна, М. Кастэльса, Э. Тофлера, іншых філосафаў, сацыёлагаў, культуролагаў, антраполагаў, што займаюцца даследаваннем постіндустрыяльнай цывілізацыі. Аналіз уплываў новай інфармацыйнай рэальнасці на розныя ўзроўні нацыянальнай літаратуры як мастацкай сістэмы (аксіялагічны, змястоўна-сэнсавы, жанрава-стылявы, ацэначна-рэфлексійны) вымагае звароту да шырокага спектра айчынных і замежных гісторыка- і тэарэтыка-літаратурных даследаванняў. Урэшце, ключавая пазіцыя пры разглядзе перспектыў развіцця нацыянальнай літаратуры ў інфармацыйным грамадстве звязана з разуменнем адпаведных рызык як «рэзервуара магчымасцей» для іх пераадолення.

## Спіс літаратуры

1. Уэбстер, Ф. Теории информационного общества / Ф. Уэбстер; пер. с англ. М. В. Арапова, Н. В. Малыхиной; под ред. Е. Л. Вартановой. — М. : Аспект Пресс, 2004. — 400 с.

2. Иноземцев, В. Л. Современное постиндустриальное общество: природа, противоречия, перспективы: учеб. пособие для студентов вузов / В. Л. Иноземцев. — Москва: Логос, 2000 — 304 с. [Электронный ресурс] Электронная библиотека по философии http://filosof.historic.ru. — Режим доступа: http://filosof.historic.ru/books/item/f00/s00/z0000946/index.shtml. — Дата доступа: 22.09.2016.

3. Кастельс, М. Информационная эпоха: экономика, общество и культура; пер. с англ. под науч. ред. О. И. Шкаратана / М. Кастельс [Электронный ресурс] Библиотека Гумер: http://www.gumer.info. — Режим доступа: http://www.gumer.info/bibliotek_Buks/Polit/kastel/index.php. — Дата доступа: 23.09.2016.

4. Шаўлякова-Барзенка, І. Л. «Утылітарная аксіялогія»: беларуская літаратура канца XX — пачатку XXI стагоддзяў у *рэтраперспектыве* тыпаў літаратурнай творчасці / І. Л. Шаўлякова-Барзенка // Науковий вісник Волинського національного університету імені Лесі Українки. Філологічні науки. Літературознавство. — Луцьк, 2010. — № 11. — С. 280—284.

5. Шаўлякова-Барзенка, І. Л. Аксіялогія пераходнасці: парадокс як заканамернасць развіцця беларускай літаратуры пачатку XXI ст. / І. Л. Шаўлякова-Барзенка // Міжнародныя Шамякінскія чытанні «Пісьменнік — Асоба — Час» : матэрыялы III Міжнар. навук.-практ. канф., Мазыр, 27 верасня 2013 г. / УА МДПУ імя І. П. Шамякіна ; рэдкал.: А. У. Сузько (адк. рэд.) [і інш.]. — Мазыр, 2013. — С. 72—76.

6. Тоффлер, Э. Третья волна / Э. Тоффлер [Электронный ресурс] Библиотека Гумер: http://www.gumer.info. — Режим доступа: http://www.gumer.info/bibliotek_Buks/Culture/Toffler/_Index.php. — Дата доступа: 10.09.2016.

7. Андрианова, Т. В. Культура и технология / Т. В. Андрианова. — М. : ИНИОН, РАН. — 1998. — 120 с.

8. Черняк, М. А. Массовая литература конца XX — начала XXI века: технология или поэтика? / М. А. Черняк // Филологический класс. — 2008. — № 20. — С. 4—11.

9. Гарипова, Г. Т. Логика и динамика развития русского литературного процесса конца XX — начала XXI века: тенденции и перспективы / Г. Т. Гарипова // Вестник Челябинского государственного университета. — 2013. — № 20 (311). — Филология. Искусствоведение. — Вып. 79. — С. 36—40.

10. Кривохатько, Н. И. Ввертикальное мышление. Наброски к методологии системно-физического познания / Н. И. Кривохатько [Электронный ресурс] http://sfkm.inf.ua/wm_title.htm. — Режим доступа: http://sfkm.inf.ua/wm_glava6_flukt_razvit.htm. — Дата доступа: 22.09.2016.

11. Черняк, М. А. Массовая литература XX века: учеб. пособие / М. А. Черняк. — 4-е изд., стер. — М. : Флинта, 2013 [Электронный ресурс] Электронная библиотека iknigi.net, 2013-2016. — Режим доступа: http://iknigi.net/avtor-mariya-chernyak/79914-massovaya-literatura-xx-veka-uchebnoe-posobie-mariya-chernyak.html. — Дата доступа: 23.09.2016.

12. Кучумова, Г. В. Роман в системе культурных парадигм (на материале немецкоязычного романа 1980 — 2000 гг. / Г. В. Кучумова [Электронный ресурс]. — Режим доступа: http://cheloveknauka.com/roman-v-sisteme-kulturnyh-paradigm. — Дата доступа: 20.02.2015.

13. Сінькова, Л. Д. Тэрміны «паскоранасць», «паскоранае развіццё» ў апісаннях славянскіх і неславянскіх літаратур / Л. Д. Сінькова // Мовазнаўства. Літаратура. Культуралогія. Фальклярыстыка: XIII Міжнар. з’езд славістаў (Любляна, 2003): Дакл. бел. дэлегацыі / НАН Беларусі. Беларускі камітэт славістаў. — Мінск : Бел. навука, 2003. — С. 388—399.

14. Центр оценки качества образования ИСРО РАО. Programme for International Student Assessment: Monitoring Knowledge and Skills in the New Millennium PISA 2000 [Электронный ресурс]: Министерство образования и науки Российской Федерации. Институт стратегии развития образования Российской академии образования. Центр оценки качества образования. — Режим доступа: http://www.centeroko.ru/pisa/pisa_res.htm. — Дата доступа: 12.09.2016.

Артыкул паступіў у рэдакцыю 11 кастрычніка 2016 года.

## Рэзюмэ

**Ірына ШАЎЛЯКОВА-БАРЗЕНКА**

### Беларуская літаратура ў інфармацыйным грамадстве: пагрозы як гарантыя перспектыў

Адным з ключавых параметраў інфармацыйнага грамадства з’яўляецца фарміраванне новай інфармацыйнай рэальнасці. Найноўшая беларуская літаратура ў гэтай сістэме каардынат сутыкаецца з рызыкамі (пагрозамі), якія могуць быць іерархізаваныя ў залежнасці ад характару і маштабу ўплывовасці. Экзагенныя рызыкі выяўляюцца ў кантэкстах глабальнага і лакальнага сацыякультурнага развіцця. Істотны ўплыў новай інфармацыйнай рэальнасці адчуваюць

розныя ўзроўні нацыянальнай літаратуры як мастацкай сістэмы (аксіялагічны, змястоўна-сэнсавы, жанрава-стылявы, ацэначна-рэфлексійны). У артыкуле прапануецца разглядаць пазалітаратурныя і ўнутрылітаратурныя пагрозы як феномен, што ўтрымлівае і шырокія перспектывы для развіцця нацыянальнага мастацтва слова.

**Ключавыя словы**: беларуская літаратура, інфармацыйнае грамадства, новая інфармацыйная рэальнасць, рызыкі (пагрозы), мастацкая сістэма.

## Summary

**Iryna SHAULIAKOVA-BARZENKA**

### The Belarusian literature in the information society: threats as a guarantee of the prospects

A key feature of the information society is the formation of new information reality. In this area contemporary Belarusian is faced with the complex of the risks (threats). These risks can be represented hierarchically, depending on the genesis and the scale of influence. Exogenous risks manifest themselves in the context of global and the context of local social and cultural development. If we consider the national literature as the art system, we will be able to notice a significant impact that the new information reality has on different levels of this system (axiological, conceptual, and semantic, genre and style, assessment and reflexive). External and internal threats are considered as a complicated phenomenon that contains broad prospects for development of the Belarusian literature.

**Keywords**: Belarusian literature, information society, new information reality, the risks (threats), art system.

**Зінаіда ДРАЗДОВА**

# ІНДЫВІДУАЛЬНАСЦЬ СТЫЛЮ: ІВАН НАВУМЕНКА І ВАСІЛЬ БЯЛОЎ

У цэнтры ўвагі дадзенага даследавання — першаэлемент, мова літаратурнага твора, стыль пісьменніка. Менавіта адштурхоўваючыся ад кораня, ад моўнай матэрыі і ідучы да сферы ідэй, вобразнага ладу, літаратуразнаўца можа даць больш поўнае і цэласнае разуменне стылю пісьменніка, па-новаму ўбачыць яго мастацкае майстэрства. Бо толькі праз мову, як адзначаюць вучоныя, ляжыць шлях да аб'ектыўнага, сапраўды навуковага разумення сутнасці і сэнсу твора.

Патрэба ў працах, прысвечаных беларуска-рускім сувязям, сёння ўсведамляецца і прызнаецца многімі літаратуразнаўцамі. Ёсць мастацкія творы, якія для даследчыка літаратуры быццам напрошваюцца для параўнання. Такімі, на наш погляд, з'яўляюцца аповесці беларускага пісьменніка Івана Навуменкі «Развітанне ў Кавальцах» (1974) і рускага пісьменніка Васіля Бялова «Воспитание по доктору Споку» (1968—1978), якая ўключае цыкл апавяданняў. Аповесці прысвечаны «жаночаму пытанню», выкрыццю сапраўднай сутнасці такіх з'яў жаночага руху, як ідэі эмансіпацыі, заклікі жанчыны «да свабоды», раўнапраўя з мужчынамі. Цікава, што галоўныя гераіні названых твораў Навуменкі і Бялова носяць адно і тое ж імя — Антаніна, Тоня. Першая з іх працуе ў навукова-даследчым інстытуце Мінска, другая — у бібліятэцы.

Адной з асноўных тэм выдатнай аповесці Івана Навуменкі «Развітанне ў Кавальцах» (1974) з'яўляецца тэма кахання. Менавіта каханнем «выпрабоўвалі» сваіх любімых і нелюбімых герояў пісьменнікі-класікі, выяўляючы глыбінныя рысы іх характару, маральны воблік, іерархію каштоўнасцей. Не выключэнне ў гэтым сэнсе і названы намі навуменкаўскі твор, які праз каханне паказвае ўнікальнасць, адметнасць чалавека, а таксама стан грамадства.

У цэнтры аповесці — гісторыя кахання вясковага настаўніка Яўгенія Раманавіча да дачкі ляснічага Антаніны, супрацоўніка аднаго з навукова-даследчых інстытутаў Мінска. Яна — філолаг, мае дыплом настаўніцы літаратуры, ён — студэнт-завочнік матэматычнага факультэта ўніверсітэта.

Пачатак аповесці змяшчае рамантычную прадгісторыю ўзаемаадносін герояў — Жэні і Антаніны — «ціхмянага» хлапчука і «пушыстай» дзяўчынкі з вялікімі сінімі вачамі. Хлапчук шмат чытаў і ведаў, быў смелы, умеў рабіць цікавыя рэчы і расказваць незвычайныя гісторыі, чым выклікаў захапленне ў дзяўчынкі і прымусіў яе сказаць словы, якія засталіся ў яго памяці надоўга: «Я выйду замуж толькі за цябе… <…> Бо ты сільны і ўсё ўмееш» [5, с. 404, 430].

Апавяданне пра хлапчука і дзяўчынку пададзена ў трэцяй асобе, але далей у аповесці мы маем справу з «я-апавяданнем»: былы хлапчук пасля кароткага экскурсу ў мінулае вяртаецца да сучасных яму падзей. Між тым вобраз дзяўчынкі Антаніны, якая прасіла хлапчука злавіць ёй сінюю птушку, будзе лейтматывам праходзіць праз увесь твор, надаючы яму лірычна-рамантычны арэол, каб у фінале ўзмацніць драматычнае гучанне. Бо сіняй птушкі Жэня так і не зловіць для каханай.

«Далёкая маленькая Антаніна» будзе з'яўляцца да яго ў мроях у час службы ў арміі і вучобы ва ўніверсітэце. І калі ўжо міне першая маладосць, у Жэні

з'явіцца жаданне аднавіць у адносінах з Антанінай «тое, што тоненькай нітачкай намецілася ў дзяцінстве». Ён саступіць сваю аднапакаёвую кватэру ў Мінску з ваннай, газавай плітой сястры і прыедзе працаваць настаўнікам у Кавальцы, дзе жывуць бацькі дзяўчыны.

Аднак не так проста ўсё аднавіць. Рамантычна настроены малады чалавек занадта сур'ёзна ставіцца да дзіцячага захаплення Антаніны яго асобай, хоча вярнуць гэта крохкае пачуццё, шукае ў цяперашняй загадкавай дзяўчыне тую ранейшую сур'ёзную, задуменную дзяўчынку. Калі ён нагадаў ёй пра даўняе знаёмства, то атрымаў адказ, які вельмі здзівіў і збянтэжыў яго — Антаніна нічога не помніла: «Яна нарэшце сказала тое, аб чым я даўно здагадваюся. Пушыстая дзяўчынка з тоўстымі ножкамі, заплеценай касой, вялікімі, нібы здзіўленымі вачамі і Антаніна — дзве розныя істоты. Гэта — відная, рослая, прыгожая — за тую даўнюю ні ў якой меры адказваць не можа» [5, с. 436—437].

Жэня імкнецца разгадаць таямніцу паводзін Антаніны, зменлівасць, стыхійнасць, «цякучасць» яе настрою: «Вось такая яна. Кожнай хвіліны новая, не падобная на ранейшую. Нібы імклівая рэчка, якая змяніцца, пакуль наважыш ступіць у яе другі раз» [5, с. 415].

Міжволі прыгадваецца коласаўская Ядвіся, мележаўская Ганна, тургенеўская Ася, талстоўская Наташа. Антаніна падобная на іх незапраграмаванасцю, непрадказальнасцю, разнастайнасцю пачуццяў, але адначасова моцна розніцца своеасаблівасцю паводзін. Жэня губляецца ў жаданні зразумець, што стаіць за тым ці іншым учынкам Антаніны. Ён адчувае яе стрыманасць, нежаданне завязваць з ім блізкія адносіны, але некаторыя яе ўчынкі даюць герою надзею. Тым не менш у размовах паміж маладымі людзьмі няма ўзаемаразумення, на якое хоча разлічваць настаўнік, няма еднасці, згоды, душэўнай цеплыні, што вельмі яго засмучае: «Дзіўныя ў нас адносіны. Хутка два гады, як я аднавіў знаёмства з Антанінай, але, сустрэўшыся, мы толькі жартуем, пацвельваемся, падколваем адно другога. Гэта тая мяжа, якой мы абое ні разу не пераступілі. Калі не лічыць вераснёвай ночы. Але і пасля яе пачалося тое самае. Зрэшты, гэта добра. Мы з Антанінай адно другому нічым не абавязаны [5, с. 412—413].

Яўгеній Раманавіч з тых людзей, якія адрозніваюцца душэўнай далікатнасцю, цярпімасцю, не любяць ціснуць на іншых, паважаюць іх аўтаномнасць, іх выбар. Каханне прыносіць яму не толькі радасць, але і душэўны разлад, смутак: «Для людзей — жыву спакойна, ураўнаважана, а ў душы — разлад. Няма дня, нават гадзіны няма, каб не думаў пра Антаніну. Яна як насланнё, ад якога нельга пазбавіцца. Нібы свет сышоўся толькі на ёй» [5, с. 416]. Аснова прыхільнасці Яўгенія Раманавіча да Антаніны — душэўная, маральная, хоць яму падабаецца ўсё ў яе целе, фізічным вобліку: ямачкі на шчочках, «ладная постаць», «паўнаватая зграбная пастава», «коратка падстрыжаныя валасы», «злёгку прыплюшчаныя знаёмыя вочы», якія нярэдка зіркаюць з насмешкай. Адзначым, што пісьменнік пры абмалёўцы дарослай Антаніны ўжо нідзе не гаворыць пра яе вялікія блакітныя вочы. І ўвогуле не вельмі захапляецца апісаннямі яе фізічнага вобліку, хоць ускосным чынам і даводзіць, што дзяўчына прыгожая, карыстаючыся той жа, «гамераўскай», формай партрэта, паказваючы, як яе хараство дзейнічае на іншых. Напрыклад, сцэнай у рэстаране, дзе да яе па чарзе падыходзяць маладыя людзі, запрашаючы ў круг: «Яна прыкметная, на яе кідаюць позіркі з суседніх столікаў. І яна не тоіць, што ўвага ёй падабаецца» [5, с. 440—441].

Яўгеній Раманавіч — чалавек вялікага душэўнага такту і глыбокі псіхолаг. Ён не выказвае Антаніне папроку ў тым, што яна ўвесь час танцуе з іншымі, не падае выгляду, што незадаволены, бо на першы план ставіць інтарэсы дзяўчыны, добра разумеючы, што любоў каштоўна тым, што дае альтэрнатыву, свабоду выбару. Яму не патрэбна пачуццё, вырванае сілай. Тым больш, што Жэня пранікнёна адгадвае, што менавіта практычны разлік і стрымлівае каханую, што яна шукае больш перспектыўнага спадарожніка. Таму і папракае «з ценем незадаволенасці

на твары» яго ў тым, што пакінуў сваю кватэру сястры: «Мне свая кватэра пакуль што і не снілася», — гаворыць яна са смуткам. Звернем увагу на тое, што і Жэня пры ўсёй яго пагардзе да матэрыяльных выгод і дабрабыту тым не менш заўважае залежнасць ад іх каханай: «Мне захацелася азірнуцца, але я стрымаў сябе. Машыны ў мяне няма, невядома, ці будзе, і няма сэнсу лавіць вецер у полі. Я прыехаў да Антаніны без дасягненняў, якія б мелі вартасць у яе вачах. У гэтым прычына таго, што мы бясконца гуляем у кошкі-мышкі…» [5, с. 431]. Роздум над паводзінамі закаханага інтэлігента ў творах Навуменкі даў падставу В. Каваленку гаварыць аб несвабодзе яго пачуццяў, падуладнасці «сацыяльнай і маральнай прыхамаці часу, у які жыве», «недастатковасці духоўнай забяспечанасці пачуццяў і ўчынкаў» [3, с. 12]. Захапляючыся «жывой, натуральнай рамантыкай паводзін» саўгаснага трактарыста Міколы і яго жонкі Насці, іх «вернасцю пачуццю», «смеласцю, безагляднасцю і ахвярнасцю ўчынкаў», Каваленка заўважае: «Сямейная гісторыя простых людзей Міколы і Насці — нібы папрок Жэню і Антаніне, а таксама героям-інтэлігентам з іншых твораў пісьменніка, з іх пачуццёва вялымі любоўнымі імкненнямі, з мяшчанскай засцярогай, каб, не дай Бог, не прайграць у выбары суджанага, запраграмаваць наперад гарантаваны спакой і дастатак. Многія з іх гавораць і думаюць пра каханне, але разам з тым іх не пакідае падсвядомы страх, а ці будзе ў іх жыцці булка з маслам. У імкненні ж Міколы і Насці да ўзаемнага шчасця не было ні хістання, ні нават хвіліннага роздуму, дзе будзе больш выгадна. Яны ішлі на покліч уласнага сэрца і не памыліліся» [3, с. 11—12].

Цікава, што не мужчына, а жанчына-інтэлігент у Навуменкі адрозніваецца большым рацыяналізмам, клапоціцца аб памнажэнні матэрыяльнага складніка жыцця. Жэня ў большай ступені, чым Антаніна, жыве душою, сэрцам, а не розумам, хоць жыць сэрцам — прызначэнне жанчыны. Думаецца, Антаніна і выбірае карэспандэнта, спадзеючыся, што ён можа забяспечыць поўны дастатак, бо ўжо дасягнуў таго-сяго ў матэрыяльным плане. Аднак вельмі нават магчыма, што і пачуццё да яго аказалася мацнейшым, бо не трэба пакідаць без увагі і такія дэталі паводзін дзяўчыны пры сустрэчы з карэспандэнтам, аб якіх занепакоена гаворыць Жэня: «Мне не да Івана. Ніколі не бачыў я Антаніну такой вясёлай. Яна нешта даказвае суседу, узмахвае рукой, твар расчырванеўся, на шчоках ямачкі. Калі дзяўчына хоча спадабацца, яна ўмее быць прыгожай» [5, с. 449], так што галоўнаму герою аповесці «Развітанне ў Кавальцах» не застаецца нічога іншага, як далікатна сысці з дарогі. І ў адносінах да героя нельга гаварыць пра пачуццёва вялыя «любоўныя імкненні», а пра вялікую душэўную далікатнасць і чуйнасць да пачуццяў каханай.

Цэнтральны персанаж аповесці Васіля Бялова «Воспитание по доктору Споку» — чалавек больш рэзкі ў выяўленні пачуццяў і ацэнкі людзей, чалавек з хрысціянскімі поглядамі на сям'ю, шлюб, каханне. У дыялогу з Уладзімірам Бандарэнкам рускі пісьменнік прызнаецца, што «Костя Зорин из «Воспитания по доктору Споку» — это я сам, мое отношение к жизни, а Иван Африканович — частично я сам, частично другие люди [1, с. 173]. Такім чынам, Канстанцін Зорын, яго ўнутраныя маналогі-разважанні — гэта разважанні самога Бялова.

У адрозненне ад навуменкаўскага Жэні герой Бялова Косця — жанаты, сямейны чалавек. Ён любіць сваю Тоню, дачку Ляльку, але яго не задавальняюць жончыны адносіны да яго. У аповесці не даецца падрабязнага партрэта Тоні. Ён абазначаны некалькімі штрыхамі. Вось муж назірае за ёю, калі яна спіць: «Я долго разглядывал лицо Тони. Две неодинаковые вертикальные складки на ее лбу между бровями не исчезали даже во сне. Я почувствовал волнение и нежность, а она, видимо, стараясь проснуться, вдруг улыбнулась, улыбнулась одной, правой половиной рта» [1, с. 260].

Паходжанне гэтых складак на ілбе жонкі Зорын тлумачыць яе пастаянным душэўным напружаннем, актыўным пратэстам супраць любой яго ініцыятывы: «Почему она всю жизнь борется с ним? Когда это началось? Она всегда, всегда

противопоставляет его себе. В каждом его действии она видит угрозу своей независимости. Он все время стремится к близости, к откровенности. Но она словно избегает этой близости и всегда держит его на расстоянии» [1, с. 221].

Такое ж супрацьстаянне каханаму, якое хаваецца за жарты, падцвельванне і падколванне назіраем і ў гераіні Навуменкі. Такая ж дыстанцыя і ў адносінах. Тое ж жаданне падабацца іншым мужчынам. Толькі ва ўнутраных маналогах Зорына гучыць нашмат больш горычы, бо ён не блытае паняццяў «прычына» і «вынік». Разважаючы аб маладым чалавеку ў прышчах, які амаль кожны дзень фланіруе вакол іх дома, чакаючы Тоню, ён прыходзіць да разумення, што жонцы падабаюцца гэтыя яго хаджэнні: «Какой же она дала повод?

Зорин краснеет, ему противно это позднее собственное волнение. Всего скорей, поводом было обычное кокетничание в библиотечном стационаре. Может быть, она позволила ему сесть рядом в автобусе, может, поглядела в глаза с улыбочкой, — много ли надо свеженькому мальчишке, изнывающему от похоти? Он, Зорин, убежден, что дальше этих визитов у него не пошло. Она благоразумна. Ей достаточно и того, что в нее влюблены. Но какая же разница? Она не пошла дальше лишь из-за боязни, из-за трусости. Ее непоследовательность лишь подтверждает первоначальную испорченность. Разве порок перестает быть пороком от того, что не реализован? Он, Зорин, всегда был верен своей жене. Он любил ее. Ему всегда становилось жутко от дамских штучек, он терпеть не мог этих откровенных намеков, взглядов встречных, совершенно незнакомых женщин, этих прищуров, полуулыбок. Нормальные, неиспорченные женщины не смотрят в глаза незнакомых мужчин. Они идут по улице нормально. Мерзость и грязь самих мужчин не пристает к ним, они чисты даже в самой отвратительной обстановке. Много ли их, таких?» [1, с. 239].

Прычына таго, што ў яго з Тоняй няма духоўнага адзінства, хаваецца, адчувае Зорын, у жонцы, бо ў сэрцы сваім яна дапускае здраду мужу: «У Сашкиной половины уже на счету шесть или семь абортов. Какая-то рыбья, холодная кровь. И сердце… Русалка — это женщина-утопленница. А Тонька разве не утопленница? Она давно утонула в своей дурацкой работе, она чокнулась на эмансипации, хотя еле волочит ноги. Им думается, что чем они сильнее, тем для них лучше. Они хотят быть независимыми. Они рассуждают с мужьями с позиции силы. И это не так уж плохо у них получается. Сажают мужей в тюрьму, пишут на них бумаги. Да, но кого же тогда защищать мужчинам? Жалеть и любить? Самих себя, что ли?» [1, с. 231].

Паўторым, Васіль Бялоў уклаў у вусны Косці Зорына свае думкі, свае перакананні адносна кахання, сям'і і шлюбу. У 60—70-я гады XX стагоддзя, калі пісаўся твор «Воспитание по доктору Споку», гэтыя думкі былі занадта смелымі, а той, хто іх прапаведваў, зневажальна называўся «дамастроеўцам». Любімага героя Бялова жонка таксама абвінавачвае ў дамастроеўшчыне, з чым ён згаджаецца: «“Домострой”! Ты хоть читала его, этот “Домострой”» — «Не читала и читать не хочу». — «А ты знаешь, что “Домострой” проповедует мужскую верность?» Но она уже не способна вникать в такие тонкости, она искренне оскорблена его деспотическим поведением» [1, с. 238].

«Русалка, женщина-утопленница» — гэта метафара Бялова, думаецца, вельмі добра характарызавала жанчын, падобных да Тоні, да жонкі Голубева, вясёлай кампаніі жанчын у рэстаране, якая накінулася на сяброўку за тое, што яна любіць уласнага мужа. Усіх «эманцыпатак» тыпу шамякінскай Міхаліны (аповесць «Ах, Міхаліна, Міхаліна»). Дарэчы, падобны тып жанчыны савецкага часу будзе глыбока даследаваць у сваёй аповесці «Рай даўно перанаселены» сучасная беларуская пісьменніца Алена Брава.

У аповесці «Воспитание по доктору Споку» і асабліва ў апавяданні «Чок-получок», уключаным у яе, рускі пісьменнік паказвае складанае жыццё душы персанажа праз дынаміку адлюстравання тонкіх псіхалагічных станаў, выяўленых

на твары, як бы кінематаграфічна. У аснове твора «Чок-получок» ляжыць гісторыя паездкі Тоні і Косці з іх агульным сябрам Голубевым на прыроду. У мужа і жонкі — мірны, адносна спакойны перыяд, і Косця спадзяецца на стабілізацыю адносін з Тоняй, чаму павінны садзейнічаць рэчка, лес, цішыня. Голубеў, узяўшы ружжо, яшчэ з вечара пайшоў на паляванне. Тоня і Косця засталіся адны, правёўшы ноч у згодзе і пяшчоце, але назаўтра аказалася, што ў іх ёсць суседзі, якія таксама прыехалі адпачыць. І пачалі ўжо праяўляць пэўныя захады да знаёмства, што вельмі засмуціла Косцю, якому зусім не хацелася кампаніі, бо радаваўся цішыні і ладу з жонкай. Хацеў ужо скласці рукзакі, напісаць Голубеву запіску і падацца да аўтобуса, аднак непакоіла, як сустрэне такую навіну Тоня. У думках уяўляў, як яна здзіўлена ўскіне свае раскошныя бровы, затым актыўна запратэстуе, абвінаваціць яго ў эгаізме, у нежаданні з ёй лічыцца. Маладых людзей было трое — двое хлопцаў і дзяўчына. Калі Косця адмовіўся ад прапановы дзяўчыны прынесці ім распушчальную бразільскую каву, Тоня сапраўды зрэагавала падобным чынам: «*Я чувствовал, что моя Тоня уже сдвигала брови*, негодуя на мою невоспитанность. Я посмотрел и увидел это определенно и четко, — *да, моя жена сдвинула брови*» [1, с. 262]. І далей, ужо ў кампаніі гасцей, Косця будзе ўважліва ўглядвацца ў твар жонкі, чакаючы яе спачувальнага позірку ў адносінах да сябе, а часам наперад адгадваючы яе душэўныя рухі, якія так яскрава чытаюцца на твары. Вось выходзяць абодва прадстаўнікі мужчынскай палавіны кампаніі, спадарожнікі Алкі — Вадзька і Барс, як яна іх называе: «Я мельком взглянул на Тоню*: в ее глазах медленно разгорались угольки любопытства*. Потом *она вдруг сделала суетливое движение: здесь, на природе, ей явно недоставало нашего трельяжа*. «Если б она вот так же волновалась и перед моими появлениями», рассеянно мелькнуло в моей голове, но я не успел четко осмыслить все это, надо было снова знакомиться…» [1, с. 262]. «*Тоня глядела на них в оба глаза…*» [1, с. 262].

Ад пільнага позірку Зорына не хаваецца ніводная перамена ні на твары жонкі, ні на тварах новых знаёмых, якія «выдрючивались не столько передо мной или Алкой, сколько перед Тоней» [1, с. 263]. Усе яны фізікі, супрацоўнікі аднаго з вядучых у краіне навукова-даследчых інстытутаў, што выклікала асаблівую цікаўнасць і павагу Тоні: «Моя жена по очереди глядела на обоих физиков… Что ж, в этом ничего нет удивительного, подумалось мне. Она действительно впервые видит живых физиков. *Но зачем же глядеть им прямехонько в рот*? Зачем делать вид, что понимаешь, что такое гравитация и теория относительности? Ведь даже мне с моим техническим вузом очень смутно представляется все это» [1, с. 265].

Разрыў паміж Тоняй і Косцем непазбежны. Як прачытаем далей у названай аповесці, гэта сумная падзея адбудзецца. Але зерне разводу пасеяна даўно, яно ўзрастае і набірае моц і ў дадзеных сцэнах. Спрачаюцца аб Джойсе і Кафку, аб Пушкіне і Лермантаве. Барс час ад часу ўстаўляе ў размову двухсэнсоўныя пахабныя жартачкі. Косця адстойвае непераўзыдзены аўтарытэт пісьменнікаў-класікаў. Вадзім і Тоня з захапленнем гавораць аб модных сучасных пісьменніках. Тоня, як заўсёды, лічыць сваім абавязкам не падтрымліваць, а змагацца з Косцем, саромеецца перад вучонай кампаніяй, ці як называе іх Косця, піжонамі, інтэлектуальнай непаўнавартасці, недасведчанасці мужа.

Дзікенс пісаў, што самыя незаўважныя дзеянні чалавека, такія, нават, як сціплы жэст рукі, што зрывае кветку або знішчае які-небудзь неадушаўлёны прадмет, ужо дапамагаюць улавіць штосьці жорсткае або добрае ў характары. Так і Бялоў, вачыма свайго героя, які з'яўляецца добрым псіхолагам, тонкім аналітыкам душы, заўважае самыя няўлоўныя і, здаецца, нязначныя жэсты. Вось Вадзім, адчуўшы, што Зорына «панясло», як бы выпадкова зірнуў на Тоню. Драматычны ўнутраны дыялог стаў яшчэ больш напружаным: «*Она уловила его взгляд, я почувствовал это. Она еле заметно пошевелила одним плечом, она как бы выражала извинения за неотесанность своего мужа.*

*Кровь бросилась мне в голову.*

*Я был раздавлен одним этим презрительным движением плеча.* Я хотел верить в свою ошибку, ждал ее голоса, но я не ошибся. Все было так, как есть. Она не проронила ни слова. *Обида* и *горечь сжимали мне горло, пальцы мелко дрожали.* Я удивился тому, что *мой голос прозвучал спокойно и даже буднично…»* [1, с. 266—267].

Менавіта схаваная плынь пачуццяў герояў і надае драматычную моц гэтай кароткай сцэне. Зорын не вытрымлівае таго, што ён адзінокі ў гэтай кампаніі, ён зрываецца на крык. У адказ Барс «*сокрушенно развел руками, кротко улыбнулся, затем отвернулся и с демонстративным спокойствием заговорил с Алкой…* <…> *Сашка пьяно хмыкнул*, подал мне бутылку пустую и, заикаясь от алкогольной отрыжки, сказал:

— С-с-старик, метни, а? Только в воздух.

Я взял бутылку и сильно швырнул ее вверх. Сашка вскинул ружье, раздался выстрел. Бутылка упала в траву целехонька.

*Алка заверещала от восторга и запросила «бабахнуть», все оживились. Я затаил обиду куда-то далеко-далеко и попросил закурить. Вадим*, подавая «Кент», *посмотрел* на меня, как мне показалось, *с дружелюбным сочувствием*» [1, с. 267]. Мы амаль бачым гэту сцэну, кожнага з герояў, як на экране. Твар кожнага, як жывы, са шматлікімі пераменамі, жывым адлюстраваннем страсцей.

Сцэна каля кастра — гэта палілог, размова з удзелам не двух, а некалькіх чалавек. У яго структуры часам выразна выдзяляюцца асобныя дыялогі, якія вядуцца героямі з аглядкай на іншых, што таксама сваёй прысутнасцю ўплываюць на ход размовы. У гэтым палілогу, як бачым, вельмі важнае месца займаюць унутраныя каментарыі Зорына, якія раскрываюць, удакладняюць сэнс недагаворанага або сказанага. У іх змяшчаецца аналіз другой мовы герояў — семантыкі мімікі, жэстаў. Палілог, такім чынам, з'яўляецца двупланавым, уяўляючы сабой кантамінацыю непасрэднага, акустычнага моўнага выражэння з нямоўным падводным цячэннем рэальнай слоўнай сустрэчы.

У творы «Чок-получок» Васіль Бялоў выкарыстоўвае такі прыём, як «пракручванне» двойчы адных і тых жа эпізодаў. Так, пісьменнік спачатку перадае размову і міміку каля кастра Тоні, Косці, Голубева, Вадзіма, Барса і Алкі, а пасля ў замаруджаным тэмпе праглядвае паводзіны кожнага, пачынаючы з таго моманту, калі Алка прапанавала мужчынам згуляць у рулетку. Зорын прыгадаў, як Вадзім рабіў разрадку патронаў, як прапаноўваў берэт з патронамі спачатку Барсу, затым — Голубеву, затым — яму, Косці. Адзін з іх мог, выстрэліўшы, загінуць ад шостага патрона, дзе, нібыта, застаўся порах. Косця не мог зразумець, жартам або ўсур'ёз гаварыў Вадзім. І ці сапраўды гатовы быў на гульню ў смерць?

«Что же произошло?

Вадим искренне предложил сыграть в эту дикую и нелепую игру, вернее, его спровоцировала эта восторженная дурочка. Я видел, как он вскочил, когда она начала хохотать, слышал, как взволнованно задрожал его голос: «Я не могу играть один! Для этого нужны партнеры». А может, он был просто уверен в том, что все равно никто из нас не будет играть? Может быть, он и тут тоже играл, рассчитывая на нашу трусость? Допустим, Барса-то он знал до этого и мог вполне рассчитывать на то, что тот наверняка откажется. А дальше? Неужели он такой точный психолог, что сразу раскусил, что за человек Сашка? Я медленно подбирался к себе. Почему я отказался играть? Ведь я не был трусом. По крайней мере, я не считал себя трусом. Я хорошо помнил, что отказался играть совершенно спокойно, будучи уверенным в том, что в других обстоятельствах я никогда бы не отказался» [1, с. 270—271].

Гэты ўнутраны маналог-развažанне, дзе герой вырашае пытанне аб баязлівасці, заканчваецца выпрабаваннем сябе на практыцы. Рызыкуючы загінуць, ён выцягнуў з Вадзімавага рукзака берэт з патронамі і з вялікім унутраным змаган-

нем, прыставіўшы ствалы да віска, стрэліў. Радасці яго не было канца: жыццё не пакінула яго. Астатнія патроны ён праверыў, страляючы ў паветра, упэўніўшыся, што ўсе яны былі разраджаны. Такім чынам, Зорын зразумеў, што гэтыя таварышы прыдумалі нядрэнную забаву: «“Что ж, эти друзья придумали недурное развлечение, — подумал я. — Может быть, это стало для них даже эдаким хобби. Ежегодно ездить на «охоту», ловить таких дураков, как я…” Но Алка? Неужели она тоже знала? Не может быть! Она хохотала над современными мужчинами так непритворно. К тому же эти кибернетики вовсе не из таких, чтобы каждый год ездить на охоту с одними и теми же «кадрами» [1, с. 273].

Пры стварэнні партрэтаў сваіх герояў вучоных-кібернетыкаў В. Бялоў выкарыстоўвае прынцыпы кантрасту. Вось Вадзік, яго першае з’яўленне ў творы: «*…загорелый, одичалого вида верзила в одних плавках* и *кедах*, с полотенцем на *боксерских плечах*, уже выходил из кустов и двигался в нашу сторону.<…> Он *присел* у костра, *заслонив своим торсом чуть не четвертую часть горизонта, потирая колени, покашливая*:

— Алка, ты чего мешаешь людям!

*Меня удивил контраст*: *нежный, почти мальчишеский голос* никак не вязался с *мощной спортивной фигурой*.

— Заглохни, — сказала Алка и закашляла, поперхнувшись дымом от сигареты. Ее *громкий кашель*, и *зеленые брюки*, и *мужская поза тоже совершенно не соответствовали полудетскому, со следами вчерашней косметики, круглому помятому личику*» [1, с. 262].

Рускі пісьменнік В. Бялоў не толькі выдатна карыстаўся фонам як спосабам характарыстыкі чалавека, але мог рабіць яго ледзь не адзіным спосабам выяўлення схільнасцей і характару персанажа. У аповесці «Воспитание по доктору Споку» аўтар не стварае партрэт другога мужа Тоні, аднак апісанне туалета ў іх кватэры, пададзенага вачыма веруючай цешчы, многае гаворыць пра жыццё гэтай асобы: «Новый зять весь туалет заклеил картинками, а на картинках одни голые девки. Ей всегда стыдно глядеть на этих — чуть не в чем мать родила. Такие висят *щепери*. Но что сделаешь? Дело *ихнее*. Бабушка вздыхает…» [1, с. 234].

Дзеянні і ўчынкі героя як бы пацвердзяць гэтую цікаўнасць зяця да голых жанчын. Бо ўжо інакш успрымаецца інфармацыя аб ім, пададзеная крыху раней, на той жа старонцы, аб тым, што зяць позна прыйшоў дамоў, а дачка не стала з ім размаўляць, што спалі яны зноў паасобку. Думкам бабулі, якая імкнецца ўсіх зразумець і не асудзіць, пэўна ж, можна давяраць, тым больш, што яны раствораны болем за дзяцей: «А вот тутошнюю дочерь, хоть и на глазах, а жаль больше всех. Живут как на вокзале. Сама стала как щепка, с этим мужиком тоже ругается чуть ли не через день. С первым развелась из-за пьянки. Второй хоть и не пьет, зато какой-то *овыденной*, а не самостоятельный. Сам хуже любой бабы.<…> А межто собой? Зачастую, как собаки. «Разве этому я ее учила?» — про себя, горько произносит бабушка» [1, с. 235].

Але вернемся зноў да Навуменкі, да паводзін Жэні ў апошняй развітальнай сцэне з Антанінай. Дзяўчына маўчыць, ні словам не гаворыць пра змены, якія адбыліся ў яе душы, аднак любячаму сэрцу адразу адкрываецца сумная праўда аб тым, што на гэты раз надзея страчана. Ён не ставіць Антаніне балючыя і трывожныя пытанні, добра разумеючы семантыку яе маўчання, а выручае дзяўчыну простым пытаннем, ці запрашалі яе куды-небудзь на сённяшні вечар, тым самым дапамагаючы ёй годна выйсці з нялёгкага становішча. Больш за тое, ён пазбаўляе каханую і ад пакут сумлення ў будучым, сцвярджаючы, што і яго таксама запрашалі. Няпросты псіхалагічны стан дзяўчыны між тым выразна паўстае і праз такую дэталь, як яна «гоніць перад сабой абледзянелы снежны камячок. Паддасць наском туфля, пройдзе некалькі метраў і зноў паддасць» [5, с. 452].

Характарызуючы навуменкаўскія творы пра каханне, П. Васючэнка заўважае, што ў іх «амаль ніколі не бывае шчаслівай развязкі, таго «хэпі-энду», які з’яў-

ляецца, да прыкладу, абавязковым атрыбутам так званага «любоўнага рамана». Амаль кожны твор завяршаецца тужлівай, шчымлівай нотай, матывам развітання або расчаравання. Жанчыны ў гэтых творах, адыходзячы, пакідаюць таямніцу, якую так і не давялося разгадаць закаханаму герою, — таямніцу сваёй душы» [2, с. 710 ].

П. Васючэнка гаворыць пра арыентацыю Навуменкі «на коласаўскі эпічны спакой і псіхалагічную разважлівасць», «пра няспешнасць у маральна-этычным плане» [2, с. 713]. На наш погляд, можна гаварыць нават пра падабенства карэнных прынцыпаў мыслення і светапогляду гэтых двух пісьменнікаў, што заўважаецца і ў падыходзе да адлюстравання праблемы кахання. Прыгадаем два эпізоды з іх аповесцей. Вось галоўны герой твора І. Навуменкі «Развітанне ў Кавальцах» бачыць парачку ў лыжных касцюмах. Назіраючы за дзяўчынай, якая похапкам сіняй рукавічкай выцірае слёзы, ён пачынае разважаць над гэтай «не надта шчаслівай гісторыяй»: «Мне чамусьці здаецца, што падобны на клічнік хлопец вадзіў па вуліцах сяброўку, паклаўшы ёй руку на плячо, прылюдна дэманструючы сваю прыхільнасць да яе. Мне такія парачкі ніколі не падабаліся. Добра, калі ў іх добра. А калі нязгода, разлад? Няўжо дзяўчына можа дазволіць, каб праз паўгода ці год другі хлопец павёў яе па вуліцы, гэтак жа абшчаперыўшы рукамі?» [5, с. 435].

Любімыя героі Навуменкі, як і любімыя героі Бялова, сарамлівыя, цнатлівыя, яны імкнуцца да чыстай некранутасці дружбы, самаахвярнай, светлай любові. Ім, як і героям Коласа, непрыемна такое хаджэнне «пад ручку», ці проста абняўшыся, бо яны разумеюць, што такія дотыкі асоб процілеглага полу заключаюць у сабе нешта нясціплае, нячыстае, што асуджаецца простымі людзьмі, знаёмымі з евангельскімі словамі аб пралюбадзействе думкай ці позіркам. (Прыгадаем эпізод з аповесці Я. Коласа «На прасторах жыцця», дзе Сцёпка назірае за адносінамі паміж хлопцамі і дзяўчатамі на рабфаку.) Галоўны герой аповесці «Развітанне ў Кавальцах» І. Навуменкі мае падабенства і з Лабановічам з коласаўскай трылогіі «На ростанях» не толькі адносінамі да кахання, але і да прыроды. Абодва героі з’яўляюцца тонкімі лірыкамі ва ўспрыняцці прыроды. Пейзажныя карціны робяць іх душы даверлівымі, чыстымі, наіўна-светлымі, радаснымі. Яны хочуць падзяліцца гэтай радасцю ад сузірання прыгажосці з каханымі. Жэню гэта не ўдаецца, бо ў адказ на яго захапленні прыгожымі краявідамі Антаніна «глядзіць недаўменна» [5, с. 443].

Чытач неаднойчы ўбачыць дзяўчыну незадаволенай, са «злоснымі іскаркамі ў вачах», пачуе яе ўладны нядобразычлівы голас. Прыраўнаваўшы Жэню да сяброўкі, яна тут жа рашуча спыняе ўсе далейшыя захады: «— У кіно з ёю не ідзі, — прыблізіўшы да мяне свой круглы павабны твар, ледзь чутна гаворыць яна. — Я не хачу, каб ты з чужымі хадзіў. — У Антаніным голасе звініць нават нейкая жорсткасць» [5, с. 419].

Гераіня аповесці начыталася любоўных дваранскіх раманаў і, як можна заўважыць, мае дэфармаваныя ўяўленні аб сапраўдным каханні, шкадуе, што нікога не любіла «так, як у кнігах пішуць» [5, с. 443]. «Возьмеш Разуменкаву кралю, тады запяеш Лазара», — прадракае яму адзін са станоўчых герояў [5, с. 421], — добра адгадваючы ўнутраную сутнасць Антаніны, яе няздольнасць жыць дзеля каханага.

Іван Навуменка належыць да пісьменнікаў, якія кіруюцца высокім, біблейскім разуменнем любові, не звужаючы яе да паняццяў «каханне-страсць», «плоцевае каханне», а трактуючы як пачуццё, якое садзейнічае расшырэнню чалавечага сэрца. В. Каваленка справядліва гаворыць аб змірэнным прыняцці героямі Навуменкі паражэння ў любоўных справах: «пісьменнік не даводзіць іхніх любоўных няўдач да вялікіх трагічных зрушэнняў. Напрыклад, ніводзін з іх, адвергнуты і занядбаны сваёй каханай, не кідаецца ў трагічную роспач» [3, с. 12]. І гэта, падкрэслім яшчэ раз, сведчыць пра высокую культуру пачуцця герояў таленавітага пісьменніка, усведамлення імі хрысціянскай ісціны, што няма любові без свабоды.

Аналіз партрэтнага майстэрства І. Навуменкі сведчыць аб тым, што пісьменнік пазбягаў разгорнутых партрэтных характарыстык, якія лічыліся неад’емным атрыбутам раманных твораў. І надаваў вялікую ўвагу ўдала знойдзенаму эпітэту, дасціпнаму смеламу параўнанню і супастаўленню, партрэтнай метафары, якія б маглі прыдаць яркасць і дакладнасць ураженню ад знешняга вобліка чалавека, разбудзіць уяўленне чытача. Пісьменнік шукаў рэльефнага штрыха, які мог бы стаць партрэтам, пазбягаў партрэтных штампаў. У аповесці «Апошняя восень» партрэты герояў нешматслоўныя, але добра перадаюць індывідуальныя асаблівасці людзей. Вось настаўнік геаграфіі, аб якім шкадуюць вучні, бо яго забіраюць у армію: «Антон Антонавіч Грак быў выдатны выкладчык, хоць з выгляду не надта кідкі — *маленькі, чорны, з вузкім, нібы гарохавы струк, тварам. Знешнасцю, голасам ён нібы апраўдваў прозвішча — гаварыў скрыпуча, нібы каркаў.*

Але *гэтым сваім непрыкметным голасам Антон Антонавіч тварыў цуды. Здаецца, ведаў зямны шар, як уласную кватэру*, — так маляўніча расказваў пра кожны куток зямлі, горны масіў, раку» [5, с. 353]. Прозвішча настаўніка — Грак — становіцца па сутнасці партрэтнай метафарай, але метафарай, якая малюе толькі знешнасць: фарбы партрэта вельмі зямныя, будзённыя: «маленькі, чорны, з вузкім, нібы гарохавы струк, тварам», «гаварыў скрыпуча, нібы каркаў». Што датычыць унутранага свету географа, то характарыстыка яго ідзе пасля гэтага вельмі важнага аўтарскага «але», бо знаку роўнасці паміж знешнім і ўнутраным воблікам чалавека тут не ставіцца.

А вось партрэт з гэтай жа аповесці юнага героя — Сцяпана — чалавека вельмі практычнага, дзейснага, рухавага. Увасабленне чалавечай асобы адбываецца ў асаблівасці паходкі: Сцяпан «*на сваіх трохі крываватых нагах не проста ідзе, а як бы ляціць, размахваючы рукамі, нібы вятрак крыламі*» [5, с. 351]. Аднаго параўнання аказалася дастаткова, каб партрэт пачаў жыць у нашым уяўленні.

Параўнанне — адзін з найбольш часта ўжываемых відаў тропаў у партрэце персанажаў Навуменкі. Рознымі фарбамі, рознымі тропамі карысталіся мастакі слова для паказу тоўстых людзей. Вось, напрыклад, у Коласа: «Праз колькі хвілін Бабініч і *яго жонка-кадушка запрасілі гасцей за стол*» [4, с. 63].

«*Ён быў тоўсты, крэпкі і меў выгляд навоя, на які толькі што навілі кросны ў дванаццаць губіц*» [4, с. 164], — такім паўстае перад чытачом чыгуначны майстар Грыгарэц. Або яшчэ адзін прыклад з той жа трылогіі «На ростанях»: «*Маршалак, таўшчэразны, непаваротны чалавек, накшталт гіпапатама*, прыйшоў у вялікае абурэнне» [4, с. 394].

Кожны з прыведзеных коласаўскіх партрэтаў пададзены з іранічнай афарбоўкай. У апавяданні «Срэбныя імхі» І. Навуменкі для абазначэння тлустага чалавека ўжыта сваё параўнанне — «круглы, як шар». Прывядзём гэта месца з твора: «…ад стоса бярвенняў да ганка, ля якога ў нерашучасці спыніўся Васіль, *падкаціўся раздабрэлы, круглы, як шар, чалавечак, з такім жа круглым сытым тварам, на якім пабліскваль вясёлыя і хітрыя вочы*» [6, с. 224]. І крыху далей пра яго ж: «У дзіравых штанах, старой сарочцы, разлезлых чаравіках *ён падобен да вялікага рухавага жука. Ёсць ужо жывоцік у Сцяпана — нібы гарбуз выбіваецца* з-пад паласатай сарочкі» [6, с. 226].

Рысы твару яго герояў часта застаюцца ў цені. І гэта датычыць не толькі эпізадычных герояў, але і галоўных. Затое Навуменка нідзе не прамінае выпадку, каб сказаць пра фігуру і рост чалавека. Пры разглядзе аповесці «Развітанне ў Кавальцах» мы згадвалі, што малады хлопец-лыжнік параўноўваецца ў яго з клічнікам: «Цяпер я добра бачу *высокага перахлябістага* хлопца — у яго *шырокія плечы і вельмі вузкая паясніца*, так што *здалёк хлопец падобны на клічнік*, і дзяўчыну — яна *ніжэйшая за напарніка*, *пухленькая*, *тоўсценькая*, у чырвонай шапачцы» [5, с. 435]. У пісьменніка нямала такіх параўнанняў і супастаўленняў, якія змяшчаюць неабходныя для чытача даныя, каб уявіць увесь воблік чалавека. У апавяданні «Іван ды Мар’я» прыкметы знешнасці гераіні выражаны трыма

эпітэтамі: «Мар'я *прысадзістая, дзябёлая*, з выразнымі, нават *суровымі* рысамі твару» [5, с. 435]. Далей паведамляюцца кароткія звесткі пра ўзрост і фізічную моц гераіні: «Ёй даўно мінула семдзесят, але яна яшчэ шпарка ходзіць і рэдка хварэе» [5, с. 161]. Больш ніякіх упамінанняў аб тым, як выглядала бабуля, у творы няма. І тым не менш партрэт Мар'і выразна бачыцца за вобразам думак старой, яе ацэнкаю іншых людзей, яе паводзінамі, учынкамі, манерою гаварыць, за яе адносінамі да двух каханых мужчын, якіх яна ўспамінае доўгімі начамі: «Мар'я слухае шум дажджу і думае. Яна і Івана палюбіла, бо нечым падобен быў да Хведзькі. Не тварам, не паставай, а характарам. *Хведзька — рослы, тонкі ў стане і ладны ў плячах, як маладая таполя*, а *Іван — верабей*. Але *абое* былі *як агонь, хваты-мужчыны*» [5, с. 172]. У многіх выпадках Навуменка карыстаецца лаканічным, «голым» партрэтам пашпартных прыкмет, «гамераўскім» партрэтам. Ствараючы партрэты сваіх юных гераінь, пісьменнік часта ўжываў эпітэт «прыгожая»: «Вераніка была *вельмі прыгожая*. *Такая прыгожая* дзяўчына яшчэ не вучылася ў нашай школе. *На яе можна было глядзець, не адрываючы вачэй, усе шэсць урокаў*. Вераніка *прыгожа хадзіла, прыгожа сядзела за партай, прыгожа размаўляла*. У яе *ўсё было прыгожае*: *смуглявы твар, пастава, сінія вочы, доўгая каса, смех — усё тое, што дадзена чалавеку ад нараджэння і чаго не купіш ні за якія грошы* [5, с. 76]. Але самае галоўнае, што носьбіт гэтай вонкавай прыгажосці мае такую ж прыгожую душу.

Большай яркасці, прадметнасці партрэтаў Навуменка дасягаў прамымі намёкамі на падабенства таго ці іншага свайго героя на кагосьці з вядомых людзей. Прыгожы лейтэнант, якога герой-апавядальнік гатовы лічыць сваім сапернікам, бо ён выказваў асаблівыя знакі ўвагі яго любімай дзяўчыне Клары, мае твар рымскага імператара. Вось як малюецца яго знешнасць у апавяданні «Па махорку»: «Ён, *гэты лейтэнант*, *прыгажэй астатніх*. *Прадаўгаваты чарнявы твар, мужны профіль, нос з гарбінкай. Такія твары адбівалі на рымскіх манетах*» [5, с. 137].

Гэтым жа прыёмам карыстаецца пры стварэнні партрэтаў і В. Бялоў. Толькі рускі пісьменнік у такіх выпадках амаль заўсёды падкрэслівае несупадзенне, непадабенства фізічнага вобліку і духоўнага. Любімы герой Бялова Олеша Смолін падобны на сярэдневяковага пірата з малюнка з дзіцячай кніжкі: «Горбатый его нос еще во времена моего детства пугал и всегда наводил на нас, ребятишек, панику. Может быть, поэтому, чувствуя свою вину, Олеша Смолин, когда мы начинали бегать по улице на своих двоих, очень охотно делал нам свистульки из тальника и частенько подкатывал на телеге. Теперь, глядя на этот нос, я чувствовал, как возвращаются многие давно забытые ощущения раннего детства…

Нос торчал у Смолина не прямо, а в правую сторону, без всякой симметрии разделял два синих, словно апрельская капель, глаза. Седая и черная щетина густо утыкала подбородок. Так и хотелось увидеть в Олешином ухе тяжелую серьгу, а на голове бандитскую шляпу либо платок, повязанный по-флибустьерски» [1, с. 132].

Знешнія якасці Олешы прымаліся дзецьмі за ўнутраны характар. Але дзіцячыя ўражанні па-ранейшаму застаюцца ў памяці дарослага, ужо жанатага Косці Зорына, хоць яны паступова і блякнуць пры новых, шчырых кантактах героя з гэтым дабрадушным чалавекам. Слухаючы мудрыя апавяданні гэтага майстра на ўсе рукі ў час сумленнай працы, Косця ажывае душой, ім авалодвае «жажда добра». Іншае ўражанне выклікае ў героя кантакт з Авенірам Казанковым, з якім Олеша, нібыта, і сябруе. У партрэце героя паўтараецца эпітэт «бойкі»: «Козонков был сухожильный старик с *бойкими глазами*; *волосы тоже какие-то бойкие*, торчали из-под *бойкой же шапки*, руки у него были *белые и с тонкими, совсем не крестьянскими пальчиками*» [1, с. 137].

У гэтым партрэце ўсё гаворыць пра дадзеную асобу: і вочы, і валасы, і шапка, і белыя, з тонкімі, зусім не сялянскімі пальчыкамі рукі. Авенір усё жыццё імкнуў-

ся ўхіліцца ад працы, ад адказнасці, перакінуць віну на іншых. І «бойкасць» героя выявіцца не аднойчы. Праўда, накіравана яна на барацьбу не са злом, а з дабром, мае амаральны характар. Сам Казанкоў расказвае аб сваёй «смеласці» з гордасцю: «Бывало, против религии наступленье вели — кого на колокольню колокола спехивать? Меня. Никто, помню, не осмеливался колокол спехнуть, а я полез. *Полез и залез*. Да встал на самый край, да еще и маленькую нужду оттуда справил, с колокольни-то» [1, с. 166].

Рускі пісьменнік Юры Алеша любіў дэталь зрокава выразную, ёмістую і сціслую. Малюючы ў апавяданні «Альдэбаран» воблік дзяўчынкі-цыганкі, ён піша: «Подошла цыганская девочка величиной с веник», спадзеючыся на тое, што чытач тут жа ўявіць смешную фігурку-венік — з вельмі вузкай таліяй і маленькай галоўкай і шырокай спадніцай да пят, якою яна мяце дарожны пыл.

Важным прыёмам стварэння партрэта персанажа ў Навуменкі (асабліва жаночага партрэта) з'яўляецца лірычная афарбоўка. Для Бялова лірычныя фарбы не вельмі характэрныя. Ва ўсякім разе гэты лірызм прыхаваны, някідкі. Партрэты беларускага пісьменніка больш насычаны эмацыянальна, нясуць на сабе адзнакі рамантычнага стылю. У апавяданні «Сямнаццатай вясной» расказваецца пра каханне юнага героя да «тоненькай чыстай дзяўчыны». Вось яе партрэт пры першым знаёмстве: «*У белай сукенцы, з белым капялюшыкам* на галаве, яна мне адразу кінулася ў вочы. Яна была зусім не падобная на дзяўчат, якіх я сустракаў дагэтуль. *Трымалася яна смела, незалежна і, шчабечучы нешта вясёлае, звонка смяялася*.

Я ўбачыў *белую тоненькую дзяўчыну* і ў першы вечар, і ў другі, і ў трэці. І ўвесь час яна была *вясёлая, смяялася. Адзін раз яна нават танцавала*…

Першы час я праходзіў міма дзяўчыны з самым незалежным выглядам. Я не кінуў у яе бок ніводнага прыязнага позірку, стараўся на яе не паглядаць. *Я лічыў яе асобай пустой, нікчэмнай, не вартай увагі наогул*. У думках я вінаваціў *тоненькую дзяўчыну* за яе *бестурботны смех*, за яе *звонкае шчабятанне*. Як магла яна смяяцца ў такі час!

Вядома, дзяўчына ў белай сукенцы нічога не ведала пра мае абвінавачванні. Яна кожны вечар прыходзіла ў скверык, *яе жывыя сінія вочы весела пазіралі на свет*, і яна, нібы назло мне, *звонка шчабятала*.

<…>

І вось хутка я адчуў, што мне няма куды схавацца ад *жывых сініх вачэй з-пад белага* капялюшыка, ад *звонкага шчэбету*, ад *гэтай цудоўнай белай птушкі*» [5, с. 65—66].

Звернем увагу на тое, што белая тоненькая дзяўчына Стася, якая звонка шчабятала, называецца «цудоўнай белай птушкай». Гэтая партрэтная метафара раскрываецца і пацвердзіцца ў ходзе развіцця сюжэта, хоць герой доўгі час і будзе ставіць пад сумненне яе чалавечыя якасці. Маральная характарыстыка дзяўчыны, дадзеная героем спачатку (асоба пустая, нікчэмная, не вартая ўвагі наогул. Як магла яна смяяцца ў такі час!), у далейшым ператвараецца ў сваю супрацьлегласць. Стася аказваецца глыбокай натурай: яна рабіла добрыя справы для перамогі над ворагамі ціха і непрыкметна, маскіруючыся бесклапотнай і легкадумнай, зусім не дбаючы аб славе. Вясёлая, святочна апранутая, блакітнавокая, тоненькая, як вытачаная, Стася, якая спявала, і шчабятала, і танцавала, нагадвае характарам і паводзінамі «Любку-артистку, хитрую, как лиска» з рамана Фадзеева «Маладая гвардыя»: «Не, цяпер я ведаў усё. Ведаў, якім быў сляпым і недалёкім. Такую дзяўчыну хацеў прывабіць сінімі штанамі. Эх ты, дурніца... Тоненькая белая дзяўчына паўставала цяпер у маіх вачах у нейкім новым, казачным святле» [5, с. 73].

Меў рацыю даследчык П. Васючэнка, калі заўважаў, што трылогію І. Навуменкі паводле асобых момантаў тыпалагічнага падабенства можна параўноўваць з прысвечанымі моладзі творамі савецкай літаратуры — «На прасторах жыцця», «Дрыгвой» Я. Коласа, «Маладой гвардыяй» А. Фадзеева. Хочацца дадаць, што

не толькі трылогію, але і апавяданні пісьменніка. П. Васючэнка справядліва адзначыў, што «доля рамантызацыі, прыгодніцтва ў творах ідзе не ад імкнення «лакіраваць» або «фальклярызаваць» рэчаіснасць, але ад выбару тэмы, герояў, функцыянальнасці і адраснасці твора, нарэшце, усё ад таго ж узроставага фактару» [2 , с. 700].

Аб прысутнасці ў творах Навуменкі рамантычнага струменю, рамантычнай танальнасці гаварылі многія даследчыкі, падкрэсліваючы, што яна выразна выявілася на ўсіх узроўнях вобразатворчасці, дамінаванні сіне-блакітнай колеравай гамы і г.д. Рамантычная танальнасць, рамантычны настрой суправаджаюць вобразы яго гераінь у розных сцэнах, цудоўныя, унікальныя пейзажныя замалёўкі.

Даследчыкі творчасці Навуменкі справядліва адзначалі, што ён — «унікальны пісьменнік-пейзажыст, што таксама зблізае яго з рамантыкамі» [10, с. 395]. Прыродныя карціны ў яго творах сведчаць аб тым, што ён не толькі таленавіты пісьменнік-жывапісец, але і сапраўдны патрыёт сваёй радзімы. Яго пейзажы ўзбагачаюць наша пачуццё прыгожага, паглыбляюць, узмацняюць любоў да роднага краю, прыносяць асалоду. Навуменка — пісьменнік з высокім каларыстычным чуццём, пяшчотным і паэтычным успрыняццем прыроды. Яго творчасць мажорная, летуценная, поўная звонкіх, яркіх фарбаў: «Той апошняй школьнай восенню *прыгожа цвілі верасы. Яны разліліся ружовымі азёрамі ў Казіным розе, па выжарынах і рэдкалессі цягнуліся аж да самага сяла Макаўкі*. Штодня на світанні я бег па грыбы. *Лес сустракаў* мяне *густым, як малако, туманам, цёплай парнасцю*…» [5, с. 112]. Для пісьменніка характэрна дакладнае адлюстраванне жыцця беларускага лесу ва ўсім багацці і шматстайнасці яго форм, тонкасці і прыгажосці каляровых адносін, непаўторнасці, зменлівасці настрояў, музыкальнасці гукаў: «Мора было марай. Лес яе калыхаў і пеставаў. Праз усё дзяцінства прайшла яго бясконцая казка аб нечым неразгаданым, патаемным і разам з гэтым такім родным і блізкім душы. Лес, як і чалавек, бываў сумны і радасны, гнеўны і добры, у яго было тысяча казак і тысяча песень. Настрой лесу мяняўся кожнага дня і кожнай гадзіны. Тая самая хваіна вечарам была зусім не такая, як раніцай. Яна станавілася сур'ёзная і зацятая, яна нібы гаварыла: «Ідзіце дадому і не перашкаджайце мне думаць. Прыйдзеце заўтра, усё будзе па-другому». Ласкавая з раніцы лясная палянка, атуленая соснамі і бярозамі, к вечару нават крыху палохала сваёй самотнасцю і трывожна-насцярожаным настроем. Здавалася, яна чакае нейкіх новых гасцей, і гэтыя нябачныя госці ўжо нячутна спускаюцца на яе з вяршалін сосен і бяроз на крылах доўгіх ценяў...» [5, с. 109].

<…>

Лес быў як жывы. Ён, здавалася, скакаў і прытупваў, калі па рэйках імчаўся цягнік; у радасна-нямым здзіўленні сустракаў ён, бадзёры і ўмыты, першыя праменні сонца; ён злаваўся і стагнаў, калі над зялёнымі шапкамі соснаў і бяроз грымеў летні гром...» [5, с. 109].

Увагу беларускага пісьменніка прыцягваюць і лес у цэлым, і асобныя прадстаўнікі лясных масіваў. Вось дубы: «Казіны Рог пачынаўся *пяццю велічэзнымі дубамі*. Яны *стаялі спакойна і паважна, нібы вартавыя, што самі ўсведамляюць адказнасць сваёй вялікай службы*» [5, с. 110]. «*Асіна лапатала нават у бязветраныя дні, пад восень яна рабілася прыгажэйшай ад усіх дрэў, раўняцца з яе вогненнымі барвамі мог толькі клён*, не часты ў нашым лесе» [5, с. 26].

Жыццярадасная маляўнічасць адрознівае многія «партрэты» дрэў у творах Навуменкі, дрэў, якія, як і людзі, маюць сваю індывідуальнасць. Яго пісьменніцкае пяро адлюстравала многія пароды дрэў і раслін лесу, а таксама жывёльны свет — гаспадароў ляснога царства. Хораша, паэтычна расказвае ён пра свае пасвячэнне «ў грыбное царства»: «Грыбы… Лясная казка. Паэма сэрца…» [5, с. 22], спявае оду лесу:

«Лес — жывая вопратка зямлі, яе музыка. Яго настрой мяняецца на працягу аднаго нават дня. Шмат пазней, у сталыя гады, мне прыйшлося бачыць мора —

і паўночнае, і паўднёвае. Яно таксама на вачах мяняецца. Мора выклікае буйныя пачуцці — адвагу, прагу подзвігу, імкненне ў новыя далечы; лес — пачуцці інтымныя, глыбока схаваныя. Па багацці фарбаў, гукаў, пераходаў лес багацей за мора, толькі яго музыка, светавая гама — не такія кідкія» [5, с. 26].

Меднастволы сасоннік, асветлены ранішнім сонцам, выклікае ў героя трылогіі І. Навуменкі «Дзяцінства. Падлетак. Юнацтва» высокія пачуцці, прагу да дабра і радасці, нешта падобнае на тое, што ён адчуваў у царкве. Праўда, пісьменнік канкрэтызуе, параўноўвае гэтыя светлыя адчуванні — у царкве і ў сасонніку, падкрэсліваючы розніцу паміж зямным і нябесным. «Калі мне было восем, дзевяць гадоў, дзед Піліп вадзіў мяне ў царкву (Яе ў хуткім часе закрылі, зрабіўшы з яе клуб). *У царкве я адчуваў сябе нібы далучаным да таямніцаў зямлі, неба, жыцця, у душы нараджалася пачуццё ціхай радасці, урачыстасці, жаданне быць добрым, пакорлівым. Ні ў якім другім месцы не ўзнікала падобнае пачуццё. Хіба што ў меднастволым сасонніку, асветленым ранішнім сонцам. Але гэта было ўсё-такі зямное, прасякнутае радасцю існавання, пачуццё. У царкве ж яно ўзвышала істоту, як бы падымаючы яе ў недасяжныя надземныя высі*» [7, с. 476].

Сузіраючы карціну цудоўнага зорнага неба, беларускі пісьменнік імкнецца спасцігнуць тайну гармоніі. Колькі паэтычных адчуванняў, асацыяцый, думак выклікае гэта карціна! Прывядзём урывак з лірычнага апавядання Навуменкі «Раман з эпілогам»: «Вечар патушыў усе колеры, застаўся толькі адзін — *шэры*. І у гэтым *шэрым — бляск агню, срэбнае мігценне зорак, таямнічае, загадкавае святло месяца*. Ці не напамінак гэта, што пасля ночы прыйдзе дзень?.. *Зоркі льюць святло. Калі льюць, то павінен быць гук. Можа, хто-небудзь у будучым перакладзе на музыку ззянне зорак, і тады чалавек пачуе дзівосныя сімфоніі*» [8, с. 303].

Пейзажы Навуменкі сведчаць аб тым, што аўтар на ўсё глядзіць сваімі вачыма. Адной з важнейшых асаблівасцей стылю празаіка з'яўляецца музыкальнасць. Недарэмна пісьменнік хоча пачуць музыку зорак, дзівосную сімфонію зоркавага ззяння!

Мове твораў Навуменкі і Бялова ўласціва багацце тропаў, маляўнічасць мастацкіх сродкаў, эмацыянальнасць.

Цёмнай марознай зімовай раніцай Іван Цімафеевіч, герой апавядання Бялова «Вясна», сабраўся ехаць па дровы. Вось апісанне надвор'я ў той час, калі ён падыходзіць да канюшні, каб запрэгчы каня:

«*Мороз ярился, как стоялый откормленный овсом жеребец*, ночь была на избыве. *Как мелкие битые стеклянки, мерцали в небе звезды*, но за деревней уже обозначилась лиловая заря» [1, с. 338].

Яркая зрокавая карціна асляпляльна белага снегу дапаўняецца ў Бялова гукавымі пейзажамі: «*Снег скрипел под полозьями, словно шла по дороге тысяча женихов, обутых в сапоги со скрипом, — в такие сапоги, какие шьет хромой сапожник Ярыка*. Ярыка умел класть в задник сапога такую бересту, что при ходьбе и пляске они скрипели на всю волость, на весь сельсовет.

Светало. *Снежное поле с застывшими волнами наста вдруг порозовело от холодного солнца…*» [1, с. 339].

Малюнак марознага світанку пададзены ва ўспрыняцці салдацкага бацькі Івана Цімафеевіча, які і параўноўвае рып снегу з рыпам ботаў тысячы жаніхоў, ботаў, якія рабіў яго аднавяскоўец Ярыка. Герой і ўдакладняе, як дабіваўся Ярыка таго, каб боты рыпелі «на всю волость, на весь сельсовет». Вачыма старога ўбачана і паружавелае ад халоднага сонца снежнае поле з застыўшымі хвалямі наста.

Здзіўляе ўменне Бялова тонка перадаваць паветранае асяроддзе, прыгажосць каляровых адносін у адлюстраванні дрэў, неба, палёў, лугоў. Вядомы мастак Канстэбл пісаў зялёныя палі Англіі, адрозніваючы дзясятак адценняў зялёнага. Жывапіс словам Бялова таксама фіксуе самыя розныя адценні і глыбіню гэтага колеру. Пісьменніка, як можна бачыць са шматлікіх прыкладаў, моцна займае пра-

блема колеру. Возьмем хоць бы вось гэты ўрывак з аповесці «Привычное дело»: «Степановне стало жарко в еще девичьем с борами казачке. А все везде было тихо и отрадно, ровная отава в лугах как расчесанная, застыли, не шевельнутся на бровках сухие былиночки. Воздух остановился. *Темные елки берегли зеленую свою глубину: глядишь, как в омут. У сосен зелень сизая, негустая, тоже не двинут ни одной иглой, а такие высокие*. И сквозь них голубенькое, почти белое небо без облаков. Тишина» [1, с. 109].

Аб высокім жывапісным майстэрстве рускага пісьменніка сведчыць і яго любоў да адлюстравання ранніх прыцемкаў, якія надаюць формам прыроды цякучасць, мяккую зменлівасць, пазбаўляюць выразнасці і пэўнасці абрысы: «В поле он вышел уже в то время, когда *сумерки помутили теплую летнюю даль с ее пояском окрестных лесов и недвижной пеной полевых кустиков*» [1, с. 336].

«*Там, вдалеке, где виднелся гребешок леса*, начинался Вепревский волок — одно из самых гиблых мест дороги» [1, с. 323].

«*Солнце уже накололось на зубцы дальних потемневших елей*» [1, с. 324].

Прыклады ўзяты з апавядання «За тремя волоками». Змрокавыя пейзажы любіць і Навуменка, але ў беларускага пісьменніка яны больш эмацыянальныя, таямнічыя, загадкавыя, незвычайныя, што зноў жа выяўляе рамантычную, летуценную душу гэтага творцы: «У наш вагон па-ранейшаму ніхто не садзіцца. *Светлы месячны палог, якім ахінуты пералескі, дрэвы, кусты, будынкі, змякчае іх абрысы, надаючы ўсяму бачнаму хісткасць, расплывістасць. Прыгажосць незвычайная. І Антаніна прыгожая*» [5, с. 443]. «*Пятля замёрзлай рачулкі* пад навіслымі голымі алешынамі, *казырок навеса прыгараднай станцыі, сонныя дамкі ля сцяны лесу здаюцца дзіўнымі, незвычайнымі*» [5, с. 443].

Апісанні прыцемак, змроку ў Навуменкі адрозніваюцца дамінаваннем у іх сіняга колеру. Толькі ў апавяданні «Па махорку» гэты каляровы эпітэт сустракаецца некалькі разоў: «Мы доўга *хадзілі па ахінутых сінім змрокам вуліцах*» [5, с. 132]. «*Той вясновы вечар* з хрумсткай наледдзю на шэрым асфальце, *з цёмна-сінімі сілуэтамі дрэў* я запомніў надоўга» [5, с. 133].

«Ноч была месячная, ясная, імкліва *прабягалі ахутаныя сінім змрокам кусты, паляны, чорныя дрэвы*. Сярэбраным бляскам адсвечвалі азярынкі талай вады» [5, с. 133].

У аповесці Паустоўскага «Орест Кипренский» згадваецца выдатная карціна мастака «Пруд», у якой, на думку пісьменніка, паэзія змяркання выражана з надзвычай тонкім майстэрствам. Паустоўскі заўважае, што па сваёй прастаце і мяккасці гэта карціна Кіпрэнскага роўная пушкінскім элегіям. «Невольно кажется, — адзначае пісьменнік, — что к Кипренскому относятся две позабытые пушкинские строчки, начало неоконченных стихов:

> Скажи мне, ночь, зачем твой тихий мрак
> Мне радостней…

Последняя строка оборвана, но содержание ее ясно. Мрак ночи радостнее разоблачающего дневного света. Романтиков всегда привлекали сумерки, когда не только природа, но и лица людей чудятся таинственными и вдохновенными» [9, с. 132].

У Навуменкі многа замалёвак, дзе ён, як і мастакі-рамантыкі, захапляецца харастовам змроку, яго перавагай над дзённым харастовам. У апавяданні «Вальс кветак» ён вачыма свайго героя-навукоўца са здзіўленнем бачыць змяненне навакольнага свету вечаровай гадзінай: «*Вячэрняя, ахутаная змрокам вуліца здалася Кастравіцкаму куды прыгажэйшай, чым тады, калі ён хадзіў па ёй днём. Цёмныя купы ліп вырысоўваліся, як вялізныя стагі, неяк па-асабліваму, таямніча і ўрачыста, шасцела на дрэвах лісце*. Парканы, хаты, стусы бярвенняў на вуліцы перад дварамі — усё набывала *новае, незнаёмае аблічча, загадкава-прыгожае і пры-*

*вабнае*» [5, с. 177]. Звернем увагу на эпітэты, якія характарызуюць асаблівасць успрыняцця героя — лісце шасцела на дрэвах «неяк па-асабліваму, таямніча і ўрачыста», наваколле набывала «новае, незнаёмае аблічча, загадкава-прыгожае і прывабнае». Эпітэт — гэта мастацкае азначэнне жыццёвай з'явы — амаль прама абазначае, якім бачыць мастак свет, як яго разумее. І яшчэ адзін прыклад — з аповесці «Развітанне ў Кавальцах»: «Я выходжу на двор у *густую дзягцярную цемень*. Днём церусіў дождж, але на змярканні супыніўся, нават імжы няма, і толькі чуваць, як цяжкія вадзяныя кроплі падаюць з даху на ганак. Нават да такой цемені прызвычайваецца зрок: *бачу вялізны, як хмара, абрыс старой ліпы*, з правага боку — *сцяну маладога сасонніку, які падступае ледзь не да самай хаты*» [5, с. 405].

Такім чынам, нават зрокавыя пейзажы паказваюць адметнасць мовы беларускага і рускага празаікаў: мове пейзажаў першага ў большай ступені характэрна лірычнасць, экспрэсіўнасць.

Творы Бялова і Навуменкі напоўнены любоўю да родных мясцін, да роднага дома. Прыём увасаблення, метафарычнасць — гэтыя характэрныя прыкметы стылю Бялова — асабліва выразна праяўляюцца ў аповесцях і апавяданнях, прысвечаных Радзіме. Нельга без хвалявання чытаць у «Плотницких рассказах» старонкі пра родны дом, дзе пра яго гаворыцца як пра жывую істоту: «Утром я хожу по дому и слушаю, как шумит ветер в громадных стропилах. *Родной дом словно жалуется на старость и просит ремонта*. Но я знаю, что ремонт был бы гибелью для дома: *нельзя тормошить старые, задубелые кости. Все здесь срослось и скипелось в одно целое, лучше не трогать этих сроднившихся бревен, не испытывать их испытанную временем верность друг другу*» [1, с. 130]. Перад гэтым, дзвюма старонкамі раней, паведамляецца, што дом стаіць на зямлі больш за сто гадоў і час зусім яго скасабочыў, што ноччу «*по древним бокам сосновой хоромины бьют полотнища влажного мартовского ветра*. Соседний кот-полуночник таинственно ходит в темноте чердака, и я не знаю, чего ему там надо.

*Дом будто тихо сопит* от тяжелых котовых шагов» [1, с. 128].

Як бачым, стары дом прыпадабняецца ў Бялова старому чалавеку, у якога «старые задубелые кости», «древние бока», ён сапіць, скардзіцца на старасць. «Мне казалось, что *мой старый дом тоже не спит*, перемогая длинную лунную ночь, *вспоминает события столетней давности и всем своим деревянным естеством сочувствует мне*» [1, с. 165]. Калісьці дом быў галавою цэлай сям'і пабудоў: «Стояло поблизости большое с овином гумно, ядреный амбар, два односкатных сеновала, картофельный погреб, рассадник, баня и рубленный на студеном ключе колодец. Тот колодец давно зарыт, и вся остальная постройка давно уничтожена. У дома осталась одна-разъединственная родственница полувековая, насквозь прокопченная баня» [1, с. 130].

На гэтым прыкладзе можна прасачыць, як аўтар, ідучы ад першапачатковага вобразнага штуршка аб старажытных баках дома, аб яго старасці і звычцы сапці, стварае гняздо, цэлы метафарычны свет, дзе дом, як стары чалавек, і не спіць, і спачувае таму, хто шчасліва жыў у ім з бацькамі, а цяпер жыве ўспамінамі аб тых лепшых гадах, і на доўгіх дарогах жыцця згубіў усіх сваякоў акрамя аднаго.

Элегічны матыў старога дома ў Бялова змяшчае ў сабе і светлыя ноткі, бо родны дом — гэта безліч радасных успамінаў дзяцінства і юнацтва, шчаслівага адчування абароненасці бацькоўскай любоўю і клопатам, месца і час незабыўных мар і летуценняў аб будучыні, узрастання ў дабрыні і розуме, мужнасці і чалавечнасці.

Любоў да родных мясцін, да роднага дому Бялоў параўноўвае з жывою крыніцаю, на якую хоць гару зямлі насып, усё роўна праб'ецца. У аповесці «Привычное дело» ёсць вельмі кранальная сцэна, калі галоўны герой Іван Афрыканавіч вяртаецца дамоў з няўдалай вандроўкі на заробкі: «Хотелось пить, а родничка не было.

Иван Африканович поглядел, поискал. Метрах в трех от заваленного колодчика, где теперь громоздилась земля и камни, он разглядел мокрые комья. Шагнул еще, поднагнулся: далеко от прежнего места под глыбами глины светилась на солнце прозрачная холодная вода. *Жив, значит, родничок, не умер. Попробуй-ка завали его. Хоть гору земли нагреби, все равно, видно, наверх пробьется...*

*Вот так и душа: чем ни заманивай, куда ни завлекай, а она один бес домой просачивается. В родные места, к ольховому полю*. Дело привычное» [1, с. 96—97]. Эпічны паралелізм тут надае нагляднасць, матэрыяльнасць пачуццю.

Калі ў Бялова так хараша расказана пра стары дом, у якім назаўсёды засталіся жыць родныя людзі, сказаныя імі словы і зробленыя ўчынкі, гэта значыць, справы мінулых дзён, то ў адным з твораў Навуменкі не менш хараша сказана пра будаўніцтва новага дома. «Новая хата» — так называецца апавяданне беларускага пісьменніка, напісанае ў 1959 годзе, прысвечанае гэтай надзвычай важнай падзеі ў жыцці чалавека. Твор адрозніваецца псіхалагізмам, трапнасцю, змястоўнасцю мастацкай дэталі, шчырасцю, даверлівасцю інтанацый, бо апавяданне вядзецца ад імя дзіцяці. Вось пачатак яго «Залатымі іскрамі ў памяці: сонечны дзень, расчыненыя ў двор вароты і цэлы абоз расточаных на дышлях доўгіх вазоў, нагружаных смалістымі бярвеннямі. Мы будзем ставіць новую хату! Маці мітусіцца, у яе расчырванелы твар і шчаслівыя вочы. Абед для вознікаў яна прыгатавала проста на двары, яшчэ і цяпер курацца залітыя вадой чорныя галавешкі. Бярвенні са звонам ляцяць з вазоў на дол, і вось ужо вялікая іх куча высіцца сярод зялёнага, зарослага муравой, двара» [5, с. 18].

Вядомы мастак Пётр Пятровічаў гаварыў, што самае першае і галоўнае ў мастака — гэта пошук выражэння праўды. У пісьменніка, як і ў мастака, гэта праўда павінна выражацца ва ўсім, нават і ў самай малой клетачцы мастацкай тканіны твора, ва ўжыванні таго ці іншага тропу, напрыклад, параўнання, закліканага дакладна і трапна ахарактарызаваць тую ці іншую з'яву, прадмет.

У аснове параўнанняў Навуменкі і Бялова — канкрэтна-прадметны свет, атрыбуты паўсядзённага жыцця селяніна, местачкоўца. Звернем увагу на параўнанні рускага аўтара: «…*самовар уже булькал у шестка, словно разгулявшийся весенний тетерев*» [1, с. 132].

«Тихо в деревне. Но вот по прогону *из леса баржами выплыли коровы*» [1, с. 50].

«Весь остаток дня *ходил злой, словно оставленный в деревне козел, когда все стадо до самой последней старой козы на пастбище, а он, этот козел, один на один с пустой и жаркой деревенькой*» [1, с. 159].

Тое ж самае можна сказаць і аб схаваным параўнанні — метафары: «*Фантазия все сильнее раскручивала свои жернова*» [1, с. 165].

«*Машина, по-звериному рыкнув*, покатила дальше» [1, с. 159].

«*Резкий, но какой-то коротенький, словно бы стыдливый звонок слышится от входных дверей*» [1, с. 234].

Цікавая асаблівасць арыгінальнага дзіцячага ўспрыняцця адлюстравана ў параўнанні чыгуначнага палатна з рэчкай спякотнымі летнімі днямі ў апавяданні Навуменкі «Верасы на выжарынах…»: «У сінюю бязмежную далеч бегла чыгунка. Летам, у спякотныя дні, над рэйкамі трымцела белаватая смуга. Чыгуначнае палатно здалёк, за які-небудзь кіламетр, здавалася ў такія хвіліны рэчкай, па якой гуляюць-пераліваюцца імклівыя хвалі. Колькі разоў, уведзеныя ў зман гэтым прыгожым міражом, мы, пасялковая басата, мералі крокамі гарачыя рэйкі, каб нарэшце дайсці да таго месца, адкуль пачыналася гэтае дзіўнае відовішча. Але ўсякі раз рэчка адступала, яна была заўсёды наперадзе, прайдзі хоць кіламетр, хоць два, хоць дзесяць…» [5, с. 108—109].

Атмасфера блакітнага колеру напаўняе многія пейзажныя карціны Навуменкі, у той час як у Бялова пераважае (не падлічвалі, але кідаецца ў вочы гэта перавага) зялёны колер. «Зялёная цішыня», «зялёны рух», «зялёны падол» — такія і падоб-

ныя ім каляровыя метафарычныя эпітэты сустрэнем у Бялова часта: «Стояли белые ночи. Последние весенние дни, будто завороженные, недоуменно затихали над деревнями. Все гасила и сжигала зеленая тишина» [1, с. 43].

«День долго на мог догореть, все вздыхал и ширился в поле и над деревней. Солнце дробилось в реке на ветряной голубой зыби, трава за день заметно выросла, и везде слышалось зеленое движение, словно сама весна в последний раз мела по земле зеленым подолом» [1, с. 46].

Можна прыводзіць шмат прыкладаў, але справа не ў іх колькасці. Тут, думаецца, таксама па-свойму праяўляецца індывідуальнасць рускага і беларускага аўтараў, адчуваецца нацыянальны пачатак іх творчасці. Не лішнім будзе нагадаць у сувязі з гэтым і такія меркаванні мастакоў аб блакітным колеры. Напрыклад, французскі жывапісец Дэфі Рауль лічыў, што блакітны колер, — гэта адзіны колер, здольны захоўваць сваю індывідуальнасць, не змешвацца з іншымі. Паводле рускага мастака Васіля Кандзінскага, гэты колер выражае чысціню пачуццяў і высакароднасць намераў.

## Спіс літаратуры


1. Белов, В. Повести и рассказы / В. Белов — М.: Художественная литература, 1984. — 543 с.
2. Гісторыя беларускай літаратуры XX стагоддзя: ў чатырох тамах / рэдкал. В. А. Каваленка, У. В. Гніламёдаў [і інш.] — Мінск: Беларуская навука, 1999 — 2003. — 4 т. — Т. 3: 1941—1965. — Мінск: Беларуская навука, 2001 — 950 с.
3. Каваленка, В. А. І радасць, і смутак, і боль… / В. А. Каваленка С. 5—12 // Навуменка, І. Выбраныя творы: у двух тамах / І. Навуменка — Мінск. Мастацкая літаратура, 1995. — Том 1. Апавяданні. Аповесці. — 478 с.
4. Колас, Я. Збор твораў: у 20 т. / Якуб Колас ; рэд. тома Т. С. Голуб ; падрыхт. тэкстаў і камент. С. В. Забродскай ; Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т мовы і літ. імя Я. Коласа і Я. Купалы. — Мінск : Беларус. навука, 2011. — Т. 13. Трылогія «На ростанях». Кніга першая і другая — 457 с.
5. Навуменка, І. Водгулле далёкіх вёснаў / І. Навуменка — Апавяданні і аповесці. — Мінск: Мастацкая літаратура, 1989. — 454 с.
6. Навуменка, І. Выбраныя творы: у двух тамах / І. Навуменка. — Мінск. Мастацкая літаратура, 1995. — Т. 1: Апавяданні, аповесці. — 478 с.
7. Навуменка, І. Дзяцінства. Падлетак. Юнацтва: аповесці / І. Навуменка — Мінск: Юнацтва, 1997. — 528 с.
8. Навуменка, І. Падарожжа ў юнацтва. Выбранае / І. Навуменка. — Мінск. Мастацкая літаратура, 1972. — 478 с.
9. Паустовский, К. Маленькие повести / К. Паустовский — Петрозаводск: Карелия, 1978. — 286 с.
10. Саверчанка, І. В. Паэтыка апавяданняў і аповесцей Івана Навуменкі: Творчасць Івана Навуменкі: славянскі, еўрапейскі, сусветны кантэкст: матэрыялы Рэспубліканскай навуковай канферэнцыі да 85-годдзя з дня нараджэння народнага пісьменніка Беларусі акадэміка І. Я. Навуменкі, Мінск, 16 лютага 2010 года. — Мінск: Права і эканоміка — 2010. — 395 с.

**Эмануіл ІОФЕ**

# ПЯТЫ КІРАЎНІК УРАДА САВЕЦКАЙ БЕЛАРУСІ

*Нямногія ведаюць, што горад Барысаў і Барысаўскі раён далі Беларусі трох прэм'ер-міністраў, кіраўнікоў урада БССР. Гэта Язэп (Іосіф) Адамовіч (1924—1927), Апанас Кавалёў (1937—1938) і Мікалай Аўхімовіч (1956—1959).*

*Раскажу пра першага.*

*Яго папярэднікамі на пасадзе кіраўнікоў урада Савецкай Беларусі былі Зміцер Жылуновіч, Аляксандр Мяснікоў, Вікенцій Міцкевіч-Капсукас (Літоўска-Беларускай ССР) і Аляксандр Чарвякоў.*

13 сакавіка 1924 года адкрыўся VI (надзвычайны) Усебеларускі з'езд Саветаў, які заканадаўча аформіў узбуйненне БССР. З'езд размежаваў пасады Старшыні ЦВК БССР і Старшыні СНК БССР, якія ў 1920—1924 гадах адначасова займаў Аляксандр Чарвякоў. Ён застаўся на пасадзе старшыні ЦВК рэспублікі. Старшынёй жа Савета Народных Камісараў БССР выбралі Язэпа Адамовіча, якому споўнілася толькі 27 гадоў. Але камсамольцы называлі яго «дзядзькам Язэпам».

Яго жонка Соф'я Шамардзіна сцвярджала, што ён нарадзіўся ў Мінску. Гэта памылка. На самай справе ён з'явіўся на свет 7 студзеня 1897 года ў Барысаве. Бацька Язэпа — Аляксандр Іванавіч, рабочы высокай кваліфікацыі, працаваў па найме мадэльшчыкам на кафельных заводах і гліняна-пасудных фабрыках у Мінску, на фабрыках у Нова-Барысаве, Тыфлісе і ў беларускім мястэчку Крупках. Як успаміналі дзеці, гэта быў, відаць, вельмі таленавіты чалавек, які сам ствараў мастацкія мадэлі і нават скульптурныя партрэты. Па сваім часе — чалавек адукаваны. З'яўляўся актыўным удзельнікам рэвалюцыйных падзей 1905—1907 гадоў. Таму ў Барысаве жыў пад наглядам паліцэйскіх і жандарскіх органаў.

Ужо з дванаццаці гадоў Язэп ідзе на Барысаўскую гліняна-пасудную фабрыку, дзе працаваў яго бацька. Там юнак рана адчуў усю цяжкасць эксплуатацыі дзяцей. Акрамя Нова-Барысава (гліняна-посуднай і запалкавай фабрыкі «Бярэзіна»), працаваў на фабрыках Мінска, Крупак, Тыфліса. Адбывалася гэта летам, а зімой вучыўся і такім чынам скончыў царкоўнапрыходскую школу.

Старэйшы брат Язэпа Уладзімір Аляксандравіч стаў камандзірам дывізіі Чырвонай Арміі, генерал-маёрам. Памёр у 1961 годзе.

У 1915 годзе Язэпа Адамовіча мабілізавалі ў армію, удзельнічаў у Першай сусветнай вайне на Паўднёва-Заходнім і Румынскім франтах. Яму было прысвоена званне старшага унтэр-афіцэра. За мужнасць і гераізм узнагародзілі ордэнамі Святога Георгія чацвёртай, трэцяй і другой ступеней.

Акрамя таго прымаў актыўны ўдзел у рабоце рэвалюцыйных гурткоў і ў 1916 годзе становіцца членам РСДРП.

У канцы 1916 года быў паранены і накіраваны на лячэнне ў Харкаў. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі Адамовіча выбралі членам палкавога камітэта 310-га Шацкага палка, Харкаўскага Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў.

За рэвалюцыйную дзейнасць па прыгавору ваеннага суда Язэп Аляксандравіч быў пасланы на Румынскі фронт, дзе вёў бальшавіцкую прапаганду.

Пасля ліпеньскай дэманстрацыі ў 1917 годзе ў Петраградзе Адамовіч вяртаецца на радзіму і ўступае ў 121-ы пяхотны полк. У гэтым палку знаёміцца і хутка збліжаецца з Аляксандрам Мясніковым і з іншымі рэвалюцыянерамі, выбіраецца ў гарадскі савет і працуе там ужо з бальшавікамі.

З верасня 1917 года Адамовіча перавялі ў каманду разведчыкаў 3-й батарэі 105-й артылерыйскай брыгады 11-й арміі Паўднёва-Заходняга фронту. У снежні 1917-га Адамовіч прыехаў у Барысаў і быў выбраны сакратаром павятовага выканкама, устанаўліваў савецкую ўладу ў родным Барысаве. Са студзеня 1918 года становіцца членам РКП(б).

У сувязі з наступленнем нямецкіх войск з невялікай групай узброеных рабочых пакінуў Барысаў і праз некаторы час апынуўся ў Смаленску, дзе прымаў актыўны ўдзел у рабоце штаба Чырвонай гвардыі і арганізоўваў розныя атрады Чырвонай гвардыі.

Летам 1918 года абласны рэвалюцыйны камітэт у Смаленску вылучае Язэпа Аляксандравіча на пасаду памочніка начальніка гарнізона і каменданта горада, а праз кароткі час — начальніка гарнізона Смаленска і губернскага ваеннага камісара. З верасня 1918 года ён — ваенны камісар Магілёўскай губерні і Лепельскага павета.

Менавіта пад кіраўніцтвам Адамовіча праводзілася падаўленне контррэвалюцыйных паўстанняў: сялянскага (кулацкага) Жыгалава, паўстання ў Дзямідаўскім павеце, антыбальшавіцкага выступлення 24—29 сакавіка 1919 года (паўстанне Стракапытава), у Гомельскай губерні, Бранскага паўстання канца 1919 года.

Па ўсіх правілах вайсковай стратэгіі і тактыкі пад яго кіраўніцтвам была распрацавана і ажыццёўлена аперацыя па знішчэнні стракапытаўцаў, якія ўзнялі кантррэвалюцыйны мяцеж у Гомелі. Жлобінскі атрад, ваенным камісарам якога быў Язэп Адамовіч, размясціўся непадалёк ад чыгуначнай станцыі Уза. Адсюль ён накіраваўся ў Гомель. Задача заключалася ў тым, каб прымусіць мяцежнікаў адступаць на Навазыбкаў. Бліскуча задуманая аперацыя закончылася выдатна. Мяцежнікі папалі ў расстаўленую пастку і склалі зброю. Умела павёў сабе Адамовіч і ў маі 1919 года, калі ў Горацкім павеце пачалі дзейнічаць бандыты.

Пасля вызвалення Беларусі ад польскіх інтэрвентаў ён стаў членам Мінскай губернскай парттройкі (В. Кнорын, Я. Адамовіч, А. Чарвякоў), Мінскага губернскага ВРК, ваенным камісарам Мінскай губерні, народным камісарам па ваенных справах БССР, членам Ваенна-рэвалюцыйнага камітэта БССР, начальнікам Мінскага гарнізона.

У канцы верасня 1920 года ў Чырвоную Армію было накіравана 68 тысяч чалавек, з іх каля 8 тысяч камандзіраў. За паспяховае правядзенне ваенна-мабілізацыйнай работы Адамовіча ўзнагародзілі залатым гадзіннікам, а пазней і імянной зброяй.

У 1929 годзе ў артыкуле «Как прогнали из Белоруссии польских панов» ён нагадваў:

*«[...] Редактор газеты «Звязда» и член Литовско-Белорусского Центрального Комитета тов. Кнорин сообщил мне, что решением Литовско-Белорусского ЦК намечена будущая губернская парттройка в составе Кнорина, Червякова и меня.*

*[...] Немедленно сгруппировали основное ядро будущей власти в Белоруссии, направляемся эшелоном к Борисову. Войска двигались вперед, а мы вслед за ними на подводах быстро добрались к Минску. Армия наша в это время была уже далеко за Минском и двигалась на запад.*

*Мы осматриваем Минск. Город очень изменился. Всюду разрушение, следы пожаров, в многих местах они еще не утихают. Очень много разрушенных домов, строений, мостов.*

*Все это говорит нам, что нас ждет большая организационная работа.*

*Быстро организовали Военно-Революционный комитет, в который вошла выделенная тройка. Заседания комитета проходили почти каждый день.*

*[...] Мы ищем, мобилизуем все местные силы, отбираем лучшие части из партизанских отрядов и организовываем власть. Тут же мы укрепляем Красную Армию, которая идет вперед, спешно проводим мобилизацию бывшего командного состава, бывших офицеров, и в то же время призываем рабочих и крестьян стать в ряды Красной Армии.*

*[...] К этому времени в Минске насчитывалось человек 30—40 большевиков, которые концентрировались вокруг партийной тройки; решено оформить Минскую партийную организацию».*

Пасля заканчэння Грамадзянскай вайны, Адамовіч, як і раней, заставаўся на ваеннай рабоце. Ён быў начальнікам гарнізона Мінска, наркамам па ваенных справах Беларусі, членам Рэўваенсавета войск Магілёўскага і Мінскага раёнаў, камандуючым часцей асобага прызначэння рэспублікі.

У іншых крыніцах яго апошняя пасада называецца так: «старшыня надзвычайнай камісіі па барацьбе з бандытызмам». Менавіта Язэп Аляксандравіч вёў энергічную барацьбу з бандыцкімі атрадамі, якія ў вялікай колькасці перакідваліся на тэрыторыю Беларусі з Польшчы.

З 1921 года Я. А. Адамовіч займаў пасаду наркама ўнутраных спраў, быў выбраны намеснікам ЦВК і СНК БССР.

З 1922 года Язэп Аляксандравіч слухач Маскоўскай ваеннай акадэміі. Адамовіч прыняў удзел у падрыхтоўчай рабоце по стварэнні СССР, уваходзіў у склад беларускай дэлегацыі на X Усерасійскім з’ездзе Саветаў, удзельнічаў у рабоце I з’езда Саветаў СССР.

У лютым 1924 года Адамовіч увайшоў у склад Часовага Беларускага Бюро ЦК РКП(б) па ўзбуйненні тэрыторыі БССР, з’яўляўся ўпаўнаважаным СНК БССР па далучэнні Віцебскай вобласці да Беларускай ССР.

У сакавіку 1924 года УЦВК прыняў пастанову аб узбуйненні БССР і аб перадачы ёй шэрагу паветаў Віцебскай, Гомельскай і Смаленскай губерняў.

З 17 сакавіка 1924 года Язэп Аляксандравіч узначаліў Савет Народных Камісараў БССР. У 1924—1925 гадах ён быў членам Рэўваенсавета СССР.

З імем Адамовіча звязаны многія поспехі ў сацыяльна-эканамічным і культурным развіцці Беларусі ў 1924—1927 гадах.

Гэта аднаўленне абутковай фабрыкі ў Мінску (лістапад 1924 года), адкрыццё электрастанцыі ў Шклове (18 сакавіка 1925-га), арганізацыя Беларускага саюза саматужна-прамысловай кааперацыі (снежань 1925-га), выпуск першых у Беларусі такарных станкоў на Мінскім заводзе «Энергія», заснаванне Бярэзінскага дзяржаўнага запаведніка (30 студзеня 1925 года), правядзенне I Усебеларускага з’езда сялянак і батрачак у Мінску, I з’езда інжынерна-тэхнічных, эканамічных працаўнікоў і аграномаў БССР, заснаванне ў Мінску Беларускай кніжнай палаты, выданне педагагічнага часопіса «Асвета» (чэрвень 1924 года), часопісаў «Беларуская медычная думка», «Беларуская работніца і сялянка» (лістапад 1925 года), «Беларускі піянер», «Советское строительство Белорусской Советской Социалистической Республики», «Плуг» — органа Народнага камісарыята земляробства БССР (студзень 1925 года), «Наш край» (кастрычнік 1925-га), заснаванне выдавецтва «Навука і тэхніка» (1924), устанаўленне ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга БССР — вышэшай узнагароды рэспублікі ў 1924—1933 гадах, адкрыццё Аб’яднанай Беларускай ваеннай школы імя М. Калініна (1 лістапада 1924 года), Віцебскага ветэрынарнага інстытута (4 лістапада 1924 года), Мінскага музычнага тэхнікума (кастрычнік 1924-га). З’явілася пастанова СНК БССР аб прысваенні звання «Народны паэт Беларусі» Янку Купалу і Якубу Коласу. Адбылася першая перадача Беларускай шырокавяшчальнай радыёстанцыі РВ-10 імя Саўнаркама БССР (15 лістапада 1925 года).

У гістарычнай літаратуры сцвярджаецца, што «бацькамі беларусізацыі» былі Аляксандр Чарвякоў, Усевалад Ігнатоўскі і Антон Баліцкі. На вялікі жаль, на сённяшні дзень замоўчваецца той факт, што вялікую працу па беларусізацыі праводзіў Старшыня СНК БССР Адамовіч, які фактычна стаяў ля вытокаў правядзення гэтай палітыкі ў рэспубліцы.

Яшчэ 5 лютага 1921 года сесія ЦВК БССР па яго ініцыятыве звярнулася да культурных работнікаў — ураджэнцаў Беларусі з заклікам вярнуцца для працы па яе нацыянальна-культурным адраджэнні.

У фондах Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь захоўваецца гэты каштоўны і цікавы дакумент. Прывядзём яго фрагменты:

*«...Товарищи! Одной из величайших задач, которые стоят перед нами, является задача народного просвещения. Нам нужно почти из ничего создать для трудящихся масс всех национальностей Белоруссии сеть школ, детских домов, садов, библиотек, клубов, изб-читален. Нужно поставить широко политико-просветительную работу среди взрослых, построить систему профессионально-технического образования, создать университет, развить работу в области искусства. И всё строить в большом, широком масштабе не для панов, буржуазии и их приспешников, а для широких масс, для крестьянства, для пролетариата.*

*В тесной связи с задачами просвещения стоит вопрос о работе на всех местных языках Белоруссии, каковыми постановлением ЦИК Белоруссии признаны языки белорусский, русский, еврейский и польский. В особенно трудных условиях находится работа на языке белорусском. Польские паны и ксендзы насильственно навязывали белорусскому крестьянину польский язык, а царские чиновники и попы занимались насильственной русификацией. Развитие белорусской культуры было задержано. И теперь в той части Белоруссии, которая осталась за кордоном, идёт насильственная полонизация. Диктатура пролетариата открывает свободный путь для культурного развития тех народов, культура которых в буржуазном строе угнеталась и преследовалась. Белорусский трудовой народ может теперь свободно строить свою культуру на родном языке. ЦИК Советов Белоруссии, подтвердив равноправие всех местных языков Республики, предписал Наркомпросу Белоруссии в своей работе исходить из неуклонной перспективы планомерного и постепенного перехода тех учреждений, где учатся и воспитываются дети-белорусы, на материнский белорусский язык. В связи с этим принимается ряд мер по подготовке работников просвещения, могущих вести свою работу на белорусском языке по изданию и приобретению книг и учебников и по выработке терминологии. Такие же меры будут приняты по отношению к работе на других местных языках — еврейском и польском.*

*Нужны сотни, тысячи культурных работников, связанных с краем, знающих его природу, хозяйство, историю, языки и в то же время могущих принять участие в коммунистическом строительстве. Но острее всего ощущается нужда в работниках, могущих работать на языке белорусском. ЦИК Белоруссии постановил принять меры к возвращению культурных работников и ассигновать средства на выдачу подъёмных возвращающимся.*

*Товарищи — уроженцы Белоруссии: ученые, литераторы, школьные, дошкольные работники,. вообще культурные деятели!*

*Ваша освобожденная родина зовет вас к себе, она призывает вас приложить свою руку, вооруженную опытом советской культурной работы, к ее возрождению. Мы не обещаем вам покуда более благоприятных условий, чем в центре, лучших пайков и более высоких ставок. Может быть, Вам придется в первое время терпеть нужду, неудобства и лишения, но рвущиеся к свету трудовые массы Белоруссии не забудут тех, кто пожелает стать участниками в их великом творчестве, помочь им выковать светлый меч их новой культуры. Не смущайтесь те, кто недостаточно владеет белорусским языком. Здесь среди*

*белорусского крестьянства вы вспомните этот язык вашего детства и научитесь ему, если у вас будет настоящее желание.*

*Совнарком РСФСР разрешил нам обратиться к вам с этим воззванием. Он выразил согласие на перевод культурных работников, уроженцев Белоруссии, по ходатайствам Наркомпроса Белоруссии в его распоряжение. Лица, желающие этим воспользоваться, должны сообщить о себе в Наркомпрос Белоруссии, который и примет меры к их откомандированию. При этом необходимо указывать место службы, педагогический и общественный стаж, родной язык, на каком языке может работать, состав семьи, а также партийность.*

*Мы верим, товарищи, что обращенный к вам призыв трудовых масс Белоруссии не останется без ответа.*

*Зам. Председателя ЦИК ССРБ И. Адамович*

*Зам. наркомпроса Белоруссии М. Фрумкина*

*Секретарь ЦИК ССРБ В. Ашмарин».*

У 1921—1927-я гг. Язэп Адамовіч разам са свамі саратнікамі Чарвяковым, Баліцкім, Янкам Купалам неаднарозова прыязджаў у многія населеныя пункты, дзе растлумачваў мэты і задачы беларусізацыі і садзейнічаў рэалізацыі гэтай палітыкі. Так, у артыкуле старшыні ЦВК БССР Чарвякова «У паездцы па Аршаншчыне», які быў апублікаваны 26—28 мая 1926 года ў газеце «Савецкая Беларусь», гаворыцца: «Аршаншчына пастаралася паказаць мне і прыехаўшым у Оршу тт. Адамовічу, Баліцкаму, Янку Купалу свае дасягненні ў развіцці беларускай культуры. Мы чулі добры хор студэнтаў рабфака, які добра выконваў беларускія песні, чулі вершы маладнякоўцаў, прычым некаторыя вельмі ўдалыя як па змесце, так і па форме, добра выкананыя два акты п’есы «Чырвоныя кветкі Беларусі».

Пяты кіраўнік СНК БССР Адамовіч, заняты вялікімі і адказнымі дзяржаўнымі справамі, знаходзіў час, каб схіліцца над новай кніжкай беларускіх паэтаў, адгукнуцца артыкулам на творчасць «Маладняка». Ён бачыў, як дужэлі, набіралі сілу паэтычныя крылы маладнякоўцаў, усё большай вядомасцю карысталіся творы Міхася Чарота, Алеся Дудара, Міхася Зарэцкага, Уладзіміра Дубоўкі, Андрэя Александровіча і іншых. Вітаючы маладыя таленты, Адамовіч пісаў, што «Маладняк» праявіў сябе як вялікая сіла, якая ідзе ў нагу з пралетарскай рэвалюцыяй, звязаўшы з ёю творчасць».

Усё гэта радавала, натхняла.

У лютым 1927 года III сесія ЦВК СССР, заслухаўшы справаздачу Урада Беларусі, адзначыла, што ў рэспубліцы настойліва і паслядоўна ажыццяўляецца гаспадарчае будаўніцтва, ёсць вялікія дасягненні ў вырашэнні пытанняў нацыянальнага і культурнага развіцця.

Па дакладзе Адамовіча была прынята пастанова ажыццяўляць фінансаванне прамысловага будаўніцтва ў такім памеры, каб яно адбывалася ўзмоцненымі тэмпамі, а ўсе водна-меліяратыўныя работы фінансаваць па агульнасаюзным бюджэце. БССР даваўся грашовы сельскагаспадарчы крэдыт. Уводзіўся льготны тарыф на перавозку матэрыялаў для жыллёвага будаўніцтва з іншых рэспублік.

У фондах Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь мне ўдалося знайсці вельмі цікавы дакумент. Гаворка ідзе аб пратаколе пасяджэння камісіі па праверцы ведаў па беларускай мове супрацоўнікаў СНК БССР ад 7 кастрычніка 1926 года. Старшыня СНК БССР Адамовіч аказаўся адным з васьмі лепшых знаўцаў беларускай мовы. Прывяду вытрымку з гэтага пратакола:

*«Слухалі: Разгляд матэрыялаў праверкі ведаў па беларускай мове супрацоўнікаў СНК БССР.*

*Пастанавілі: а) лічыць, што тт. Адамовіч, Мароз, Цвікевіч, Гуткоўскі, Карповіч, Парэчын, Масейчык і Прышчэпчык беларускую мову ведаюць добра (8 чал. — 25 %)…*

*Старшыня камісіі Будзін*

*Сябры камісіі: Шаўко, Вілянстовіч, Мароз, Левін*
*Сакратар Няхай*
*Памянёных таварышаў ад праверкі ведаў беларускай мовы вызваліць».*

Гісторыя Інстытута беларускай культуры непарыўна звязана з імем намесніка Старшыні СНК БССР, а затым і Старшыні СНК БССР Адамовіча.

25 ліпеня 1924 года Старшыня Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта БССР Чарвякоў, Старшыня Савета Народных Камісараў БССР Адамовіч і за сакратара ЦВК Ігнатоўскі падпісалі «Палажэнне аб Інстытуце беларускай культуры».

Вялікую цікавасць для чытачоў «Полымя», асабліва для тых, хто хоча болей і глыбей ведаць гісторыю Інбелкульта, уяўляе пратакол № 38 пасяджэння Савета Народных Камісараў БССР ад 8 кастрычніка 1924 года. Пазнаёміся з некаторымі пунктамі гэтага дакумента:

*«Слушали доклад о деятельности Института белорусской культуры (тт. Балицкий и Некрашевич)*

*Постановили:*

*Савет Народных Камісараў пастанаўляе:*

*1. Адзначыць, што Інстытут беларускай культуры за кароткі час свайго існавання і пры невялікіх дзяржаўных сродках правёў выдатную і разнастайную навукова-культурную працу.*

*2. Прызнаць, што ў звязку з пашырэннем БССР і з практычным правядзеннем нацыянальнае палітыкі Інстытут беларускае культуры павінен мець асабліва важнае дзяржаўнае і палітычнае значэнне.*

*3. Прапанаваць Народнаму камісарыяту асветы ў звязку з новымі заданнямі Інстытуту беларускае культуры рэарганізаваць яго ў пастаянную вышэйшую навукова-даследчую ўстанову тыпу Акадэміі навук, установу, якая павінна заняцца сістэматычнай і планавай апрацоўкай пытанняў навукі і культуры, датычных БССР.*

*4. Даручыць Народнаму Камісарыяту асветы папоўніць склад Інстытута беларускае культуры кваліфікаванымі навуковымі працаўнікамі і ўтварыць адпаведныя ўмовы для іх працы.*

*6. У звязку з пашырэннем працы Інстытута беларускае культуры, прапанаваць Менскаму акруговаму спаўняючаму камітэту перадаць Інстытуту беларускае культуры ў пастаянне яго ўладанне дом № 21 па Рэвалюцыйнай вул. з флігелем і іншымі надворнымі будынкамі.*

*7. Адпусціць адначасна на рамонт дому і належнае абсталяванне Інстытуту беларускае культуры 15 000 руб. З рэзервнага фонду СНК.*

*Председатель Совнаркома — И. Адамович*
*Управляющий делами — Зубович*
*Секретарь — (прозвішча не пазначана)».*

Выключную ролю ў гісторыі Інбелкульта адыграла пастанова ЦВК і СНК БССР «Аб рэарганізацыі Інстытута беларускае культуры» ад 12 лютага 1926 года. Ініцыятарамі гэтай пастановы былі Чарвякоў і Адамовіч. Дакумент вылучаў Інбелькульт як самастойную ўстанову непасрэдна пры Савеце Народных Камісараў.

10 ліпеня 1926 года СНК БССР па дакладзе Інбелкульта прыняў рашэнне «лічыць неабходным з 1926/27 акадэмічнага года надаць Інстытуту беларускай культуры напрамак у бок паступовага пераўтварэння яго ў Беларускую Акадэмію Навук».

Амаль усю вясну (сакавік, красавік, пачатак мая) 1927 года Адамовіч прымаў актыўны ўдзел у падрыхтоўцы Статута Інстытута беларускай культуры, які быў зацверджаны СНК БССР пасля яго ад’езду з Беларусі ў Маскву, у ЦК УКП(б), а дакладней 29 чэрвеня 1927 года. Гэты дакумент быў падпісаны ўжо новым кіраўніком урада БССР М. Галадзедам.

Да сённяшняга часу ў гістарычнай літаратуры не раскрыта роля Адамовіча ў першым і другім узбуйненні БССР.

Заканадаўчае афармленне вяртання ўсходнебеларускіх тэрыторый пачалося з пастановы Прэзідыума ЦВК РСФСР ад 4 лютага 1924 года «О передаче Белоруссии районов с преобладающим белорусским населением».

У той жа дзень было прынята яшчэ адно рашэнне, якое датычылася БССР. Палітбюро ЦК РКП(б) пастанавіла стварыць Часовае беларускае бюро ЦК РКП(б) — часовы кіруючы орган Кампартыі Беларусі, які павінен выконваць функцыі Цэнтральнага Бюро КП(б)Б і ствараўся для правядзення арганізацыйных і палітычных мерапрыемстваў, звязаных з вяртаннем усходнебеларускіх тэрыторый.

У склад Часовага беларускага бюро ўвайшлі 12 чалавек. Для аператыўнага кіраўніцтва справамі быў створаны і дзейнічаў Прэзідыум Часовага беларускага бюро ў складзе А. Асаткіна-Уладзімірскага (сакратар), Я. Адамовіча, А. Чарвякова (члены ўрада), В. Багуцкага (загадчык арганізацыйна-інструктарскага аддзела) і В. Дзяякаў (загадчык агітацыйна-прапагандысцкага аддзела).

Галоўным напрамкам дзейнасці Часовага бюро з'яўлялася стварэнне ўмоў для своечасовага завяршэння работы па далучэнні ўсходніх тэрыторый да БССР. 11 лютага 1924 года пастановай СНК БССР была створана камісія па прыёмцы ўпамянутых у пастанове Прэзідыума ЦВК тэрыторый. У склад камісіі, якая мела права выносіць рашэнні непасрэдна ад імя СНК БССР, увайшлі наркам фінансаў БССР Талуціс, старшыня ВСНГ Карпешын, старшыня Мінгарвыканкама С. Карп, старшыня Цэнтрабелсаюза Н. Кац, член Мінгарвыканкама А. Славінскі, а таксама Пятровіч. Узначаліў яе наркам па ваенных справах БССР Я. Адамовіч.

Шчыра кажучы, не ўсе жыхары тэрыторый, якія далучаліся, падтрымлівалі гэта. Сваё незадавальненне ўключэннем у склад Беларускай Савецкай Рэспублікі выказвалі служачыя ўстаноў, якія трапілі пад скарачэнне. Значная частка небеларускай інтэлігенцыі, партыйных і савецкіх работнікаў, служачых праяўлялі заклапочанасць у сувязі з неабходнасцю вывучэння беларускай мовы. Каб пераканаць насельніцтва ў неабходнасці далучэння беларускіх зямель і вывучэння беларускай мовы, кіраўніцтву БССР прыходзілася праводзіць актыўную растлумачальную работу.

Вось на што звярнуў увагу Старшыня СНК БССР Адамовіч у сваім выступленні ў Магілёве: «Изучать материнский язык может и должен каждый работник нашей страны. Если мы это не сделаем, мы не решим национального вопроса…»

Язэп Аляксандравіч прыняў актыўны ўдзел у другім узбуйненні Беларусі ў 1926 годзе. Для правядзення пастановы пленума ЦК КП(б)Б у жыццё і каардынацыі ўсёй работы была выдзелена тройка ў складзе першага сакратара ЦК Кампартыі Беларусі А. Крыніцкага, старшыні СНК БССР Я. Адамовіча і Старшыні Дзяржплана БССР С. Карпа.

У сувязі з тым, што члены Палітбюро ЦК УКП(б) разышліся ў поглядах на межы БССР і супраць пашырэння рэспублікі выступіла моцная апазіцыя ў губернях, Палітбюро ЦК УКП(б) па прапанове Старшыні Саўнаркама СССР А. Рыкава вырашыла для дадатковага вывучэння гэтага пытання стварыць спецыяльную камісію ў складзе В. Молатава, А. Енукідзе, С. Касіёра і М. Кісялёва. У яе рабоце таксама павінны былі прымаць удзел прадстаўнікі Беларусі А. Крыніцкі і Я. Адамовіч.

12 лістапада 1926 года бюро ЦК КП(б)Б пастанавіла: «Прасіць ЦК КП(б)Б паставіць у Палітбюро 18 лістапада пытанне аб мяжы БССР. Далей адкладваць… немагчыма. Прасіць тав. Сталіна прыняць дэлегацыю ЦК КП(б)Б у складзе таварышаў Крыніцкага, Галадзеда, Чарвякова, Адамовіча, Бейліна і Карпа ў Палітбюро, пажадана, 17 лістапада».

Настойлівасць кіраўніцтва БССР, узмоцненая ўнутры- і знешнепалітычнымі аргументамі, дала пэўныя вынікі. 18 лістапада 1926 года Палітбюро ЦК УКП(б), разгледзеўшы высновы камісіі, працаваўшай у Гомельскай губерні, і довады

ЦК КП(б)Б, пастанавіла «считать доказанным белорусский характер населения Гомельского и Речицкого уездов и признать необходимым присоединение отмеченных уездов к БССР».

6 снежня 1926 года прэзідыум УЦВК прыняў афіцыйную пастанову «О присоединении к БССР Гомельского и Речицкого уездов».

Такім чынам, намаганні кіраўніцтва БССР, у тым ліку і Старшыні СНК БССР Адамовіча, аб далучэнні гэтых двух паветаў аказаліся паспяховымі. Уключэнне Гомельскага і Рэчыцкага паветаў у склад БССР, у выніку якога тэрыторыя рэспублікі павялічылася яшчэ на 15 722 кв.км, а насельніцтва — на 649 тысяч чалавек, стала значнай падзеяй у палітычным, эканамічным і культурным жыцці Беларускай ССР.

На пачатак 1927 года тэрыторыя БССР налічвала 126 311 кв. км з насельніцтвам каля 5 млн. чалавек, 80 % якога складалі беларусы.

У той жа час не з усімі думкамі Язэпа Аляксандравіча, на мой погляд, можна пагадзіцца. Так, у інфармацыйным бюлетэні СНК БССР у лютым 1926 года ў парадку абмеркавання быў апублікаваны яго артыкул «Нужны ли нам окружные газеты?», у якім абмяркоўваліся задачы прэсы і характар яе развіцця. Аўтар недвухсэнсоўна канстатаваў: задача прэсы, «як сродку, арганізуючага масы, зводзіцца да таго, каб перадаваць мільёнам працоўных лозунгі і ідэі нашай партыі і нашай дзяржавы, укараніць культуру ў шырокія масы».

Язэп Адамовіч лічыў, што для ўзмацнення ўплыву партыі трэба пакінуць у рэспубліцы толькі цэнтральныя газеты, якія лягчэй кантраляваць. Гэта дасць магчымасць «дабіцца хутчэй ажыццяўлення асноўнай задачы — уцягнуць шырокія масы працоўных у будаўнічую работу, аб'яднаць іх у адно цэлае, калектыўна думаючае, калектыўна абмяркоўваючае, калектыўна рашаючае пытанні і калектыўна будуючае нашу сацыялістычную дзяржаву». Такія патрабаванні старшыня СНК БССР абгрунтоўваў тым, «што ў той час, калі мы праз газету павінны кіраваць усёй дзяржавай, даючы праз яе патрэбныя лозунгі, размаўлячы праз яе з рабочымі і сялянамі, высвятляецца, што нашых газет шырокія масы насельніцтва не чытаюць».

Імя Язэпа Адамовіча ў той час стала вядома не толькі жыхарам нашай рэспублікі, але ўсяго Савецкага Саюза. Аб аўтарытэце яго гаворыць той факт, што ён у 1920—1922 гадах выбіраўся ў склад ЦБ КП(б)Б, а ў 1924—1927 гадах быў членам ЦК і Бюро ЦК КП(б)Б. У 6-томнай «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі» і 18-томнай «Беларускай энцыклапедыі» сцвярджаецца, што Язэп Аляксандравіч быў членам ЦК і Бюро ЦК КП(б)Б толькі ў 1924 годзе. Гэта памылка. На самай справе гэта адносіцца да 1924—1927 гг. Акрамя таго, Адамовіч з'яўляўся членам ЦВК СССР і членам Прэзідыума ЦВК БССР у 1920—1922-м, 1924—1927 гадах.

У той жа час, да 1927 года, рэзка абвастрыліся адносіны паміж старшынёй Савета Народных Камісараў БССР Адамовічам і першым сакратаром ЦК КП(б)Б Крыніцкім, які ўзначальваў Кампартыю Беларусі з верасня 1924 года. «Партыйны правадыр» хацеў, каб усе яго распараджэнні выконваліся беспярэчна, часта выклікаў Адамовіча да сябе ў кабінет. Язэп Аляксандравіч не жадаў слепа павінавацца і патрабаваў да сябе павагі, як да кіраўніка Урада рэспублікі, члена Бюро ЦК Кампартыі Беларусі, члена ЦВК СССР.

Чуткі аб гэтым дайшлі да Масквы. Пытаннем заняўся асабіста Сталін. Крыніцкага выклікалі ў ЦК ВКП(б). Было вырашана абмеркаваць дадзенае пытанне на партыйным пленуме камуністаў Беларусі, які адбыўся 4 мая 1927 года. З дакладам «Аб рабоце бюро ЦК КП(б)Б і ўзаемаадносінах, якія склаліся ў кіруючай вярхушцы бюро» выступіў сакратар ЦК УКП(б) С. Касіёр. Абмеркаванне праходзіла бурна, думкі былі розныя. Адны выступоўцы занялі бок «партыйнага правадыра», другія абаранялі кіраўніка ўрада. Пытанне вырашылася вызваленнем Крыніцкага і Адамовіча ад работы. Абодва былі «адкамандзіраваны» ў распараджэнне ЦК УКП(б), які вырашыў іх лёс. Але калі для Крыніцкага прызначэнне загадчыкам

аддзела агітацыі і прапаганды ЦК ВКП(б) стала павышэннем, то гэтага нельга сказаць аб новай пасадзе Я. Адамовіча. Кіраўнік урада БССР стаў старшынёй праўлення аднаго з глаўкаў — Галоўцукартрэста СССР і членам прэзідыума ВСНГ (Вышэйшага савета народнай гаспадаркі СССР).

З сумам і вялікім жалем пакідаў Язэп Аляксандравіч родную Беларусь. Пасля аб'яднанага пасяджэння Саўнаркама БССР і Прэзідыума дзяржаўнай планавай камісіі з удзелам старшынь акруговых выканкамаў 7 мая 1927 года Адамовіч развітаўся з саратнікамі і саслужыўцамі, падзякаваў за зладжаную работу, выказаў упэўненасць у тым, што і ў далейшым яна «будзе ісці па правільным шляху». Аднак для самога Язэпа Аляксандравіча гэты «правільны шлях» аказаўся небяспечным трагічнымі вынікамі.

Даручаная ў Маскве работа была новай і складанай, але адданы дзяржаўны дзеяч упарта ўзяўся за яе. Адамовіч прыслухоўваўся да меркаванняў падначаленых, унікаў у фінансавыя і гаспадарчыя пытанні. І справа рухалася. Будаваліся новыя заводы па перапрацоўцы цукру, наладжваліся цесныя сувязі з калгасамі і саўгасамі.

У канцы 1920-х — пачатку 1930-х гадоў у краіне пачала фарміравацца камандна-адміністрацыйная сістэма кіравання народнай гаспадаркай. Гэта выклікала незадаволенасць і раздражненне Адамовіча, які больш схіляўся да эканамічных метадаў. Пачаліся сутычкі з партыйным кіраўніцтвам.

У 1932 годзе кар'ера Адамовіча рэзка пайшла ўніз. Без усякіх тлумачэнняў яго здымаюць з кіруючых пасад і прызначаюць начальнікам будаўніцтва першага на Далёкім Усходзе цукровага завода, які знаходзіўся ў горадзе Нікольск-Усурыйску, перайменаваным у 1935 годзе ў Варашылаў.

Язэп Аляксандравіч не губляў сувязі з Беларуссю. Ён атрымліваў беларускія газеты, перапісваўся з сябрамі. Для яго было сапраўдным святам, калі заязджалі землякі — камандуючы войскамі Забайкальскай ваеннай акругі Б. Гарбачоў, загадчык сельгасаддзела Далёкаўсходняга крайкама ВКП(б) І. Васілевіч. Тады ён адводзіў душу ў гутарках і ўспамінах.

Аднойчы ў час паездкі па краі Адамовіч натрапіў на старую беларускую вёску, жыхары якой некалі перасяліліся на Далёкі Усход у пошуках зямлі. Ён быў прыемна здзіўлены, што людзі захавалі родную мову, абрады і звычаі, беларускае адзенне.

Чытачоў часопіса «Полымя» цікавіць адказ на пытанне: «А якім чалавекам быў Язэп Адамовіч?»

Многія партыйныя і савецкія дзеячы БССР, а таксама і савецкія военачальнікі згадвалі выдатныя чалавечыя якасці Язэпа Аляксандравіча — яго прастату, адсутнасць высакамернасці, добразычлівасць, гуманізм, гасціннасць і ветлівасць.

А цяпер дамо слова Соф'і Шамардзіной — не толькі жонцы Адамовіча, але адначасова і старшыні Галоўпалітпрасвета Наркамасветы БССР:

*«Адамовіч быў самабытна таленавітым чалавекам, рабочым самародкам. Ён вучыўся шляхам самаадукацыі і добра знаў цану ведам, глыбока паважаў навуку. З пашанай ставіўся да інтэлігенцыі, якая пайшла за Савецкай уладай.*

*Яшчэ ў 1921—1922 гг. рускую літаратуру ён ведаў хрэстаматыйна. У 1922 годзе, памятаю, упершыню прачытаў «Барышню-сялянку» Пушкіна, але ўжо захапляўся паэзіяй Пушкіна, Лермантава. Паступова ўцягваўся ў пастаяннае чытанне мастацкай літаратуры. Яно стала яго патрэбай. Яшчэ некалькі год — і гэта ўжо чалавек шырока эрудзіраваны ў пытаннях не толькі рускай, але і класічнай замежнай літаратуры. Ён любіў Гейнэ, Беранжэ. Чытаў з алоўкам у руцэ. Захаваўся экзэмпляр «Вайны і міру» Л. Талстога з мноствам паметак Язэпа Аляксандравіча. Яму быў даступны «Фауст» Гётэ не рамантычным сюжэтам, а сэнсам гётаўскай філасофіі. Уважліва сачыў Адамовіч таксама і за савецкай літаратурай.*

*У 1922 годзе Беларусь прыняла шмат дзяцей з Паволжжа, дзе быў вялікі голад. Адамовіч дапамагаў уладкоўваць дзяцей. Ім была аддадзена частка будынка, дзе размяшчаліся 81-я пяхотныя курсы. Нават свой імянны гадзіннік Язэп Аляксандравіч здаў у фонд галадаючым…*

*Каля Адамовіча заўсёды была моладзь, якую ён любіў і якая гарнулася да яго.*

*Любоў да жыцця, да людзей — гэта арганічная якасць Язэпа, яна заўсёды выклікала ў адказ любоў, дружбу, давер.*

*Варта адзначыць яго прынцыповасць у ацэнцы асобных з'яў культурнага развіцця БССР, у прыватнасці, беларускай літаратуры, яго адносіны да асобных беларускіх пісьменнікаў — і маладых, і старых. Мне помняцца і адносіны да яго — ужо ў Маскве — Маякоўскага. Маякоўскі напісаў на кнізе «Цудоўнаму Іосіфу Аляксандравічу — Маякоўскі». На кніжнай паліцы Адамовіча захаваліся і да гэтага часу кніжкі Новікава-Прыбоя з цёплымі сяброўскімі надпісамі, Сяргея Траццякова, Лідзіі Сейфулінай, Цішкі Гартнага, Якуба Коласа і Янкі Купалы.*

*З любоўю сачыў Язэп Аляксандравіч за творчым ростам таленавітых маладнякоўцаў. Яны яго таксама любілі. Дастаткова прывесці надпіс на зборніку вершаў «Прозалаць» Андрэя Александровіча: «Язэпу Адамовічу, аднаму з лепшых таварышоў маладняку, дарую прозалаць сваёй паэзіі».*

*Цікавыя выказванні Адамовіча аб літаратуры наогул, аб беларускай у прыватнасці. «Нататкі аб «Маладняку» і літаратуры» чытаюцца яшчэ і цяпер. І ў гэтых нататках, і ў размовах з пісьменнікамі, і ў выступленнях перад аўдыторыяй ён не раз гаварыў пра Янку Купалу, Якуба Коласа, Цішку Гартнага, Міхася Чарота, Дубоўку. Але і недахопы нашай літаратуры не замоўчваў і ў гэтай сувязі правільна ставіў пытанне аб літаратурнай крытыцы. Ставячыся з належнай увагай да старых пісьменнікаў, ён гаварыў аб значэнні літаратурнага аб'яднання «Маладняк»: «…Маладняк — гэта дзеці Кастрычніка…», «…Калі б Чарот не вывучаў грамадзянскай вайны, ён не даў бы нам «Босых на вогнішчы», калі б Чарот не ведаў жыцця беларускага селяніна і беларускага яўрэя, ён не мог бы напісаць сваёй паэмы «Карчма», калі б ён не ведаў партызанскай барацьбы беларускіх сялян і рабочых — ён не напісаў бы «Свінапаса», калі б ён не ведаў ролі жанчын у гэтай барацьбе — ён не напісаў бы паэмы «Марына»…» Апрача Чарота, «Маладняк» даў Зарэцкага, Дудара, Дубоўку, Александровіча, Кузьму Чорнага, Крапіву і інш. За гэтыя тры гады «Маладняк» праявіў сябе як вялікая сіла, якая ідзе ў ногу з пралетарскай рэвалюцыяй, звязаўшы з ёю творчасць…*

*У сваім адступленні мне хацелася б сказаць і аб песні ў жыцці Язэпа. Ён часта ўспамінаў і спяваў песні, якія чуў у дзяцінстве, — напрыклад — «Трансвааль, Трансвааль, страна моя, ты вся горишь в огне»…*

*З асаблівай асалодай слухаў Адамовіч оперы «Яўгеній Анегін» і «Князь Ігар».*

*Часта наведваў Язэп Аляксандравіч рабочыя вечарынкі. Яго абавязкова запрашалі на святы, то на запалкавую, то на шпалерную фабрыкі, дзе ён спяваў і танцаваў з дзяўчатамі «Лявоніху», польку. Дамоў ён звычайна вяртаўся з пакуначкам, дзе быў святочны пачастунак — нельга адмовіцца, гаспадары могуць пакрыўдзіцца!..*

*Любіў Язэп і звычайную барацьбу — дужаўся то з Славінскім (кульгавы, а дужы), то з Ольскім. У 1926 годзе, калі прыехаў у Мінск Падвойскі, яны наладзілі цэлае спаборніцтва па бегу. У 1926 годзе (ці можа ў 1927-м) разам з братам Уладзімірам Язэп у час адпачынку праехаў вярхом на кані ад Мінска да Масквы за вельмі кароткі час і гэтым здзівіў нават Тухачэўскага. (Дарэчы, абодва — і Адамовіч, і Тухачэўскі — любілі барацьбу і ў Маскве часта дужаліся.)*

*Фізічныя практыкаванні і работа дастаўлялі Язэпу здаровае задавальненне. Ветэран трох рэвалюцый у Беларусі Абрам Рыгоравіч Бейлін, цяпер персанальны пенсіянер, успамінае, як старшыня Саўнаркома Адамовіч насіў дровы на кватэру*

*Бейліных. «Чую, нехта цяжка падымаецца раніцай па лесвіцы, стукае ў дзверы — а гэта Язэп з ахапкай дроў»* (Шамардзіна, С. Старонкі з біяграфіі Язэпа Адамовіча. Полымя, 1966. № 4).

У 1936-м Язэп Аляксандравіч быў адкамандзіраваны на «край свету» — Камчатку, дзе ўзначаліў рыбапрамысловае акцыянернае аб’яднанне.

Пасля забойства С. Кірава 1 снежня 1934 года ў краіне пачалася хваля масавых рэпрэсій. Былі арыштаваны і асуджаны многія саратнікі і саслужыўцы Адамовіча. Насцярожанасць, недавер, варожасць да сябе адчуваў і Язэп Аляксандравіч. Ён выдатна разумеў, што над яго галавой згушчаюцца хмары. Ведаў — рыхтуецца яшчэ адна расправа.

Не дачакаўшыся горшага, ён вырашыў правесці «разведку боем» — сабраўся паехаць у сталіцу, каб даведацца, што яго чакае. Родным сказаў, што яго выклікаюць у Маскву.

Цягнік, якім ехаў Язэп Аляксандравіч, адправіўся з Уладзівастока 21 красавіка 1937 года. Настрой у яго быў змрочны. А на наступны дзень — 22 красавіка ў вагоне раздаўся выстрал. Язэп Адамовіч застрэліўся з імяннога маўзера, уласнай рукой паставіўшы апошнюю кропку ў сваёй «вогненнай» біяграфіі.

Яму ішоў толькі сорак першы год — столькі, колькі было блізкім яму людзям Міхаілу Фрунзе і Аляксандру Мяснікову.

Амаль праз 80 гадоў пасля трагічнай смерці Адамовіча вельмі цяжка ўстанавіць прычыны такой трагічнай канчыны. Існуе некалькі версій яго гібелі. Магчыма, меркаваў, што яму не пазбегнуць арышту і пакутлівых катаванняў, а таму палічыў за лепшае ўніжэнню і пакутам імгненную смерць. Магчыма, да пачуцця безвыходнасці, якое адчуваў апошнім часам, дадаліся нейкія сямейныя перажыванні. А можа, гэта быў пратэст супраць той чорнай сілы, якая ўсё далей уводзіла яго ў бок ад «вернага шляху ў светлае будучае».

Імем Язэпа Адамовіча названа вуліца на яго радзіме — у Барысаве. У Барысаўскім краязнаўчым музеі ему прысвечаны асобны стэнд.

Вельмі шкада, што памяць аб гэтым унікальным чалавеку не ўвекавечана ў Мінску і іншых населеных пунктах Рэспублікі Беларусь.

Глеб САЗОНЧЫК

# ФРАНЦЫСК СКАРЫНА: ПРАЦЯГ ЗНАЁМСТВА




*Алесь СУША*

**ФРАНЦЫСК СКАРЫНА**

**У 3 частках.**
**Ч. 3. Чалавек-легенда.**
**Для сярэдняга**
**і старэйшага школьнага ўзросту**

*Мн.: Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі, 2016.*

Пра першыя дзве кнігі Алеся Сушы «Францыск Скарына» — «Чалавек-энцыклапедыя» і «Чалавек свету» «Полымя» пісала раней. Трэцяя з іх — «Чалавек-легенда» крыху запазнілася. Затое з'явілася яна бліжэй да 2017 года, а сёлета, як вядома, спаўняецца 500 гадоў беларускаму кнігадрукаванню: 6 жніўня 1517 года ў Празе выйшла першая кніга Скарыны Псалтыр. Цікавымі былі, як чытач паспеў упэўніцца, і папярэднія кнігі А. Сушы. Аднак, несумненна, не ў меншай ступені парадуе і гэтая, шмат у чым дапоўніўшы звесткі пра беларускага і ўсходнеславянскага першадрукара. Адначасова яна і дапаможа паглыбіць уяўленне пра гісторыю кнігадрукавання ўвогуле. Паколькі асновай узнікнення яго сталі рукапісныя кнігі, дык А. Суша не абмінае і гэтага моманту, што і відаць з першага раздзела «На шляху да беларускага кнігадруку». Кожная глава гэтага раздзела закранае пэўныя аспекты, што дазваляюць атрымаць цэласнае ўяўленне па згаданай тэматыцы.

Назва першай сама сведчыць за сябе — «Рукапісная кніга», але гаворка ў ёй не ўвогуле пра рукапісныя кнігі, а тыя з іх, якія звязаны з Беларуссю. Зыходзячы з высновы, што «Беларусь — гэта не толькі краіна замкаў», а «яшчэ і краіна кнігі», А. Суша акцэнтуе ўвагу на тым, што «нездарма пераважная большасць вядомых культурных дзеячаў даўняй Беларусі так ці інакш звязаны з кнігай». Гэта і Еўфрасіння Полацкая, і Кірыла Тураўскі. Дый, канешне, Францыск Скарына, «які зрабіў друкаванае слова даступным для ўсяго грамадства, "людзей паспалітых"». Істотна і такое сведчанне аўтара кнігі «Чалавек-легенда»: «Урэшце фактычна ўсе прадстаўнікі «новага беларускага адраджэння» пачатку 20 (так падаюцца стагоддзі ў кнігах А. Сушы. — *Г. С.*) стагоддзя Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч, Максім Гарэцкі, Цішка Гартны, Алесь Гарун і многія іншыя — нязменна асацыіруюцца з кнігай», а яе выключная роля «ў развіцці беларускага грамадства змацавана шматвяковымі традыцыямі кніжнай культуры».

Робячы экскурс у сівую даўніну, А. Суша гаворыць пра тое, што перапісчыкі ў манастырскіх скрыпторыях працавалі ўжо ў XI—XIII стагоддзях. Згадваецца таксама, што «адной з самых старажытных кніг усходніх

славян з'яўляецца знакамітае Тураўскае Евангелле 11 стагоддзя». Тут жа ўдакладняецца, што гэта «верагодна, найбольш даўні рукапіс, які захоўваўся (а, можа, і ствараўся) на землях сучаснай Беларусі і збярогся да нашага часу».

Як бачым, катэгарычнага сцвярджэння няма, выказваецца толькі магчымасць менавіта гэтага, а не іншага. З падобнымі меркаваннямі ў кнізе «Чалавек-легенда», гэтаксама, як і ў кнігах «Чалавек-энцыклапедыя» і «Чалавек свету», сутыкаешся неаднойчы. Пра што гэта сведчыць? Ды пра тое, што даследчык не катэгарычны ў сваіх меркаваннях і высновах. З павагай ставячыся да чытача, ён прымае пад увагу, што чытач гэты мог пазнаёміцца і з іншымі думкамі наконт таго, які рукапіс з тых, што звязаны з Беларуссю, больш старажытны.

Не будзем забываць, што і сярод сучасных старшакласнікаў нямала людзей начытаных. Дый інтэрнэт, як бы мы да яго ні ставіліся, аказвае ім у назапашванні інфармацыі добрую паслугу. Таму ў кнізе і робіцца ўсё для таго, каб ніякіх сумненняў не ўзнікала пры ўспрыманні тых ці іншых фактаў, якія ў чымсьці непадобныя на тыя, што ёсць у іншых крыніцах. Такі падыход толькі на карысць. Маўляў, ведай, што могуць быць розныя меркаванні. Гэта, аднак, не значыць, што не прыводзяцца факты, у праўдзівасці якіх сумнявацца не даводзіцца. Гледзячы пра што гаворка.

У главе «Узнікненне кнігадрукавання», якая ідзе следам за «Рукапіснай кнігай», — якраз той выпадак, калі ўсяму, пра што расказваецца, застаецца толькі даваць. Прытым, а гэта асабліва важна ў кнігах, адрасаваных юнай аўдыторыі, прыводзяцца і такія звесткі, што самі па сабе з'яўляюцца ўнікальнымі. Яны з разраду таго, што так і просіцца пад вызначэнне — немагчымасць магчымага. Што ж, гэта толькі на карысць лепшаму ўспрыманню матэрыялу.

Як, скажам, сведчанне пра тое, «што ідэя друку была закладзена яшчэ ў старажытнасці, калі пачалі выкарыстоўваць кляйменне жывёлы. Прынцып штэмпелявання быў вядомы ўжо ў культуры Старажытнага Усходу, дзе пашыраўся клінапіс». А хіба не цікава даведацца, што да друку адносіліся і «так званыя цыліндрычныя пячаткі, пры дапамозе якіх шляхам пракатвання рабіліся адбіткі на гліняных таблічках». Падобныя пячаткі выкарыстоўваліся «ў старажытных Месапатаміі і Егіпце яшчэ за 3000 гадоў да нашай эры». Ці ўзяць такое: «Да нашага часу захаваўся ўнікальны прыклад друкавання тэксту ў Еўропе ў перыяд бронзавага веку. Гаворка ідзе пра Фесцкі дыск, створаны на Старажытным Крыце каля 1700 года да нашай эры. На ім выява была нанесена на спіралі на гліняны дыск з дапамогай адмысловых штэмпеляў. Фактычна гэты дыск з'яўляецца першым узорам друкавання працяглага звязанага тэксту».

Далей у «лес» — яшчэ больш цікавага. Чаканка манет — таксама свайго роду друк. Дый надпісы на свінцовых трубах гарадскога водаправода, што рабіліся ў Старажытным Рыме пры дапамозе штампаў з поўным наборам тэксту — таксама. Але, удакладняе аўтар кнігі «Чалавек-легенда», «усе гэтыя дасягненні не дазвалялі пачаць друк на гнуткіх і лёгкіх матэрыялах. Паколькі не існавала чарніла, якое б падыходзіла для такіх мэт». Усіх абагналі кітайцы. Яны пачалі адціскаць на шоўку кветкі ў тры фарбы, яшчэ да 220 года нашай эры. Паступова тэхналогія ўдасканальвалася: «апошнім найбольш значным дасягненнем кітайскіх майстроў стала вынаходства друку пры дапамозе руховых (наборных) элементаў, асобных для кожнага знака ці іерогліфа».

Пазнавальнасць у кнізе суседнічае з дакладнай выверанасцю тых фактаў, якія тычацца як асноўных этапаў у кнігадрукаванні, так і тых друкароў, выдаўцоў, якія сваёй дзейнасцю пакінулі асабліва глыбокі след у гісторыі. Яны, як правіла, у многім ступалі па цаліку. Для сваіх краін з'яўляліся першапраходцамі. Некаторыя таксама і для іншых дзяржаў: «Развіццё еўрапейскага кнігадрукавання звязана з імем Ёгана Гутэнберга і яго паслядоўнікаў, якія

яшчэ ў 15 стагоддзі пачалі выпускаць кнігі ў тым выглядзе, які мы ведаем сёння».

Пра Гутэнберга, канешне, напісана шмат, тым не менш з'яўленне ў кнізе «Чалавек-легенда» главы «Ёган Гутэнберг — заснавальнік еўрапейскага кнігадрукавання» да месца. Пра яго, а таксама пра ягоных паслядоўнікаў Ёгана Фуста і Поля Шофера ніколі не лішне прачытаць. Дарэчы, Гутэнберга цалкам звалі не проста Ёганам, а Ёганам Генсфляйшам цур Ладэнам. Сапраўды ўжо: Ладэн Ладэну — розніца. Другі ў гісторыі прапісваецца сваімі жудаснымі справамі, а першы — тым добрым, што пакінуў пра сябе.

Хоць, кажучамі словамі Францішка Багушэвіча, «няроўна дзеліць Бог» і тых, хто заслужыў пра сябе самай удзячнай памяці нашчадкаў. Адно з пацвярджэнняў таму — лёс яшчэ аднаго першадрукара: «Першы вопыт кірылічнага кнігадрукавання звязаны з дзейнасцю жыхара Кракава Швайпольта Фіёля». Безумоўна, у навукоўцаў, даследчыкаў гісторыі кнігадрукавання ягонае імя заўсёды на слыху, але так званы шараговы чытач пра яго ведае мала. Як і ўвогуле пра ягоных паслядоўнікаў.

Гэты прабел А. Суша ліквідуе ў главе «Швайпольт Фіёль і першыя выданні кірылічнага шрыфту». Даследчык удакладняе: «Хаця ён (Фіёль. — *Г. С.*) быў «нямецкага роду», каталік, не ведаў славянскай мовы і кірылічнага алфавіта. Пошук новых прыбытковых рынкаў падштурхнуў яго да друкавання кніг для ўсходніх славян». Той выпадак, калі ўсё адбываецца насуперак вядомай прымаўцы: дзе нарадзіўся, там і прыгадзіўся. Дзякуючы таму, што чалавек у чужых краях працуе гэтаксама плённа, як і ў сябе на Радзіме.

Не ў меншай ступені, аднак, і таму, што, кажучы сённяшнімі паняццямі, мае камерцыйную, прадпрымальніцкую жылку. Разумее, дзе лепш і з большай падачай можна выкарыстаць свой талент: «Ён (Фіёль. — *Г. С.*) прыехаў у Кракаў у 1479 годзе, запісаўся да цэха майстроў-залатнікоў. Пры падтрымцы мясцовай арыстакратыі Швайпольт Фіёль заснаваў друкарню. Кірылічны шрыфт для яго вырабіў іншы немец — Рудольф Борсдорф, які абяцаў больш нікому шрыфты не рабіць і нікога больш не вучыць гэтаму мастацтву».

Праўда, выдавецкая дзейнасць Фіёля працягвалася нядоўга, праз некаторы час ён паехаў з Кракава. Але пакінуў пра сябе добрую памяць і кнігі, якія «на працягу некалькіх стагоддзяў пашыраліся на ўсходнееўрапейскіх землях, актыўна выкарыстоўваліся. Яны былі вядомымі і ў Беларусі, дзе захоўваліся ў некаторых манастырскіх і царкоўных бібліятэках». Ды кірылічнае кнігадрукаванне ўжо не магло спыніцца. Друкарню ў манастыры ў Цэціне адкрыў вядомы дзяржаўны дзеяч Чарнагорыі Іван Чарноевіч, а ягоным прадаўжальнікам стаў яго сын Джурадж Чарноевіч.

Дзейнічала і друкарня ў сталіцы Валахіі — горадзе Тыргавіштэ. Цікава тое, што гэтая друкарня «была непасрэднай папярэдніцай выдавецкай дзейнасці Францыска Скарыны. Некаторыя даследчыкі нават выказваюць меркаванне, што беларускі першадрукар мог вучыцца друкарскай справе ў манаха Макарыя ў Валахіі, аднак гэта версія застаецца толькі малаверагоднай гіпотэзай».

Як бы там ні было, але А. Суша, расказваючы пра развіццё кнігадрукавання, падышоў да таго, каб, як і ў кнігах «Чалавек-энцыклапедыя» і «Чалавек свету», зноў падрабязна павесці гаворку пра феномен Скарыны. Знакамітаму першадрукару прысвечаны два раздзелы кнігі «Чалавек-легенда»: «Выданні асветніка» і «Тэхналогія стварэння цуду». Абодва цесна ўзаемазвязаны між сабой. Яно і зразумела: не было б выданняў, не ўзнікла б і неабходнасць падрыхтоўкі рукапісаў да друку, належнага аздаблення іх і мастацкага афармлення.

Паколькі ж ля вытокаў усіх гэтых кніг стаяў не хто-небудзь, а чалавек найвялікшай улюбёнасці ў кнігу, мысліцель і філосаф, пісьменнік і мастак, дык сапраўды нараджаўся цуд. Цуд гэты і пачаўся з кнігі Псалтыр, з якой

А. Суша знаёміць у главе «Першая кніга — Псалтыр». Звесткі, што прыводзяцца аўтарам, ніколькі не лішнія. Робіцца гэта для таго, каб юны чытач яшчэ больш упэўніўся ў тым, што Скарына сваю друкарска-выдавецкую дзейнасць пачаў менавіта з гэтай кнігі невыпадкова: «Псалтыр — адна з найбольш папулярных і распаўсюджаных ў хрысціянстве кніг Бібліі. Яна ўключае шматлікія псалмы — творы-гімны рэлігійнага і лірычнага зместу. Аўтарам гэтай кнігі лічыцца цар Давыд. На беларускіх землях яна шырока выкарыстоўвалася для навучання грамаце, рэлігійна-маральнага выхавання, а таксама і для царкоўнага богаслужэння. Таму лічыцца адной з найбольш запатрабаваных. Да таго ж, як пісаў прафесар Яўхім Карскі, Псалтыр стаў адной з першых кніг, у тэксце якой былі адлюстраваны асаблівасці старабеларускай мовы».

Сказана А. Сушам даходліва, проста і, калі мець на ўвазе асноўную чытацкую аўдыторыю, пераканаўча. Так А. Суша пісаў і раней. Гэткім жа шляхам ён ідзе і разглядаючы пражскія выданні кніг Бібліі (прыводзіцца і спіс 23 кніг), «Малую падарожную кніжку», «Апостал». «Малая падарожная кніжка» — гэта ўжо віленскае выданне, яна выйшла «ў доме найстарэйшага бурмістра і шаноўнага мужа Якуба Бабіча». Там жа была надрукавана і апошняя кніга Скарыны — «Апостал». Як жа выглядалі асобныя выданні, можна даведацца з глаў «Шрыфты. Набор», «Буйныя гравюры», «Графічная арнаментыка» і іншых.

Па сутнасці, падагульненнем гаворкі пра слаўнага сына Полацка і час, у якім ён жыў, пра ягоную дзейнасць успрымаецца раздзел «Спадчына Скарыны». У ім таксама прыводзіцца шмат фактычнага матэрыялу. Пра тое, што на сённяшні дзень у свеце налічваецца больш як 500 Скарынавых выданняў. Называюцца краіны, бібліятэкі, музеі, сховішчы, дзе іх знаходзіцца больш за ўсё. Расказваецца і пра тое, як зберагаецца спадчына Скарыны на Беларусі, што робіцца для таго, каб яна стала яшчэ больш блізкай нашаму чытачу.

Апошнюю старонку загортваеш са шкадаваннем, што гэтае падарожжа ў дзівосны свет кнігі праз знаёмства са Скарынам скончылася. З кнігай «Чалавек-легенда» ніяк не хочацца развітвацца. Рука міжволі цягнецца да пачатку яе. Так і хочацца яшчэ раз дакрануцца да таго, з чым толькі што пазнаёміўся. Дый не толькі перачытаць «Чалавека-легенду», а і дзве папярэднія кнігі.

Перачытаць і адначасова зноў пазнаёміцца са шматлікімі ілюстрацыямі. Іх у кнігах шмат. Асобныя старонкі насычаныя імі настолькі, што, па сутнасці, тая ці іншая кніга ператвараецца ў альбом. Гэта таксама вельмі добра, бо можна зрокава пазнаёміцца шмат з чым, пра што з такім уменнем і натхненнем расказвае аўтар.

Хацелася б, каб гэты трохтомнік трапіў у як мага больш школьных бібліятэк. З ім з задавальненнем пазнаёмяцца не толькі вучні, а і настаўнікі. Яны змогуць выкарыстаць яго не толькі на ўроках, а і ў пазакласнай рабоце.

Анатоль ТРАФІМЧЫК

# НЕСЦЕРКА, ТУШКАНЧЫКІ, АГАПКА І ІНШЫЯ




*Георгій МАРЧУК*

**АГАПКА, АРЦЁМКА І ЗЛЫ ВОЎК**

**П’есы-казкі**

*Мінск: Мастацкая літаратура, 2016.*

Вядомаму пісьменніку Георгію Марчуку споўнілася ні многа ні мала, а сем дзясяткаў. Гэтыя наўрад ці для яго доўгія гады напоўнены не толькі вузкалітаратурнай працай, але і цесным супрацоўніцтвам з тэатрамі і кінаіндустрыяй. Такая творчая карэляцыя дала плён у выглядзе шматлікіх п’ес. Годнае месца сярод іх займае драматургія, адрасаваная падрастаючыму пакаленню.

Дзесяць сваіх казачных п’ес для дзяцей Г. Марчук выдаў у кнізе «Агапка, Арцёмка і злы Воўк». З іх большасць публікавалася раней (часам пад іншымі назвамі). Неблагую п’есу-казку «Чужое багацце» ён з нейкай прычыны гэтым разам абмінуў увагаю.

Пачаткам творчасці Г. Марчука на гэтай літаратурнай дзялянцы, бадай, можна лічыць камедыю-лубок «Новыя прыгоды Несцеркі» (1977), якая размешчана чамусьці апошняй. У сваім першым драматургічным вопыце з прыцэлам на дзіцячага чытача/гледача аўтар не абышоў бокам класічны сюжэт пра нацыянальнага героя народнай смехавой культуры Несцерку. Гэта сведчыць пра плённую арыентацыю Г. Марчука на фальклорныя і літаратурныя традыцыі. Пісьменнік, як заўважае І. Штэйнер, «не прэтэндуе выключна на «прысваенне» класічнага вобраза, а «толькі» апавядае аб новых прыгодах любімага ўсімі героя. Разам з тым ён рашуча абазначае маральнае крэда персанажа. <…> Такая выразная аўтарская ўстаноўка прыводзіць да таго, што жывымі, паўнакроўнымі з усіх дзеючых асоб успрымаюцца якраз галоўны герой са сваімі сябрамі. Астатнія ж паўстаюць як асобы дэкарацыйныя». Тым не менш і да партрэта Несцеркі, які «і гора перахітрыць», дадаюцца новыя рысы, і характары іншых герояў выпісаныя бліскуча. Традыцыйна прадстаўнікі народа (каваль Аксён, яго дачка Анця) выяўляюць высакароднасць у адрозненне ад высакамерных падпанкаў. Паводле п’есы, Несцерка знаёмы не толькі чытачам: людзі яшчэ памятаюць таго, які «пана Бараноўскага правучыў».

У чарговай драматургічнай «серыі» пад назвай «Несцерка і злодзей» (публікуецца ўпершыню) герой паўстае ў самавітым узросце — пяцідзесяцігадовым, пасталелым на тры дзясяткі. Гэтым разам ён вырашае не разлучаць маладую пару — Янку і Марыйку, якія вырашылі пажаніцца, але гэтаму Злодзей і Вядзьмарка ледзь не перашкодзілі. Дапамога Несцеркі прыйшлася вельмі дарэчы, хоць ён і не схільны

шчаслівую развязку ставіць у заслугі сабе, бо «каханню дзякаваць трэба».

Сінанімічны лейтматыў у п'есе, якая дала назву ўсяму зборніку, — «Агапка, Арцёмка і злы Воўк»: «Каханне — як першы веснавы лісток, яно расквітнее ў належны тэрмін, якія перашкоды ні з'явіліся б на яго шляху». Высокае пачуццё, як агмень у цемры, вяло герояў да перамогі над хцівымі зламыснікамі на чале з Грызем — «паўчалавекам, паўчортам», які займае ўсё больш тэрыторыі і патрабуе гаспадыні, паклаўшы вока на Агапку. Перамога дасягаецца за кошт праяўлення дабрыні, бо такім чынам Арцёмка схіляе на свой бок і пакрыўджанага раней людзьмі Мядзведзя, і няпростую характарам Лісу.

Асноўная крыніца з'яўлення казак у беларускай драматургіі — народная творчасць, багацце якой дазваляе аўтарам, з аднаго боку, не паўтарацца, знаходзіць усё новыя і новыя матэрыялы, а з другога — шырока імправізаваць і фантазіраваць. Тым не менш, большасць п'ес-казак беларускіх аўтараў у савецкі час знаходзіцца пад адчувальным уплывам народнай культуры, у канцэптуальнай залежнасці ад фальклору. За выключэннем, бадай што, Г. Марчука, які выразна залежных ад фальклорнай традыцый твораў, апроч як пра Несцерку, не мае. У той жа час ён праявіў сябе ці не самым арыгінальным і адметным на фоне іншых драматургаў-казачнікаў «парушальнікам традыцый» у добрым сэнсе гэтага азначэння. Яго п'есы-казкі напоўнены стракатасцю антуража і дзеючых асоб. Дзеянні ў іх адбываюцца як у далёкіх экзатычных краінах («Тушканчык і чароўны чамаданчык», 1984 і «Чаканне сабакі Тэафіла», 1988), так і, здавалася б, зусім побач, толькі чытачам трэба заўважыць акаляючы свет, падзеі якога выпісаны пісьменнікам («Ясь, Яніна і каралева Аварыя», 1985). Гэтым пашыраецца кола тэм і праблем, якія падкідае час, дапамагае рэцыпіенту ўбачыць іх з боку, аб'ектыўна разабрацца ў нейкай сітуацыі і зарыентавацца ў пошуку выйсця са складанага становішча, у чым не могуць дапамагчы казкі, напісаныя па фальклорных матывах. Зразумела, агульнае, гуманістычнае крэда твора застаецца пры любым раскладзе, яно — як маяк для творцы і юнага чытача, які прывык яму давяраць. Нестандартным жа падыходам да стварэння п'ес, думаецца, толькі прываблiваецца дзіцячая аўдыторыя, якая заўсёды рада навізне адкрыццяў і гатова ўслед за аўтарам «ісці» ў краіну незнаёмага і незвычайнага.

У беларускіх п'есах-казках часта дзеючыя асобы жывёлы. Аднак, за рэдкім выключэннем, гэта былі прадстаўнікі беларускай фаўны. Г. Марчук удала задзейнічаў у адным творы жыхароў розных геаграфічных паясоў. Казка «Тушканчык і чароўны чамаданчык» у прыгодніцкім стылі апавядае, як насельнікі беларускіх лясоў (Лось і Заяц), якія ўпадабалі тушканчыка Мікітулю і Сусліка за іх імкненне дапамагчы люду роднай зямлі. Яны перамагаюць тырана Пузатага-паласатага, захапіўшага ўладу ў краіне Тушканіі. Прычым праходзяць шэраг выпрабаванняў: перамагчы праціўніка са свайго лесу (злую Рысь), вылечваюць волата Зубра (тут і прыйшоўся дарэчы чароўны чамаданчык), які дапамог устанавіць справядлівасць і разбіў варожую пагоню за тушканчыкам. Вобразы працуюць і на ідэю інтэрнацыянальнай дружбы, якая ў тыя часы была актуальнай у Савецкім Саюзе. Г. Марчук такім чынам вельмі ўдала прадэманстраваў, што і мастацкасць можа быць у ладах з кан'юнктурай, але толькі тады, калі ў гэтым тандэме дамінуе першая, а не другая. Таму публікацыя падобных твораў не страчвае актуальнасці.

Як бачна, мастацкая квінтэсэнцыя казкі застаецца пастаяннай, як і маральныя імператывы, закладзеныя ў ідэі твора. Г. Марчук пайшоў далей у распрацоўцы дэталей казкі. Напрыклад, вельмі цікава глядзіцца абыгрыванне каштоўнасці чароўнага чамаданчыка, дзе сядзела Рэха, якое ў крытычны момант дапамагло героям. Відавочны паралелі з вядомымі атрыбутамі народных казак: кайстэркай, рогам, абрусам, дудкай.

Яшчэ далей у нестандартнасці казкі драматург пайшоў пры стварэнні п'есы «Ясь, Яніна і каралева Аварыя», галоў-

ная выхаваўчая мэта якой — фарміраванне культуры паводзін на дарогах у дзяцей. Вельмі цудоўна, што гэта можна ажыццяўляць у такой нязмушанай форме, як прыдумаў Г. Марчук: ён стварыў казачныя рэаліі жыццю на дарогах. Каларытную карціну каралеўства Аварыі запаўняюць, акрамя каралевы, Трагічная Сітуацыя (прынцэса), Нячасны Выпадак (саветнік каралевы), Пані Пагоня і інш. У гэтай краіне для звычайнага чалавека ўсё падаецца нелагічным, перавернутым. Напрыклад, у якасці лекаў прымяняецца ўдар дубінай па галаве (так лечыцца Аварыя), ад сірэны «хуткай дапамогі» яе жыхарам «нават жыць хочацца», жахлівая статыстыка ДТЗ — «добры ўраджай» для Трагічнай Сітуацыі. Але ёсць яшчэ і Краіна дарожных знакаў, заснаваная на гуманістычных прынцыпах суіснавання са сваімі жыхарамі: Светлафорам і Шлагбаумам. Паміж гэтымі краінамі, духоўныя асновы якіх несумяшчальныя, антаганістычныя, ідзе барацьба за панаванне іх сістэм каштоўнасцей. Аб’ектамі гэтай барацьбы і адначасова рашаючымі фактарамі перамогі ў ёй з’яўлюцца малодшыя школьнікі — Яніна, якая трапіла ў каралеўства Аварыі, і яе непаслухмяны брат, які, каб выратаваць сястру, павінен вывучыць правілы паводзін на дарогах. Складанасць становішча пазітыўна ўплывае на Яся. Ён не толькі дапамагае сястры, але і прадухіляе «тэракт» Аварыі і яе хаўруснікаў супраць першакласнікаў. Такім чынам, адбываецца перавыхаванне Яся, які ўжо сам становіцца прыкладам для пераймання.

Георгій Марчук як пісьменнік у цэлым характарызуецца тым, што адклікаецца на патрабаванні часу. Яго хвалююць самыя розныя тэмы. Так, у п’есе «Паўлік і Злы Дух Асфальту» (2003) звяртае ўвагу на экалагічную праблему. Станоўчыя героі не толькі супрацьстаяць злу. Яны адстойваюць і чысціню навакольнага асяроддзя. У казачны свет урываюцца не самыя лепшыя рэаліі сучаснай чалавечай цывілізацыі. Місія па выпраўленні сітуацыі ўскладаецца на падрастаючае пакаленне. Яго прадстаўніком з’яўляецца Паўлік. Ён вядзе барацьбу са Злым Духам Асфальту. Аднак перамогу абумоўлівае не толькі маладосць, але і повязь з традыцыямі, духоўная непарыўнасць паміж пакаленнямі: да поспеху спрычыняецца і жыццясвярджальная музыка скрыпкі, і своечасовыя парады бабулі.

Аднаму з любімейшых святаў дзятвы — Новаму году — беларускія драматургі прысвяцілі ўжо з добры тузін п’ес (гэта без уліку калядных). У гэтай кнізе ўпершыню публікуецца сцэнічны твор Г. Марчука «Навагодняя казка». Фабулай і канфліктам некаторымі рысамі п’еса нагадвае твор дачкі пісьменніка — Наталлі Марчук «Цётухна Прастуда і Новы год» (2008). Толькі гэтым разам супраць Дзеда Мароза і Снягурачкі выступаюць Снежышча і Кікімара. Тым не менш прыўнесены і прынцыпова новыя ноткі ў раскрыццё навагодніх калізій. Іх пачатак — у даўніне.

Аб сяброўскай вернасці расказвае казка «Чаканне сабакі Тэафіла». Адштурхоўваючыся ад класічнага клішэ «сабака — сябар чалавека», пісьменнік даказвае абавязковасць узаемнага сяброўскага пачуцця — з боку чалавека, інакш нівеліраваліся б сапраўдныя каштоўнасці. Тэафіл, нягледзячы на перыпетыі свайго лёсу, застаўся верным свайму выратавальніку і аддзячыў не менш важка. У рэшце рэшт справядлівасць устаноўлена і партфель, за якім ганяліся нядобразычліўцы, дастаецца тым, каму належаў. Што ж за каштоўнасці захоўваліся ў ім? Такое пытанне вярэдзіць думкі на працягу чытання прыгодніцкай п’есы. Ды ўсё проста: там знаходзілася адзіная зброя простага люду — казкі. Аўтар твора не памыляецца, мяркуючы менавіта так, бо колькі змагароў за народнае шчасце былі выхаваны на прыкладзе разумных, добрых казачных герояў, сёння нам не скажа ніводная энцыклапедыя. Гэтым жа прыёмам звяртаецца больш пільная ўвага малых да казкі як невычэрпнай крыніцы народнай мудрасці і дабрыні. Героі п’есы для падрастаючага пакалення становяцца прыкладам шанавання багацця нацыянальнай культуры.

Падобна да «Чакання сабакі Тэафіла» па падборы ўдзельнікаў і, галоўнае, ідэйным характарам — «Зімовая песня Жаўрука» (1995). Супрацьстаянне птушак — гультайскіх і хцівых Крумкача, Зязюлі, Папугая, з аднаго боку, і працавітых, добразычлівых, даверлівых Шпака, Жаўрука, Дзятла, з другога — заканчваецца перамогай апошніх, бо яны ў цяжкую хвіліну з'ядноўваліся шчыльней у адрозненне ад эгаістычных птушак, няздольных паступіць самаахвярна, на карысць сябра, якія ў літаральным (як паказана ў творы) і ў пераносным сэнсе цягнулі коўдру на сябе. Першага ж сур'ёзнага выпрабавання яны не вытрымалі. Былі звязаны не сяброўствам, а толькі прагматычнымі інтарэсамі. Іх спроба «аксіялагічнай асіміляцыі» іншых церпіць крах з прычыны сваёй нежыццёвасці. А каб папярэдзіць чые-небудзь закіды, падобныя да крумкачовых, трэба прыслухацца да Юраські: «Калі будзем дапамагаць адзін аднаму, клапаціцца, памятаць пра меншага і слабейшага, тады ніякія лайдакі і абжоры не змогуць нажывацца з нашага таленту, з нашае працы...»

Такая ж тэза — лейтматыў і ў драматургічнай казцы «Начны госць» (2000). Спакойнае і сытае жыццё сабакі Кваса, ката Блэка і папугая Ламбады парушалася візітамі злодзея, які краў іх ежу. Ім падаецца, што гэта нейкая пачвара. Аднак калі злавілі начнога госця, то ім аказалася мышаня Шушу. Яго, скарыстаўшы безабароннасць мышаняці, зрабіў сваім слугой вялікі злы Пацук. Ведаючы вартасць дабрыні (самі былі падабраныя добрым гаспадаром), сябры пранікаюцца сімпатыяй да Шушу і разам адольваюць грознага ворага.

Даследчыкі літаратуры зварот да ўвядзення ў дзейства іншасказальных жанраў персанажаў-жывёл абгрунтоўваюць перадусім найбольшай вызначальнасцю і пастаянствам іх характару, што дае падставы рэцыпіенту ад пачатку адэкватна ўспрымаць вобразы. У драматургіі для дзяцей вызначылася кола твораў, у якіх прадстаўнікі флоры і фаўны выконваюць канцэптуальныя ролі. Большасць п'ес-казак Г. Марчука цалкам упісваюцца ў гэту парадыгму. «Хіба здзіўляемся мы ў маленстве, калі апавядалі нам гісторыі пра злога, але дурнога Ваўка, хітрую Лісу, цельпукаватага Мядзведзя, наіўнага, але адважнага Пеўня, разумнага Коціка?» — піша І. Штэйнер.

Характары ў такіх п'есах фарміруюцца, аднак, па-рознаму. Некаторыя пісьменнікі ідуць па шляху атаясамлення вобразаў сваіх твораў са стэрэатыпамі. Г. Марчук, як і большасць беларускіх дзіцячых драматургаў, партрэтную палітру сваіх персанажаў стварае, кіруючыся перадусім лейтматывам твора. Але ў кожным выпадку найбольш удалымі атрымліваюцца індывідуалізаваныя персанажы, якія, тым не менш, перадаюць тыя ці іншыя тыповыя рысы псіхалогіі і паводзін фальклорных герояў.

Сімптаматычна, што характарастварэнне п'ес-казак Г. Марчука натуральным чынам прадстаўляецца, як правіла, колам усіх дзеючых асоб. Прычым раскрываюцца персанажы дзіцячай драматургіі самымі рознымі шляхамі і сродкамі. Натуральна, першае месца непасрэдна за дзеяннямі. Але імі драматург не абмяжоўваецца, умела характарызуючы сваіх герояў з прымяненнем цэлага арсеналу мастацкіх падыходаў: праз рэмаркі, словы персанажаў (свае і чужыя), словы ўводных персанажаў ці аўтара/казачніка, гаваркія прозвішчы і інш. Прапорцыі паміж імі заўсёды адпаведныя, акцэнты расстаўляюцца без перакосаў. Адчуваецца рука вопытнага пісьменніка.

Як паказвае драматургічная творчасць Г. Марчука, на сучасным этапе развіццё дзіцячай драматургіі ідзе сцежкамі, у многім дагэтуль не асвоенымі. Чыннікам сталі не толькі шпаркія тэмпы навукова-тэхнічнага прагрэсу, але і новыя тэндэнцыі ў культурнай сферы ў цэлым. Момантам адліку гэтага працэсу ў драматургіі для дзяцей можна лічыць перадусім п'есы Г. Марчука. Яны знаходзіліся ля вытокаў асучаснівання п'ес для дзяцей і нават постмадэрнісцкіх прыёмаў у мастацкім метадзе, што стала імклівай плынню на

пераломе стагоддзяў. Асабліва адбілася гэта менавіта на літаратурнай казцы. П'еса для дзяцей, нягледзячы на ўзроставую скіраванасць, сваімі канцэптуальнымі катэгорыямі — перадусім канфлікту і характару — адлюстравала культурныя і сацыяльныя ўплывы на мастацкі дыскурс, зрэагавала на з'яўленне новых актуалій як у жыцці грамадства, так і ў светапоглядах падрастаючай генерацыі.

Зразумела, што ў сілу моцнай і трывалай традыцыі, чым характарызуецца беларускае мастацтва наогул, наватарства ў прадукаванні п'ес для дзяцей не з'явілася дамінантай, аднак пашырыла драматургічныя далягляды і аўтарскія магчымасці, дынамізавала творчы працэс. П'есамі Г. Марчука ў жанры казкі адкрылася новае дыханне. Прычым кідаецца ў вочы тэндэнцыя да мадэрнізацыі гэтага жанру. П'еса для дзяцей, калі можна так сказаць, асучасніваецца. Назіраецца кантамінацыя класічных казачных матываў з рэаліямі дня сённяшняга, а часам і перавага апошніх. Канфлікты будуюцца на глебе, нярэдка шчодра ўзбагачанай не толькі элементамі сучаснага жыцця чалавечай цывілізацыі, але і актуальнай жыццёвай праблематыкай. Вобразы таксама часта ўяўляюць сплаў архетыповых рыс са штрыхамі сучаснікаў. А паколькі тыповае ў характары прадвызначаецца канкрэтнымі жыццёвымі ўмовамі, раскрываецца праз адпаведныя абставіны, то сёння ў беларускай дзіцячай драматургіі назіраецца ярка выражаная трансфармацыя тыповага ў казачных характарах.

Як сведчыць творчы вопыт Г. Марчука, беларускія дзіцячыя драматургі не цураюцца фальклорных традыцый. Персанажы яго п'ес, хоць і з вялікай ступенню навізны з прычыны ўвядзення іх у новыя, сучасныя ўмовы жыцця і ў сілу аўтарскага апрацавання, выглядаюць дастаткова знаёма, прычым нават тыя, якія спароджаны цалкам асабістай выдумкай аўтара. Але ў той жа час гэта ім забяспечыла натуральнасць і жыццёвасць, якія былі падмацаваны яшчэ і антрапамарфізмам вобразаў жывёл і нават прадметаў і з'яў. Такая сітуацыя падрыхтавала глебу для больш разняволеных і актыўных мастацкіх пошукаў драматурга (дый іншых аўтараў), тым больш што сама жыццёвая рэчаіснасць падштурхоўвае асвойваць новыя тэмы і ўводзіць новых герояў.

Адам ВЫРВІЧ

# АКСАМІТАВАЯ РАСА І ФІЛАСОФІЯ ЖЫЦЦЯ




*Алена СТЭЛЬМАХ*

**ДУБ І КРУМКАЧ. Казка**

*Мінск: Выдавецкі дом «Звязда», 2016.*

Агульнавядома: казкі чытаць — душой адпачываць. Нават даросламу, а што ўжо казаць пра дзетак, калі яны знаёмяцца з творамі, у якіх прысутнічае буйства фантазіі. Прыгоды ж персанажаў да таго незвычайныя, што так і хочацца што-небудзь такое пабачыць у сапраўднасці. Здзіўляцца такому ўспрыманню хлопчыкамі і дзяўчынкамі таго, пра што расказваецца, не трэба. Казка ж на тое і казка, каб немагчымае зрабіць магчымым, такім, каб яго можна было ўспрымаць рэальнасцю. Гэта тычыцца не толькі народных казак, а і аўтарскіх, напісаных самімі празаікамі і паэтамі. Сярод падобных твораў нярэдка сустракаюцца і такія, у якіх хоць і прысутнічае фальклорная аснова, тым не менш, дзякуючы багатай аўтарскай фантазіі, некаторыя рэаліі традыцыйных твораў крыху зменены. Пра штосьці гаворыцца мімаходзь, пра нешта, наадварот, больш падрабязна. А яшчэ, што немалаважна, узмацняюцца выхаваўчыя, а ў пэўнай ступені і дыдактычныя моманты. Гэта, канешне, найперш тычыцца казак, адрасаваных дзецям, хоць падобныя моманты, безумоўна, не застануцца і па-за ўвагай дарослых. Пацвярджэнне таму і казка Алены Стэльмах «Дуб і крумкач».

Колькі слоў пра аўтара кнігі. Алена Анатольеўна — вядомы журналіст. Не адзін год плённа працавала ў выданнях, што прапагандуюць прыродаахоўную тэматыку, расказваюць пра справы работнікаў лесу. Прынамсі, А. Стэльмах шмат гадоў была галоўным рэдактарам «Беларускай лясной газеты». З'яўляецца аўтарам некалькіх кніг, прысвечаных падобнай праблематыцы. Яшчэ некалькі напісала ў суаўтарстве. Таму зусім заканамерна, што, узяўшыся асвойваць казачны жанр, стварыла не якую-небудзь казку, а менавіта «Дуб і крумкач»: ужо з назвы бачна, што нават у выбары галоўных герояў удала спалучаюцца флора і фаўна. Як жа іначай, калі юным чытачам прыемней знаёміцца з тым, што ім больш блізкае, а таму і зразумелае. Аднак паколькі «Дуб і крумкач» — казка сучасная, то не абышлося і без таго, што само па сабе ўжо сведчыць на неабходнасць узнаўлення рэалій, звязаных з паўсядзённасцю. Для прыкладу: «сімфонія», «малая авіяцыя»…

Сам жа змест твора куды ў большай ступені захаваў традыцыйнасць сюжэ-

та. Паводле яго, як таго і вымагае жанр казкі, два галоўныя персанажы жывуць побач. Аднак гэта не значыць, што паміж імі існуе згода і паразуменне. Дый адкуль той згодзе і паразуменню ўзяцца, калі, мякка кажучы, характарамі гэтыя персанажы не сышліся. Дый у кожнага з іх сваё стаўленне да жыцця. Дуб — мужны, стойкі. Яму ўласціва моцнае пачуццё ўласнай годнасці. Трывала трымаецца ён каранямі за глебу, на якой узгадаваўся і расце. Пастаянна дбае пра сваё патомства. Крумкач жа — рэзкая процілегласць яму. Ён не толькі не рупіцца аб тым, каб пакінуць аб сабе добрую памяць, а яшчэ і пасмейваецца з дуба, што той не толькі пра сябе дбае, а і пра іншых. Дый па характары крумкач — не роўня дубу. Ён не толькі ганарысты, а і злы. Таму яго ўсе пабойваюцца. Але не толькі з-за гэтага. Да ўсяго і небяспечны, бо сваім з'яўленнем прыносіць няшчасці. Ды нічога не зробіш, трэба яго цярпець. Тым больш дубу, які пры ўсім жаданні не можа скрануцца з месца.

Казка «Дуб і крумкач» напісана так, што ад першай да апошняй старонкі нясе, пры ўсім іншым, і багатую пазнавальную інфармацыю. Важна тое, што падаецца яна, як кажуць, не ў лоб, а ў чымсьці някідка, па ходзе дзеяння. Дакладней — праз тыя ці іншыя паводзіны персанажаў. Нібыта нічога незвычайнага і не адбываецца, пра што сведчыць і сам пачатак твора: «Як толькі крамяны маладзічок, дагледзеўшы апошні сон, соладка пазяхнуў, пацягнуўся — у празрыстым блакіце маладога неба ўзнік сілуэт крумкача. Ён павольна апісваў круг у адным канцы вёскі, чапляў нябачную пятлю ў другім». І тут жа адразу ідзе сказ-запытанне: «Дык хіба гэта дзіва?» Сапраўды, нейкае дзіва адсутнічае. Усё, што адбываецца, — для крумкача звыкла. Будзённа яно і для тых, хто ведае, як жывуць гэтыя птушкі. Праўда, не ўсе дзеткі знаёмы з іхнімі павадкамі, аднак, дзякуючы казцы, пра гэта даведаюцца нямала. Як і пра паўсядзённае жыццё іншых птушак.

Спачатку А. Стэльмах расказвае пра іх як быццам коратка, але малюнак, тым не менш, зрокава выразны: «У любым селішчы малая авіяцыя шчыруе зранку да цямна. На шэравата-млечным досвітку рухавік новага дня заводзіць шматгалосы хор дробных птахаў». Параўнанне птаства з «малой авіяцыяй» — да месца. Дый «рухавік новага дня», які заводзіцца, вобразнанасычаны. А гэта ўжо сама канкрэтыка. Што ні птушка — свае клопаты. «Каб справе падаць большы імпэт, высунуўшы са сваіх церамкоў чорныя з адлівам чапцы, ім падсвістваюць шпакі. «Шпарчэй, вышэй! Дабавіць каленцаў!» — паддаюць яны дыхту ў ранішні канцэрт»; «Цыбаты бусел, не вытрымаўшы гвалту, што нарабіла ў гняздзе яго пражэрлівая дзятва, сігануў са сваёй стартавай пляцоўкі…» Абудзілася і іншае птаства, разумеючы, што калі рана ўстанеш, то і больш мець будзеш: «Згаладалыя вераб'і шэрай хмаркай павіслі на Яськавай чарэшні. Зараз яны яе аблатошаць!»; «З Залавак данёсся барабанны пошчак. Гэта, апрануўшы чорны фрак, узялася за справу жаўна. Ведайце ўсе: каб дабрацца да хітрунакараеда, дзюбай пашырае шчыліну ў ствале разлапістай елкі».

Не толькі гэтыя птушкі жывуць пачаткам новага працоўнага дня. Стае клопатаў і ў зязюлі, жаўрука… Ды «на гэты раз чужынец-крумкач зблытаў усе птушыныя планы. Не, ён нікому нічым не шкодзіў, не ўмешваўся ў кругаварот адладжанай гармоніі жыцця. Лятаў сабе і лятаў. Але разам з ранішнімі кроплямі аксамітавай расы знікла звычайная агульная весялосць». Пра тое, што адбылося пры з'яўленні крумкача, таксама гаворыцца запамінальна: «Прыгажун-удод, наставіўшы пярэсты чубок, толькі наважыўся паласавацца нахабнымі шашалямі пад адвіслай карой Артэмавай яблыні-«цукроўкі», як схамянуўся, і без таго пудлівы, кінуў спакуслівы занятак, прадбачліва шмыгануў ад бяды падалей у надзейную схованку — пусты Мелюкоў вулей»; «Нястомная валавока са сваёй вострай дзюбкай-шылцам сцішылася ў купчастым кустоўі ля бруістай Навасадскай крынічкі… Яна перастала гарэзліва дражніцца з аброслымі зялёным мохам

шапкамі ўсмешлівых сябрукоў-каменьчыкаў»; «Спудзілася даходная сарока-балаболка…»

Аднак крумкач, гэтаксама нечакана, як і з’явіўся, так знік. Аднак ён не назаўсёды пакінуў тамашнія мясціны. Паляцеў, як неаднойчы рабіў гэта, да дуба. Хацеў прысесці на яго вялізную галіну, «але не разлічыў: падсохлыя гучкі не вытрымалі знянацку абрушанага цяжару звыклага да націску заваёўніка». Ды адступаць крумкач не збіраўся. Чаго-чаго, а настойлівасці яму не займаць: «замацаваўся на ніжэйшым, больш надзейным суку». Злосны, пачаў дапякаць дуб, нават ёлупнем старым абазваў яго. Толькі лясны волат на зласліўца надта не крыўдаваў. Да абразаў крумкача яму было не прывыкаць. Дый ведаў сабе цану. Тое, што прамовіў у адказ, яшчэ адно пацвярджэнне ягонай мудрасці: «Так, я састарэў. Панікла брававая постаць, зацягнуліся смугою мае вочы, долу пахіліліся галіны. Бачыш, і ў кроне маёй ужо жоўта-брудных пасмаў удосталь. Кракчу, як стары, што грабецца на чэрань грэцца. Але я ганаруся сваім узростам. Шчаслівы тым, што ніколі не ведаў адзіноты. І за працяглы мой век ніхто пра мяне ніводнага бруднага слова не сказаў. Ні адна нават самая маленькая істота, а іх у радні са мною безліч, не паскардзіцца, што я яе пакрыўдзіў. Людзі зблізку і здалёку з дабром да мяне хіліліся, адчувалі маю сардэчнасць. Мы часта замiралі ў шчырых абдымках, і я, як мог, прадсілкоўваў іх сваёй энергіяй. Вунь той бок, асабліва непрывабны, — апечаны. Каб я не падставіў яго, згарэла б суседняя хата…»

На казку «Дуб і крумкач» у друку ўжо з’явілася нямала ўхвальных водгукаў. У прыватнасці, Мікола Чэмер, аглядаючы ў «Настаўніцкай газеце» («Асцярожна: злыя гобліны!», 2016, 15 кастрычніка), кнігі для дзяцей, якія выйшлі апошнім часам, заўважыў: «Магчыма, занадта буду піярыць зараз аўтарку (А. Стэльмах. — *А. В.*), але яе казка «Дуб і крумкач» нагадала мне «Казкі жыцця» Якуба Коласа і творы Уладзіміра Караткевіча ў гэтым жанры». Слушна сказана. Ад сябе толькі дадам, што смела можна праводзіць паралель паміж «Дубам і крумкачом» і з казкамі Змітрака Бядулі. У іх таксама моцная жыццесцвярджальная аснова, філасофскі падтэкст і выхаваўчыя моманты. Разам з тым, канешне, ніякага сумнення не застаецца, што гэта на дзіва арыгінальная аўтарская казка А. Стэльмах. Яна напісана па-майстэрску. Гэтаксама па-майстэрску і афармлена мастаком Уладзімірам Лукашуком, стылізаваная пад выцінанку ў выглядзе беларускага нацыянальнага арнамента, пададзенага як ручнік.

**Вольга НІКОЛЬСКАЯ**

## З АДКАЗНАСЦЮ ПЕРАД ЧЫТАЧОМ




*Генадзь АЎЛАСЕНКА*

**МАЛПАЧКА — ДАЧКА НЯБЕСНАГА ДРАКОНА**

*Мн.: Выдавецкі дом «Звязда». 2016.*

Калі пісьменнік пачынае новы твор, напэўна, перш за ўсё думае пра тое, што можа сапраўды зацікавіць і ўсхваляваць будучага чытача, асабліва калі чытач юны, як гэты, якому адрасавана кніга Г. Аўласенкі «Малпачка — дачка Нябеснага Дракона». А яны, хлопчыкі і дзяўчынкі, вучні пачатковых класаў, дапытлівыя і няўрымслівыя, каго зараз і здзівіць не так проста, бо на іх абрыньваецца столькі самай рознай інфармацыі, столькі розных кніг, у тым ліку і казачных, што ўжо даўно вядомае ніяк не прываблівае.

Спытайце, ці цікава ім у 7-8 гадовым узросце, з іх ведамі чытаць проста як інфармацыю тое, як, напрыклад, злы воўк ледзь не з'еў маленькага палахлівага зайку, ці як хітрая ліса надурыла праставатага мядзведзя?..

Безумоўна, у такіх казках свая мараль, але яны для зусім маленькіх, а гэтыя чытачы ўжо выраслі з «кароткіх штонікаў». Факта ім мала, ім падумаць, паразважаць хочацца, ды таму-сяму ненавязліва павучыцца. А вось калі той самы зайка разам са сваімі сябрамі раптам у нашым беларускім лесе сустрэнецца з малпачкай, якая яшчэ да таго ж акажацца «дачкой Нябеснага Дракона»? Дык гэта ж неверагодна!

Калі ж зайчыкі яшчэ і пасябруюць з ёй, а яна іх падмане і здрадзіць іх сяброўству?.. Ну гэта зусім… А калі ў тым жа лесе і вядзьмарка з'явіцца — страшная і злая, ды імя ў яе будзе незвычайнае — Гільбатура-Балбатура-Дзікабраза?..

Мабыць, усяго гэтага хопіць на заяўку пра цікавае дзеянне такіх непадобных і незвычайных казачных персанажаў, сабраных разам у адным творы. Праўда, спачатку здаецца, што тут не хапае хлопчыка ці дзяўчынкі. Дык гэта спачатку, бо далей высвятляецца, што ўсё ж нехта з іх ёсць: Гільбатура-Балбатура-Дзікабраза, як потым акажацца… добрая чулая дзяўчынка…

Вядомы дзіцячы, і не толькі дзіцячы, пісьменнік Генадзь Аўласенка, аўтар многіх твораў для дзяцей самага рознага ўзросту, пачаўшы пісаць казку «Малпачка — дачка Нябеснага Дракона», безумоўна, уявіў свайго чытача. Упэўнена, у думках ён «пагутарыў» з ім і зразумеў, чым яго можна зацікавіць і ў наш такі насычаны рознай інфармацыяй час: незвычайнасцю і звычайнасцю. Якімі?.. Калі незвычайнасцю, дык вобразаў, дзеяння, сюжэта. А звычайнасцю — ненавязлівым запрашэннем

хлопчыкаў і дзяўчынак пасля прачытання казкі падумаць пра многае з іх асабістага школьнага жыцця, пра іх узаемаадносіны з аднакласнікамі, таварышамі, сябрамі.

Кніга, калі гаварыць сучаснымі моднымі тэрмінамі, — своеасаблівы «ф'южн» з ужо вядомых усім з маленства народных казак пра жывёл, а таксама з некаторых замежных мультфільмаў, з чарадзейных казак пра драконаў. Але такое падабенства толькі знешняе — тут усе нібыта вядомыя персанажы дзейнічаюць па-свойму і ў нас…

Зайчык Карапуз сустракае ў лесе незвычайнага звярка. Яго раней у сваім лесе ні Вушасцік, ні Таўстун не бачылі. Звярком аказваецца Малпачка, але яна незвычайная. Гэта малпачка-прынцэса, «адзіная дачка вялікага і магутнага Дракона, уладара ўсяго неба».

Зайчаняты аказаліся вельмі добрымі і гасціннымі, хоць і былі яны розныя па характарах. Да таго ж да старэйшых звычайна адносіліся з павагай. І хоць Малпачка наўрад ці была старэйшай за іх, але яна з'яўлялася прынцэсай і патрабавала да сябе асаблівых адносін, таму Карапуз, Вушасцік і Таўстун аднагалосна ўзяліся ёй ва ўсім дапамагаць. Малпачка ж аказалася вельмі капрызнай, сквапнай і эгаістычнай. Зразумелі гэта зайчаняткі не адразу, а толькі тады, калі яна ўмудрылася, як ім падалося, пасварыць іх з мядзведзем Міхайлам Патапавічам, якога яны вельмі паважалі.

Зайчаняткі кармілі галодную Малпачку морквай, ягадамі, а яна мала таго, што ўвесь час была незадаволена, дык яшчэ і мядзведзю плёткі і небыліцы пра вушасцікаў расказваць пачала. Пра гэта зайчанятам Сарока данесла:

«Пра вас, пра вас! — пацвердзіла Сарока. — А можа, і не плёткі гэта, і не небыліцы, а самая што ні на ёсць праўдзівая інфармацыя? Быццам вы з яе ўсяляк здзекаваліся, голадам марылі…»

Пачуўшы гэта, зайчаняты зразумелі, што Малпачка падманшчыца.

Вось так часам і ў жыцці бывае: верыш аднакласніку, шчыра да яго адносішся, а ён з цябе насміхаецца. Але калі мы, дарослыя, да такіх сітуацый прызвычаіліся і ўжо выпрацавалі кожны сам для сябе «стратэгію» паводзін у падобных выпадках, дзеці яшчэ не паспелі гэтага зрабіць. І часам ім вельмі і вельмі крыўдна, ды складана зразумець, чаму некаторыя іх аднакласнікі так паводзяць сябе. Да таго ж асабліва крыўдна і балюча, калі цябе падманвае і агаворвае не проста аднакласнік, а сябар, якому ты давяраў.

Дарэчы, Генадзь Пятровіч, пісьменнік, які шмат гадоў настаўнічаў, і можа, як ніхто з тых, што пішуць пра дзяцей, ведае дзіцячы свет, нездарма ў падмурак сваёй казкі закладвае менавіта тэму сяброўства. Ён ведае, што асабліва хвалюе хлопчыкаў і дзяўчынак, яго юных чытачоў.

Ведае і разумее, што менавіта ў сямівасьмігадовым узросце важна навучыцца бачыць, хто з'яўляецца сапраўдным сябрам, а хто не. А таксама, што вельмі важна, навучыцца правільна паводзіць сябе з тымі, хто падманвае цябе і «здраджвае» ў сяброўстве. І не менш важна, умець абараняць свае інтарэсы і інтарэсы сваіх сапраўдных сяброў. А заадно ўмець дапамагчы таму, хто так бяздумна сябе паводзіць з іншымі, дапамагчы яму выправіцца. Калі ёсць такое разуменне, дык гэта ўжо шлях станаўлення чалавечай асобы…

У казцы Малпачка «агаворвала» лясным жыхарам не толькі даверлівых бяскрыўдных зайчанят, з якімі быццам сябравала, а на справе — не, але і сваю гаспадыню, маленькую добрую і прыгожую дзяўчынку. Вось што яна, у прыватнасці, кажа пра яе: «Ды яна, ж толькі прыкідваецца дзяўчынкай! — нібыта запамятаўшы пра тое, што трэба размаўляць шэптам, — закрычала Малпачка, ускокваючы на заднія лапы. — На самай справе — гэта самая магутная і самая злая чараўніца ва ўсім свеце! Яе імя…»

І даводзіць зайчаняткам, што гэтая добрая дзяўчынка, якая ім падабаецца, тая самая Гільбатура-Балбатура-Дзікабраза, якая нібыта ператварыла яе, прыгожую прынцэсу ў Малпачку і скінула з неба ў лес да зайчанят.

Малпачка з такім жахам расказвае пра злую чараўніцу, што бедныя баязліўцы не ведаюць, куды лепш схавацца, калі чуюць голас дзяўчынкі. А яна, гэтая «злая чараўніца» дапамагае Таўстуну, які зашчаміў лапку ў вываратні, вызваліцца, любіць лясных жыхароў, заўсёды гатова кожнаму прыйсці на дапамогу, калі ёсць такая патрэба.

Дзяўчынка ж расказвае зайцу, што Малпачка — самая звычайная жывёла, проста яна вялікая прыдумшчыца і збегла ад яе, сваёй гаспадыні. А прынцэсай дзяўчынка называе яе, бо любіць сваю гарэзую і непаслухмяную выхаванку, да таго ж той вельмі падабаецца, калі гаспадыня называе яе прынцэсай. Гарэзніца бегае па лесе і можа згубіцца, гэта будзе жахліва для яе. І дзяўчынка з зайчыкам адпраўляюцца на пошукі хвастатай прынцэсы.

І тут пачынаецца самае цікавае. А менавіта, «…ў вельмі непрыемнай сітуацыі апынуўся Вушасцік, а Малпачка раптам праяўляе сапраўдны прыклад гераізму і самаахвярнасці». Яна выратоўвае зайку, але і сама аказваецца спачатку ў лапах воўка, а потым і ў лапах лісіцы. Толькі для Малпачкі гэта ўжо не так важна: галоўнае, што яна дапамагла свайму сябру Вушасціку. І тады яна раптам зразумела адну такую складаную, такую простую рэч: «…казаць праўду куды прыемней, чым увесь час маніць! І рабіць добрыя справы лепш, чым здзяйсняць кепскія ўчынкі!»

Нават пад страхам смерці Малпачка не адмаўлецца ад сваіх слоў.

«— Ведаеш, — прагаварыла яна (ліса, — *В. Н.*) задуменна, — магчыма, злітуюся і не з’ем цябе! Але пры адной умове…

— Гэта пры якой? — з надзеяй ускінула галаву Малпачка.

— Ты павінна стаць ранейшай! Няўдзячнай манюкай і самазадаволенай эгаісткай! Вось тады я цябе, магчыма, і памілую…

Пачуўшы такое, Малпачка зноў апусціла галаву.

— Але ж я не жадаю быць такой, як раней! — з адчаем прашаптала яна. — Я проста не змагу зноў стаць ранейшай!»

Вось вам і звышідэя ў казцы. Для зусім маленькіх было б дастаткова таго, што Малпачка стала саромецца сваіх ранейшых учынкаў і папрасіла прабачэння ў гаспадыні і сяброў-зайчанят. Але для дзяцей крыху старэйшых важна паказаць, як адмоўны герой прыйшоў да цудоўнага пераўтварэння ў станоўчы вобраз.

Малпачка, дзякуючы свайму гераічнаму ўчынку, праявіўшы самаахвярнасць, раптам пачынае разумець, што быць добрым і сумленным вельмі прыемна не толькі для тых, хто цябе ведае, але, можа і найперш, для сябе. Ты адчуваеш, што патрэбны іншым, хто табе верыць, цябе паважае, табой ганарыцца. Добрыя ўчынкі прыносяць пачуццё радасці не толькі табе, а і іншым. Вось такімі і павінны быць сябры: адкрытымі, сумленнымі, гатовымі заўсёды, калі табе трэба, прыйсці на дапамогу, падтрымаць, калі табе цяжка. У сапраўдным сяброўстве няма месца для эгаізму і хлусні.

Дарослы чытач можа і не пагадзіцца. Маўляў, у жыцці рэдка бывае так, каб злы, хлуслівы чалавек адразу ж стаў сумленным і добрым. На гэты конт так і хочацца сказаць: вярніцеся ў дзяцінства, чытайце з дзецьмі добрыя кніжкі, адрасаваныя ім, успомніце сябе такімі, як вашы дзеці, не страчвайце чыстыя адносіны да жыцця, да людзей, і ўсё будзе добра. І вы зноў станеце больш даверлівымі, шчырымі і адкрытымі…

Хоць пісьменнік і настаўнік, або настаўнік і пісьменнік, Г. Аўласенка не кажа так, як сказала я, а ўсё ж у падтэксце твора прачытаецца і такое пажаданне дарослым. А ў яго юных чытачоў, якім адрасавана кніга, якраз па ўзросце, адносінах да навакольнага свету, да сяброў, да людзей нагул — перыяд сталення як асоб, так бы мовіць, перыяд сацыялізацыі. Складаны перыяд, адказны. Патрэбна, каб у гэты час юным дапамагалі не толькі бацькі, бабулі і дзядулі, суседзі, настаўнікі, а і добрая кніга. Як, напрыклад, гэтая. Напісана яна даходліва. Безумоўна, урокі дабрыні, якія яна дае юным, яны засвояць. Дарэчы, падчас чытання

ў творы сустракаецца шмат цікавых, «аўтарскіх» знаходак, якія асабліва радуюць і робяць кнігу непаўторнай. Напрыклад, калі Малпачка прагаладалася, спрабуе паесці нашых лясных «ананасікаў». Але яны ёй не даспадобы.

«Тут яна выпадкова зірнула ўверх, на елку, і нават у далоні запляскала.

— Ананасікі! І колькі ж іх тут!

І адразу ж кінулася да елкі. Спрытна ўхапіўшыся за самую ніжнюю яе галінку, пачала хуценька караскацца ўверх. Яшчэ імгненне — і Малпачка ўжо знікла з вачэй.

— Пачакай, куды ж ты?! — апамятаўшыся, крыкнуў ёй услед Таўстун. — Якія ж гэта ананасікі?! Гэта ж шышкі звычайныя! Эх, не чуе!»

Акрамя «ананасікаў» у казачным лесе Г. Аўласенкі ёсць вельмі цікавая Сарока, незвычайны Воўк, ды яшчэ шмат хто звычайны і незвычайны. Сарока, напрыклад, карэспандэнтка. Яна лётае паўсюль і стракоча аб тым, што Малпачка ніякая ні дачка Дракона, а самая звычайная, як і ўсе малпачкі. Сарока абураецца, калі Малпачка абзывае яе паклёпніцай, абвінавачвае ў здрадзе:

«— Ну чаму ж адразу здрадніца? — захвалявалася Сарока, апускаючыся на верхавінку елкі. — Не здрадніца і не паклёпніца, а проста — лясная карэспандэнтка! А ўрэшце мне ляцець трэба, новыя звесткі па лесе разносіць! Я адна, а лес вялікі…»

А Воўк амаль не ўмее размаўляць, калі ўсе добра гавораць: «Адзінае, што мог выгаварыць шэры, гэта «ого-го» альбо «ага-га». Ну, яшчэ «угу-гу» ці «эге-ге» зрэдку ўстаўляў у размову, для большай, так сказаць, разнастайнасці…»

Але вернемся да Малпачкі. Калі ў пачатку кнігі яна бачыцца капрызнай, эгаістычнай малечай, такой, якім можа быць любое разбэшчанае дзіця, дык потым паступова перайначваецца, сталее, становіца больш разважлівай і добрай. Урэшце пераўтвараецца ў добрую, разумную і разважлівую Малпачку, або калі перанесці яе вобраз у свет людзей, у дзяўчынку. Вядома, адбываецца гэта не само па сабе, Малпачцы дапамагаюць «знайсці сябе сапраўдную» ўсе персанажы кнігі: зайчаняты, дзяўчынка-гаспадыня, Воўк, Ліса і Мядзведзь. Дарэчы, менавіта, мядзведзь Міхайла Патапавіч выратоўвае Малпачку, калі яе збіраецца з'есці Ліса.

Як у беларускіх і рускіх народных казках, у кнізе Г. Аўласенкі Мядзведзь — сімвал мудрасці і сілы, Лісіца — хітрасці, воўк — недальнабачнасці і прагнасці, зайчыкі — дабрыні і наіўнасці… Матыў чароўных казак гучыць, канешне ж, і ў вобразе Дракона. У казцы ён так і не з'яўляецца, бо прыдуманы самой Малпачкай. Аднак прысутнічае ў аповедах галоўнай гераіні і ў фантазіях зайчанят, якія яе слухаюць:

«— А хіба ж на небе ёсць нейкі Дракон? — замест адказу пацікавіўся Таўстун. — Ніколі яго там не бачыў…

— Ах, не бачыў! — пакрыўджана ўсклікнула Малпачка. — А маланку ты бачыў?... Дык вось — гэта мой татачка Дракон вачыма моргае!..»

Аналогія з сучаснымі маляўнічымі мультфільмамі ўзнікае дзякуючы такому ф'южну-міксу з розных герояў: яны нібыта збеглі з казак, каб сустрэцца ў адным месце, у лесе, прыдуманым Г. Аўласенкам. Не выключаю, што некаторым дарослым, якія выраслі на беларускіх і рускіх народных казках, на казках многіх народаў і на савецкіх мультфільмах, будзе складана зразумець, чаму дзецям могуць падабацца такія казачныя персанажы Г. Аўласенкі, шмат у чым падобныя да звыклых герояў казак, і ў той жа час непрывычныя. Ды і ў сюжэце твора могуць «перасякацца» розныя матывы. Але гэта сённяшні трэнд, менавіта тое, што падыходзіць для сучаснага дзіцяці, якое жыве ў век высокіх тэхналогій, і, як ужо гаварылася, вельмі хутка ўспрымае шмат новай самай разнастайнай інфармацыі.

Да таго ж добрая асацыяцыя з сучаснымі мультфільмамі ўзнікае і дзякуючы маляўнічым ілюстрацыям, якія створаны мастачкай Марыяй Міцкевіч, менавіта ў «мульцяшным» стылі.

Героі нібыта сышлі з экрана тэлевізара і трапілі ў кнігу. Яны яркія, гарэзлівыя, жвавыя. Вакол іх блакітнае неба, зялёная трава, ягады, кветкі і чароўныя дрэвы. Выявы іх хутка ператвараюцца ў фігуру Дракона, як толькі Малпачка пачынае расказваць пра свайго магутнага бацьку.

Напісана кніга на чыстай і зразумелай беларускай мове, што вельмі важна для малодшых школьнікаў, асабліва гарадскіх, якія часцей за ўсё толькі пачынаюць вучыць родную мову. Аўтар пазбягае складаных выразаў, незразумелых слоў, каб не «перагружаць» імі твор і не выклікаць раздражнення ў юнага чытача. Пагадзіцеся, калі дзіця чытае тэкст, дзе шмат незнаёмых яму слоў, калі яму часта даводзіцца заглядваць у слоўнік, асалода ад самога твора знікае.

Дарэчы, недахоп твораў для дзяцей, напісаных па-майстэрску, добрай і простай мовай сёння існуе, нягледзячы на вялізную колькасць кніг, што выдаюцца. Ведаю гэта, бо сама маю сямігадовую дачку. Кніг у маёй бібліятэцы, здаецца, нямала, але большасць з іх напісаны такой складанай мовай, «абцяжараны» такой колькасцю маляўнічых эпітэтаў і параўнанняў, што юнаму чалавеку зразумець іх складана. Вось і даводзіцца бацькам дапамагаць сваім дзецям, чытаць разам, многае тлумачыць.

Кніга ж Г. Аўласенкі «Малпачка — дачка Нябеснага Дракона» каштоўная яшчэ і тым, што дзеці яе могуць чытаць самастойна. Бо часам так важна застацца з добрай кнігай сам-насам, каб унікнуць у яе сэнс, адчуць асалоду ад чытання і гучання роднага слова. І калі такіх «самастойных» кніг будзе больш, я ўпэўнена, наша юнае пакаленне зможа на час адарвацца ад сваіх гаджэтаў і засяродзіцца ў чароўным свеце кнігі, каб знайсці ў ім адказы на тыя пытанні, якія хвалююць і займаюць, каб навучыцца чамусьці новаму і стаць крышачку лепшымі.

Упэўнена, пісьменнік і настаўнік Генадзь Аўласенка, пішучы гэты твор для дзяцей, усё цудоўна разумеў.

Юлія АЛЕЙЧАНКА

# ПА ЗАГАДЗЕ СЭРЦА



*Уладзімір САЛАМАХА*

**СУСТРЭЧЫ БЕЗ РАССТАВАННЯЎ**

*Мн., Мастацкая літаратура, 2016.*

Многае ў нашым жыцці часовае. Абставіны, рэчы і, на жаль, людзі. За сустрэчамі ідуць расставанні. Лёгкія, незаўважныя ці вельмі балючыя, гаротныя. Ды ніколі не расстаёмся мы з тымі, хто застаецца глыбока ў сэрцы. І няважна, прысутнічаюць яны фізічна з намі ці не. Пра складанасць чалавечых адносін, пра неабходнасць маральнага выбару, пра надзённыя і лёсавызначальныя клопаты піша лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, празаік з адметным бачаннем свету Уладзімір Саламаха.

У новую кнігу пісьменніка ўвайшлі дылогіі «Адплаціцца нам…», «Сустрэчы без расставанняў», асобныя аповесці «Кавалёк — лесавая былінка», «Шурка Лёгкая Рука», апавяданні.

«Не кожны з нас, людзей, чалавек па сваёй сутнасці», — сцвярджае Уладзімір Саламаха. Даўно вядома, што сапраўдная вартасць асобы раскрываецца толькі ў «памежным становішчы». Ці вінаваты бацька паліцая? Ці можна схавацца ад пакут сумлення? Як выжыць і не прадацца за трыццаць сярэбранікаў «сыцікам»-тылавікам? Такія няпростыя задачы стаяць перад героямі першай аповесці «…І няма шляху чужога» дылогіі «Адплаціцца нам…». Без перабольшвання адным з самых моцных твораў пра вайну за апошні час можна назваць гэты твор. Чаму? Магчыма таму, што аўтар за доўгае творчае жыццё назапасіў бясцэнны вопыт назірання за светам прыроды і людзей, адрознівае драбнейшыя нюансы ў зменах душэўнага стану, здольны яскрава і пры гэтым лаканічна стварыць запамінальную мастацкую дэталь. Праўдзівае апісанне вясковага побыту спалучаецца ў творы з глыбокім роздумам. На першы план выходзіць філасофія простага чалавека, які валодае чулым сэрцам, настойліва шукае адказы на вечныя пытанні. Як робяцца злодзеямі, калі «ўсе людзі нараджаюцца аднолькавымі?» — пакутуе над пытаннем стары Яўфім. Ці можна пазбавіцца ад згрызот мінулага, калі змяніць асяроддзе? — вырашае Іосіф Кучынскі. І што галоўнае, перад тварам страшэннай катастрофы знявечаныя вайной людзі, якія быццам бы «загрубелі ад нялёгкага жыцця», не губляюць пяшчоты і шкадавання. Клапоцяцца пра цяжар-

ную Кацярыну, хвалююцца за хворых коней. Што і казаць, адзнакай высокай літаратуры заўсёды было імкненне герояў да маральнага самаўдасканалення. Ды не толькі ў гэтым каштоўнасць аповесці. Цудоўныя малюнкі прыроды, тонкія дэталі каляровага свячэння зямлі пасля ночы, зменлівых ценяў на сцяне вясковай хаты, зеленаватага перадвясновага неба… Усё тое ж уменне мастака выхапіць з канвы рэальнасці нешта, здавалася б, дробязнае, але такое важнае… Рэдкая шчаслівая хвіліна сярод вайны — сустрэча двух братоў на пероне ці відзежы памерлых у святле свечкі — колькі моцнага пачуцця ўкладзена ў падобныя эпізоды! Таму, як кажуць, на адным дыханні і пераходзіш да другой аповесці дылогіі, каб даведацца аб далейшым пасляваенным лёсе ўжо родных душы герояў…

У малых формах Уладзімір Саламаха выяўляе тое ж веданне псіхалогіі, выразна адчуваецца, што ў кожным з апавяданняў кнігі шмат асабістага, перажытага. Даўно вядома, што лепшае з напісанага — тое, што заснавана на ўласным досведзе. Кранальна і разам з тым на дзіва проста і зразумела апісвае аўтар узвышанае пачуццё першага кахання ў апавяданні «Адно слова»: «У кожнага з нас у свае сямнаццаць гадоў была і ёсць свая Яна. Ці то высокая, тоненькая, з задзірлівым носам, са сціснутымі заўсёды вуснамі, ці то мяккая і не па-дзявочы разважлівая — дапамагае бацькам выхоўваць малодшых братоў і сясцёр, маці яе нешта ўсё хварэе і хварэе, — і кожнаму з нас боязна страціць яе, сваю, як боязна ў такім узросце прызнацца адно аднаму ў сваіх пачуццях, тых пачуццях, якія чамусьці ў кнігах, кінафільмах, песнях людзі, намнога старэйшыя за нас, вызначаюць адным словам: каханне…» А колькі жыццёвай праўды ў такіх пазнавальных тыпах гарманіста Іллі, участковага Мішкі Каменьчыка, бабкі Ілліхі і іншых герояў твораў Уладзіміра Саламахі!

У кнізе «Сустрэчы без расставанняў» — мінулае і дзень сённяшні, людскія будні і святы, знаёмыя кожнаму беды і радасці. Нельга заставацца абыякавым да перажыванняў яго персанажаў. І так хочацца зноў грэцца цеплынёй радкоў, створаных па загадзе сэрца.




*Алесь КАРЛЮКЕВІЧ*

**СВЯТЛО СЯБРОЎСТВА**

*Мн., Выдавецкі дом «Звязда», 2016.*

Пэўна, ні для кога не сакрэт, што вельмі важную ролю ў справе літаратурных кантактаў розных краін адыгрываюць асабістыя сустрэчы, перапіскі, размовы пісьменнікаў, перакладчыкаў, крытыкаў. Аўтар кнігі з сімвалічнай назвай «Святло сяброўства» не адно дзесяцігоддзе збірае матэрыялы, звязаныя з літаратурным сяброўствам Беларусі і свету. Актыўна супрацоўнічае з пасольствамі і даследчымі ўстановамі розных краін, Інстытутам кітаязнаўства імя Канфуцыя, Цэнтрам азербайджанскай мовы і культуры і г.д. Прапагандуе беларускую літаратуру падчас замежных камандзіровак і ў рамках «круглых сталоў»… Таму яго новая кніга вызначаецца не пафаснымі гучнымі словамі, а факталагічнасцю, дакладнасцю, шырынёй ахопу матэрыялу. У ёй шмат як грамадзянскага, агульначалавечага, так і асабістага, здабытага ўласным вопытам знаёмстваў, супольнай працы.

«Святло сяброўства» прадстаўляе шырокаму колу чытачоў артыкулы і

інтэрв'ю, звязаныя з сучасным літаратурным працэсам Беларусі, Расіі, Украіны, Літвы, Сербіі, Славакіі, Азербайджана, Казахстана, Арменіі, Таджыкістана, Туркменістана, Кітая, Велікабрытаніі. І, трэба адзначыць, што Алесь Карлюкевіч умее выбраць са стракатай літаратурнай канвы свету сапраўды важкае і знакавае для Беларусі. Вось, прыкладам, азербайджанская літаратуразнаўца Ірада Мусаева дзеліцца ў інтэрв'ю сваімі ацэнкамі творчасці Святланы Алексіевіч, яе кнігі «У вайны не жаночае аблічча». Аналізуе суадносіны публіцыстычнага складніку ў сучаснай мастацкай літаратуры, разважае пра лёс аналітычнай журналістыкі. А яшчэ — кажа шчырыя словы падзякі за суровую праўду і справядлівае стаўленне да гістарычных падзей: «Цяжка назваць другі такі твор, дзе б так абвострана, як у Святланы Алексіевіч, раскрывалася б сапраўднае аблічча Другой Сусветнай вайны. С. Алексіевіч быццам акумуліравала, «адрэдагавала» ідэю ўсіх аўтараў, якія пісалі пра вайну ў іншым ракурсе. У другіх творах і фільмах пра вайну людзі былі «сілай», якая крочыла ўровень з тэхнікай. Гэта была адна з прычын перамогі. Але Святлана Алексіевіч вылучыла на першы план менавіта Чалавека».

Тое ж, відавочна беларускае, і ў раздзеле кнігі, прысвечанай Туркменістану. Увазе чытача — шмат цікавых гісторых асабістых знаёмстваў і пошукаў на зямлі Махтумкулі. Знаходзячыся на службе ў Туркменістане, Алесь Карлюкевіч кантактаваў з многімі выдатнымі літаратарамі: Байрамам Джутдзіевым, Нарклычам Хаджагельдыевым, Какалы Бердыевым, Тыркішам Джумагельдыевым, Алаярам Чурыевым, Газель Шакуліевай, Какабаем Курбанмурадавым, Яўшанам Аннакурбанавым, Керымам Курбанняпесавым і інш. Даследаваў повязь з Каракумскім краем слынных беларускіх паэтэс Еўдакіі Лось і Эдзі Агняцвет… А сёння — піша пра новы пераклад Якуба Коласа на туркменскую мову, змешчаны ў ашхабацкім часопісе перакладной літаратуры «Дунья эдэбіяты» («Сусветная літаратура»).

Блізкая Алесю Карлюкевічу і ўкраінская тэма. Ён ўпэўнена акрэслівае новыя акалічнасці повязі Максіма Багдановіча і Украіны, разгадвае перыпетыі жыццёвага лёсу пісьменніка Андрыяна Іванчука, «гасцюе» ў часопісе «Кіеў». Безумоўна, цікавая для чытачоў будзе і гутарка з сучасным украінскім пісьменнікам Міхайлам Слабашпіцкім на агульныя для нашых краін тэмы двухмоўя, псіхалогіі мастацкай творчасці, стану літаратурнай крытыкі і перакладу, тыражоў кніг і літаратурных часопісаў.

Важная частка кнігі прысвечана і руплівай дзейнасці беларускіх літаратараў, перакладчыкаў. Сярод знакавых у гэтым кірунку імёнаў — Анатоль Бутэвіч, Міхась Пазнякоў, Ірына Качаткова, Адам Шостак, Марыя Кобец і інш. Прыводзіцца інтэрв'ю і са знакамітым беларускім паэтам, карыфеем мастацкага перакладу Сяргеем Панізнікам. «Пераклады — гэта пратуберанцы мацерыка пад назвай Літаратура Беларусі. Творцам ахвоцілася паказаць сваё сталенне, напяць перакладамі спружыны ўзаемадачыненняў, паказаць генетычнае сваяцтва Слова — каб спраўдзіцца на вокладках духоўнага спадчыннення. Перажылі мы бурлівы ўсплёск узаемнай перакладчыцкай дзейнасці. Падумаць толькі: паўтара дзясятка кніг беларускіх аўтараў было на рахунку тлумача — латыша Талрыда Руліса. Рупліва працаваў чэх Вацлаў Жыдліцкі. Чаму ён часта выдаваў Караткевіча, тлумачыць адзін з яго аўтографаў: «каб людзі ведалі, што аўтара цанілі за мяжой даўно да той заслужанай ацэнкі на яго радзіме». Апантанасць, у дадзеным выпадку Караткевічам, нараджала зваротныя дзеі. Якія глыбінныя памкненні духу сённяшняга літаратара абудзяць фібры іншамоўнай душы суседа?»

Гэтае вострае пытанне пошуку новых фарбаў ды нот еднасці не дае спакою тым, хто сапраўды за літаратурнае сяброўства, узаемнае сталенне і развіццё. Кніга Алеся Карлюкевіча — пэўны творчы пасыл для такіх неабыякавых і цікаўных. Ды і не толькі прафесійныя літаратуразнаўцы і перакладчыкі знойдуць для сябе ў дадзеным выданні шмат каштоўнага. Яна напісана захапляльна, нязмушана. Падзеі і людзі «Святла сяброўства» — частка нашай агульнай гісторыі.




*Роберт МІНУЛІН*

**АДНА СЯМ'Я**

**Пер. з татарскай Яны Явіч**

*Мн., Выдавецкі дом «Звязда», 2016.*

Серыя «Сяброўства без межаў» Выдавецкага дома «Звязда» даволі маладая. Але мае добрыя здабыткі. І для маленькага чытача — таксама. Беларускія дзеці ўжо мелі магчымасць у мінулым годзе пазнаёміцца з вершамі ды прозай чарнагорскага пісьменніка Душана Джурышыча, туркменскага — Касыма Нурбадава… Чарговая перакладная кніга серыі — вершы народнага паэта Татарстана Роберта Мінуліна, чые дзіцячыя кнігі карыстаюцца папулярнасцю сярод школьнікаў, бацькоў, выкладчыкаў, выхавацеляў на яго радзіме і далёка яе межамі.

У цікавай, інфармацыйна насычанай прадмове да кнігі адсочваюцца заканамернасці творчага лёсу і сталення паэта. А так званых «універсітэтаў» у яго было шмат: нарадзіўся ў вялікай шматдзетнай сям'і, рана страціў бацьку, прайшоў пакручасты шлях у журналістыку, палітыку, грамадскую дзейнасць… «Ён — яркі прыклад таго, як з самога сябе вылепіць Асобу, як стаць чалавекам дзеяздольным, граматным, руплівым, рашучым. Як навучыцца не марнаваць час упустую і імкліва рухацца наперад, пераадольваючы самыя розныя бар'еры, цяжкасці і складанасці», — адзначае Алесь Карлюкевіч.

Вершы Роберта Мінуліна вясёлыя, заліхвацкія, але і разважлівыя, з яскравым гуманістычным, павучальным кірункам. І гэта выдатна ўдалося ўвасобіць паэтэсе і празаіку Яне Явіч, якая таксама мае ў творчым багажы багата твораў для дзяцей. Перадаць выдатны гумар, паглядзець на свет вачыма кемлівага татарскага хлопчыка Гашыма, пазнаёміць чытача з яго сям'ёй — усё гэта паспяхова здзейсніла маладая беларуская пісьменніца.

Пэўна, толькі чалавек, які добра ведае псіхалогію дашкалят, зможа акцэнтаваць увагу на такіх паказальных момантах… Хлопчык, які мае ўласную новую шапку, апранае стары дзіравы капялюш старэйшага брата, каб толькі быць падобным да яго. Ці шкадуе ваўка з вядомага мультсерыяла, якому часта дастаецца «на арэхі». А колькі абаяльнай весялосці ў кнізе! Вось, напрыклад, як маленькі жартаўнік марыць пра сваё дарослае жыццё і нават пра будучых дзяцей:

Купіў бы ўсё на свеце
Сыночку я свайму!
Купіў бы што заўгодна,
Што б ён ні папрасіў…
А мне… сабачку… сёння
Мой тата не купіў!

Ёсць у Роберта Мінуліна і лірычныя пейзажныя творы для маленькіх чытачоў-слухачоў:

Такімі таполі і клёны
зялёнымі не былі:
дождж прайшоў зялёны,
дожджык прайшоў па зямлі.

З лісця
зеленавокага
кропелькі слёз
упалі…
У сіні нябёсаў высокай
сонейка промні заззялі.

Увогуле, галоўная тэма кнігі — знітаванасць, сяброўства, сямейная шчырасць і ўзаемадапамога. «Планета ўся — адна сям'я», — сцвярджае Роберт Мінулін. Пагадзіцеся, нам так не хапае сёння гэтай мудрасці!

# ГОРАД ЛАНГБАРДА



Іосіф Лангбард быў адным з тых, хто вызначаў творчую атмасферу архітэктуры Беларусі ў 30-я гады XX стагоддзя і жыватворна ўплываў на творчасць беларускіх архітэктараў.

Як згадваў сам Лангбард, маляваннем ён захапіўся яшчэ ў дзяцінстве: «Я маляваў чарцяжы дамоў, тэатраў, помнікаў, размалёўваў любую паперу, што траплялася пад руку… Часам сыходзіў у поле, каб замаляваць свой «вольны» праект, часам маляваў ноччу, калі ўсе дома засыналі. Са школы я марыў пра тое, каб вучыцца ў Акадэміі мастацтваў».

Пасля заканчэння гімназіі ў Гродзенскай губерні, юнак з'ехаў у Адэсу, дзе паступіў на архітэктурнае аддзяленне Мастацкай вучэльні таварыства выяўленчага мастацтва і музыкі, а ў 1907 г. паспяхова вытрымаў іспыты ў Пецярбургскую акадэмію мастацтваў. Ён вучыўся ў майстэрні прафесара Аляксандра Міканоравіча Памяранцава і працаваў памочнікам архітэктара Аляксандра Лішнеўскага на будоўлях Пецярбурга.

У 1914 годзе Іосіф Рыгоравіч абараняе прапанаваны выпускнікам Акадэміі праект «Будынак Дзяржаўнага Савета» і атрымоўвае званне «мастак-архітэктар».

Падчас Першай сусветнай вайны архітэктар кіруе будаўніцтвам ваенных умацаванняў і іншых аб'ектаў, бярэ ўдзел у архітэктурных конкурсах. Яго прект будынка губернскай земскай управы для Кастрамы атрымаў I прэмію.

Вясной 1918 года Лангбард працуе ў будаўнічай канторы Петраградскага гарадскога аддзела аховы здароўя, працягвае ўдзельнічаць у шматлікіх архітэктурных конкурсах, падчас якіх фарміруе свой аўтарскі почырк, набіраецца вопыту. Адна з паспяховых работ таго часу — праект помніка В. І. Леніну каля Фінляндскага вакзала ў Ленінградзе (I прэмія, 1924 г., помнік не быў пастаўлены). Для міжнароднага конкурсу на помнік-маяк Хрыстафору Калумбу ў г. Сан-Дамінга былі прадстаўлены два варыянты праекта, створаныя архітэктарам у 1928—1929 гг. Акрамя таго захаваліся шматлікія работы Лангбарда, так званыя, «архітэктурныя фантазіі» на розныя тэмы архітэктурных кампазіцый.

У 1929—1931 гг. Іосіф Рыгоравіч бярэ ўдзел у праектаванні і будаўніцтве першай Беларускай сельскагаспадарчай і прамысловай выставы ў Мінску.

Для будоўлі выдзелілі раён плошчай 17 гектараў на паўночна-ўсходняй ускраіне горада (сучасныя вуліцы Калініна, Кедышкі, Валгаградская, праспект Незалежнасці). Было ўзведена каля 40 драўляных павільёнаў, усе яны пасля былі знішчаны пажарамі ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

У 1929 годзе Цэнтральны выканаўчы камітэт і Савет народных камісараў БССР аб'явілі конкурс на галоўны адміністрацыйны будынак рэспублікі — Дом урада. Ва ўсесаюзным спаборніцтве бралі ўдзел знаныя архітэктары: Леў Руднеў, Якаў Гервіц, Ной Троцкі, Іван Фамін і інш. Журы рэкамендавала праект Лангбарда, без змен. Для будаўніцтва адвялі ўчастак на пачатку вуліцы Савецкай, недалёка ад чыгункі. У той час раён быў забудаваны малаэтажнымі драўлянымі дамамі, якія падлягалі зносу.

Дом урада ў Мінску — адзін з лепшых праектаў Лангбарда. Гэта самае буйное збудаванне даваеннай сталіцы. Значнай заслугай архітэктара стала шырокае выкарыстанне манументальнай скульптуры і жывапісу. Сумесная праца Лангбарда з мастакамі — першы вопыт творчай садружнасці ў беларускай савецкай архітэктуры. Вынікам стала ўнутраная аддзелка вестыбюля, залы пасяджэнняў ды іншых памяшканняў. У цэнтры плошчы, перад будынкам, быў усталяваны помнік Леніну. Над ім Лангбард працаваў сумесна са скульптарам Мацвеем Манізерам.

Будаўніцтва было завершана напрыканцы 1933 года. Помнік Леніну ўрачыста адкрылі 7 лістапада 1933 года, плошча перад будынкам была названая яго імем. У лютым 1934 года Савет народных камісараў адзначыў працу Лангбарда і Манізера прысваеннем творцам званняў «Заслужаны дзеяч архітэктуры БССР». У гады Вялікай Айчыннай вайны помнік Леніну быў знішчаны фашыстамі. У 1945 годзе скульптуру адлілі нанова па формах, якія захаваліся ў майстэрні Манізера, і ўсталявалі на ранейшым месцы. Будынак акупанты таксама рыхтаваліся знішчыць, аднак не змаглі.

Увогуле, 30-я гады XX стагоддзя сталі часам росквіту таленту архітэктара Лангбарда. Ён праектуе і ўвасабляе буйныя грамадскія будынкі ў Мінску, Кіеве, Сталінградзе, Магілёве ды іншых гарадах. У Ленінградзе архітэктар будуе стадыён на 30 тыс. месцаў. Працягваючы супрацоўніцтва з Манізе-



*Будаўніцтва Дома ўрада.*



*Будаўніцтва тэатра оперы і балета.*

рам, стварае помнікі Чапаеву ў Самары і Тарасу Шаўчэнку ў Харкаве.

У верасні 1934 года Лангбард выйграе чарговы конкурс — на праект тэатра оперы і балета ў Мінску. Будаўніцтва вялося даволі хутка, аднак аўтару давялося некалькі разоў уносіць змены: памяншаць памер глядзельнай залы, аб'ёмы будынка, спрашчаць аддзелку фасадаў, інтэр'ераў. Асноўныя будаўнічыя работы былі завершаны ў 1937 годзе, але яшчэ амаль два гады спатрэбілася на тое, каб ліквідаваць недаробкі. У стварэнні інтэр'ераў узялі ўдзел беларускія скульптары Андрэй Бембель і Заір Азгур, сцэнічную частку тэатра распрацаваў інжынер Д. І. Эскузовіч.

Тэатр адкрылі ў 1939 годзе операй кампазітара Яўгена Цікоцкага «Міхась Падгорны». У гады акупацыі ў напаўразбураным будынку была канюшня. Унікальныя прадметы тэатральнага рэквізіту, карціны, мэблю вывезлі ў Германію. Пры адступленні фашысты замініравалі тэатр, але ўзарваць не паспелі. Пасля вызвалення будынак уключылі ў план першачарговых рамонтаў. Ужо ў 1944 годзе Іосіф Рыгоравіч праектаваў яго рэканструкцыю, якая доўжылася тры гады.

Адзін з унікальных будынкаў, узведзеных Лангбардам у даваенны час у Мінску, — Дом Чырвонай Арміі (Цэнтральны Дом афіцэраў). У 1934 годзе, пасля пераезду СНК у Дом урада, комплекс будынкаў Архіерэйскага падворка быў перададзены камандаванню Беларускай ваеннай акругі для стварэння ДЧА. Праектаванне пачыналі беларускія архітэктары Макляцова і Крылоў, але іх рашэнні не былі ўхвалены і ў рэшце рэшт запрасілі Лангбарда. Архітэктар максімальна выкарыстаў пры будаўніцтве падмуркі, сцены, канструкцыі старых пабудоў і стварыў велічны будынак з неймавернай колькасцю памяшканняў, тэатральным і кіназаламі, шахматным пакоем, спартыўнымі заламі, а таксама першым у Саюзе басейнам. Інтэр'еры афармлялі беларускія скульптары і мастакі Андрэй Бембель, Аляксей Глебаў, Аляксандр Арлоў, Ліпа Кроль ды іншыя.

У гады вайны фашысты адкрылі ў будынку салдацкі клуб, кінатэатр. Падчас адступлення на першым паверсе і ў падвале складзіравалі бомбы, міны; падпалілі правае крыло. Ад руйнавання будынак выратавалі байцы капітана Маслава. Пасля вайны архітэктар асабіста прымаў удзел у яго аднаўленні.

У 1935 годзе Лангбарду прапануюць дапрацаваць праект Акадэміі навук БССР. Георгіем Лаўровым ужо

былі ўзведзеныя два асобныя будынкі галоўнага корпуса, Лангбард з’яднаў іх велічнай двухшараговай каланадай. У яго эскізах — барэльефы на тэму навукі, розныя мастацкія элементы. Архітэктар прапаноўваў усталяваць помнік Францыску Скарыне, скульптуры беларускіх асветнікаў.

У гады акупацыі фонды акадэміі, бібліятэка, лабараторыя былі разрабаваныя. Тэрыторыя вакол будынка адышла пад могілкі. Перад адступленнем фашысты падпалілі галоўны і лабараторны карпусы. Цалкам аднавіць будынкі пад кіраўніцтвам архітэктара ўдалося толькі на пачатку 1950-га.

У 1930-я гады Іосіф Лангбард узвёў у Беларусі яшчэ адзін будынак. Напрыканцы 1937 года вырашалася пытанне пра перанос сталіцы з Мінска ў Магілёў, «Генеральную схему планіроўкі горада» распрацоўвалі вядучыя архітэктары рэспублікі. У новым цэнтры Магілёва, на плошчы Леніна, па праекце Лангбарда ўзводзіцца Дом Саветаў. Ствараючы Дом Саветаў, архітэктар карыстаўся кампазіцыйнымі прыёмамі свайго колішняга праекта: Дома ўрада ў Мінску.

У 1935 годзе кіраўніцтва Акадэміі мастацтваў у Ленінградзе запрашае Іосіфа Лангбарда на пасаду прафесара, выкладаць на кафедры архітэктурнага праектавання. У 1939 годзе за ўклад у развіццё архітэктуры без абароны дысертацыі яму прысвойваюць навуковую ступень доктара архітэктуры.

Разам з іншымі архітэктарамі краіны Лангбард уваходзіў у арганізацыйны камітэт па стварэнні Саюза архітэктараў СССР і на першым з’ездзе у 1937 годзе быў абраны ў праўленне Саюза. У гэтым жа годзе Іосіф Рыгоравіч атрымоўвае дыплом за беларускую архітэктуру на Міжнароднай выставе мастацтваў і тэхнікі ў Парыжы.

Напярэдадні вайны Лангбард прыязджае ў Мінск і пасля ўзгадвае: «Вайна заспела мяне ў Мінску, куды я прыехаў 18 чэрвеня па будаўніцтве ДЧА. Са шматлікімі звычайнымі для тых дзён прыгодамі, прайшоўшы больш за 40 км пешшу з Мінска, адкуль выйшаў ноччу 25-га, я змог дабрацца да Ленінграда, дзе адразу ж уключыўся ў працу па маскіроўцы самых важных аб’ектаў і пабудоў горада».

У 1942 годзе Лангбард трапляе ў эвакуацыю. З вызваленнем Мінска, у жніўні 1944-га ў складзе Камісіі Камітэта па справах архітэктуры СНК СССР разам з іншымі слыннымі архітэктарамі, у кароткія тэрміны вывучае фактычны стан горада і прымае ўдзел у абмеркаванні планаў па яго аднаўленні.

У верасні 1944 года Іосіф Рыгоравіч узначальвае архітэктурна-планіровачную майстэрню Упраўлення па справах архітэктуры пры СНК БССР, дзе ствараецца праектная дакументацыя па рэканструкцыі разбураных жылых дамоў і грамадскіх аб’ектаў, займаецца аднаўленнем будынкаў, створаных па яго праектах да вайны. Сумесна з архітэктарам Міхаілам Бакланавым праектуе кінатэатр «Перамога», удзельнічае ў шматлікіх конкурсах па забудове цэнтра Мінска. Адначасова сумесна са скульптарам Манізерам распрацоўвае праекты мемарыяльных помнікаў: Зоі Касмадзям’янскай у Тамбове, генерал-лейтэнанту Фёдару Харытонаву ў Рыбінску, тройчы Герою Савецкага Саюза лётчыку Аляксандру Пакрышкіну ў Новасібірску.

Напрыканцы 1940-х Лангбард назаўсёды развітваецца з горадам, дзе былі ўвасоблены яго лепшыя работы. Архітэктар працягвае выкладаць у Акадэміі мастацтваў, мае шмат творчых планаў, але неўзабаве цяжка захворвае… Іосіф Рыгоравіч памёр 3 студзеня 1951 года і пахаваны на Серафімаўскіх могілках Ленінграда. На яго магіле ўсталяваны помнік, які па просьбе жонкі архтэктара Вольгі Гаўрылаўны стварыў яго добры знаёмы Заір Азгур.

***Галіна ШОСТАК***

*Фотаздымкі прадастаўлены Беларускім дзяржаўным архівам навукова-тэхнічнай дакументацыі.*

# «НАДДЗВІННЮ» — 90

У далёкім 1925 годзе прыехаў у Полацк Алесь Дудар, каб стварыць тут філію літаратурнага аб’яднання «Маладняк». Гэта, як вядома, быў час сапраўднага беларускага рэнесансу, адраджэння нацыянальнай свядомасці. Было вырашана стварыць літаратурныя суполкі ў шэрагу гарадоў Беларусі, каб пісьменнікі неслі роднае слова ў народ.

Працэс беларусізацыі на Віцебшчыне і Магілёшчыне па розных прычынах пачаўся пазней, чым у іншых рэгіёнах Беларусі, таму Дудар спачатку адчуваў пэўныя цяжкасці. Ён нават жаліўся ў цэнтр: «…гэтыя паўгода, што я працую тут, у канец расхісталі маё здароўе. Частыя галадоўкі, вечныя лаянкі ў рэдакцыі на грунце беларусізацыі…» Збіраўся ў водпуск і выказваў жаданне працаваць пасля адпачынку дзе заўгодна, толькі не ў Полацку: «…я ні за што не вярнуся… Я магу працаваць. Хачу працаваць і буду працаваць. Толькі не ў Полацку. Полацк мяне згнаіў і фізічна, і можа, маральна».

На змену яму ў газету «Полоцкий пахарь» (у 1926 годзе яна стала «Чырвонай Полаччынай») у якасці адказнага сакратара прыехаў Алесь Звонак, які адыграў значную ролю ў станаўленні літаратурнай суполкі ў горадзе на Дзвіне. Абавязкі ж часовага (так сказана ў дакументах) старшыні Полацкай філіі са жніўня 1925 года выконваў Валерый Сянкевіч, а Сымон Хурсік з кастрычніка таго года стаў сакратаром Бюро Полацкай філіі. З восенні 1925 года яна ўжо працавала плённа.

Пра першыя крокі яе можна даведацца з газеты «Полоцкий пахарь», № 28 ад 21 лістапада 1925 года, у якой змешчаны артыкул С. Хурсіка «Полацкая філія»: «На першым арганізацыйным пасяджэнні, — пісаў аўтар, — прысутнічала 7 асоб, якія і ўвайшлі ў склад філіі. З цягам часу філія пачала ўзрастаць, як колькасна, так і ў якасных адносінах. Увесь час філія была ў арганіцыйным стане, але разам з тым у ёй вялася і напружаная, энергічная «маладнякоўская» праца. К сённяшняму дню ўжо маем 18 запратакаліраваных сходаў філіі, на якіх рабіліся навуковыя даклады па паэтыцы літаратуры і іншых галінах мастацтва. Разглядаліся капітальныя творы найбольш выдатных паэтаў і пісьменнікаў, як старэйшага пакалення, так і «маладнякоўцаў», таксама разглядалася творчасць і сяброў філіі. Асабліва філія развярнула сваю працу з верасня 1925 года. Была ўзята арыентацыя на моладзь. У гарадскім аб’яднанні Полацкай філіі маецца ўжо 18 асоб...»

Плённа працавала філія і ў наступным годзе. У склад яе ўвайшлі Сцяпан Сямашка, Максім Грашчанка, Пятрусь Броўка, Ян Скрыган, Тарас Хадкевіч, Анатоль Астрэйка, Андрэй Александровіч. На пасяджэннях праводзілася, як адзначаў у адным з артыкулаў Александровіч, упартая, цярплівая, калектыўная работа над кнігай. Вывучалі літаратуру, знаёміліся з літаратурнымі напрамкамі і іх прадстаўнікамі. Важная ўвага надавалася тэхніцы вершаскладання і «адказнасці за кожнае слова вершу». «Маладнякоўцам, — пісаў Александровіч, — можа быць толькі той, хто займаецца творчай працай, хто імкнецца больш абагаціць свой светапогляд, хто цікавіцца, любіць і вывучае літаратуру, хто займаецца яе даследаваннем».

У лістападзе 1926 года выйшаў першы альманах — «Наддзвінне». Гэтая назва назаўсёды замацавалася і за самім аб’яднаннем, хоць у 1927 і 1928 гадах былі выдадзены альманахі з іншымі назвамі: «Росквіт» і «Зарніцы» адпаведна. У мясцовай газеце з рознай перыядычнасцю з’яўлялася літаратурная старонка «Наддзвінне».



*Пасяджэнне «Наддзвіння».*
*2-і злева Г. Бураўкін, затым М. Ларчанка, А. Русак, М. Бадзюкоў, А. Савіцкі і інш.*

На першых старонках альманаха змешчаны верш Янкі Купалы «Акоў паломаных жандар». Раней ён друкаваўся ў газеце «Савецкая Беларусь» і быў напісаны паэтам у адказ на выступленне ў друку некаторых вялікадзяржаўных шавіністаў з Полаччыны супраць беларускай мовы.

…Не па нутру, як сьмерць,
Што беларускае дзіцё
Бяжыць у сьцюжную зіму
У школу пазнаваць жыццё.
Спужаўся, што хлапчук ў лапцёх,
Напоўадзеты вёскі сын,
У роднай мове ўчыцца змог?..
Язык твой царскі ён табе
Ня выража, спакойны будзь!
Цябе тваім-жа ў кляцьбе
Ён не забудзе памянуць.

У першы альманах «Наддзвінне» ўвайшлі ў асноўным паэтычныя творы, два апавяданні і замалёўка.

Андрэй Александровіч у вершы «Дзвіна» вітаў радзіму Ф. Скарыны:

Добры дзень,
зялёныя загоны-дываны,
прыйшоў паслухаць з вамі
гутарку Дзвіны.
Сакалінай пераліўкай
прывітала песняй даль,
плынь бурлівых, цёмна-сініх
векапомных хваль.

Залаціцца-весяліцца
звонка-струнная вясна.
Добры дзень вам, палачане,
добры дзень, Дзвіна.

Алесь Дудар, які ўжо працаваў літсакратаром «Маладняка» Цэнтральнага бюро, падтрымліваў сувязь з Полацкам і перадаў у альманах свой верш «Полацк».

Некалькі вершаў апублікаваў Алесь Звонак. Верш «Полаччыне» адлюстроўвае мінулае і сучаснае тамашняй зямлі:

…Хвалі празрыстыя. Жвір на адмелях.
Сонца ружовы ўсход і заход…
Хвалі калісьці крывёй чырванелі,
Край руйнаваўся з году у год.
Ворагі злосныя, хцівыя ворагі —
Царскай Расеі чыноўнічы люд.
Усё асьмяялі, што родна і дорага,
З роднай зрабілі чужую зямлю…

Свае першыя вершы, напісаныя ў Полацку, змясціў і Пятрусь Броўка. Лірыка яго лёгкая, узвышаная, удумлівая. Лірычны настрой гучыць і ў вершы «Ня буду я стаяць на раздарожжы».

У альманаху ўбачылі свет першыя вершы Тараса Хадкевіча — 14-гадовага юнака з Дрысеншчыны, Сымона Хурсіка — настаўніка з Валынцаў. Два вершы змясціў будучы паэт і празаік Ян Скрыган, супрацоўнік акруговай газеты ў 1926—1927 гадах. Увайшлі ў



[illegible]
каб сюды прысылалі
зборнікаў маіх і Алек-
сандровіча. Учора
я забраў апошні
экзэмпляр зборніка
Александровіча, а
свайго нідзе не
магу дастаць: абцацелі
хлопцы з Віцебску
прывезьці. Літаратура
нам на гвалт па-
трэбна: я палавіну
сваёй бібліятэчкі
пераздаваў на раёнах
к засылаў адзіночкам.
Цяпер мне абрэзалі
пэнсію на [redacted]
25 рублёў і я не магу

[illegible] за [illegible] сродкі
здавальняць літаратурны
голад палачан. Альбо
вышліце літаратуры,
альбо дабіцеся скідкі
працэнтаў на 25. Асаб-
ліва патрэбна літэ-
ратура тэарэтычнага
характару.
[redacted]
Цяпер буду высылаць
справаздачы больш
рэгулярна
З таварыскім
прывітаньнем
Ал. Дудар
Полацак
11 мая 1925 году.

*Фрагмент пісьма А. Дудара з Полацка ў цэнтр.*

зборнік і вершы пачынаючых паэтаў: 13-гадовага Міколы Сямашкі з вёскі Барылы і 15-гадовага Уладзіміра Яцкевіча з Ветрына.

Тарас Хадкевіч у 1927 годзе паступіў у Полацкі педтэхнікум і пасля яго заканчэння працаваў у «Чырвонай Полаччыне» да пераезду ў 1931 годзе ў Мінск і актыўна ўдзельнічаў у літаратурным жыцці Полаччыны.

«Чырвоная Полаччына» ад 1 студзеня 1927 года змясціла рэдакцыйны артыкул «Аб стане сучаснай беларускай літаратуры» за крыптонімам М. Г. Хутчэй за ўсё гэта Максім Грашчанка. Ён у канцы лета 1926 года пераехаў з Гомеля, дзе кіраваў філіяй, у Полацк. Выкладаў тут у педтэхнікуме, а з канца 1926 года стаў сябрам Полацкай філіі і адыгрываў важную ролю ў літаратурным жыцці. Аўтар аналізаваў становішча «Маладняка» пасля выхаду з аб’яднання групы паэтаў і празаікаў.

28 лістапада 1928 года Усебеларускі з’езд «Маладняка» абвясціў пра рэарганізацыю аб’яднання і аб’явіў сябе першым з’ездам Беларускай асацыяцыі пралетарскіх пісьменнікаў, якая ўвайшла ва Усесаюзнае аб’яднанне пралетарскіх пісьменнікаў. «Маладняк» спыніў сваё існаванне.

Адбыліся змены і ў раёнах. У Полацку яшчэ некаторы час працавала філія Беларускай асацыяцыі: з 1929 года ўсе паведамленні аб дзейнасці літаратурнага аб’яднання падпісваюцца ўжо ад імя філіі БелАПП. Кіраўніком аб’яднання ў 1930—1932 гадах быў А. Астрэйка, які працаваў у газеце «Чырвоная Полаччына». У гэты час пасля службы ў Чырвонай Арміі працаваў у яе штаце Эдуард Самуйлёнак, будучы празаік і драматург. Яго першы верш «Партызан» змешчаны менавіта ў полацкай газеце. Выпуск літстаронак вельмі скарачаецца, а газета «Чырвоная Полаччы-

на» стала выходзіць толькі два разы на тыдзень.

З пачатку 30-х гадоў мінулага стагоддзя, як вядома, палітыка беларусізацыі згортваецца, набірае моц цэнтралізаванае кіраванне літаратурным жыццём з Масквы. Абаронцаў інтарэсаў беларускай культуры сталі называць нацдэмамі і разглядаць як ворагаў сацыялізму. Пачаліся масавыя арышты. Лёс былых полацкіх маладнякоўцаў, якія не ўвайшлі ў Беларускую асацыяцыю пралетарскіх пісьменнікаў, склаўся трагічна, амаль усе яны былі рэпрэсіраваны: А. Александровіч, А. Звонак, Я. Скрыган, С. Хурсік, А. Дудар, П. Шукайла, Ф. Лябецкі, М. Анісаў і іншыя.

Але кароткі перыяд уздыму беларусізацыі зрабіў сваю справу: на полацкай зямлі абудзіліся творчыя сілы, а сам Полацк ператварыўся ў адзін з культурных цэнтраў Беларусі са сваімі трывалымі літаратурнымі традыцыямі, якія працягваюцца па сённяшні дзень.

У гады Вялікай Айчыннай вайны ў радах Чырвонай Арміі і ў партызанскіх атрадах, у рэдакцыях франтавых газет змагаліся з нямецка-фашысцкімі захопнікамі і члены літаб’яднання «Наддзвінне»: браты Сямашкі, П. Броўка, Т. Хадкевіч, С. Хурсік, А. Астрэйка, У. Яцкевіч, Т. Лясовіч, А. Савіцкі, У. Ліхачоў, Н. Ярмак…

Мікалай Сямашка трапіў на фронт у самае пекла. У 1941 годзе пры абароне горада Орша сярод мноства загінуўшых быў і ён.

Пятрусь Броўка добраахвотнікам папоўніў рады Чырвонай Арміі. Працаваў у франтавой газеце «За Савецкую Беларусь» на Бранскім і Заходнім франтах.

Тарас Хадкевіч быў камандзірам узвода на фронце.

Сымон Хурсік ваяваў на 1-м Беларускім фронце, быў двойчы кантужаны.

Анатоль Астрэйка ў час вайны працаваў адказным сакратаром газеты-плаката «Раздавім фашысцкую гадзіну».

Уладзімір Яцкевіч, педагог, перад вайной быў дырэктарам Ульскай сярэдняй школы на Віцебшчыне, а ў кастрычніку 1941 года пасля курсаў палітсаставу аказаўся ў асобнай стралковай брыгадзе дзеючай арміі пад Сталінградам. Малодшы палітрук, камсорг 1030-га стралковага палка 260-й стралковай дывізіі 24-й Арміі Уладзімір Яцкевіч загінуў 3 кастрычніка 1942 года ў баі за вышыню 154,2 у раёне ст. Котлубань, што паўночней горада Сталінграда, дзе і пахаваны ў брацкай магіле.

Пасляваеннае адраджэнне літаратурнага жыцця на Полаччыне звязана з Алесем Савіцкім. Менавіта дзякуючы Алесю Ануфрыевічу адрадзілася і літаб’яднанне «Наддзвінне», і літаратурная старонка полацкай газеты, у якой ён працаваў. Вось як успамінаў Савіцкі аб гэтым: «У маім асабістым пісьменніцкім лёсе — і хіба ж толькі ў маім! — «Наддзвінне» было нялёгкай, пакручастай і радаснай пуцявінаю ў шырокі літаратурны свет. І зараз, на згоне жыцця свайго, у маёй душы не згасае агонь невымернай шчырай падзякі маладым, бурапенным і дзівосным дням, што працяклі на берагах роднай Дзвіны».

Кіраўнікамі «Наддзвіння» былі ў свой час Ніна Антонава, Юрый Лыжын, Уладзімір Ліхачоў, Валянцін Лукша, Іван Стадольнік, Міхась Барэйша, Юрась Касцюк, Герман Кірылаў, Лера Сом. Зараз аб’яднанне ўзначальвае Мікалай Балдоўскі.

У 1993 годзе дырэктарам Цэнтра рамёстваў і нацыянальных культур, які працаваў пры гарадскім Доме культуры і дзе збіраліся літаратары, была прызначана Соф’я Вялюга. Яна адыграла адметную ролю ў гісторыі «Наддзвіння», падаўшы ідэю дабіцца для літаб’яднання звання «народнае». Намаганнямі яе і тагачаснага кіраўніка Юрася Касцюка пасля вялікай арганізацыйнай працы мэта была дасягнута, праўда, ужо пры новым кіраўніку літаб’яднання Германе Кірылаве. У 1994 годзе полацкае літаратурнае аб’яднанне «Наддзвінне» атрымала гэтае высокае ганаровае званне.

Адметным у гісторыі «Наддзвіння» стаў 1998 год, у якім праводзіўся Першы Усебеларускі фестываль «Беларусь — мая песня». «Наддзвінне» ўдзельнічала ў ім і было адзначана дыпломам лаўрэата і грашовай прэміяй. За яе наддзвінцы ў 1999 годзе выдалі альманах.

Пад кіраўніцтвам і намаганнямі Леры Сом у 2004 годзе ўбачыў свет чарговы альманах. Ён змясціў творы



*Пасля літаратурнай сустрэчы в СШ № 8 г. Полацка (1 верасня 2016г.)*

больш як дваццаці аўтараў. Прэзентацыя праходзіла ў музеі-бібліятэцы імя С. Полацкага.

З «Наддзвіння» пайшлі ў шырокі літаратурны свет Генадзь Бураўкін (наведваў літаб'яднанне яшчэ школьнікам), Навум Гальпяровіч (быў у свой час намеснікам кіраўніка Івана Стадольніка), Валянціна Аколава, Надзея Салодкая і інш.

У 2006 годзе народнае літаратурнае аб'яднанне «Наддзвінне» ўзначаліў вядомы на Полаччыне рускамоўны паэт і добры арганізатар Мікалай Балдоўскі. Пачаўся новы этап у жыцці «Наддзвіння»: мастацкі савет аб'яднання прыняў рашэнне выдаваць альманахі з перыядычнасцю адзін раз у два гады (пазней тэрмін павялічылі да трох гадоў), а яшчэ — серыю «Літаратурнае Наддзвінне».

Альманахі «Наддзвінне» выйшлі ў 2006, 2008, 2010 і 2013 гг.

З 2006 года па сёння выйшлі калектыўныя зборнікі: «Вытокі» (2007), «Па быстрыні» (2008), «Свята назаўжды» (2009), «Гулкая плынь» (2010), «Наддзвінне»: ад пачатку да сёння» Віктара Карасёва (2012), «Со мной и во мне…» Мікалая Балдоўскага (2013), «Між крутых берагоў» (2015). За гэтыя гады выйшла нямала і аўтарскіх кніг наддзвінцаў.

Пяць сяброў аб'яднання з'яўляюцца членамі Саюза пісьменнікаў Беларусі: Мікалай Балдоўскі, Пётр Буганаў, Галіна Загурская, Віктар Карасёў і Наталля Саветная. Двое наддзвінцаў узнагароджаны прэміяй імя Уладзіміра Караткевіча: Салодкая (2008) і Загурская (2015), а Карасёў атрымаў прэмію імя Алеся Савіцкага (2016).

Па-ранейшаму ў аб'яднанай газеце «Полацкі веснік» выходзяць літаратурныя старонкі «Наддзвінне». Творы наддзвінцаў публікуюцца і ў рэспубліканскім друку.

Наддзвінцы ладзяць сустрэчы са студэнтамі Полацкага дзяржаўнага ўніверсітэта, з навучэнцамі розных навучальных устаноў, чытачамі бібліятэк у Полацку і Наваполацку. Добра ведаюць іх і ў раёне, дзе яны часта выступаюць і дзе іх заўсёды цёпла прымаюць. Бываюць яны з літаратурнымі выступленнямі і ў іншых раёнах вобласці і ў самім Віцебску.

Ужо традыцыйнымі сталі літаратурныя сустрэчы наддзвінцаў з жыхарамі Невеля і пасёлка Усць-Далысы Невельскага раёна (Расія).

Сябры «Наддзвіння» актыўна прымаюць удзел у творчых праектах, якія праводзяцца ў Полацку. Летась прынялі ўдзел у адкрыцці рэспубліканскай алімпіяды па беларускай мове і літаратуры, выступілі са сваімі праграмамі ў праекце «Вершы над горадам»: у літаратурнай гасцёўні «Гэтых дзён не змоўкне слава», у літаратурным скверы «Дзень вясновы, дзень лірычны», на свяце «Мядовы Спас», правялі дзве літаратурныя сустрэчы «Прыпадаем да вытокаў сваіх», прысвечаныя Дню беларускага пісьменства.

Не так даўно наддзвінцы адсвяткавалі 90-гадовы юбілей.

Час ідзе, а адно са старэйшых літаратурных аб'яднанняў Беларусі жыве, папаўняецца новымі творчымі сіламі і плённа працуе.

***Галіна ЗАГУРСКАЯ***

# ЛЕПШЫЯ ЎЗОРЫ СЕРБСКАЙ САТЫРЫЧНАЙ АФАРЫСТЫКІ

## Бранiслаў ЦРНЧАВIЧ (1933—2011)

### Пішы так, як маўчыш

❍ Вольны чалавек думае так, як хоча, а харчуецца тым, што мае.

❍ Калі чалавек быў малпаю, дрэва было яму айчынаю.

❍ Людзі спачатку былі братамі, пазней сталі роўнымі... Прадчуваю, аднойчы чалавек чалавеку стане нічым.

❍ Наш новы чалавек, нашы новыя шляхі, нашы новыя ідэі, нашы новыя ўборы, наша новая мэта, наша новая мінуўшчына, наша новае жыццё, нашы новыя законы, наша новая будучыня, нашы новыя адносіны, наша новае выйсце, наша новае асяроддзе… Усё вакол мяне новае, а мяне ахоплівае наш стары страх.

❍ Сам ты маса, а ў масе ты сам.

❍ Мая айчына малая, люблю яе, бо шкада.

❍ Малыя народы хворыя ад вялікага разумення.

❍ Мы ахоўваем брацтва і адзінства нават ад сваіх братоў.

❍ Мог бы жыць і лепш, але сорамна.

❍ Ідэалісты мяняюцца, а ідэалы вечныя!

❍ Паэт адказвае толькі за тое, чаго не сказаў.

❍ Да шчаслівых народаў будучыня прыходзіць сама, няшчасныя павінны ісці да яе.

❍ Я за Сонечную сістэму, яна ўсе ж такі найбольшая.

❍ Прагрэсіўны чалавек — гэта сёння спецыяльнасць.

❍ Крытыка зверху, крытыка знізу, а ў сярэдзіне — нічога.

❍ Чуў, што заўтра будзе лепш, ды мяне заўтра тут не будзе.

❍ Нашы продкі жылі вельмі бедна, а па некаторых звестках, зусім не жылі.

❍ Мы прысутнічаем пры неверагодным развіцці любові да працоўных і ніколькі не меншым развіцці пагарды да працы.

❍ Адчуваю, што многія б ахвяравалі маё жыццё за свае перакананні.

❍ Увішныя людзі ішлі ў паліцаі, а вярталіся з партызанаў.

❍ Нялёгкая справа — адзін мір паміж дзвюх войнаў.

❍ У мяне заслуг няма, мне за ўсё заплачана.

❍ Гадзіннік — аздоба, а час вымяраецца лыжкаю.

❍ Прашу ў смерці, каб не была такой сур’ёзнай, а ў жыцця — каб не было такім смешным.

❍ Адступіцеся, надыходзіць будучыня.

❍ Прыстойны чалавек усё яшчэ падманвае сябе; пазней пяройдзе на вас.

❍ Ніхто не чысты да такой ступені, каб не трэба было мыцца.

❍ Радыё дало магчымасць глупствы чуць, а тэлебачанне — яшчэ і бачыць.

❍ Новых шляхоў не варта шукаць. Іх трэба пракладаць.

❍ Дайце мне сродкі, а мэту я знайду сам.

❍ Гільяціна заменена тэлефонам.

❍ Новы від дабрачыннасці: забраць сарочку ў аднаго і аддаць як дарунак другому.

❍ Назіраю штодня, як дробнымі слабасцямі псуюцца вялікія поспехі.

## Вітамір ТЭАФІЛАВІЧ (1943 г. н.)

### Сведчанні аптымізму

❍ Пакуль не наткнулася на нас, гісторыя рухалася назад.

❍ Па дарозе з слаўнай мінуўшчыны ў светлую будучыню забрылі мы ў сучаснасць.

❍ Мы гэтак заблыталіся ў сутнасці праблем, што не здольны выкараскацца.

❍ Каршуны прапаноўваюць дыялог галубам. Запрашаюцца і канарэйкі.

❍ Многім сапраўды падабаецца цвёрдая рука. Але свая.

❍ «Маўчанне — золата», — сцвярджаюць прамоўцы.

❍ Хто сказаў, што мы ў стагнацыі? Нашы праблемы ўсё растуць і растуць!

❍ Фарс лонга, віта брэвіс.

❍ На траянскім кані ездзяць усярэдзіне.

❍ Мы пазбавіліся ўжо доўгатэрміновых праблем. Застаюцца толькі тыя, што ад сёння да заўтра.

❍ Паміж гіенай і шакалам розніца ёсць, аднак неістотная.

❍ Мяне абвясцілі ідэальным грамадзянінам. Нават з вывarату я не маю асабовых знакаў.

❍ Бегучы за іншымі, большасць ніколі не дасягае сябе.

❍ Адны маюць шмат золата. Другія не маюць нічога супраць.

❍ У пустыні і найменшая травінка ўвасабляе жыццё.

❍ З гэтулькіх пасцеляў славутай застаецца адна Пракрустава.

❍ Некалі Дыяген з ліхтаром шукаў чалавека. Цяпер шукаюць і ліхтар.

❍ Цар усіх жывёл таксама жывёла.

❍ За праціўніка выбіраю слабейшага. Нашто, каб годныя неслі страты?!

❍ Калі праўда сумная, падманвайце мяне з належнай фантазіяй.

**Душка М. ПЕТРАВІЧ (1948 г.н.)**

❍ Чым даражэй жыццё, тым танней чалавек.

❍ У нас высокі сярэдні ўзровень. Кожны пяты — непісьменны, затое кожны чацвёрты залічыў сябе ў пісьменнікі.

❍ Гэты экран не такі ўжо малы. Колькі глупстваў у ім змяшчаецца!

❍ Варта біць галавою ў сцяну. Якасць будаўніцтва не гарантуе, што сцяна вытрымае.

❍ Дзіця здало педагогіку, і цэлы дзень мяне вучыць, як трэба яго выхоўваць.

❍ У святле самых новых ідэй — торкаемся па цемры.

❍ Калі сонца на Захадзе, цень падае на Усход. І наадварот.

❍ Голуб міру ў вольны час выконвае функцыі голуба-паштальёна. Разносіць ноты пратэсту.

❍ Патрэбны былі тысячагоддзі, каб чалавек выпрастаўся, а так мала трэба, каб яго нагнуць.

❍ Купі газету — убачыш, пачым цябе прадаюць.

❍ Калі мы і былі нябесным народам, то цяпер выглядаем так, нібыта з Марса зваліліся.

❍ Вось цяпер, бадай, і апошні дурань разумее, што мы, плююучы па ветру, абгадзілі плот.

❍ Штыль на моры палітычных праблем азначае толькі набліжэнне шторму — вялікага і жорсткага.

***Укладанне і пераклад з сербскай Івана ЧАРОТЫ.***

